A

ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ ПАРТЫІ ЦК КП(б) БЕЛАРУСІ—
ФІЛІЯЛ ІНСТЫТУТА МАРКСА—ЭНГЕЛЬСА—ЛЕНІНА пры ЦК ВКП(б)



*Е. Карнейчык, Ф. Папоў, М. Шкляр*

# В. І. ЛЕНІН і І. В. СТАЛІН— АРГАНІЗАТАРЫ БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ



*Пад рэдакцыяй*
*кандыдата філасофскіх навук*
*І. ЧЫМБУРГА*

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
Рэдакцыя палітычнай літаратуры
Мінск 1949

## УВОДЗІНЫ

Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, як і ўсе рэспублікі Савецкага Саюза, была створана ў выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, здзейсненай рабочымі і бяднейшымі сялянамі ўсіх народаў Расіі пад кіраўніцтвам партыі Леніна — Сталіна.

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя разняволіла ўсе народы нашай краіны ад сацыяльнага і нацыянальнага гнёту і, у выніку ліквідацыі капіталізма, забяспечыла ўзнікненне і развіццё на базе старых буржуазных нацый—новых сацыялістычных нацый.

«Ніхто не можа адмаўляць, — гаворыць таварыш Сталін,— што цяперашнія сацыялістычныя нацыі ў Савецкім Саюзе — руская, украінская, беларуская, татарская, башкірская, узбекская, казахская, азербайджанская, грузінская, армянская і іншыя нацыі—карэнным чынам адрозніваюцца ад адпаведных старых, буржуазных нацый у старой Расіі як па свайму класаваму саставу і духоўнаму абліччу, так і па сваіх сацыяльна-палітычных інтарэсах і імкненнях»[1].

Толькі ў выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, дзякуючы нястомным клопатам партыі бальшэвікоў, вялікіх правадыроў савецкага народа В. І. Леніна і І. В. Сталіна, брацкаму падтрыманню і дапамозе рускага народа, беларускі народ упершыню ў гісторыі атрымаў сваю дзяржаўнасць.

[1] І. В. Сталін. Творы, том 11, стар. 339—340.

На працягу многіх стагоддзяў беларускі народ мужна змагаўся за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Сотні год знаходзіўся ён пад прыгнётам не толькі беларускіх, але і польска-літоўскіх феадалаў, будучы насільна адарваным ад свайго старэйшага брата — вялікага рускага народа. У канцы XVIII века, у сувязі з раздзеламі Польшчы, Беларусь была далучана да Расіі. Гэта мела прагрэсіўнае значэнне ў гісторыі Беларусі. Але і пад уладай царызма беларускі народ цярпеў сацыяльны і нацыянальны гнёт, быў палітычна бяспраўным.

У сваёй гераічнай барацьбе супроць іншаземных захопнікаў, супроць царызма, памешчыкаў і капіталістаў беларускі народ не быў адзіным; ён заўсёды ішоў поплеч з вялікім рускім народам — сваім старэйшым братам, другам і вызваліцелем.

З паяўленнем рускага рабочага класа—гегемона рэвалюцыйнай барацьбы ўсіх прыгнечаных народаў Расіі, з паяўленнем партыі рабочага класа — партыі большэвікоў стала магчыма рэвалюцыйнае вызваленне ад палітычнага, эканамічнага і нацыянальнага гнёту ўсіх народаў Расіі, у тым ліку і беларускага народа.

Усёй сваёй гісторыяй рускі пралетарыят, як самы перадавы і рэвалюцыйны клас у краіне, быў падрыхтаван да таго, каб узначаліць вызваленчую барацьбу народаў Расіі супроць царызма і імперыялізма. Рускі пралетарыят стаў авангардам у класавай барацьбе ўсіх працоўных Расіі супроць эксплаататараў. Калі царская Расія была, па выражэнню Леніна, «турмой народаў», то рускі пралетарыят з'яўляўся галоўным разбуральнікам гэтай «турмы», будаўніком новай Расіі.

Каб пабудаваць новую, свабодную Расію, неабходна было моцна згуртаваць працоўныя масы прыгнечаных нацыянальнасцей вакол рэвалюцыйнага пралетарыята Расіі. У артыкуле «Як разумее сацыял-дэмакратыя нацыянальнае пытанне» таварыш Сталін указваў, што важнейшай умовай згуртавання і збліжэння працоўных усёй Расіі на барацьбу за вызваленне ад сацыяльнага і нацыянальнага гнёту з'яўляецца стварэнне

адзінай пролетарскай партыі, аб'едноўваючай у сваіх радах пролетарыяў усіх нацыянальнасцей Расіі.

Стваральнікамі і правадырамі такой партыі, большэвіцкай партыі, з'яўляюцца В. І. Ленін і І. В. Сталін.

Ленін і Сталін творча развілі і рушылі далей уперад марксісцкую тэорыю прыстасоўна да новых умоў класавай барацьбы пролетарыята ў эпоху імперыялізма і пролетарскай рэволюцыі. Ленінізм ёсць вышэйшае дасягненне рускай і сусветнай культуры. Вучэнне Леніна—Сталіна аб комуністычнай партыі, аб соцыялістычнай рэволюцыі, аб дыктатуры пролетарыята стала сцягам барацьбы пролетарыята ўсіх нацыянальнасцей за сваё вызваленне.

Ленін і Сталін у сваім вучэнні даказалі, што знішчыць нацыянальны гнёт, вырашыць нацыянальнае пытанне магчыма толькі ў выніку знішчэння ўлады капітала, г. зн. у выніку перамогі пролетарскай рэволюцыі і ўстанаўлення дыктатуры пролетарыята. Такім чынам, у вучэнні марксізма-ленінізма нацыянальнае пытанне з'яўляецца часткаю агульнага і асноўнага пытання аб соцыялістычнай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыята; па сутнасці нацыянальнае пытанне — гэта пытанне аб рэзервах рабочага класа ў рэволюцыі, пытанне аб саюзніках рабочага класа ў яго барацьбе за ўладу і пабудову соцыялізма.

Праграмным патрабаваннем партыі большэвікоў па нацыянальнаму пытанню з'явіўся лозунг «Права нацый на самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойнай дзяржавы».

У класічнай працы «Марксізм і нацыянальнае пытанне» таварыш Сталін паказаў, што права нацый на самавызначэнне азначае, што «толькі сама нацыя мае права вызначыць свой лёс, ніхто не мае права **гвалтоўна** ўмешвацца ў жыццё нацыі, **разбураць** яе школы і іншыя ўстановы, **ламаць** яе норавы і звычаі, **сцясняць** яе мову, **урэзваць** правы»[1].

Палітычны сэнс лозунга «права нацый на самавызначэнне» заключаецца ў тым, каб шляхам разняволення наро-

[1] І. В. Сталін. Творы, том 2, стар. 310.

даў і знішчэння нацыянальнага гнёту стварыць узаемнае давер'е і дружбу паміж народамі, як аснову іх аб'еднання.

«Мы хочам, — вучыў В. І. Ленін, — **свабоднага** з'еднання, і таму мы абавязаны прызнаць свабоду аддзялення (без свабоды аддзялення з'еднанне не можа быць названа свабодным)... Мы хочам, каб рэспубліка рускага (я не супроць таго, каб сказаць нават: вялікарускага, бо гэта больш правільна) народа **прыцягвала** да сябе іншыя нацыі, але чым? Не насіллем, а выключна дабравольным пагадненнем» [1].

В. І. Ленін і І. В. Сталін адначасова ўказвалі, што недапушчальна падмяняць пытанне аб праве нацый на самавызначэнне пытаннем аб абавязковасці аддзялення. Гэтае апошняе пытанне партыя павінна вырашаць у залежнасці ад канкрэтных гістарычных умоў.

В. І. Ленін і І. В. Сталін рашуча выкрылі ўсе спробы меншавікоў, бундаўцаў, трацкістаў, бухарынцаў і рознага роду нацыяналістаў перашкодзіць вырашэнню нацыянальнага пытання, згуртаванню народаў Расіі ў адну брацкую сям'ю.

Партыя Леніна—Сталіна сваёй праграмай па нацыянальнаму пытанню, усёй сваёй работай па выхаванню народаў у духу брацкай салідарнасці, сваёй вызваленчай палітыкай заваявала «спачуванне і падтрымку шырокіх мас... нацыянальнасцей у іх барацьбе супроць царызма і імперыялістычнай рускай буржуазіі. Наўрад ці можна сумнявацца ў тым,—гаворыць таварыш Сталін, — што гэтае спачуванне і гэтая падтрымка паслужылі адным з рашаючых момантаў, вызначыўшых перамогу нашай партыі ў Кастрычніцкія дні» [2].

Адразу-ж пасля перамогі Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі В. І. Ленін і І. В. Сталін, партыя бальшэвікоў прыступілі да ажыццяўлення праграмы партыі па нацыянальнаму пытанню. Разняволеныя народы Расіі атрымалі магчымасць будаваць сваю дзяржаўнасць. Тады-ж, у канцы 1917 г.,

---

[1] В. І. Ленін. Творы, том XXI, выд. 3-е, стар. 317.
[2] І. В. Сталін. Творы, том 5, стар. 184.

Леніным і Сталіным было пастаўлена пытанне і аб стварэнні Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі.

Газета «Правда» ў перадавым артыкуле, прысвечаным слаўнаму 30-гадоваму юбілею Совецкай Беларусі, падкрэслівала: «Гісторыя барацьбы і будаўніцтва Беларусі непарыўна звязана з імёнамі Леніна і Сталіна. Стваральнікі вялікай Совецкай дзяржавы стаялі ля калыбелі рэспублікі, якая ўваходзіць цяпер у састаў магутнага Совецкага Саюза. Уся падрыхтоўчая работа па стварэнню Беларускай ССР вялася пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша Сталіна»[1].

У пачатку 1918 г. на Совецкую краіну напалі нямецкія імперыялісты. Беларусь аказалася часова акупіраванай нямецкімі захопнікамі. Пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі ўсе народы нашай краіны, на чале з вялікім рускім народам, узняліся на барацьбу з нямецкімі акупантамі і выгналі іх з Совецкай краіны.

Пасля выгнання нямецкіх захопнікаў з Беларусі па ініцыятыве В. І. Леніна і І. В. Сталіна было прынята рашэнне ЦК РКП(б) аб утварэнні БССР. В. І. Ленін і І. В. Сталін правялі велізарную арганізацыйную і палітычную работу па стварэнню БССР. 6-я Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б), ажыццяўляючы рашэнне ЦК РКП(б), 30 снежня 1918 г. прыняла пастанову аб абвяшчэнні Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі і аб стварэнні Комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі. 1 студзеня 1919 г. быў апублікаван Маніфест аб утварэнні БССР.

Беларускія нацыяналісты, бундаўцы, меншавікі і эсэры ўсяляк імкнуліся сарваць ўтварэнне і будаўніцтва БССР, яны хацелі прадаць Беларусь замежным дзяржавам. Агідныя планы і імкненні ўсіх гэтых ворагаў социялізма былі выкрыты большэвікамі Беларусі пад кіраўніцтвам ленінска-сталінскага Цэнтральнага Камітэта большэвіцкай партыі.

Маладой Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспубліцы з першых-жа дзён яе ўтварэння, разам з усімі народамі Совец-

[1] «Правда» № 2 (11109) ад 2 студзеня 1949 г.

кай краіны, прышлося весці жорсткую барацьбу супроць іншаземнай ваеннай інтэрвенцыі і ўнутранай контррэвалюцыі.

Цэнтральны Камітэт партыі большэвікоў, правадыры партыі Ленін і Сталін згуртавалі працоўных усіх народаў Совецкай краіны ў адзіны баявы лагер і ўзнялі іх на Айчынную вайну супроць нашэсця войск іншаземных інтэрвентаў, супроць мецяжоў, скінутых рэволюцыяй эксплаататарскіх класаў.

Пасля перамогі на ўсіх франтах грамадзянскай вайны яшчэ больш умацавалася дружба совецкіх рэспублік. Пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна ўмацаванне дружбы народаў совецкіх рэспублік прывяло да ўтварэння Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Толькі ў Саюзе ССР Беларусь вырасла, узмацнела, ператварылася ў адну з перадавых совецкіх рэспублік. Толькі ў Саюзе ССР беларускі народ змог адстаяць сваю чэсць, свабоду і незалежнасць у час Вялікай Айчыннай вайны Совецкага Саюза супроць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Пад кіраўніцтвам партыі Леніна — Сталіна, пры дапамозе ўсяго совецкага народа і, перш за ўсё рускага народа, беларускі народ паспяхова залечвае раны, нанесеныя рэспубліцы нямецкімі захопнікамі, самааддана змагаецца за выкананне пасляваеннай пяцігодкі ўзнаўлення і далейшага развіцця народнай гаспадаркі.

Цэнтральны Камітэт ВКП(б) і Совет Міністраў СССР у прывітанні працоўным Совецкай Беларусі ў сувязі з 30-годдзем БССР выказалі цвёрдую ўпэўненасць у тым, «што беларускі народ пад кіраўніцтвам вялікай партыі Леніна—Сталіна і надалей будзе нястомна змагацца за далейшы росквіт гаспадаркі і культуры Беларускай ССР, за ўмацаванне магутнасці Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік» [1].

Пад кіраўніцтвам партыі Леніна — Сталіна беларускі народ нястомна змагаецца за выкананне пастаўленых перад ім задач. У пісьме вялікаму Сталіну ў дзень 30-годдзя БССР працоўныя Совецкай Беларусі далі клятву — як зяніцу вока ахоўваць за-

---

[1] «Правда» № 1 (11108) ад 1 студзеня 1949 г.

ваёвы Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі, мацаваць магутнасць Совецкага Саюза, неад'емнай часткай якога была, ёсць і заўсёды будзе Беларуская соцыялістычная рэспубліка.

Беларускі народ цесна згуртаван вакол большэвіцкай партыі, Совецкага ўрада, правадыра і друга совецкіх народаў таварыша Сталіна. Пад кіраўніцтвам партыі Леніна — Сталіна працоўныя Совецкай Беларусі разам з усімі народамі нашай краіны ўпэўнена ідуць да комунізма.



## 1. ВЯЛІКАЯ КАСТРЫЧНІЦКАЯ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭВОЛЮЦЫЯ ДАЛА БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ

Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка была створана, як і іншыя совецкія рэспублікі нашай краіны, ў выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі, якая ўстанавіла дыктатуру пролетарыята і заклала асновы дзяржаўнага ўстройства вызваленых народаў Расіі.

Большэвікі Беларусі пад кіраўніцтвам ленінска-сталінскага Цэнтральнага Камітэта большэвіцкай партыі правялі велізарную работу па падрыхтоўцы і правядзенню Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі ў Беларусі.

У 1917 г. Беларусь адрознівалася ад іншых ускраін Расіі тым, што па яе тэрыторыі праходзіў Заходні фронт. Фактычна ўся Беларусь аказалася франтавой і прыфрантавой паласой. Гарады і вёскі былі запоўнены войскамі. У Мінску знаходзіўся штаб Заходняга фронта, у Магілеве—Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага. З прычыны гэтага Беларусь набыла вельмі важнае значэнне, як адзін з участкаў барацьбы за перамогу соцыялістычнай рэволюцыі.

Цэнтральны Камітэт большэвіцкай партыі аддаваў велізарную ўвагу Беларусі. Большэвіцкая партыя накіроўвала ў Беларусь выпрабаваных рэволюцыянераў, якія правялі вялікую работу па стварэнню большэвіцкіх арганізацый, па пад-

рыхтоўцы і правядзенню Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі.

Яшчэ ў 1916 г. у Беларусь на падпольную работу прыехаў выдатны дзеяч нашай партыі Міхаіл Васільевіч Фрунзе пад прозвішчам Міхайлава. Тут М. В. Фрунзе разгарнуў вялікую палітычную і арганізацыйную дзейнасць, у выніку якой к пачатку 1917 г. былі створаны і дзейнічалі падпольныя бальшэвіцкія групы ў часцях 3 і 10 армій Заходняга фронта, у ваенных майстэрнях, на прадпрыемствах горада Мінска.

Адразу-ж пасля перамогі лютаўскай рэволюцыі Міхаіл Васільевіч Фрунзе правёў першы легальны сход бальшэвікоў горада Мінска, 3 і 10 армій Заходняга фронта. Сход даручыў усім членам партыі правесці на прадпрыемствах Мінска і ў воінскіх часцях выбары дэпутатаў у Мінскі Совет. Пад кіраўніцтвам М. В. Фрунзе быў створан Мінскі Совет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. 8 сакавіка 1917 г. Мінскі Совет рабочых і салдацкіх дэпутатаў прыняў рашэнне аб выбранні ва ўсіх воінскіх часцях салдацкіх камітэтаў, на фабрыках і заводах — фабрычна-заводскіх камітэтаў, а ў сельскіх мясцовасцях — валасных і павятовых сялянскіх камітэтаў.

Вялікую рэволюцыйную работу ў гэты перыяд праводзіў у Беларусі вопытны рэволюцыянер, стары бальшэвік А. Ф. Мяснікоў, які ў хуткім часе стаў адным з віднейшых кіраўнікоў бальшэвікоў Беларусі.

Таварышы М. В. Фрунзе і А. Ф. Мяснікоў стварылі ў Мінскім Совеце рабочых і салдацкіх дэпутатаў згуртаваную бальшэвіцкую групу, якая кіравала ўсёй дзейнасцю Совета. М. В. Фрунзе і А. Ф. Мяснікоў дабіліся таго, што Мінскі Совет рабочых і салдацкіх дэпутатаў ператварыўся ў рэволюцыйны цэнтр Беларусі і Заходняга фронта.

Міхаіл Васільевіч Фрунзе і Александр Фёдаравіч Мяснікоў з'яўляюцца ініцыятарамі стварэння бальшэвіцкай газеты «Звезда» — органа бальшэвікоў Беларусі, — першы нумар якой вышаў 27 ліпеня 1917 г. ЦК партыі бальшэвікоў аказаў вялікую дапамогу ў справе стварэння «Звезды». Пад кіраўніцтвам і пры дапамозе ЦК РСДРП(б), газеты «Правда» —

«Звезда» ў кароткі час ператварылася ў арганізуючы цэнтр партыйнай бальшэвіцкай работы ў Беларусі і на Заходнім фронце.

У Магілеўскай губерні кіраваў бальшэвіцкімі арганізацыямі Палескі камітэт, які знаходзіўся ў Гомелі. На чале Палескага камітэта з жніўня 1917 г. стаяў верны вучань Леніна і саратнік таварыша Сталіна Лазар Майсеевіч Кагановіч. Свой велізарны вопыт кіруючай работы, набыты ў Саратаўскай ваеннай арганізацыі бальшэвікоў і ва Усерасійскім бюро ваенных арганізацый пры ЦК бальшэвіцкай партыі, Л. М. Кагановіч перадаваў бальшэвікам Гомеля, Магілева, арганізуючы спецыяльныя выезды членаў Палескага камітэта ў розныя пункты для ўмацавання ўжо існуючых і стварэння новых бальшэвіцкіх ячэек. Найбольш цяжкія ўчасткі партыйнай работы Л. М. Кагановіч браў на сябе. Так, у Магілеве тав. Кагановіч здолеў устанавіць сувязь з батальёнам георгіеўскіх кавалераў, якія ахоўвалі Стаўку Вярхоўнага галоўнакамандуючага, і стварыў у ім бальшэвіцкую арганізацыю.

Пасля лютаўскай рэвалюцыі, якая дала ўладу буржуазіі, партыя бальшэвікоў узяла курс на перарастанне буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў сацыялістычную. Гістарычныя Красавіцкія тэзісы В. І. Леніна і рашэнні VII (Красавіцкай) канферэнцыі бальшэвіцкай партыі нацэлілі партыю на пераход да сацыялістычнай рэвалюцыі. Галоўным тактычным лозунгам партыі ў гэты перыяд з'яўляўся лозунг «Уся ўлада Саветам!». У адпаведнасці з гэтым асноўнай задачай партыі было «шляхам растлумачальнай і вярбовачнай работы заваяваць большасць у Саветах, змяніць палітыку Саветаў, а праз Саветы — змяніць састаў і палітыку ўрада»[1]. Гэта была ўстаноўка на мірнае развіццё рэвалюцыі.

Бальшэвікі Беларусі рашуча выкрывалі перад працоўнымі згодніцкія партыі — меншавікоў, эсэраў, іх палітыку ашуканства народа — і ўсё больш і больш заваёўвалі на свой бок шырокія масы рабочых, салдат і бяднейшых сялян. Разам з тым

---

[1] «Гісторыя ВКП(б). Кароткі курс», стар. 177.

большэвікі Беларусі выкрывалі імперыялістычную палітыку Часовага ўрада і яго стаўленікаў у Беларусі.

Часовы ўрад праводзіў у нацыянальных раёнах краіны тую-ж вялікадзяржаўную палітыку нацыянальнага гнёту, што і царызм, толькі ў больш тонкай форме. «Старая грубая форма нацыянальнага гнёту, — указвае таварыш Сталін, — змянілася новай, удасканаленай, але затое больш небяспечнай формай гнёту»[1]. У захаванні нацыянальнага гнёту над народамі ўскраін руская буржуазія бачыла адну з асноў свайго эканамічнага і палітычнага панавання. У той-жа час контррэвалюцыйная буржуазія ўскраін Расіі стварала так званыя «агульнанацыянальныя» ўстановы. ««Нацыянальныя советы» ў Латвіі, Эстонскім краі, Літве, Грузіі, Арменіі, Азербайджане, на Паўночным Каўказе, у Кіргізіі і ў Сярэднім Паваложжы; «Рада» на Украіне і Беларусі; «Сфатул-Цэрый» у Бесарабіі; «Курултай» у Крыму і Башкірыі; «аўтаномны ўрад» у Туркестане,— вось тыя «агульнанацыянальныя» інстытуты, вакол якіх збірала сілы нацыянальная буржуазія»[2].

У сакавіку 1917 г. беларускія нацыяналісты — гэтыя слугі імперыялізма — стварылі ў Мінску так званы «Беларускі нацыянальны камітэт». На чале гэтага камітэта стаяў буйны польскі памешчык Скірмунт.

Большэвіцкія арганізацыі Беларусі рашуча выкрывалі контррэвалюцыйную сутнасць буржуазных нацыяналістаў, выхоўвалі масы ў рэвалюцыйным духу, растлумачваючы ім, што толькі «Таржаство рэвалюцыі — такі адзіны шлях вызвалення народаў Расіі ад нацыянальнага прыгнёту»[3].

Пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна раслі і мацнелі большэвіцкія арганізацыі як у цэнтры, так і на ўскраінах. Большэвікі Беларусі, праводзячы ў жыццё ўказанні Леніна і Сталіна, згуртоўвалі вакол сябе рабочых і бяднейшых сялян на барацьбу за перамогу соцыялістычнай рэвалюцыі.

Па ініцыятыве мінскіх большэвікоў у красавіку — маі

---

[1] І. В. Сталін. Творы, том 4, стар. 156.
[2] Там-жа.
[3] І. В. Сталін. Творы, том 3, стар. 209

1917 года ў Мінску былі праведзены тры з'езды: першы з'езд дэпутатаў армій і тылу Заходняга фронта, першы з'езд сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерань і абласны з'езд Советаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў Мінскай, Віленскай і Віцебскай губерань. Гэтыя з'езды мелі вялікае значэнне ў барацьбе большэвікоў Беларусі за перарастанне буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную, за заваяванне працоўных Беларусі і салдат на бок рэволюцыі.

На першым з'ездзе дэпутатаў армій і тылу Заходняга фронта, які адбыўся 7 — 17 красавіка 1917 г. у Мінску, прысутнічалі ў якасці дэлегатаў таварышы Фрунзе, Мяснікоў, ад ЦК партыі большэвікоў т. Бадаеў і ад Маскоўскага камітэта большэвікоў т. Ногін. Большэвіцкія дэлегаты выкрывалі перад салдацкімі масамі імперыялістычную палітыку Часовага ўрада і здрадніцтва меншавікоў, эсэраў, нацыяналістаў. З'езд меў велізарнае значэнне ў справе развіцця рэволюцыі на Заходнім фронце.

З'езд сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерань адкрыўся 20 красавіка 1917 г. З'езд вырашыў паўсямесна стварыць Советы сялянскіх дэпутатаў, якія павінны ісці поруч з Советамі рабочых і салдацкіх дэпутатаў. З'езд выбраў Выканком сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерань пад старшынствам М. В. Фрунзе.

На з'ездзе Советаў Мінскай, Віленскай і Віцебскай губерань 22 мая быў выбран абласны цэнтр — Выканком рабочых і салдацкіх дэпутатаў Паўночна-Заходняй вобласці. Большасць месц у Выканкоме належала ўжо большэвікам. Гэта з'явілася вынікам работы, праробленай большэвікамі па ізаляцыі ад мас згодніцкіх партый — меншавікоў, эсэраў, нацыяналістаў.

З'езды рабочых, салдацкіх, сялянскіх дэпутатаў адыгралі вялікую ролю ў справе згуртавання рабочых, салдат і бяднейшых сялян Беларусі вакол большэвіцкай партыі.

Кіруючыся ўказаннямі таварыша Сталіна, дадзенымі ў артыкуле «Супроць разрозненых дэманстрацый», апублікаваным у «Праўдзе» ад 14 чэрвеня 1917 г., мінскія большэвікі арганізавалі 18 чэрвеня 1917 г. грандыёзную дэманстрацыю пратэста

рабочых і салдат супроць наступлення на фронце. У гадзіну дня спыніліся ўсе фабрыкі і заводы. Рабочыя і салдаты Мінска вышлі на вуліцу з лозунгамі: «Далоў вайну!», «Апублікаванне тайных дагавораў!», «Кантроль рабочых над вытворчасцю і размеркаваннем!». Дэманстрацыя 18 чэрвеня ў Мінску яшчэ раз паказала рост уплыву большэвікоў на масы і правал меншавікоў, бундаўцаў і эсэраў.

4 ліпеня 1917 г. у Петраградзе войскамі Часовага ўрада была расстрэлена мірная дэманстрацыя рабочых і салдат. З гэтага дня скончылася двоеўладдзе: уся ўлада перайшла ў рукі контррэвалюцыйнага Часовага ўрада. Скончыўся мірны перыяд развіцця рэвалюцыі.

Узброенае падаўленне Часовым буржуазным урадам разам з меншавікамі і эсэрамі мірнай ліпеньскай дэманстрацыі ў Петраградзе, закрыццё газеты «Правда» і раду іншых большэвіцкіх газет выклікала ўсеагульнае абурэнне і рост рэвалюцыйнага руху па ўсёй краіне.

Па прапанове М. В. Фрунзе і А. Ф. Мяснікова Мінскі Совет рабочых і салдацкіх дэпутатаў прыняў рэзалюцыю пратэста супроць расстрэлу дэманстрацыі ў Петраградзе, супроць загада Керэнскага аб арышце В. І. Леніна і закрыцця большэвіцкіх газет. Такое-ж рашэнне пратэста было прынята Выканкомам Совета рабочых і салдацкіх дэпутатаў Паўночна-Заходняй вобласці. На шматлікіх мітынгах і сходах рабочых і салдат большэвікі Беларусі выкрывалі крывавыя злачынствы Часовага ўрада, меншавікоў і эсэраў.

Абстаноўка ў краіне, якая склалася пасля расстрэлу ліпеньскай дэманстрацыі, запатрабавала ад партыі большэвікоў змянення тактыкі. Партыя перайшла ў падполле. У канцы ліпеня 1917 г. сабраўся VI з'езд большэвіцкай партыі. З'езд праходзіў пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна. Таварыш Сталін выступіў на з'ездзе са справаздачным дакладам ЦК РСДРП(б) і з дакладам аб палітычным становішчы. У адпаведнасці з указаннямі В. І. Леніна і І. В. Сталіна VI з'езд большэвіцкай партыі нацэліў большэвіцкую партыю на ўзброенае паўстанне, на перамогу соцыялістычнай рэволюцыі.

Улічваючы, што Советы, кіруемыя меншавікамі і эсэрамі, скаціліся ў лагер буржуазіі, лозунг «Уся ўлада Советам!» быў часова знят большэвіцкай партыяй. Але часовае зняцце гэтага лозунга не азначала адмовы большэвікоў ад барацьбы за ўладу Советаў. Гутарка ішла не аб Советах наогул, як органах рэволюцыйнай барацьбы, а толькі аб Советах, кіруемых меншавікамі і эсэрамі.

Выконваючы рашэнні гістарычнага VI з'езда нашай партыі, большэвіцкія арганізацыі Беларусі яшчэ больш узмацнілі арганізацыйную і палітычную работу, рыхтавалі сілы для ўзброенага паўстання.

Сваю арганізаванасць і згуртаванасць большэвіцкія арганізацыі Беларусі паказалі ў дні карнілаўскага мецяжа. У гэтыя дні ў Мінску быў створан Ваенна-рэволюцыйны камітэт Заходняга фронта і штаб рэволюцыйных войск мінскага ўчастка. Начальнікам штаба быў прызначан М. В. Фрунзе. Ваенна-рэволюцыйны камітэт разаслаў сваіх камісараў на пошту, тэлеграф, у Оршу, Жлобін, Бабруйск.

У Мінску, Оршы, Віцебску, Гомелі былі сфарміраваны атрады Чырвонай гвардыі, якія выступілі супроць Карнілава. Гэтыя атрады затрымлівалі эшалоны з карнілаўскімі войскамі, што ішлі да Петраграда і Масквы. Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага ў Магілеве аказалася ізаляванай ад фронта і рэволюцыйных цэнтраў краіны.

Разгром карнілаўшчыны яшчэ больш падняў аўтарытэт большэвіцкай партыі, ажывіў Советы рабочых і салдацкіх дэпутатаў і згуртаваў вакол іх рабочых і бяднейшых сялян. Пасля разгрому карнілаўшчыны пачалася большэвізацыя Советаў.

Большэвіцкая партыя зноў выставіла лозунг «Уся ўлада Советам!». «Але гэта ўжо не быў, — гаворыць таварыш Сталін, — стары лозунг пераходу ўлады ў рукі меншавіцка-эсэраўскіх Советаў. Не, — гэта быў лозунг паўстання Советаў супроць Часовага ўрада з мэтай перадачы ўсёй улады ў краіне Советам, кіруемым большэвікамі» [1].

[1] «Гісторыя ВКП(б). Кароткі курс», стар. 193.

Рыхтуючы сілы да ўзброенага паўстання, Цэнтральны Камітэт большэвіцкай партыі ўдзяляў велізарную ўвагу Беларусі.

Падрыхтоўка сіл да ўзброенага паўстання запатрабавала ад большэвікоў Беларусі і Заходняга фронта арганізацыйнага і палітычнага згуртавання сваіх радоў пад кіраўніцтвам адзінага партыйнага цэнтра. У ліпені 1917 г. Цэнтральны Камітэт большэвіцкай партыі санкцыянііраваў арганізацыю абласнога і франтавога партыйнага цэнтра большэвікоў Беларусі.

Выконваючы ўказанні Цэнтральнага Камітэта большэвіцкай партыі, Мінская партыйная арганізацыя ўзяла на сябе ініцыятыву стварэння абласной арганізацыі. Мінскія большэвікі прапанавалі большэвікам Віцебска, Полацка, Магілева, Гомеля, Бабруйска, Слуцка, Барысава і іншых гарадоў і большэвіцкім арганізацыям Заходняга фронта склікаць 1 верасня 1917 г. у горадзе Мінску абласную і франтавую большэвіцкую канферэнцыю.

1 верасня 1917 г. на канферэнцыю ў горад Мінск прыбыло 46 дэлегатаў з рашаючым і 6 з дарадчым голасам. Нешматлікасць дэлегатаў тлумачыцца тым, што многія дэлегаты былі заняты падаўленнем мецяжа генерала Карнілава і не змаглі прыбыць на канферэнцыю. Таму канферэнцыя абвясціла сябе нарадай. Нарада выбрала аргбюро Паўночна-Заходняга абласнога камітэта большэвікоў.

Нарада праходзіла пад знакам аднадушнага правядзення ў жыццё рашэнняў VI з'езда партыі. Усе пытанні разглядаліся з пункту гледжання падрыхтоўкі да рашаючых баёў за ўладу Саветаў.

Значэнне нарады заключалася ў тым, што яна згуртавала большэвіцкія арганізацыі вобласці і фронта, звязала іх арганізацыйна і нацэліла на выкананне рашэнняў VI з'езда партыі.

Абласное аб'еднанне большэвікоў Беларусі канчаткова аформілася выбраннем камітэта РСДРП(б) Паўночна-Заходняй вобласці і фронта на першай абласной канферэнцыі, якая адбылася 15 верасня 1917 г. у горадзе Мінску.

Стварэнне абласнога партыйнага цэнтра — Паўночна-

Заходняга абласнога камітэта РСДРП(б) — мела вялікае значэнне ў падрыхтоўцы і правядзенні Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі ў Беларусі. Пад кіраўніцтвам ЦК РСДРП(б) Паўночна-Заходні абласны камітэт РСДРП(б) непасрэдна ўзначальваў і кіраваў усёй палітычнай і арганізацыйнай работай па выкананню рашэнняў VI з'езда большэвіцкай партыі на тэрыторыі Беларусі.

5—7 кастрычніка 1917 г. у горадзе Мінску адбылася другая абласная канферэнцыя большэвікоў Беларусі і Заходняга фронта, на якой прысутнічалі прадстаўнікі ад Мінска, Віцебска, Гомеля, Бабруйска, Слуцка, Замір'я, Несвіжа, Івянца, Рагачова, Оршы, Гарадка і іншых арганізацый. Канферэнцыя адыграла вялікую ролю ў справе падрыхтоўкі ўзброенага паўстання ў Беларусі.

Пасля другой партыйнай канферэнцыі яе дэлегаты і члены Абласнюга камітэта партыі выехалі на месцы — у партыйныя арганізацыі, на заводы і фабрыкі, у воінскія часці — для арганізацыі мас на ўзброенае паўстанне.

Большэвізацыя Советаў па ўсёй краіне пасля разгрому карнілаўшчыны, пераход Советаў на бок большэвікоў у важнейшых пролетарскіх цэнтрах — Петраградзе і Маскве азначалі, што асноўныя прадпасылкі для паспяховага ўзброенага паўстання ўжо наспелі. «Ленін указваў, што, атрымаўшы большасць у абодвух сталічных Советах рабочых і салдацкіх дэпутатаў — Маскоўскім і Петраградскім, большэвікі могуць і павінны ўзяць дзяржаўную ўладу ў свае рукі» [1].

10 кастрычніка 1917 г. на гістарычным паседжанні ЦК большэвіцкай партыі ў Петраградзе было вырашана пачаць у бліжэйшыя дні ўзброенае паўстанне. На гэтым паседжанні правадыр рэволюцыі В. І. Ленін падкрэсліў значэнне Мінска і Заходняга фронта ў падрыхтоўцы і правядзенні ўзброенага паўстання.

Таварыш Свердлоў на паседжанні ЦК партыі 10 кастрычніка 1917 г. дакладваў:

---

[1] «Гісторыя ВКП(б). Кароткі курс», стар. 194.

«З Мінска паведамляюць, што там рыхтуецца новая карнілаўшчына. Мінск з прычыны характару гарнізона акружан казацкімі часцямі. Ідуць нейкія перагаворы паміж штабамі і стаўкай падазронага характару. Вядзецца агітацыя сярод асецін і асобных часцей войск супроць большэвікоў. На фронце-ж настрой за большэвікоў, пойдуць за намі супроць Керэнскага. Ніякіх дакументаў няма. Яны могуць быць атрыманы, калі захапіць штаб, што ў Мінску зусім магчыма тэхнічна; пры гэтым мясцовы гарнізон можа раззброіць усё кальцо войск. Уся артылерыя загнана ў Пінскія балоты. Могуць з Мінска паслаць корпус у Петраград» [1].

З даклада т. Свердлова відаць, што Мінск быў акружан контррэволюцыйнымі казацкімі часцямі. К Мінску былі перакінуты «дзікая дывізія», некалькі ўдарных батальёнаў. З даклада таксама відаць, што большэвікі Мінска гатовы былі, калі спатрэбіцца, паслаць у Петраград корпус для надтрымання рэволюцыі; яны таксама гатовы былі захапіць штаб Заходняга фронта і раззброіць контррэволюцыйныя войскі.

Усебакова ўлічваючы як унутранае, так і міжнароднае становішча рускай рэволюцыі, якая паставіла на чаргу дня ўзброенае паўстанне, ЦК партыі большэвікоў прыняў 10 кастрычніка 1917 г. гістарычнае рашэнне, напісанае Леніным, у якім гаварылася:

«ЦК прызнае, што як міжнароднае становішча рускай рэволюцыі (паўстанне ў флоце ў Германіі, як крайняе праяўленне нарастання ва ўсёй Еўропе сусветнай соцыялістычнай рэволюцыі, потым пагроза свету імперыялістаў з мэтай удушэння рэволюцыі ў Расіі), так і ваеннае становішча (несумненнае рашэнне рускай буржуазіі і Керэнскага з К° здаць Піцер немцам), так і набыццё большасці пролетарскай партыяй у Советах, — усё гэта ў сувязі з сялянскім паўстаннем і з паваротам народнага давер'я да нашай партыі (выбары ў Маскве), нарэшце яўнае падрыхтаванне другой карнілаўшчыны (вывад войск з Піцера, падвоз к Піцеру казакаў, акружэнне

---

[1] В. І. Ленін. Творы, том XXI, выд. 3-е, стар. 493. Дадаткі.

Мінска казакамі і інш.), — усё гэта ставіць на чаргу дня ўзброенае паўстанне.

Прызнаючы такім чынам, што ўзброенае паўстанне непазбежна і зусім наспела, ЦК прапануе ўсім арганізацыям партыі кіравацца гэтым і з гэтага пункту гледжання абмяркоўваць і вырашаць усе практычныя пытанні (з'езда Саветаў Паўночнай вобласці, вываду войск з Піцера, выступлення масквічоў і мінчан і т. д.)» [1].

16 кастрычніка 1917 г. адбылося пашыранае паседжанне ЦК партыі. На ім быў выбран партыйны цэнтр па кіраўніцтву паўстаннем на чале з таварышам Сталіным.

Капітулянтаў Каменева і Зіноўева, якія выступілі супроць паўстання і выдалі ворагу рашэнне ЦК партыі аб узброеным паўстанні, В. І. Ленін закляйміў, як штрэйкбрэхераў рэвалюцыі.

В. І. Ленін і І. В. Сталін кіравалі соцыялістычнай рэвалюцыяй. 25 кастрычніка (7 лістапада) 1917 г. пачалося па плану Леніна і Сталіна і пад іх непасрэдным кіраўніцтвам узброенае паўстанне рабочых і салдат Петраграда. Пад кіраўніцтвам большэвікоў Чырвоная гвардыя і рэволюцыйныя салдаты і матросы разграмілі ў Петраградзе контррэволюцыйныя сілы і зверглі ўладу Часовага буржуазнага ўрада.

Узброенае паўстанне ў Петраградзе перамагло. Улада перайшла ў рукі Саветаў, кіруемых большэвікамі.

2-і Усерасійскі з'езд Саветаў, які адкрыўся 25 кастрычніка 1917 г., узяў уладу ў свае рукі і выбраў першы Савецкі ўрад на чале з В. І. Леніным і І. В. Сталіным. На 2-м Усерасійскім з'ездзе Саветаў ад Беларусі і Заходняга фронта прысутнічала 46 дэлегатаў, у тым ліку ад Мінска, Гомеля, Віцебска, Гарадка, Несвіжа, Слуцка, Рэчыцы, Оршы і ад воінскіх часцей Заходняга фронта. Беларускія дэлегаты, таксама як і большасць дэлегатаў народаў Расіі, перадалі з'езду патрабаванне сваіх выбаршчыкаў: «Уся ўлада Саветам, як у цэнтры, так і на месцах».

---

[1] В. І. Ленін. Творы, том XXI, выд. 3-е, стар. 330.

З кастрычніка 1917 г. па студзень—люты 1918 г. совецкая рэволюцыя распаўсюдзілася па ўсёй краіне. Распаўсюджанне соцыялістычнай рэволюцыі па тэрыторыі нашай велізарнай краіны ішло такім хуткім тэмпам, што Ленін назваў яго «трыумфальным маршам» совецкай улады.

У горадзе Мінску ўлада перайшла ў рукі Советаў 25 кастрычніка 1917 г.

Кіруемыя большэвікамі, узброеныя рабочыя і чырвонагвардзейскія атрады Мінска, Гомеля, Оршы, Віцебска, Слуцка і іншых гарадоў звергді ўладу стаўленікаў Часовага ўрада. У ноч з 25 на 26 кастрычніка 1917 г. чырвонагвардзейскія атрады занялі ў Мінску ўсе асноўныя ўстановы, вызвалілі з Мінскай турмы палітзняволеных, з якіх быў створан 1-ы рэволюцыйны полк імя Мінскага Совета.

Войскі Заходняга фронта ўсюды пераходзілі на бок совецкай улады. Наяўнасць на Заходнім фронце двухмільённай арміі з рабочых прамысловых цэнтраў і сялян з усіх канцоў краіны паскорыла працэс развіцця і перамогу Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі ў Беларусі.

Контррэволюцыя пры апошнім здыханні імкнулася ўтрымацца на чале ўлады. Царскія генералы разам з меншавікамі, эсэрамі, нацыяналістамі, стварыўшы так званы «Камітэт выратавання радзімы і рэволюцыі», запоўнілі Мінск контррэволюцыйнымі войскамі з мэтай звяржэння совецкай улады.

На дапамогу рэволюцыйнаму Мінску прышоў Заходні фронт. Ваенна-рэволюцыйны камітэт 2-й арміі Заходняга фронта накіраваў мінскім большэвікам бліндзіраваны цягнік і рэволюцыйныя войскі. У выніку ўзброенай барацьбы «Камітэт выратавання» быў ліквідаван.

Чатыры дні прадаўжалася барацьба паміж рэволюцыйнымі войскамі і войскамі контррэволюцыі ў Оршы. 26 кастрычніка камендант горада Оршы палкоўнік Шэбалін яшчэ заяўляў, што «ў Оршы мы падавім усякае выступленне». Але ўжо 1 (14) лістапада ён тэлеграфіраваў у адрас Стаўкі Вярхоўнага галоўнакамандуючага генерала Духоніна: «Становішча Оршы крытычнае. Раніцою 1-га станцыя Узлавая і горад будуць

ва ўладзе большэвікоў. Усім уладам прад'яўлены ультыматумы. Драгуны не прыбылі, процідзейнічаць няма чым»[1]. Але тэлеграма аб дапамозе не дапамагла.

Рэволюцыйныя сілы пад кіраўніцтвам большэвікоў поўнасцю авалодалі Оршай, і ўлада ў горадзе перайшла ў рукі Советаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

28 кастрычніка 1917 г. Віцебскі ваенна-рэволюцыйны камітэт абвясціў сябе вышэйшай уладай у горадзе і губерні.

11 лістапада 1917 г. рэволюцыйныя салдаты ў Мінску захапілі контррэволюцыйны штаб Заходняга фронта. На другі дзень быў зволен галоўнакамандуючы Заходняга фронта генерал Балуеў.

12 лістапада перавага сіл аказалася на старане большэвікоў у Гомельскім Совеце, які абвясціў аб узяцці ўсёй улады ў свае рукі.

У гэтыя-ж дні пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна была ліквідавана ў Магілеве Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага — Стаўка контррэволюцыі. Вядома, што англа-амерыканскія і французскія імперыялісты імкнулісяператварыць Стаўку ва ўсерасійскі цэнтр контррэволюцыі, а эсэры і меншавікі ім актыўна ў гэтым дапамагалі.

Генералітэт Стаўкі на чале з Духоніным адмовіўся выканаць патрабаванні Леніна і Сталіна аб заключэнні перамір'я з Германіяй. Загадам совецкай улады Духонін быў знят, а контррэволюцыйная Стаўка была разгромлена.

20 лістапада генерал Духонін быў забіт абуранымі рабочымі і салдатамі горада Магілева.

На працягу кастрычніка — лістапада Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя перамагла на ўсёй тэрыторыі Беларусі, за выключэннем часова акупіраванай немцамі Заходняй яе часткі.

Перамогу Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі ў нашай краіне забяспечыла кіруючая роля большэвіцкай партыі і яе Цэнтральнага Камітэта на чале з Леніным і Сталіным.

---

[1] ЦВГА. Фонд штаба вярхоўнага галоўнакамандуючага. Упраўленне генерал-кватэрмейстра. Справа № 815, ліст 179.

«Толькі такая партыя, як партыя большэвікоў..., — указвае таварыш Сталін, — магла так умела злучыць у адзін агульны рэволюцыйны паток такія розныя рэволюцыйныя рухі, як агульнадэмакратычны рух за мір, сялянска-дэмакратычны рух за захоп памешчыцкіх зямель, нацыянальна-вызваленчы рух прыгнечаных народаў за нацыянальнае роўнапраўе і соцыялістычны рух пролетарыята за звяржэнне буржуазіі, за ўстанаўленне дыктатуры пролетарыята» [1].

Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя перамагла таму, што на чале яе стаяў такі рэволюцыйны клас, як рабочы клас Расіі, таму, што саюзнікам рабочага класа была сялянская бедната, якая складала значную большасць сялянскага насельніцтва.

Соцыялістычная рэволюцыя ў нашай краіне перамагла таму, што яна мела перад сабой параўнальна слабага, дрэнна арганізаванага, палітычна малавопытнага ворага — рускую буржуазію, якая ў сваёй нянавісці да рабочага класа пайшла нават далей царскага самадзяржаўя. «Пакуль згодніцкія партыі эсэраў і меншавікоў мелі некаторы ўплыў у народзе, буржуазія магла прыкрывацца імі і захаваць за сабой уладу. Але пасля таго, як меншавікі і эсэры выкрылі сябе, як агентаў імперыялістычнай буржуазіі, і пазбавілі сябе тым самым уплыву ў народзе, буржуазія і яе Часовы ўрад аказаліся павіснуўшымі ў паветры» [2].

Перамогу Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі аблегчыла тая акалічнасць, што яна пачалася ў момант, калі галоўныя буржуазныя дзяржавы былі заняты вайной адна з другой і не мелі магчымасці актыўна выступіць супроць Кастрычніцкай рэволюцыі.

Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя звергла ўладу буржуазіі і памешчыкаў і ўстанавіла дыктатуру пролетарыята. Кастрычніцкая рэволюцыя адабрала ў памешчыкаў і буржуазіі сродкі вытворчасці і ператварыла зямлю, фабрыкі

---

[1] «Гісторыя ВКП(б). Кароткі курс», стар. 202.
[2] Там-жа, стар. 201.

і заводы, чыгункі, банкі ва ўласнасць усяго народа, у грамадскую ўласнасць.

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя выратавала нашу краіну ад пагрозы іншаземнага заняволення, ад гібелі і катастрофы, у якую вялі яе капіталісты і памешчыкі.

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя адкрыла новую эру ў гісторыі чалавецтва — эру сацыялізма. «Яна азначае, — гаворыць таварыш Сталін, — карэнны паварот у сусветнай гісторыі чалавецтва ад старога, капіталістычнага, свету да новага, сацыялістычнага, свету» [1].

Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя прынесла не толькі сацыяльнае, але і нацыянальнае вызваленне ўсім народам нашай краіны, у тым ліку і беларускаму народу. «Народы-парыі, народы-рабы **ўпершыню** ў гісторыі чалавецтва падняліся да становішча народаў, **сапраўды** свабодных і **сапраўды** роўных, заражаючы сваім прыкладам прыгнечаныя народы ўсяго свету» [2].

Ужо ў дзень перамогі Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі 25 кастрычніка 1917 г. 2-і Усерасійскі з'езд Саветаў у першым дакуменце — «Зварот да рабочых, салдат і сялян» — абвясціў, што Савецкі ўрад «забяспечыць усім нацыям, якія насяляюць Расію, сапраўднае права на самавызначэнне» [3].

Свабода і роўнапраўе народаў Расіі былі таксама абвешчаны ў першым гістарычным дэкрэце аб міры, прынятым 26 кастрычніка 1917 г. на 2-м Усерасійскім з'ездзе Саветаў.

Для кіраўніцтва ўсёй велізарнай работай па практычнаму ажыццяўленню ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі камуністычнай партыі і Савецкага ўрада 2-і Усерасійскі з'езд Саветаў стварыў Народны Камісарыят па справах нацыянальнасцей (Наркамнац). Народным Камісарам па справах нацыянальнасцей быў прызначан таварыш Сталін. Ужо адно гэтае прызначэнне гаворыць аб тым, якое велізарнае значэнне

---

[1] І. В. Сталін. «Пытанні ленінізма», выд. 11-е, стар. 172.
[2] Там-жа, стар. 174.
[3] В. І. Ленін. Творы, том XXII, выд. 3-е, стар. 11.

надавалі большэвіцкая партыя і Совецкі ўрад нацыянальнаму пытанню.

На XI з'ездзе партыі В. І. Ленін указваў, што ніхто, апрача таварыша Сталіна, не ў сілах кіраваць дзейнасцю Народнага Камісарыята па справах нацыянальнасцей. «Што мы можам зараз зрабіць, — гаварыў В. І. Ленін, — каб было забяспечана існуючае становішча ў Наркамнацы, каб разбірацца з усімі туркестанскімі, каўказскімі і інш. пытаннямі? Гэта-ж усё палітычныя пытанні! А вырашаць гэтыя пытанні неабходна, гэта — пытанні, якія сотні год цікавілі еўрапейскія дзяржавы, якія ў мізэрнай частцы вырашаны ў дэмакратычных рэспубліках. Мы іх вырашаем, і нам патрэбна, каб у нас быў чалавек, да якога кожны з прадстаўнікоў нацый мог-бы пайсці і падрабязна расказаць, у чым справа» [1]. В. І. Ленін гаварыў, што нельга назваць на пост Народнага Камісара па справах нацыянальнасцей іншай кандыдатуры, апрача таварыша Сталіна.

Адным з важнейшых актаў Совецкага ўрада з'явілася апублікаваная 2 лістапада 1917 г. за подпісамі В. І. Леніна і І. В. Сталіна «Дэкларацыя правоў народаў Расіі». Гэты гістарычны дакумент пачынаўся словамі:

«Кастрычніцкая рэволюцыя рабочых і сялян пачалася пад агульным сцягам разняволення». У «Дэкларацыі» гаварылася, што ганебнай палітыцы царызма, якая заключалася ў нацкоўванні народаў аднаго на другі, няма і не павінна быць звароту. Ад гэтага часу гэтая палітыка «павінна быць заменена палітыкай дабравольнага і чэснага саюза народаў Расіі» [2].

У «Дэкларацыі правоў народаў Расіі» ўказвалася, што ў аснову сваёй дзейнасці ў галіне нацыянальнага пытання Совет Народных Камісараў паклаў:

«1. Роўнасць і суверэннасць народаў Расіі.

2. Права народаў Расіі на свабоднае самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойнай дзяржавы.

---

[1] В. І. Ленін. Творы, том XXVII, выд. 3-е, стар. 263—264.

[2] «Першая Совецкая Канстытуцыя» (Канстытуцыя РСФСР 1918 г.). Зборнік дакументаў пад рэдакцыяй А. Я. Вышынскага. Юрвыдат НКЮ СССР, М., 1938 г., стар. 282.

3. Адмена ўсіх і ўсякіх нацыянальных і нацыянальна-рэлігійных прывілей і абмежаванняў.

4. Свабоднае развіццё нацыянальных меншасцей і этнаграфічных груп, насяляючых тэрыторыю Расіі»[1].

Прынцыпы «Дэкларацыі правоў народаў Расіі» ляглі ў аснову практычнага ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Усе далейшыя дзяржаўныя акты і дэкрэты совецкай улады па нацыянальнаму пытанню выцякалі з гэтых прынцыповых установак «Дэкларацыі правоў народаў Расіі».

«Дэкларацыя правоў народаў Расіі» была сустрэта працоўнымі Беларусі, як і працоўнымі ўсёй краіны, з велізарным палітычным уздымам. «Дэкларацыя» яшчэ мацней згуртавала народы нашай краіны, у тым ліку і беларускі народ, вакол большэвіцкай партыі.

Пасля апублікавання «Дэкларацыі правоў народаў Расіі» пад кіраўніцтвам большэвікоў у Беларусі разгарнуўся шырокі рух за аб'яднанне з РСФСР, за згуртаванне вакол рускага народа. Гэта быў сапраўды народны рух. Аб'яднаўчы рух беларускага народа, як і ўсіх народаў Расіі, пацвярджаў словы таварыша Сталіна аб тым, што «Кастрычніцкі пераварот толькі ўмацаваў саюз рабочых і сялян ускраін з рабочымі і сялянамі Расіі, натхніўшы іх верай у перамогу соцыялізма»[2].

На сходах, з'ездах, канферэнцыях, якія адбываліся па ўсёй Беларусі, рабочыя, салдаты і працоўнае сялянства аднадушна выказваліся за цеснае садружаства з брацкім рускім народам.

Як вядома, у першыя месяцы совецкай улады (кастрычнік 1917 г. — люты 1918 г.) Беларусь у адміністратыўных адносінах знаходзілася ў саставе Паўночна-Заходняй вобласці.

Ажыццяўляючы рашэнні ЦК партыі большэвікоў, 2-га Усерасійскага з'езда Советаў, Паўночна-Заходні Абласны камітэт

---

[1] «Першая Совецкая Канстытуцыя» (Канстытуцыя РСФСР 1918 г.). Зборнік дакументаў пад рэдакцыяй А. Я. Вышынскага. Юрвыдат НКЮ СССР, М., 1938 г., стар. 282.

[2] І. В. Сталін. Творы, том 4, стар. 161.

большэвікоў разгарнуў вялікую работу па ўмацаванню савецкай улады на месцах, па скліканню абласных з'ездаў Саветаў.

З 18 па 20 лістапада 1917 г. у Мінску адбыўся з'езд Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў Заходняй вобласці і з'езд Саветаў сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерань. Як першы, так і другі з'езды прызналі ўладу Саветаў адзінай законнай уладай на тэрыторыі Беларусі і ўхвалілі ўсе дэкрэты 2-га Усерасійскага з'езда Саветаў. На гэтых з'ездах большэвікі рашуча выкрылі меншавікоў, эсэраў, бундаўцаў і беларускіх нацыяналістаў, як заўзятых ворагаў савецкай улады. 20 — 25 лістапада 1917 г. у памяшканні Мінскага гарадского тэатра адбыўся 2-і з'езд дэлегатаў армій Заходняга фронта з удзелам дэлегатаў ад Саветаў, прафсаюзаў і рабочых арганізацый. Ганаровым старшынёй схода быў выбран правадыр рэвалюцыі і партыі большэвікоў В. І. Ленін. Бурнай авацыяй сустрэлі дэлегаты з'езда паяўленне ў прэзідыуме прадстаўнікоў ЦК партыі большэвікоў таварышоў Орджанікідзе і Валадарскага. Таварыш Орджанікідзе вітаў з'езд ад імя Цэнтральнага Камітэта партыі большэвікоў.

2-і з'езд дэлегатаў армій Заходняга фронта цалкам і поўнасцю ўхваліў рашэнні 2-га Усерасійскага з'езда Саветаў аб пераходзе ўлады ў рукі Саветаў. З'езд выбраў Галоўнакамандуючым войскамі Заходняга фронта старшыню Паўночна-Заходняга абласнога камітэта большэвікоў Александра Фёдаравіча Мяснікова.

На 2-м з'ездзе дэлегатаў армій Заходняга фронта быў выбран франтавы камітэт. У хуткім часе франтавы камітэт аб'яднаўся з Выканаўчымі Камітэтамі, выбранымі на з'ездзе Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў Заходняй вобласці і на з'ездзе Саветаў сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерань. Такім чынам быў створан Выканаўчы Камітэт Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронта (Аблвыкамзах).

26 лістапада 1917 г. адбыўся першы пленум аб'яднанага абласнога Выканаўчага Камітэта Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронта, на якім

быў выбран Прэзідыум Выканкома і Совет Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронта.

Пад кіраўніцтвам Паўночна-Заходняга камітэта большэвікоў Аблвыкамзах праводзіў у жыццё дэкрэты 2-га Усерасійскага з'езда Советаў, рашэнні большэвіцкай партыі і Совецкага ўрада, кіраваў усім палітычным, гаспадарчым і культурным жыццём вобласці.

Па ўсіх губернях Паўночна-Заходняй вобласці адбыліся губернскія з'езды Советаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. На гэтых з'ездах былі выбраны губернскія Советы рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў.

Такім чынам, у перыяд трыумфальнага шэсця совецкай улады ў Беларусі былі змецены органы буржуазнага Часовага ўрада і створаны абласныя і мясцовыя органы совецкай улады. У Беларусі, як і па ўсёй краіне, былі створаны **Советы** як палітычная форма дыктатуры пролетарыята.

«Совецкая ўлада, — указваў В. І. Ленін, — ёсць шлях да социялізма, знойдзены масамі працоўных і таму—правільны і таму — непераможны» [1].

5 студзеня 1918 г. у горадзе Мінску адбылася 3-я Надзвычайная Паўночна-Заходняя абласная і франтавая канферэнцыя большэвікоў Заходняй вобласці. Сабраўшыся ўпершыню пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі, 3-я большэвіцкая канферэнцыя прыняла рад важных рашэнняў, накіраваных на ўмацаванне совецкай улады і мабілізацыю працоўных на барацьбу са знешняй і ўнутранай контррэволюцыяй.

Канферэнцыя ўказала, што задачай партыйных ячэек з'яўляецца шырокая работа па растлумачэнню сялянам аграрнай праграмы большэвіцкай партыі і згуртаванне бяднейшых сялян вакол Советаў на месцах.

У сувязі з дэмабілізацыяй старой царскай арміі канферэнцыя вырашыла ўзмацніць большэвіцкую прапаганду і агітацыю сярод салдат, рабочых і працоўных сялян і разгарнуць работу па стварэнню рэволюцыйных палкоў, гатовых да апош-

[1] В. І. Ленін. Творы, том XXIV, выд. 3-е, стар. 201.

няй кроплі крыві абараняць заваёвы Кастрычніцкай социялістычнай рэвалюцыі.

Супроць большэвіцкай партыі і Совецкага ўрада, супроць дэкрэтаў і пастаноў совецкай улады выступалі беларускія і яўрэйскія буржуазныя нацыяналісты, меншавікі, эсэры і іншыя контррэвалюцыянеры. Уся гэтая рэакцыя групавалася ў асноўным вакол контррэвалюцыйнай «Беларускай рады», утворанай у ліпені 1917 г. з буржуазных нацыяналістычных контррэвалюцыйных арганізацый.

Беларускія буржуазныя нацыяналісты, як і буржуазныя нацыяналісты ў іншых ускраінных рэспубліках і абласцях, зрабіліся асяроддзем контррэвалюцыі. Таварыш Сталін, тлумачачы прыроду гэтай контррэвалюцыі, гаварыў: «Справа ў тым, што гэтыя «нацыянальныя ўрады» і слухаць не хацелі аб соцыялістычнай рэвалюцыі. Буржуазныя па прыродзе, яны зусім не хацелі разбураць стары, буржуазны парадак, — наадварот, яны лічылі сваім абавязкам захоўваць і ўмацоўваць яго ўсімі сіламі. Імперыялістычныя па сутнасці, яны зусім не хацелі ірваць з імперыялізмам, — наадварот, яны ніколі не былі супроць таго, каб захапіць і падпарадкаваць сабе кавалкі і кавалачкі тэрыторый «чужых» нацыянальнасцей, калі трапляласся к таму магчымасць. Нядзіўна, што «нацыянальныя ўрады» на ўскраінах аб'явілі вайну соцыялістычнаму ўраду ў цэнтры. Аб'явіўшы-ж вайну, яны, натуральна, сталі ачагамі рэакцыі, якія сцягвалі вакол сябе ўсё контррэвалюцыйнае ў Расіі. Ні для каго не тайна, што туды, у гэтыя ачагі, накіраваліся ўсе выкінутыя з Расіі контррэвалюцыянеры, што там, вакол гэтых ачагоў, фарміраваліся яны ў белагвардзейскія «нацыянальныя» палкі» [1].

Так было і ў Беларусі. Контррэвалюцыйная «Беларуская рада» імкнулася захапіць уладу ў свае рукі, арганізаваць буржуазную рэспубліку пад пратэктаратам імперыялістаў Заходняй Еўропы. Гэтым самым беларускія нацыяналісты хацелі ператварыць Беларусь у калонію імперыялістычных дзяржаў.

---

[1] І. В. Сталін. Творы, том 4, стар. 160—161.

З гэтай мэтай яны склікалі ў снежні 1917 г. у Мінску так званы «Усебеларускі кангрэс». Па распараджэнню Совета Народных Камісараў Заходняй вобласці «Усебеларускі кангрэс», як зборышча контррэвалюцыі, у ноч на 18 снежня 1917 г. быў распушчан. Рабочыя, салдаты, працоўныя сяляне Беларусі паўсямесна віталі гэты акт совецкай улады.

Але капіталісты і памешчыкі, чыімі слугамі з'яўляліся нацыяналісты, не хацелі прымірыцца са стратай улады. Беларускія, а таксама польскія памешчыкі, якія валодалі да рэвалюцыі ў Беларусі велізарнымі памесцямі і бязлітасна эксплаатавалі беларускіх сялян, усімі сіламі імкнуліся вярнуць назад свае маёнткі. Капіталісты, памешчыкі і іх агентура — нацыяналісты, меншавікі, эсэры — у гэты момант робяць стаўку на корпус польскіх легіянераў Доўбар-Мусніцкага.

Польскі корпус Доўбар-Мусніцкага пачаў фарміравацца яшчэ да Кастрычніцкай рэволюцыі з польскіх салдат, якія знаходзіліся ў розных часцях рускай арміі. Пасля перамогі Кастрычніцкай социялістычнай рэволюцыі гэты корпус стаў прытулкам і апорай памешчыцкай і буржуазнай контррэволюцыі ў Беларусі. У студзені 1918 г. агент Антанты генерал Доўбар-Мусніцкі ўзняў мяцеж супроць Совецкай Расіі. Легіянеры корпуса Доўбар-Мусніцкага занялі гарады Рагачоў, Жлобін, Бабруйск, дзе ўчынялі жорсткія катаванні, насіллі, грабяжы і здзекі над працоўным насельніцтвам.

На барацьбу з легіянерамі большэвіцкая партыя мабілізавала рабочых, салдат і працоўных сялян. У лютым 1918 г. чырвонагвардзейскія атрады разграмілі польскі корпус Доўбар-Мусніцкага. Астаткі корпуса былі выратаваны нямецкімі захопнікамі ад канчатковага знішчэння.

Пасля перамогі Кастрычніцкай социялістычнай рэволюцыі «пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна рабочыя і сяляне на месцы царскіх калоній сталі ствараць совецкія рэспублікі. Няма ні аднаой совецкай рэспублікі, у арганізацыі якой Сталін не прымаў-бы актыўнага і кіруючага ўдзелу. Сталін кіруе барацьбой за Украінскую Совецкую Рэспубліку, кіруе справай стварэння Беларускай Рэспублікі і совецкіх рэспублік у Закаў-

каззі і Сярэдняй Азіі, дапамагае шматлікім нацыянальнасцям Совецкай краіны будаваць свае аўтаномныя совецкія рэспублікі і вобласці» [1].

2 снежня 1917 г. таварыш Сталін на паседжанні Соўнаркома робіць даклады аб Украіне і аб арганізацыі з'езда Советаў Беларусі [2]. На гэтым з'ездзе Советаў Беларусі і павінна было быць вырашана пытанне аб стварэнні БССР.

Таварыш Сталін, асабіста займаючыся пытаннем дзяржаўнасці беларускага народа, неаднаразова гутарыў з палітычнымі і грамадскімі дзеячамі Беларусі.

Скліканне з'езда Советаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Беларусі, на якім меркавалася вырашыць пытанне аб дзяржаўным устройстве беларускага народа, было намечана на канец лютага 1918 г. Але вераломны напад нямецкіх захопнікаў на Совецкую краіну ў 1918 г. затрымаў дзяржаўнае ўстройства Беларусі. Беларускія рабочыя і працоўныя сяляне пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі ўзняліся на Айчынную вайну супроць нямецкіх захопнікаў за чэсць, свабоду і незалежнасць сваёй соцыялістычнай Радзімы.



---

[1] «Іосіф Вісарыёнавіч Сталін. Кароткая біяграфія», стар. 68—69.
[2] І. В. Сталін. Творы, том 4, стар. 443.

## 2. ЛЕНІН і СТАЛІН — АРГАНІЗАТАРЫ РАЗГРОМУ НЯМЕЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ У 1918 г.

Палітычная мэта нямецкага наступлення на маладую Совецкую рэспубліку ў 1918 г. заключалася ў тым, каб знішчыць совецкую ўладу, заняволіць народы Расіі, ператварыць нашу краіну ў нямецкую калонію. Таму зусім зразумела, што ўся контррэвалюцыя ўнутры краіны — капіталісты і памешчыкі, меншавікі і эсэры, нацыяналісты і трацкісты разам з «левымі комуністамі» — падтрымлівала немцаў і дапамагала ім у ажыццяўленні іх каварных планаў.

Нямецкае наступленне на маладую Совецкую рэспубліку ў 1918 г. было справацыравана трацкістамі разам з «левымі комуністамі» і «левымі» эсэрамі. Троцкі па-здрадніцку сарваў перагаворы з немцамі ў Брэсце. Як высветлілася пазней, «Бухарын і ўзначальваемая ім група «левых комуністаў» сумесна з Троцкім і «левымі» эсэрамі, аказваецца, былі тады ў тайнай змове супроць Совецкага ўрада. Бухарын, Троцкі і іх саўдзельнікі па змове, аказваецца, ставілі сабе мэту — сарваць брэсцкі мірны дагавор, арыштаваць В. І. Леніна, І. В. Сталіна, Я. М. Свердлова, забіць іх і сфарміраваць новы ўрад з бухарынцаў, трацкістаў і «левых» эсэраў»[1]. Змоўшчыкі разлічвалі, што нямецкае наступленне дапаможа ім ажыццявіць іх злачынства.

[1] «Гісторыя ВКП(б). Кароткі курс», стар. 206.

Арганізуючы контррэвалюцыйную змову, трацкісты адначасова імкнуліся раскалоць большэвіцкую партыю і разлажыць партыйныя рады.

Але подлыя ворагі партыі і народа пралічыліся. Партыя яшчэ больш згуртавалася ў гэты час вакол сваіх правадыроў Леніна, Сталіна, Свердлова, падтрымала Цэнтральны Камітэт у пытанні аб міры, узняла, натхніла і арганізавала рабочых і працоўных сялян на свяшчэнную вайну супроць нямецкіх захопнікаў, за свабоду і незалежнасць сваёй Совецкай Радзімы.

18 лютага 1918 г. узброеныя да зубоў нямецкія арміі перайшлі па ўсяму фронту ў наступленне на Совецкую рэспубліку. Германскія імперыялісты рваліся да сталіц пролетарскай рэволюцыі — Петраграда і Масквы.

У гэтыя цяжкія дні Ленін і Сталін мабілізуюць усе сілы партыі і народа для абароны Совецкай краіны ад нашэсця нямецкіх захопнікаў. За подпісам В. І. Леніна Совет Народных Камісараў выдае адозву «Соцыялістычная айчына ў небяспецы». В. І. Ленін заклікаў увесь совецкі народ ператварыць краіну ў баявы лагер барацьбы супроць нашэсця германскіх імперыялістаў. «Усім Советам і рэволюцыйным арганізацыям, — пісаў В. І. Ленін, — ставіцца ў абавязак абараняць кожную пазіцыю да апошняй кроплі крыві» [1]. У тэлеграме старшыні Соўдэпа горада Дрыса В. І. Ленін прапанаваў: «Аказвайце супраціўленне, дзе гэта магчыма. Вывозьце ўсё каштоўнае і прадукты. Астатняе ўсё знішчайце. Не пакідайце ворагу нічога. Разбірайце шляхі — дзве вярсты на кожныя дзесяць. Узрывайце масты» [2].

Выконваючы ўказанні ЦК партыі і Совецкага ўрада, большэвікі Беларусі разгарнулі вялікую работу сярод рабочых, салдат і працоўных сялян па мабілізацыі на адпор нямецкім інтэрвентам.

У загадзе № 2 Галоўнакамандуючага Заходнім фронтам—

---

[1] «Лістоўкі Грамадзянскай вайны ў СССР», 1918—1922 гг. Дзяржпалітвыдат, 1942 г., стар. 7.

[2] «Ленінскі зборнік» XXXV, стар. 16.

Старшыні Паўночна-Заходняга Абласнога Камітэта большэвікоў тав. Мяснікова — гаварылася:

«Нашэсце германскага імперыялізма, які падтрымліваецца міжнароднай і... нацыянальнай буржуазіяй, ставіць перад соцыялістычнай дзяржавай Расіі вялікую і слаўную задачу абароны краіны рускіх рабочых і сялян...

Усе тыя, каму дорага свабоднае, чалавечае жыццё, хто пазбягае заняволення, уціску і знішчэння, усе свядомыя і разумныя працоўныя, усе Вы заклікаецеся пад чырвоныя сцягі барацьбы з міжнародным грабяжом, з агіднымі ворагамі свабоды, працы, вольнага жыцця, зямлі, Совецкай улады і соцыялізма.

Ні ў каго з Вас не можа быць сёння іншай думкі, як адбіццё здрадніцкага нападу аб'яднаных ворагаў нашай народнай чырвонай айчыны» [1].

На заклік партыі большэвікоў, Совецкага ўрада, правадыра рэволюцыі Леніна рабочыя і працоўныя сяляне адказалі масавым уступленнем у чырвонагвардзейскія атрады, аказаннем неабходнай дапамогі атрадам.

«... Наплыў дабравольцаў настолькі вялікі, што нехапае выпісваемай зброі, снаражэння і харчавання. Сяляне забяспечваюць атрады хлебам» [2], — паведамляў 14 сакавіка 1918 г. Совету Народных Камісараў камісар Заходняга фронта.

У загадзе тав. Мяснікова чырвонагвардзейскія атрады заклікаліся абараняць кожную пядзь совецкай зямлі. Перад Віцебскім, Аршанскім і Смаленскім чырвонагвардзейскімі атрадамі Мясніковым была пастаўлена задача: не прапускаць немцаў да Смаленска, перад Рослаўльскім атрадам — затрымаць прасоўванне нямецкіх войск па чыгунцы Магілеў — Рагачоў. Камандзірам чырвонагвардзейскіх атрадаў было загадана дзейнічаць сумесна з партызанскімі атрадамі.

Мужна змагаліся чырвонагвардзейцы, адстайваючы ад нямецкіх захопнікаў родную зямлю. Да апошняй кроплі крыві

[1] Партархіў ЦК КП(б)Б, ф. 35, спр. 48.

[2] «Крах нямецкай акупацыі ў Беларусі ў 1918 г.». Зборнік дакументаў Партархіва ЦК КП(б)Б. Дзяржвыдат БССР, Мінск, 1947 г., стар. 59.

абаранялі чырвонагвардзейскія атрады 18 і 19 лютага буйную чыгуначную станцыю Асіповічы. Чырвонагвардзейскія атрады вялі на працягу месяца няроўныя баі з перавышаючымі сіламі нямецкіх захопнікаў на подступах да горада Жлобіна.

У баях з нямецкімі захопнікамі нарадзілася Чырвоная Армія. Маладыя атрады Чырвонай Арміі — арміі рэвалюцыйнага пролетарыята — нанеслі рашучы ўдар нямецкім захопнікам пад Нарвай і Псковам і спынілі іх прасоўванне на Петраград. Дзень адпору войскам германскага імперыялізма — 23 лютага 1918 г. — стаў днём нараджэння Чырвонай Арміі.

Аднак нямецкім захопнікам у 1918 г. удалося часова акупіраваць большую частку Украіны і Беларусі.

Часовая акупацыя нямецкімі войскамі Беларусі ў 1918 г. з'яўляецца крывавай старонкай у гісторыі беларускага народа. Дзесяць месяцаў нямецкія вылюдкі грабілі, катавалі і расстрэльвалі рабочых і працоўных сялян Беларусі.

Нямецкія захопнікі, часова акупіраваўшы большую частку Беларусі, знішчылі на занятай тэрыторыі ўсе заваёвы Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі, совецкую уладу, аднавілі капіталістычнае рабства. У Беларусь, як і ў іншыя часова акупіраваныя раёны краіны, нямецкія імперыялісты вярнулі памешчыкаў і капіталістаў. У сялян Беларусі забралі ўсю зямлю, якую яны атрымалі ў выніку перамогі Кастрычніка.

Таварыш Сталін у артыкуле «Украінскі вузел», характарызуючы каланіяльны рэжым немцаў, устаноўлены ў часова акупіраваных раёнах у 1918 г., гаварыў: «Імперыялісты Аўстрыі і Германіі нясуць на сваіх штыках новае, ганебнае іга, якое нікольки не лепш за старое, татарскае, — такі сэнс нашэсця з Захада» [1].

Германскія імперыялісты ўвялі ў захопленых імі раёнах крывавы рэжым, па-варварску спусташалі і грабілі краіну, вывозілі з Беларусі матэрыяльныя каштоўнасці, уганялі насельніцтва ў нямецкае рабства.

З асаблівай жорсткасцю нямецкія захопнікі распраўляліся

[1] І. В. Сталін. Творы, том 4, стар. 46.

з мірным насельніцтвам, якое падазравалі ў спачуванні большэвікам. Нямецкі камендант Віртэль у загадзе ад 18 кастрычніка 1918 г. пісаў:

«Гора таму паселішчу ці асобнай гаспадарцы, з якіх з'явіўся-б хто насустрач большэвіцкім арганізацыям і аказваў-бы ім у чым-небудзь садзеянне... Такія паселішчы і гаспадаркі будуць змятацца з твару зямлі і месцы пакарання смерцю будуць перапоўнены іх трупамі» [1].

Старшыня Сенненскага Выканкома 4 красавіка 1918 г. дакладваў Совету Народных Камісараў:

«Даводзім да ведама, што пры заняцці павета немцамі... грабіцца насельніцтва, забіраецца жывёла, хлеб, сала, мяса» [2].

Паўночна-Заходні Абласны камітэт РКП(б) у пісьме Совету Народных Камісараў ад 21 красавіка 1918 г. паведамляў:

«Абласным Камітэтам Расійскай Комуністычнай партыі большэвікоў атрыманы звесткі ад адказных партыйных таварышоў з Мінска аб абураючых парушэннях міжнароднага права, якія чыняць нямецкія захопнікі ў Мінску. Немцы палююць на людзей, ловяць пагалоўна ўсіх на вуліцах і ў дамах; трымаюць у лагерах пад вартай, а потым грузяць у наглуха запячатаныя вагоны і адвозяць у невядомым напрамку. На вуліцах гарматы і кулямёты і ўзмоцненыя патрулі. У горадзе паніка, насельніцтва тэрарызавана, за спробы ўцячы расстрэльваюць» [3].

У інфармацыйнай зводцы ад 6 верасня 1918 г. гаварылася:

«У раён Рэчыцы для рэквізіцыі ўраджаю немцамі высланы спецыяльныя атрады, якія складаюцца з двух палкоў. Для адпраўкі прадуктаў унутр Германіі немцы, каб пазбегнуць нападу на паязды, прыдумалі наступны спосаб: з 40 вагонаў, састаўленых для адпраўкі бежанцаў, ля паравоза 5 вагонаў нагружаюць збожжам, мукой, 5 вагонаў бежанцамі, 10 вагонаў жывёлы, а потым зноў бежанцы» [4].

---

[1] Партархіў ЦК КП(б)Б, ф. 832, спр. 15.
[2] Там-жа, ф. 60, спр. 32.
[3] Там-жа.
[4] Там-жа.

Акупанты ўводзілі нямецкую мову ва ўстановах і школах, знішчалі беларускую культуру.

У расправе над працоўнымі Беларусі нямецкім захопнікам дапамагалі беларускія нацыяналісты, памешчыкі, капіталісты, былыя царскія чыноўнікі. У сакавіку 1918 г. у Мінску беларускія нацыяналісты, памешчыкі, буржуазія, кулакі стварылі пад апекай немцаў так званую «Раду Беларускай народнай рэспублікі», якая абвясціла аб аддзяленні Беларусі ад РСФСР і аб скасаванні ўсіх заваёў Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі. Пастановай ад 12 чэрвеня 1918 г. рада прызнала несапраўднымі ўсе дэкрэты Совецкага ўрада і ўвяла ў дзеянне законы звергнутага Часовага буржуазнага ўрада Керэнскага.

25 красавіка 1918 г. так званая «Беларуская Рада» паслала кайзеру Вільгельму прывітальную тэлеграму, у якой па-халопску дзякавала яго за акупацыю нямецкімі войскамі Беларусі і абяцала ім сваё падтрыманне.

Адначасова з гэтым беларускія нацыяналісты — гэтыя агенты замежных імперыялістычных дзяржаў — вялі сакрэтныя перагаворы з імперыялістамі Францыі і Англіі аб ператварэнні Беларусі ў іх калонію і звярталіся да ўрада Злучаных Штатаў Амерыкі, прапануючы амерыканскім імперыялістам продаж за любую цану багаццяў Беларусі, каб захаваць у ёй уладу памешчыкаў і капіталістаў.

Нямецкія акупанты пры падтрыманні нацыяналістаў імкнуліся расчляніць Беларусь. Адну частку Беларусі яны хацелі далучыць да Прусіі, другую частку аддаць падуладнаму Германіі «літоўскаму каралеўству» ці марыянетачнаму польскаму каралеўству, трэцюю частку аддаць гетманству Скарападскага на Украіне.

Большэвікі Беларусі, выконваючы ўказанні ЦК большэвіцкай партыі, рашуча выкрывалі перад беларускім народам каварныя замыслы нямецкіх акупантаў і нацыяналістаў аб расчляненні і заняволенні беларускага народа. Сходы рабочых і сялян, якія адбыліся паўсямесна ў чэрвені і ліпені 1918 г., вы-

ліліся ў пагалоўныя пратэсты супроць нямецкіх захопнікаў і нацыяналістаў.

Працоўныя сяляне паселішчаў Рудні, Уваравай, Васковічы, Новай Слабады, Прапойскай воласці, Быхаўскага павета, Магілеўскай губерні, на мітынгу абмеркавалі пытанне аб дамаганні на насільнае адтаржэнне нямецка-украінскімі імперыялістычнымі ўладамі прыфрантавых частак Магілеўскай губерні і аднагалосна **пастанавілі:** пратэставаць супроць перадачы Магілеўскай губерні пад уладу Скарападскага—стаўленіка нямецкіх імперыялістаў на Украіне.

«Мы заўсёды гатовы ісці поруч з працоўнымі братамі-украінцамі пры замене цяпер існуючага дзяржаўнага ладу на Украіне.

Заяўляем, што мы падтрымліваем і прызнаем толькі ўладу рабочых і сялян у асобе Расійскай Совецкай Федэратыўнай Рэспублікі.

Няхай жыве совецкая ўлада!

Няхай жыве социялістычная рэспубліка!» [1].

Чырвонаармейцы першай роты Горацкага палка імя Пагодзіна на агульным сходзе заявілі: «Заслухаўшы даклад ваеннага камісара... аб дамаганні нямецка-украінскіх імперыялістычных улад і самазванай беларускай рады на далучэнне Горацкага павета да Германіі ці Украіны, аднагалосна і катэгарычна заяўляем, што мы з абурэннем адхіляем такое варварскае і агіднае дамаганне на нашу волю і свабоду. Наша цвёрдая і непахісная воля — не выходзіць з межаў Расійскай Совецкай рэспублікі і гэтую волю мы будзем абараняць да апошніх сіл» [2].

2-і з'езд Советаў Заходняй вобласці, які адбыўся летам 1918 г. у Смаленску, выказаў пратэст працоўных мас Беларусі супроць контррэволюцыйнай дзейнасці беларускіх нацыяналістаў. З'езд прыняў зварот да беларускіх рабочых і сялян, у якім гаварылася:

---

[1] Партархіў ЦК КП(б)Б, ф. 59, спр. 3.
[2] Там-жа, спр. 4.

«Ворагі Совецкай социялістычнай улады—беларускія памешчыкі разам з ненавіснымі для сялян і рабочых здраднікамі рэволюцыі меншавікамі і правымі эсэрамі — арганізаваліся і стварылі контррэволюцыйную раду. Жадаючы падзяліць беларускіх рабочых і сялян, якія згуртаваліся вакол Советаў і моцна трымаюць сцяг Совецкай Рэспублікі, беларуская рада замышляе д'ябальскі план здрадніцтва працоўным масам, застаўшымся ў акупіраваным немцамі краі. Імкнучыся захапіць уладу ў свае рукі, рада, якая засядае ў Мінску, спрабуе стварыць нацыянальную буржуазную дзяржаву пад апекай Германіі і хоча заняволіць беларускіх працаўнікоў для германскіх, польскіх і беларускіх памешчыкаў. Не апіраючыся ні на аднаго рабочага, ні на аднаго селяніна, ні на аднаго наогул сумленнага грамадзяніна, буржуазная рада выдае сябе за сапраўднае прадстаўніцтва шырокіх народных мас, якія насяляюць Беларусь, і ў інтарэсах памешчыкаў робіць чорную справу здрады.

2-і з'езд Советаў Заходняй вобласці, які апіраецца на многія мільёны працаўнікоў горада і вёскі, які налічвае ў сваіх радах прадстаўнікоў ад соцень тысяч беларускіх рабочых і сялян і з'яўляецца сапраўдным выражальнікам іх спадзяванняў і імкненняў, заяўляе ўсяму свету, што беларускія пролетарыі не аддзяляюць сябе ад вялікай Федэратыўнай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі і ад рабочых і сялян усёй астатняй Расіі.

З'езд выказвае сваю непахісную ўпэўненасць у тым, што блізкі час вызвалення ўсіх працаўнікоў Беларусі, якія зліюцца ў адну брацкую сям'ю з усёй рабоча-сялянскай Расіяй» [1].

У перыяд часовай нямецкай акупацыі працоўныя масы з кожным днём пераконваліся, што так званыя «ўрады», буржуазныя па характару і таму чуждыя інтарэсам рабочых і сялян, з'яўляліся «простымі прыдаткамі акупацыйных улад, што не магло не пазбавіць іх усякай маральнай вагі ў вачах шырокіх слаёў насельніцтва» [2].

---

[1] Партархіў ЦК КП(б)Б, ф. 42, спр. 2.
[2] І. В. Сталін. Творы, том 4, стар. 179.

Беларускія нацыяналісты як агню баяліся нарастаўшага народнага рэвалюцыйнага руху. Члены БНР Цвікевіч, Доўнар-Запольскі і Трэмповіч, баючыся беларускага народа, у пісьме германскаму паслу пры так званай «Украінскай Народнай рэспубліцы» Скарападскага прасілі германскі ўрад аказаць дапамогу ў падаўленні рэвалюцыйнага руху народных мас Беларусі. «Беларусы, — пісалі гэтыя здраднікі, — перажылі рэвалюцыю, настрой увайшоў углыб і народ лёгка паддаецца (бальшэвіцкай) агітацыі»[1].

Германскія імперыялісты пры дапамозе беларускіх нацыяналістаў разлічвалі назаўсёды ўстанавіць сваю крывавую дыктатуру над беларускім народам, ператварыць Беларусь у сваю калонію.

Але нямецкія захопнікі жорстка пралічыліся. Ні тэрор, ні дзікія расправы не аслабілі волю беларускага народа ў барацьбе за Совецкую Радзіму. Па закліку партыі большэвікоў рабочыя і працоўныя Беларусі ўзняліся на барацьбу супроць нямецкіх захопнікаў. Дзесяткі тысяч беларусаў гераічна змагаліся ў радах Чырвонай Арміі. На часова акупіраванай немцамі тэрыторыі Беларусі разгарнуўся партызанскі рух.

Большэвікі Беларусі ўзначалілі барацьбу беларускага народа супроць нямецкіх акупантаў. На акупіраванай немцамі тэрыторыі Беларусі была створана сетка падпольных большэвіцкіх арганізацый, якія ўзнімалі рабочых і сялян на барацьбу супроць акупантаў, стваралі партызанскія атрады, кіравалі імі.

28 лютага 1918 г. у Мінску быў створан падпольны камітэт большэвікоў. Падпольныя камітэты былі створаны ў Гомелі, Бабруйску, Слуцку і іншых гарадах. У многіх мястэчках і вёсках існавалі падпольныя большэвіцкія ячэйкі.

У тэлеграме Соўнаркому і ЦК партыі большэвікоў ад 6 сакавіка 1918 г. камісар Надзвычайнага штаба паведамляў:

«Ефрасіньінская, Замшанская, Дзервішэнская, Клясціцкая,

---

[1] Партархіў ЦК КП(б)Б, ф. 60, спр. 192.

Ізынкаўская воласці Полацкага павета ўступілі ў адчайную партызанскую барацьбу з немцамі» [1].

У дакладзе агітатара-большэвіка ад 25 сакавіка 1918 г. указваецца, што, не гледзячы на тэрор нямецкіх улад, у акупіраваных валасцях Беларусі арганізуюцца новыя і новыя партызанскія атрады, якія спускаюць пад адкосы нямецкія эшалоны, адбіваюць і раздаюць сялянам прадукты, прызначаныя для адпраўкі ў Германію.

Партызанскі рух у Беларусі супроць нямецкіх захопнікаў значна разгарнуўся пасля адбыўшыхся партыйных канферэнцый: 4-й Паўночна-Заходняй абласной канферэнцыі РКП(б) (1 — 4 чэрвеня 1918 г.), 1-й падпольнай партыйнай канферэнцыі большэвікоў Беларусі і Літвы (чэрвень 1918 г.) і Мінскай раённай падпольнай канферэнцыі РКП(б) (ліпень 1918 г.).

1-я чэрвеньская падпольная канферэнцыя большэвікоў Беларусі і Літвы паставіла перад партыйнымі арганізацыямі асноўную задачу: узбраенне ўсяго працоўнага народа, уцягненне яго ў барацьбу супроць нямецкіх акупантаў і ўсямернае разгортванне большэвіцкай прапаганды і агітацыі па разлажэнню варожай арміі. Для кіраўніцтва партызанскай барацьбой беларускага народа партыйная канферэнцыя прыняла рашэнне аб арганізацыі падпольнага краявога камітэта партыі большэвікоў Беларусі і Літвы.

8—10 жніўня 1918 г. адбылася 1-я падпольная краявая партыйная канферэнцыя большэвікоў Беларусі і Літвы. Да часу канферэнцыі партызанскім рухам былі ахоплены цэлыя воласці, паветы. Канферэнцыя ўказвала на неабходнасць яшчэ большага разгортвання барацьбы беларускага народа супроць нямецкіх акупантаў.

Выконваючы ленінска-сталінскія ўказанні і рашэнні партыйных канферэнцый, большэвікі Беларусі ўсё шырэй разгортвалі партызанскі рух супроць нямецкіх захопнікаў. Так,

---

[1] Партархіў ЦК КП(б)Б, ф. 66, спр. 32.

Горацкае інфармацыйнае бюро паведамляла Галоўнакамандуючаму Заходнім фронтам:

«Па ўсіх паветах арганізаваны партызанскія атрады для барацьбы з германскімі бандамі...» [1].

2—4 верасня 1918 г. у Смаленску адбылася 5-я Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б). Адзначыўшы велізарную работу, праведзеную партыйнымі органамі па разгортванню партызанскай барацьбы супроць нямецкіх акупантаў і аказанню дапамогі насельніцтву на часова акупіраванай немцамі тэрыторыі Беларусі, канферэнцыя паставіла асноўную задачу — мабілізаваць усе сілы беларускага народа на выгнанне нямецкіх захопнікаў з савецкай зямлі, на барацьбу з унутранай контррэвалюцыяй і інтэрвенцыяй імперыялістаў Антанты.

Перадышку, якая надышла пасля Брэсцкага міру, бальшэвіцкая партыя і Савецкі ўрад скарысталі для ўмацавання савецкай улады ў Расіі. Партыя павяла энергічную барацьбу за новую працоўную і дзяржаўную дысцыпліну, за строгі ўлік і кантроль і паспяхова вырашыла важнейшыя пытанні арганізацыі новай савецкай прамысловасці. Велізарная работа была праведзена ў вёсцы. Была аказана вялікая дапамога вясковай беднаце ў барацьбе яе з кулацтвам, якое імкнулася захапіць адабраныя ў памешчыкаў землі. Тады кулацтва спыніла продаж збожжа дзяржаве, спадзеючыся шляхам голаду прымусіць Савецкую дзяржаву адмовіцца ад правядзення сацыялістычных мерапрыемстваў. Для барацьбы з кулацтвам, якое мела лішкі збожжа, партыя арганізавала паход рабочых у вёску. Дэкрэтамі Савецкага ўрада была ўстаноўлена ў краіне харчовая дыктатура. У вёсцы былі створаны **камітэты беднаты** (камбеды).

Камбеды Заходняй вобласці, у састаў якой тады ўваходзіла неакупіраваная частка Беларусі, як і іншых абласцей Расіі, вялі бязлітасную барацьбу з кулацтвам, размяркоўвалі зямлю і інвентар у карысць вясковай беднаты і сераднякоў,

[1] Партархіў ЦК КП(б)Б, ф. 35, спр. 48.

забяспечвалі правядзенне хлебнай манаполіі. Камбеды Заходняй вобласці адыгралі вялікую ролю ў справе арганізацыі Чырвонай Арміі. Яны мабілізавалі беднату, стваралі атрады, арганізоўвалі навучанне іх ваеннай справе.

«Паход пралетарыяў у вёску і арганізацыя Камітэтаў беднаты ўмацавалі Совецкую ўладу ў вёсцы і мелі велізарнае палітычнае значэнне для заваявання селяніна-серадняка на старану Совецкай улады» [1].

Уся гэтая велізарная работа большэвіцкай партыі дала магчымасць арганізаваць сілы Чырвонай Арміі, умацаваць іх магутнасць і дабіцца сур'ёзных поспехаў у барацьбе супроць унутраных і знешніх ворагаў совецкай улады.

Ленін і Сталін арганізавалі разгром нямецкіх імперыялістаў у 1918 г. Ленін і Сталін аказалі велізарную дапамогу Паўночна-Заходняму абласному камітэту РКП(б) у стварэнні рэволюцыйных сіл для барацьбы супроць германскіх імперыялістаў. Таварыш Сталін правёў велізарную арганізацыйную работу па вызваленню Беларусі ад нямецкіх захопнікаў у 1918 г.

«Сталін вёў велізарную работу па вызваленню заходніх абласцей і стварэнню Беларускай Рэспублікі» [2].

Адзіны баявы лагер народных мас краіны Советаў, якія ўзняліся пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі і вадзіцельствам Леніна і Сталіна на Айчынную вайну супроць нямецкіх захопнікаў, сарваў усе заваявальныя планы нямецкага імперыялізма.

Гераічная Чырвоная Армія пры дапамозе партызан разграміла восенню 1918 г. нямецкія акупацыйныя войскі на Украіне і ў Беларусі. Астаткі разгромленых нямецкіх войск у паніцы ўцяклі ў Германію. Разам з імі ўцяклі і главары агіднай шайкі беларускіх нацыяналістаў.

10 снежня 1918 г. Чырвоная Армія вызваліла ад нямецкіх захопнікаў горад Мінск. Беларускі народ з захапленнем сустрэў сваю вызваліцельніцу — Чырвоную Армію.

---

[1] «Гісторыя ВКП(б). Кароткі курс», стар. 211.

[2] «Іосіф Вісарыёнавіч Сталін. Кароткая біяграфія», стар. 74.

На ўсёй тэрыторыі Беларусі была адноўлена совецкая ўлада. Паўсямесна ў Беларусі на сходах і мітынгах рабочыя, салдаты, сяляне выказвалі вялікую ўдзячнасць большэвіцкай партыі, Леніну і Сталіну, вялікаму рускаму народу за вызваленне ад нямецкіх захопнікаў. Так сяляне Аршанскага павета на мітынгу прынялі наступную рэзалюцыю:

«Мы, сяляне вёскі Ламачына і вёскі Пагост, Аршанскага павета, Бараньскай воласці, вызваліўшыся з-пад германскага ярма, сабраўшыся на агульны сход і заслухаўшы даклад, выносім сардэчную ўдзячнасць правадырам Усерасійскай Федэратыўнай Социялістычнай Рэспублікі за іх працу і вызваленне з-пад германскага ярма...

Няхай жыве ўся Расійская Рабоча-Сялянская Совецкая Рэспубліка!

Няхай жыве таварыш Ленін!» [1].

Працоўныя мястэчка Коханава на мітынгу пастанавілі: «Падтрымліваць Совецкую ўладу да апошняй кроплі крыві, вітаць Совецкую ўладу... Мы, грамадзяне, толькі што вызваліўшыяся ад немцаў, шлем сваё гарачае прывітанне і самыя лепшыя пажаданні Совету Народных Камісараў. Мы, вызваліўшыяся ад нямецкага гнёту, прылічваем сябе да адзінай і непадзельнай сям'і Совецкай Расіі» [2].

Таварыш Сталін у артыкуле «З усхода святло» ўказвае, што пасля разгрому германскага імперыялізма і выгнання з ускраін акупіраваных войск «працэс вызваленчай барацьбы аднавіўся з новай сілай, у новых, больш яркіх формах» [3].

«Справа, відавочна, хіліцца да таго, — гаворыць таварыш Сталін, — што заходнія вобласці, іх працоўныя масы, прадстаўляўшчыя да гэтага часу аб'ект жульніцкіх махінацый імпе-

---

[1] «Айчынная вайна супроць германскіх акупантаў у 1918 годзе». Дакументы. Дзяржпалітвыдат, 1941 г., стар. 44—45.

[2] «Крах нямецкай акупацыі ў Беларусі ў 1918 г.». Зборнік дакументаў Партархіва ЦК КП(б)Б. Дзяржвыдат БССР, Мінск, 1947 г., стар. 93.

[3] І. В. Сталін. Творы, том 4, стар. 178.

рыялістаў, — не сёння, дык заўтра вырвуцца на свабоду, стаўшы, нарэшце, на свае ўласныя ногі...» [1].

Вызвалены намаганнямі рабочых і сялян Савецкай Расіі беларускі народ станавіўся трывала «на свае ўласныя ногі» і пад сцягам Комуністычнай партыі і савецкай улады пайшоў па шляху стварэння сваёй дзяржаўнасці.



[1] І. В. Сталін. Творы, том 4, стар. 180.

## 3. В. І. ЛЕНІН і І. В. СТАЛІН — СТВАРАЛЬНІКІ БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

Пасля выгнання нямецкіх захопнікаў з Беларусі большэвіцкая партыя, Ленін і Сталін, ідучы насустрач жаданням беларускага народа, зноў паставілі пытанне аб стварэнні Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

Важнейшай прадпасылкай дзяржаўнага будаўніцтва Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі з'явілася ўтварэнне Расійскай Соцыялістычнай Федэратыўнай Совецкай Рэспублікі. Федэратыўны лад Расійскай Совецкай Рэспублікі быў абвешчан 3-м Усерасійскім з'ездам Советаў у студзені 1918 г. 3-і з'езд Советаў РСФСР прыняў рэзалюцыю, ухваляючую нацыянальную палітыку Совецкага ўрада, і выказаў глыбокае перакананне ў тым, што далейшыя мерапрыемствы совецкай улады ў абсягу нацыянальнай палітыкі будуць садзейнічаць «ператварэнню былой Расійскай імперыі, якая ўтрымлівала ў сваіх межах асобныя народнасці прыгнечаннем і насіллем, у брацкі саюз свабодна з'еднаўшыхся на федэратыўных пачатках Совецкіх рэспублік Расіі» [1].

Абвясціўшы федэратыўны лад Расійскай Совецкай Рэспублікі, 3-і з'езд Советаў у сваіх пастановах прадаставіў права

---

[1] «З'езды Советаў РСФСР у пастановах і рэзалюцыях». Зборнік дакументаў, М., 1939 г., стар. 45.

рабочым і сялянам кожнай нацыі ў пытаннях дзяржаўнага ўстройства прымаць самастойнае рашэнне.

У перыяд паміж 3-м і 5-м з'ездамі Саветаў РСФСР пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна была выпрацавана першая Канстытуцыя РСФСР. Гэтая першая Канстытуцыя Савецкай дзяржавы — РСФСР была прынята на 5-м з'ездзе Саветаў (у ліпені 1918 г.).

Першая Савецкая Канстытуцыя замацавала ўсе палітычныя і сацыяльныя заваёвы Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. В. І. Ленін на 5-м з'ездзе Саветаў РСФСР указваў, што Савецкая Канстытуцыя ў адрозненне ад канстытуцый буржуазных дзяржаў не з'яўляецца дэкларацыяй, што яна адлюстроўвае тое, што заваявана. «Калі цяпер,—гаварыў В. І. Ленін, — гэтаму з'езду намі можа быць прапанавана Савецкая Канстытуцыя, то толькі таму, што Саветы ва ўсіх канцах краіны створаны і выпрабаваны, таму, што вы яе стварылі, вы ва ўсіх канцах краіны выпрабавалі, толькі праз поўгода пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, амаль праз год пасля Усерасійскага З'езда Саветаў, мы маглі запісаць тое, што ўжо існуе на практыцы» [1]. Прыняцце першай Савецкай Канстытуцыі адыграла важную ролю ў згуртаванні народаў Расіі вакол РСФСР.

Па прыкладу Канстытуцыі РСФСР выпрацоўваліся канстытуцыі ў нацыянальных рэспубліках, у тым ліку і ў Беларусі.

У снежні 1918 г., выступаючы на канферэнцыі беларусаў-камуністаў у Маскоўскім кінотэатры «Арс», таварыш Сталін указаў, што, ідучы насустрач жаданням беларускага народа, ЦК РКП(б) прыме рашэнне аб утварэнні БССР. Канферэнцыя камуністаў выказалася за ўтварэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, адначасова падкрэсліўшы, што Савецкая Беларусь павінна знаходзіцца ў федэратыўнай сувязі з РСФСР.

Па прапанове В. І. Леніна і І. В. Сталіна ў снежні 1918 г. была прынята пастанова Цэнтральнага Камітэта Расійскай

---

[1] В. І. Ленін. Творы, том XXIII, выд. 3-е, стар. 121.

Комуністычнай партыі большэвікоў аб стварэнні Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі. Рашэнне ЦК РКП(б) аб утварэнні БССР — яркі ўзор паслядоўнага правядзення ў жыццё ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, вялікіх клопатаў партыі большэвікоў аб беларускім народзе.

Толькі Ленін і Сталін, большэвіцкая партыя, совецкая ўлада прызналі беларускую нацыю, стварылі ўмовы для ўтварэння Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі і забяспечылі няўхільны гаспадарчы рост і культурны ўздым БССР.

Ленін і Сталін правялі велізарную палітычную і арганізацыйную работу па стварэнню БССР. Ленін і Сталін накіроўвалі дзейнасць Паўночна-Заходняга абласнога камітэта большэвікоў на ажыццяўленне пытанняў дзяржаўнага будаўніцтва Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі.

25 снежня 1918 г. таварыш Сталін у разгаворы па прамому проваду давёў да ведама т. Мяснікова аб тым, што ЦК РКП(б) прыняў рашэнне аб утварэнні БССР. Таварыш Сталін паведаміў, што хацеў-бы прысутнічаць на чарговай абласной партыйнай канферэнцыі, але гэтага зрабіць пры ўсім сваім жаданні не можа з прычыны вялікай занятасці. Таварыш Сталін прапанаваў т. Мяснікову перанесці тэрмін склікання 6-й Абласной партыйнай канферэнцыі з 27 на 30 снежня 1918 г., а адказным работнікам Абласнога камітэта РКП(б) выехаць у Маскву для сумеснага абмеркавання пытанняў, звязаных з выкананнем рашэння ЦК партыі аб утварэнні БССР.

У гэты-ж дзень у таварыша Сталіна адбылася нарада работнікаў Беларускага Нацыянальнага Камісарыята, Цэнтральнага Бюро Беларускіх комуністычных секцый і камітэта Маскоўскай беларускай секцыі РКП(б). На гэтай нарадзе вырашаліся пытанні, звязаныя з дзяржаўным устройствам Беларусі і канструіраваннем Часовага рэволюцыйнага ўрада рэспублікі.

27 снежня ў Маскву па выкліку таварыша Сталіна прыехалі т. Мяснікоў і іншыя адказныя работнікі Паўночна-Заходняга Абласнога камітэта партыі. У таварыша Сталіна зноў адбылася нарада, якая дэталёва і ўсебакова абмеркавала пытанні, звязаныя з дзяржаўным устройствам Беларусі. Нарада

ўхваліла і прыняла 6 умоў аб арганізацыі БССР, выстаўленых таварышам Сталіным:

«1. Урад Беларускай рэспублікі складаецца з старшыні і 15 членаў урада.

2. Для чарговых спраў існуе прэзідыум з трох асоб: Старшыні ўрада і двух членаў з яго састава.

3. У састаў рэспублікі ўваходзяць губерні Гродненская, Мінская, Магілеўская, Віцебская і Смаленская, апошняя спрэчна, па ўгледжанню мясцовых таварышоў.

4. Абласны камітэт партыі Паўночна-Заходняй вобласці ператвараецца ў Цэнтральнае Бюро КП (большэвікоў) Беларускай рэспублікі.

5. Старшыня ЦБ партыі павінен быць прадстаўніком ЦК партыі і ўрада.

6. Правы ЦБ партыі і аддзелаў урада застаюцца такімі-ж, як былога Абласнога камітэта і аддзелаў Аблвыкамзаха» [1].

Гэтыя гістарычныя ўмовы таварыша Сталіна ляглі ў аснову арганізацыі Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі і Комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі.

У адпаведнасці з гэтымі ўмовамі таварыш Сталін даручыў прадстаўнікам Беларусі падрыхтаваць тэкст Маніфеста аб утварэнні Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Таварыш Сталін асабіста адрэдагаваў прадстаўлены тэкст Маніфеста аб абвяшчэнні БССР і ўнёс у яго рад прынцыповых папраўак. Так, у абзацы, які пачынаецца словамі «Працоўныя, сяляне і рабочыя ўсіх нацыянальнасцей...», таварыш Сталін зрабіў перастаноўку першых трох слоў «рабочыя, сяляне і працоўныя». Гэтая папраўка кардынальна мяняла ўстаноўку Маніфеста, вызначала кіруючую ролю рабочага класа.

Пасля абмеркавання ў таварыша Сталіна ўсіх пытанняў, звязаных са стварэннем БССР, т. Мяснікоў і іншыя работнікі Паўночна-Заходняга абласнога камітэта большэвікоў вярнуліся ў Беларусь для практычнага правядзення ў жыццё ра-

[1] Партархіў ЦК КП(б)Б, ф. 60, оп. 1, л. 14, спр. 337, л. 48.

шэння ЦК РКП(б) і ўказання таварыша Сталіна аб стварэнні БССР.

Партыйныя арганізацыі Беларусі правялі вялікую арганізацыйную работу па скліканню абласной партыйнай канферэнцыі, на якой павінна было быць вырашана пытанне аб стварэнні БССР.

30 снежня 1918 г. у Смаленску адкрылася 6-я Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б). На канферэнцыю прыбылі 162 дэлегаты з правам рашаючага голасу і 25 дэлегатаў з правам дарадчага голасу, якія прадстаўлялі 17771 члена і кандыдата бальшэвіцкай партыі (ад Мінскай, Магілеўскай, Віцебскай, Смаленскай і часткі Віленскай і Чарнігаўскай губерань).

З велізарным натхненнем дэлегаты канферэнцыі прынялі прывітанні В. І. Леніну і І. В. Сталіну. У тэлеграме В. І. Леніну дэлегаты канферэнцыі пісалі: «Шлем Вам, дарагі таварыш Ленін, сваё гарачае прывітанне, як натхнёнаму правадыру пролетарыята ўсіх краін і ўсіх нацый». У тэлеграме таварышу Сталіну было сказана: «Вітаем Вас, як сапраўднага паборніка неабходнасці вырашэння нацыянальнага пытання з класавага пункту гледжання і як адданага рэвалюцыянера і барацьбіта за інтарэсы пролетарыята і бяднейшага сялянства ўсіх краін і ўсіх нацыянальнасцей. Маем надзею, што пры Вашым аўтарытэтным падтрыманні рабоча-сялянская Беларусь займе патрэбнае месца ў Савецкай Социялістычнай Федэрацыі».

6-я Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б) абмеркавала пытанні: аб бягучым моманце, даклад абласнога камітэта РКП(б), даклады аб становішчы на месцах, арганізацыйныя пытанні.

Па абмеркаваных пытаннях былі прыняты рашэнні: па бягучаму моманту, аб Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы, аб перайменаванні канферэнцыі, аб граніцах Беларусі, аб становішчы на месцах, палажэнне аб партыйных арганізацыях.

Праводзячы ў жыццё рашэнне ЦК РКП(б) і ўказанні таварыша Сталіна аб арганізацыі БССР і выказваючы волю шырокіх працоўных мас Беларусі, 6-я канферэнцыя большэвікоў Беларусі на першым паседжанні прыняла пастанову аб абвяшчэнні Беларускай Савецкай Социялістычнай Рэспублікі. У пастанове канферэнцыя ўказвала:

«...Каб адстаяць свабоду працоўных слаёў, узнімаючыхся народаў; каб процістаяць націску наёмных банд і цёмных полчышчаў імперыялізма, якія цесным кальцом акружаюць нас, каб яшчэ больш умацаваць заваёвы расійскага пролетарыята і садзейнічаць адбіццю ім наступлення драпежнага ворага, які паставіў сабе задачай знішчэнне заваёў пролетарыята і свабодных правоў нацый з мэтаю ўстанаўлення фактычна буржуазнага самавызначэння народаў, тым самым, беспрасветнага разгулу капітала, — 6-я Абласная Канферэнцыя большэвікоў лічыць неабходным абвясціць самастойную Соцыялістычную Рэспубліку...» [1].

Зыходзячы з рашэння аб абвяшчэнні БССР і ўлічваючы, што на канферэнцыі былі прадстаўлены ўсе партыйныя арганізацыі Беларусі, у канцы першага паседжання канферэнцыі т. Мяснікоў унёс прапанову аб перайменаванні 6-й Паўночна-Заходняй абласной партыйнай канферэнцыі ў Першы з'езд КП(б)Б. Прапанова т. Мяснікова была прынята.

«Прымаючы пад увагу, — указвала ў сваім рашэнні Канферэнцыя, — што на чарговай 6-й Паўночна-Заходняй абласной Канферэнцыі РКП (большэвікоў) прадстаўлены поўнасцю ўсе комуністычныя арганізацыі, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, Канферэнцыя абвяшчае сябе Першым З'ездам Комуністычнай Партыі (большэвікоў) Беларускай Рэспублікі» [1].

Прымаючы гэтае рашэнне, першы з'езд КП(б)Б гэтым самым аформіў арганізацыю комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі.

КП(б)Б склалася і аформілася як састаўная частка Расійскай Комуністычнай партыі большэвікоў. КП(б)Б скла-

---

[1] «Звезда» № 343 ад 31 снежня 1918 г.

[2] Там-жа.

лася пад кіраўніцтвам В. І. Леніна і І. В. Сталіна на ідэалагічных, арганізацыйных, тактычных і тэарэтычных асновах большэвіцкай партыі. У сваім прывітанні ЦК РКП(б) першы з'езд КП(б)Б пісаў:

«6-я Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б), якая прадстаўляе поўнасцю ўсе знаходзячыяся на тэрыторыі Беларусі комуністычныя арганізацыі, **прыняўшы пастанову аб неабходнасці выдзялення Беларусі ў самастойную рабоча-сялянскую совецкую рэспубліку, абвясціла сябе Першым з'ездам Компартыі большэвікоў Беларускай рэспублікі,** на што просіць Вашай санкцыі. Абвяшчаючы комуністычную партыю Беларускай рэспублікі, з'езд пацвярджае сваю непарыўную ідэйную, тактычную і арганізацыйную сувязь з РКП, якая стварылася доўгімі гадамі сумеснай работы. З'езд пацвярджае, што комуністы Беларусі і надалей цалкам будуць кіравацца дырэктывамі ЦЭКА РКП, лічачы яго сваім вышэйшым партыйным органам» [1].

Утварэнне КП(б)Б як састаўной часткі ВКП(б) з'явілася важнейшай падзеяй у гісторыі большэвіцкіх арганізацый Беларусі і беларускага народа.

Пад кіраўніцтвам ленінска-сталінскага Цэнтральнага Камітэта КП(б) Беларусі вырасла і ўзмацнела ў барацьбе за генеральную лінію большэвіцкай партыі.

Першы з'езд КП(б) Беларусі, разглядаючы арганізацыйную пабудову КП(б)Б, прыняў рашэнне аб структуры партыйных арганізацый, якое цалкам выцякае з статута большэвіцкай партыі. Чырвонай ніццю праз усё «Палажэнне аб партыйных арганізацыях» праходзіць думка аб тым, што КП(б)Б з'яўляецца непарыўнай састаўной часткай РКП(б), правадніком яе ідэй і палітыкі.

У «Палажэнні аб партыйных арганізацыях» першы з'езд КП(б)Б устанавіў наступную структуру партыйных органаў: Цэнтральнае Бюро, райкомы (губпарткомы, падрайкомы, павятовыя камітэты), валкомячэйкі і ячэйкі КП(б)Б. «Палажэнне

[1] ЦАОР, фонд 1235, оп. 92, 1918 г., спр. 315, л. 240.

аб партыйных арганізацыях» вызначала задачы партыйных органаў у галіне кіраўніцтва Саветамі, гаспадарчымі органамі, у галіне прапаганды і агітацыі, умацавання сувязі з масамі.

Дэмакратычны цэнтралізм, як кіруючы прынцып арганізацыйнай пабудовы комуністычнай партыі, складае аснову «Палажэння аб партыйных арганізацыях».

У пастанове «Аб становішчы на месцах» першы з'езд даручыў Цэнтральнаму Бюро КП(б) Беларусі прыняць усе неабходныя меры для забеспячэння адзінства, згуртаванасці і маналітнасці партыйных радоў. З'езд прыняў рашэнне аб арганізацыі пры Цэнтральным Бюро «Вышэйшай партыйнай інспекцыі» для назірання і кантролю над дзейнасцю партыйных арганізацый.

Першы з'езд КП(б) Беларусі звярнуўся да рабочых, батракоў, сялян і чырвонаармейцаў Беларусі з палымянай адозвай:

«...Надышоў час, — гаварылася ў адозве, — калі панаванню паразітаў прышоў канец, калі наша вызваліцельніца Чырвоная Соцыялістычная Армія пранесла чырвоны сцяг соцыялізма з краю ў край змучанай Беларусі.

Працоўныя масы Беларусі не жадаюць ведаць ніякай улады, апрача ўлады Советаў, якая з'яўляецца ўладай рабочых, батракоў і сялян. Ім ненавісна ўлада памешчыцкай беларускай рады і яе «Народная рэспубліка», якой працоўны народ процістаўляе сваю рабоча-сялянскую ўладу, сваю Совецкую Рэспубліку».

У адозве з выключнай сілай падкрэслівалася кіруючая роля комуністычнай партыі большэвікоў у барацьбе за таржаство соцыялізма.

«Пад сцягам комуністычнай партыі, — гаварылася ў адозве, — мы, рабочыя і сяляне, вялі барацьбу за сваё вызваленне ад усякага ўціску і эксплаатацыі. Пад сцягам комуністычнай партыі (большэвікоў) нараджаецца цяпер Маладая Рэспубліка і пад сцягам гэтай-жа партыі мы пастроімся ў жалезныя рады, каб змагацца... за таржаство рабоча-сялянскай справы» [1].

---

[1] Партархіў ЦК КП(б)Б, ф. 4, спр. 101.

Першы з'езд КП(б) Беларусі прызнаў неабходным падзяліць тэрыторыю Беларускай рэспублікі ў адміністрацыйна-гаспадарчых адносінах на раёны з назвамі, паходзячымі ад іх эканамічных цэнтраў, а іменна: Мінскі, Віцебскі, Магілеўскі, Смаленскі, Гомельскі, Гродненскі і Баранавіцкі.

Прыняўшы гістарычныя рашэнні аб арганізацыі БССР і КП(б)Б, першы з'езд большэвікоў Беларусі паслаў прывітальную тэлеграму Совету Народных Камісараў РСФСР:

«З'езд комуністаў Беларускай рэспублікі, — гаворыцца ў тэлеграме,—вітае Совет Народных Камісараў Расійскай Социялістычнай Федэратыўнай Совецкай Рэспублікі, з якой Беларусь звязана годам дыктатуры пролетарыята і адзінствам класавых інтарэсаў пролетарыята» [1].

Першы з'езд комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі ў тэлеграме прасіў Совет Народных Камісараў РСФСР пацвердзіць яго рашэнне аб абвяшчэнні Беларусі і абвясціць аб гэтым працоўным усяго свету.

Такім чынам, першы з'езд КП(б)Б заклаў асновы арганізацыі і развіцця БССР у брацкім садружастве з народамі вялікай краіны Советаў. Першы з'езд КП(б)Б адыграў велізарную ролю ў гісторыі беларускага народа. З'езд заклаў фундамент для будаўніцтва беларускай дзяржаўнасці, якой беларускі народ не меў на працягу ўсёй сваёй гісторыі.

31 снежня пад гукі партыйнага гімна «Інтэрнацыянал» першы з'езд КП(б)Б — з'езд абвяшчэння Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі, з'езд афармлення комуністычнай партыі (большэвікоў) Беларусі — закончыў сваю работу.

Цэнтральнае Бюро КП(б)Б, выбранае з'ездам, неадкладна прыступіла да правядзення ў жыццё рашэнняў першага з'езда КП(б)Б аб арганізацыі БССР.

З вялікім энтузіязмам сустрэлі шырокія масы працоўных Беларусі гістарычныя рашэнні першага з'езда КП(б)Б.

Стварэнне Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі і КП(б) Беларусі працякала ў абстаноўцы жорсткай ба-

---

[1] Партархіў ЦК КП(б)Б, ф. 4, спр. 101.

рацьбы партыі большэвікоў супроць беларускіх нацыяналістаў. Главары беларускіх нацыяналістаў з Белнацкома ў асобе Жылуновіча, Лагуна і інш., якія пралезлі ашуканствам у партыю, усяляк імкнуліся сарваць утварэнне Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі і комуністычнай партыі (большэвікоў) Беларусі. Нацыяналісты перш за ўсё выступілі супроць арганізацыйных прынцыпаў пабудовы КП(б)Б, як састаўной часткі РКП(б). Яны спрабавалі адарваць КП(б)Б ад РКП(б) і ператварыць яе ў нацыяналістычную буржуазную партыю. Пад рознымі повадамі нацыяналісты спрабавалі сарваць апублікаванне Маніфеста аб абвяшчэнні БССР. Усе гэтыя дзеянні нацыяналістаў былі накіраваны на тое, каб адарваць беларускі народ ад вялікага рускага народа, аднавіць уладу памешчыкаў і буржуазіі і тым самым ператварыць Беларусь у калонію імперыялізма.

Першы з'езд КП(б)Б і выбранае ім Цэнтральнае Бюро пад кіраўніцтвам ЦК РКП(б) і таварыша Сталіна далі рашучы адпор нацыяналістычнай групе Жылуновіча, Лагуна і іншых.

У дні работы першага з'езда КП(б)Б таварыш Сталін падтрымліваў тэлеграфную сувязь са старшынёй ЦБ КП(б)Б т. Мясніковым, даваў указанні па ўсіх пытаннях, звязаных з работай па арганізацыі БССР і КП(б)Б.

31 снежня т. Мяснікоў паведаміў таварышу Сталіну, што група з Беларускага нацыянальнага камітэта на чале з Жылуновічам не згаджаецца з кандыдатурамі Часовага рэволюцыйнага ўрада Беларусі, настайвае на ўключэнні ў састаў урада нацыяналістычных элементаў, не падначальваецца Цэнтральнаму Бюро.

Таварыш Сталін адказаў т. Мяснікову, што «прапанову Жылуновіча... лічу дэзарганізатарскай і ў корані супярэчачай рашэнням партыі. Ніякіх асобых рашэнняў групы Жылуновіча не можа быць»[1], што затрымка апублікавання Маніфеста аб абвяшчэнні БССР з'яўляецца злачынствам.

1 студзеня таварыш Сталін катэгарычна запатрабаваў тэрміновага апублікавання Маніфеста аб арганізацыі БССР.

[1] Партархіў ЦК КП(б)Б, ф. 60, оп. 1, св. 14, спр. 337, л. 12.

Таварыш Сталін абяцаў прыбыць у пачатку студзеня 1919 г. у горад Мінск, каб дапамагчы бальшэвікам Беларусі будаваць маладую Беларускую Совецкую Соцыялістычную Рэспубліку. Але пагражаючае становішча, якое стварылася на Усходнім фронце ў сувязі з наступленнем Калчака на Перм і Вятку, не дало магчымасці прыехаць таварышу Сталіну ў Мінск. Рашэннем ЦК партыі і Совета Абароны таварыш Сталін быў накіраван на Усходні фронт для арганізацыі адпору Калчаку.

У запісцы № 125 ад 2 студзеня 1919 г. Цэнтральнаму Бюро КП(б)Б і ўраду Беларусі таварыш Сталін паведамляў:

«З прычыны катастрафічнага становішча фронта ў раёне Пермі мне прапанавана ЦК партыі і Советам Абароны тэрмінова выехаць туды для расследавання і прыняцця мер на месцы таксама тэрміновым парадкам. Маючы на ўвазе, што становішча ў вас ўсё-такі палепшылася, я адкладаю сваю паездку ў Мінск дзён на 10. Калі я вярнуся з паездкі праз 10 дзён, то буду ў вас... Беларускі ўрад атрымлівае дырэктывы непасрэдна ад ЦК партыі праз Мяснікова, як прадстаўніка апошняга. Па даручэнню ЦК жадаю поспеху. Паводле паведамлення Гомель узят намі, Харкаў бярэм. Да пабачэння. І. Сталін» [1].

Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна Цэнтральнае Бюро КП(б)Б выкрыла агідныя спробы буржуазна-нацыяналістычнай групы Жылуновіча і К° сарваць справу арганізацыі БССР. 1 студзеня 1919 г. ЦБ КП(б)Б дало адпор усім ультыматыўным патрабаванням нацыяналістаў, прызнала дзеянні групы Жылуновіча і К° дэзарганізатарскімі, накіраванымі на зрыў рашэнняў ЦК партыі, першага з'езда КП(б)Б і ўказанняў таварыша Сталіна.

Апынуўшыся ў становішчы поўнай ізаляцыі, нацыяналісты вымушаны былі ўступіць ва ўсім і замаскіраваць сваю антысовецкую сутнасць паказным падначаленнем дырэктывам ЦК, не спыняючы ў той-жа час сваёй варожай дзейнасці супроць партыі і Совецкай дзяржавы.

[1] Партархіў ЦК КП(б)Б, ф. 60, оп. 1, св. 14, спр. 337, л. 29 (друкуецца па копіі).

Ведучы рашучую барацьбу супроць беларускіх нацыяналістаў групы Жылуновіча, большэвікі Беларусі далі рашучы адпор і вялікадзяржаўным шавіністам на чале з заўзятым трацкістам Рэйнгольдам, якія спрабавалі сарваць утварэнне БССР, адмаўлялі існаванне беларускай нацыі, паклёпніцкі заяўлялі, што партыя штучна насаджае беларускую нацыю і беларускую дзяржаву.

**1 студзеня 1919 г. быў апублікаван Маніфест Часовага рэвалюцыйнага ўрада Беларусі аб абвяшчэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.**

Маніфест Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага Савецкага ўрада Беларусі, аснаваны на прынцыпах ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, з'явіўся важнейшым палітычным дакументам, у якім былі выражаны ўсе асноўныя ідэі першых гістарычных дэкрэтаў, выданых урадам брацкай РСФСР.

У Маніфесце Часовага рэвалюцыйнага ўрада Беларусі ўказвалася, што толькі Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя дала беларускаму народу свабоду, заклала фундамент савецкага ладу.

У Маніфесце гаварылася, што ад гэтага часу ўся ўлада ў Беларусі павінна належаць толькі Саветам рабочых, сялянскіх, батрацкіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў. Маніфест устанаўліваў, што рабочыя, сяляне і працоўныя ўсіх нацыянальнасцей Беларусі карыстаюцца роўнымі правамі і знаходзяцца пад аховай рэвалюцыйных законаў.

Маніфестам была абвешчана па-за законам контррэвалюцыйная «Беларуская рада», скасаваны ўсе ўстановы, указы і пастановы нямецкіх акупацыйных улад.

У Маніфесце ўказвалася, што фабрыкі і заводы, чыгункі і ўся зямля памешчыкаў і буйных землеўладальнікаў, манастыроў, цэркваў, касцёлаў і духавенства, а таксама лясы, воды і нетры зямлі робяцца здабыткам самога працоўнага народа.

Маніфест Часовага рэвалюцыйнага ўрада Беларусі заклікаў беларускі народ да абароны вялікіх заваёў Кастрычніц-

кай соцыялістычнай рэвалюцыі ў цеснай дружбе з усімі народамі Совецкай Расіі.

З велізарным энтузіязмам сустрэлі працоўныя Беларусі Маніфест аб абвяшчэнні Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Па ўсёй Беларусі адбыліся мітынгі і сходы, на якіх рабочыя і сяляне горача віталі арганізацыю БССР, як праяўленне ленінска-сталінскіх клопатаў аб беларускім народзе.

1 студзеня — дзень апублікавання Маніфеста, дзень абвяшчэння Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі— з'яўляецца святам беларускага народа.

Валасныя, павятовыя і губернскія з'езды па выбарах у мясцовыя Советы, якія былі праведзены на працягу студзеня 1919 г., з'явіліся дэманстрацыяй велізарнай палітычнай актыўнасці працоўных мас Беларусі, прыступіўшых да стварэння сваёй дзяржаўнасці.

2 лютага 1919 г. у Мінску адкрыўся 1-ы з'езд Советаў Беларусі. У рабоце з'езда прымаў удзел старшыня ВЦВК Якаў Міхайлавіч Свердлоў. Вітаючы дэлегатаў Усебеларускага з'езда Советаў ад імя ЦК партыі і Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта, т. Свердлоў запэўніў з'езд, што працоўныя Совецкай Расіі заўсёды акажуць дапамогу маладой брацкай Беларускай рэспубліцы. Звяртаючыся да дэлегатаў з'езда, таварыш Свердлоў гаварыў:

«Вам больш, чым каму-небудзь іншаму, прышлося перацярпець ад уціску чужаземнай акупацыі. Але пад пятой імперыялізма, які таржаствваў тады, вы не пакінулі сваёй работы над падрыхтоўкай совецкага ладу ў Беларусі.

Разам з намі Вы ведалі, што імперыялізм будзе зламан і зноў будзе таржаставаць... соцыялістычная рэволюцыя, узновіцца совецкая ўлада ў часова заняволеным краі... у Вас ёсць рэволюцыйны вопыт. Гэта дае нам упэўненасць, што раны, нанесеныя краю імперыялістамі, будуць залечаны. Мы дапаможам Вам сваім вопытам, набытым за мінулы год» [1].

[1] «Звезда» № 364 ад 4 лютага 1919 г.

Тав. Свердлоў закончыў сваю прамову словамі:

«Рускі пролетарыят ніколі не забудзе таго, што Вы першымі прынялі на сябе ўдары і націск германскага імперыялізма, спыніўшы яго прасоўванне ўглыб краіны» [1].

Якаў Міхайлавіч Свердлоў абвясціў на 1-м Усебеларускім з'ездзе Советаў пастанову ВЦВК «Аб прызнанні незалежнасці БССР».

У гістарычнай пастанове ВЦВК гаварылася:

«Зыходзячы з прынцыпа поўнага і сапраўднага самавызначэння працоўных мас усіх краін, Прэзідыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта прызнае незалежнасць Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

Прэзідыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта яшчэ раз пацвярджае, што факт прыналежнасці Беларусі, як і іншых краін, якія знаходзяцца ў тым-жа становішчы, да старой царскай імперыі не накладае на яе ніякіх абавязацельстваў, выказваючы пры гэтым цвёрдую ўпэўненасць, што толькі цяпер, на глебе прызнання поўнай свабоды самавызначэння і пераходу ўлады ў рукі рабочага класа, ствараецца дабравольны і непарушны саюз працоўных усіх нацый, насяляючых тэрыторыю былой Расійскай імперыі...

Прэзідыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта заяўляе аб гатоўнасці РСФСР аказаць усялякую дапамогу і падтрыманне працоўным масам Беларусі ў іх барацьбе супроць панавання эксплаатацыі і прыгнечання і ў абароне іх свабоды і незалежнасці ад спроб замежных заваяванняў» [2].

Пастанова ВЦВК «Аб прызнанні незалежнасці БССР» з'яўляецца найвялікшым праяўленнем брацтва і дружбы вялікага рускага народа да беларускага народа. У адказ на вялікія клопаты РСФСР аб дзяржаўнай незалежнасці БССР беларускі народ яшчэ цясней згуртаваўся вакол вялікага рускага народа.

---

[1] «Звезда» № 364 ад 4 лютага 1919 г.

[2] «Известия ВЦИК» № 25 ад 5 лютага 1919 г.

З'езд Советаў Беларусі прыняў першую канстытуцыю Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Асновай канстытуцыі БССР з'явілася ленінска-сталінская Канстытуцыя брацкай РСФСР, зацверджаная 5-м Усерасійскім з'ездам Советаў 10 ліпеня 1918 г.

Канстытуцыя БССР узаконіла забеспячэнне сапраўдных свабод і правоў працоўных. Упершыню ў сваёй гісторыі рабочыя і сяляне Беларусі на аснове Канстытуцыі пачалі ствараць сваю совецкую, сапраўды народную дэмакратыю.

У поўнай адпаведнасці з гістарычнай «Дэкларацыяй правоў працоўнага і эксплаатуемага народа» Канстытуцыя БССР паставіла задачу знішчэння ўсякай эксплаатацыі чалавека чалавекам, поўнага ўстаранення дзялення грамадства на класы, бязлітаснага падаўлення эксплаататараў, устанаўлення соцыялістычнай арганізацыі грамадства і перамогі соцыялізма.

Канстытуцыя БССР вызначыла, што вышэйшай уладай рэспублікі з'яўляецца з'езд Советаў, а ў прамежках паміж з'ездамі — Цэнтральны Выканаўчы Камітэт, як заканадаўчы, распарадчы і кантраліруючы орган совецкай улады.

З'езд аднадушна выказаўся за ўстанаўленне самых дружаственных адносін з народамі Совецкай Расіі і цеснага саюза Беларускай Совецкай рэспублікі з РСФСР і з іншымі совецкімі рэспублікамі, узнікшымі ў выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. Прадстаўнік Наркомнаца, які прысутнічаў на з'ездзе, тэлеграфіраваў таварышу Сталіну, што дэлегаты з'езда «жыва абмяркоўваюць пытанне аб утварэнні рэспублікі; адна тэндэнцыя—застацца з РСФСР».

Волю і заветныя спадзяванні працоўных мас Беларусі 1-ы Усебеларускі з'езд Советаў выказаў у Дэкларацыі, прынятай з'ездам 3 лютага 1919 г.

«Пачаць перагаворы, — гаворыцца ў Дэкларацыі, — з Расійскай Совецкай Рэспублікай па ўстанаўленню федэратыўнай сувязі паміж ёю і Совецкай Беларуссю і выбраць для

гэтай мэты камісію, адказную перад выдзеленым з'ездам органам улады»[1].

У Дэкларацыі 1-ы з'езд Советаў Беларусі звярнуўся да ўсіх совецкіх рэспублік з заклікам «Паследаваць прыкладу рабочых і сялян Беларусі, прыступіць да перагавораў аб устанаўленні федэратыўнай сувязі паміж Совецкай Расіяй і паміж сабой».

Таварыш Сталін надаваў вялікае значэнне Дэкларацыі з'езда Советаў Беларусі. У артыкуле «Палітыка ўрада па нацыянальнаму пытанню» таварыш Сталін указваў:

«Няма чаго і гаварыць, што контррэвалюцыйныя прагненні аднавіцеляў «старой Расіі» (вядома, са старым рэжымам), пасля паўтарагадовай рэвалюцыйнай работы працоўных мас нацыянальнасцей Расіі, асуджаны на крах. Але чым утапічней планы нашых контррэвалюцыянераў, тым больш рэальнай вырысоўваецца палітыка Совецкай улады, якая цалкам апіраецца на ўзаемнае брацкае давер'е народаў Расіі. Больш таго, яна, гэтая палітыка, пры цяперашняй міжнароднай абстаноўцы, з'яўляецца адзіна рэальнай, адзіна рэвалюцыйнай палітыкай.

Аб гэтым красамоўна сведчыць хоць-бы апошняя дэкларацыя з'езда Советаў Беларускай Рэспублікі аб устанаўленні федэратыўнай сувязі з Расійскай Совецкай Рэспублікай. Справа ў тым, што Беларуская Совецкая Рэспубліка, прызнаная нядаўна незалежнай, цяпер на з'ездзе сваіх Советаў добраахвотна абвяшчае саюз з Расійскай Рэспублікай. З'езд Советаў Беларусі ў сваёй дэкларацыі ад 3 лютага заяўляе, «што толькі свабодны дабравольны саюз працоўных усіх цяпер незалежных совецкіх рэспублік забяспечыць перамогу рабочых і сялян у іх барацьбе з усім астатнім капіталістычным светам».

«Дабравольны саюз працоўных усіх незалежных совецкіх рэспублік»... Гэта іменна той шлях аб'еднання народаў, аб якім

---

[1] «Гісторыя Совецкай Канстытуцыі ў дэкрэтах і пастановах совецкага ўрада 1917—1936 гг.», М., 1936 г., стар. 109.

увесь час гаварыла Савецкая ўлада, і які дае цяпер свае добрыя вынікі» [1].

Дэкларацыя Усебеларускага з'езда Саветаў з'явілася яшчэ адным ударам па буржуазных нацыяналістах, якія марылі адарваць беларускі народ ад вялікай брацкай сям'і народаў Расіі, увергнуць працоўныя масы ў кабалу памешчыкаў і капіталістаў.

Рашэнні 1-га Усебеларускага з'езда Саветаў з'явіліся новай перамогай ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна 1-ы з'езд Саветаў БССР юрыдычна аформіў стварэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

З першых дзён свайго існавання Савецкая Беларусь адчувала пастаянную брацкую дапамогу і клопаты вялікага рускага народа. З кожным днём ваенная, эканамічная і палітычная дапамога вялікага рускага народа ўзрастала. Вялікі рускі народ дапамог маладой Савецкай рэспубліцы абараняць заваёвы Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ў перыяд грамадзянскай вайны, дапамог беларускаму народу ў гады мірнага будаўніцтва ліквідаваць сваю векавую адсталасць, дапамог БССР выйсці ў рады перадавых рэспублік нашай краіны.

12 лютага 1919 г. ВЦВК РСФСР атрымаў тэлеграму з Мінска за подпісам Старшыні Савета Абароны БССР т. Мяснікова. У тэлеграме гаварылася, што з прычыны поўнай адсутнасці грашовых сродкаў у краі ўрад Беларусі просіць задаволіць яго просьбу аб фінансіраванні.

Рашэннем ВЦВК РСФСР хадайніцтва Беларускай Рэспублікі было поўнасцю задаволена.

Маладой Беларускай Савецкай Рэспубліцы з першых дзён яе існавання стала пагражаць небяспека новай замежнай інтэрвенцыі. Такая-ж небяспека пагражала і іншым, суседнім з Беларуссю савецкім рэспублікам — Літве, Латвіі і Эстоніі, створаным у канцы 1918 г.

Пагроза ваеннага нападу патрабавала аб'яднання нама-

[1] І. В. Сталін. Творы, том 4, стар. 228.

ганняў усіх совецкіх рэспублік. Адпаведна ўказанню ЦК РКП(б) і ЦВК РСФСР 1-ы з'езд Советаў Беларусі прыняў дэкларацыю аб аб'яднанні з Літоўскай Совецкай Рэспублікай. Аналагічную пастанову аб аб'яднанні з Беларуссю вынес 1-ы з'езд Советаў Літвы. Такім чынам у канцы лютага 1919 г. была створана Літоўска-Беларуская Соцыялістычная Рэспубліка і выбран аб'яднаны ўрад.

4—6 сакавіка 1919 г. адбыўся аб'яднаўчы з'езд КП(б) Літвы і Беларусі. Вітаючы аб'яднанне народаў Беларусі і Літвы ў адзіную Совецкую рэспубліку, з'езд прыняў рашэнне аб аб'яднанні комуністычных партый Беларусі і Літвы.

З'езд зацвердзіў «Палажэнне па арганізацыйнаму пытанню», дзе была дадзена сістэма пабудовы партыйных органаў і ячэек на аснове дэмакратычнага цэнтралізма.

Аб'яднаўчы з'езд КП(б) Літвы і Беларусі звярнуў асаблівую ўвагу партыйных ячэек на ідэйна-палітычнае выхаванне комуністаў, на разгортванне вуснай і друкаванай прапаганды і агітацыі, на ўмацаванне дысцыпліны партыйных радоў. З'езд выказаўся за правядзенне чысткі партыйных радоў КП(б) Літвы і Беларусі.

Аб'яднаўчы з'езд прывітаў арганізацыю III Інтэрнацыянала і абавязаўся ўсімі сіламі падтрымаць яго дзейнасць.

З'езд прайшоў пад знакам згуртавання сіл працоўных Беларусі і Літвы на барацьбу з пагрозай замежнай інтэрвенцыі.

Стварэнне Літоўска-Беларускай Рэспублікі ніякім чынам не азначала змяншэння ў якой-бы там ні было меры незалежнасці беларускага і літоўскага народаў. Аб'яднанне Совецкіх рэспублік Беларусі і Літвы з'явілася ажыццяўленнем ленінска-сталінскай ідэі стварэння ваенна-палітычнага саюза ўсіх незалежных Совецкіх рэспублік. Яно было першым крокам па шляху ўтварэння такога саюза паміж усімі нацыянальнымі Совецкімі рэспублікамі для барацьбы з замежнымі інтэрвентамі ў гады грамадзянскай вайны.



## 4. ЛЕНІН і СТАЛІН — АРГАНІЗАТАРЫ РАЗГРОМУ БЕЛАПОЛЬСКІХ АКУПАНТАЎ

Пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, калі большэвіцкая партыя разгарнула работу па ўмацаванню совецкай улады і дзяржаўнаму ўстройству народаў нашай краіны, імперыялісты Антанты пачалі ўзброеную інтэрвенцыю ў Расію з мэтаю звяржэння совецкай улады. Разам з інтэрвентамі выступілі ўнутры краіны скінутыя Кастрычніцкай рэвалюцыяй памешчыкі і капіталісты, разбітыя контррэвалюцыйныя партыі — кадэты, меншавікі, эсэры, анархісты, а таксама белагвардзейскія генералы, казацкае афіцэрства.

У першай палавіне 1918 г. адбылося аб'еднанне абодвух антысовецкіх сіл — імперыялістаў Антанты і ўнутранай контррэвалюцыі для сумеснай барацьбы супроць совецкай улады.

У нашай краіне скончылася передышка; пачалася замежная ваенная інтэрвенцыя, падтрыманая контррэвалюцыйнымі мецяжамі ворагаў совецкай улады ўнутры краіны, пачалася грамадзянская вайна — вайна рабочых і сялян народаў Расіі супроць знешніх і ўнутраных ворагаў совецкай улады.

Вясной 1919 г. пачаўся першы паход Антанты на Совецкую краіну. Паход гэты быў, як указвае таварыш Сталін, камбінаваны, бо меў на ўвазе сумесны напад на нашу радзіму Калчака, Дзенікіна, Польшчы, Юдзеніча і змешаных англа-рускіх атрадаў. Усходні фронт, дзе наступаў Калчак, з'яўляўся галоўным фронтам. Польшчы, Юдзенічу, Дзенікіну Антанта паста-

віла задачу адцягнуць сілы Чырвонай Арміі ад галоўнага фронта.

20 лютага белапалякі пачалі наступленне на Совецкую Беларусь. На працягу сакавіка-красавіка яны занялі гарады: Гродна, Баранавічы, Навагрудак, Ліду. 21 красавіка, пасля трохдзённага бою, быў заняты горад Вільна.

Часці Чырвонай Арміі і атрады комуністаў гераічна абаранялі совецкую зямлю.

Але асноўныя сілы Чырвонай Арміі ў гэты час былі сканцэнтраваны на Усходнім фронце супроць арміі Калчака. Таму ў раёне Літвы і Беларусі перавага ўзброеных сіл аказалася часова на баку белапалякаў, і Чырвоная Армія вымушана была тут у пачатку адступаць.

Большэвіцкая партыя, В. І. Ленін і І. В. Сталін узнялі ўсе народы совецкіх рэспублік на Айчынную вайну супроць інтэрвентаў.

Комуністычная партыя большэвікоў Літвы і Беларусі, выконваючы ўказанні Леніна і Сталіна, мабілізавала ўсе свае сілы на абарону радзімы ад інтэрвентаў. 11 красавіка 1919 г. ЦК партыі Літвы і Беларусі прыняў пастанову аб мабілізацыі на Усходні і польскі франты ўсіх членаў партыі ад 18 да 35 год.

Для кіраўніцтва абаронай Літоўска-Беларускай Рэспублікі быў створан Совет Абароны.

У маі 1919 г. ЦК партыі Літвы і Беларусі зноў правёў партыйную мабілізацыю. Мінская гарадская партыйная арганізацыя з 27 красавіка па 1 мая 1919 г. мабілізавала на фронт 50% свайго асабовага састава. 3 мая 1919 г. пайшоў на фронт амаль увесь асабовы састаў Мінскай большэвіцкай арганізацыі.

Віцебскі губком партыі за адзін дзень 14 мая 1919 г. мабілізаваў на фронт 583 члены партыі, Слуцкая арганізацыя — 130 членаў, Бабруйская і Ігуменская — 50% асабовага састава арганізацыі, Баранавіцкая, Віленская, Несвіжская і Мазырская — усіх членаў, кандыдатаў партыі і спачуваючых.

14 сакавіка 1919 г. пастановай ЦК комсамола Беларусі і Літвы для ўсіх комсамольцаў было ўведзена абавязковае ўсеагульнае ваеннае навучанне.

ЦК КП(б) Літвы і Беларусі, вызначаючы задачы і ацэньваючы ролю комсамола ў барацьбе з акупантамі, прыняў 9 мая 1919 г. пастанову, у якой гаварылася: «Комуністычная моладзь, з'яўляючыся адным з атрадаў рэволюцыйнага пролетарыята, у цяжкі для рэспублікі момант, павінна мабілізаваць усе свае сілы і абвясціць свае арганізацыі на ваенным становішчы з пераводам сваіх членаў на казарменнае становішча»[1]. Выконваючы гэтае рашэнне ЦК партыі, тысячы комсамольцаў пайшлі на фронт.

Побач з партыйнай і комсамольскай мабілізацыяй комуністычная партыя Літвы і Беларусі правяла вялікую работу па мабілізацыі і арганізацыі ўсіх працоўных на барацьбу з замежнай інтэрвенцыяй.

24 мая 1919 г. аб'яднанае надзвычайнае паседжанне Народных Камісараў Літвы і Беларусі, Мінскага Совета, праўленняў профсаюзаў і фабзаўкомаў прыняло пастанову, у якой гаварылася:

«1. Кожны рабочы ад гэтага часу з'яўляецца салдатам рэволюцыі.

2. Кожны, хто не жадае несці зброю, з'яўляецца ворагам народа.

3. Усе прыпасы харчавання, усе прыпасы адзення і абутку павінны быць аддадзены арміі.

Рабочы клас патрабуе ад усіх і кожнага напружання ўсіх сіл, поўнага спакою. Рабочы клас упэўнен, што яго намаганні прывядуць да перамогі»[2].

Мінская гарадская канферэнцыя профсаюзаў правяла мабілізацыю на фронт усіх членаў профсаюза ва ўзросце ад 20 да 30 год. З мабілізаваных быў створан асобы Мінскі рабочы полк.

---

[1] Партархіў ЦК КП(б)Б, ф. 4, спр. 65.

[2] «Звезда» № 443 ад 22 мая 1919 г.

У Гомелі былі мабілізаваны ўсе члены профсаюза ад 19 да 25 год, з якіх быў сфарміраван Гомельскі пролетарскі батальён. На заводах горада Віцебска былі створаны рэзервныя баявыя часці. У горадзе Рэчыца быў таксама арганізаван пролетарскі батальён.

Мабілізацыя комуністаў, комсамольцаў, рабочых і працоўных сялян на барацьбу з інтэрвентамі была праведзена па ўсёй Беларусі. Газета «Жизнь национальностей» у № 10 (18) за 1919 г. пісала:

«Заклік народнай газеты «Бедняк» дружна стаць на абарону кастрычніцкіх заваёў знаходзіць сабе магутны водгук: дабравольцы натоўпамі імкнуцца ў ваенныя камісарыяты, так што па сведчанню т. Мяснікова з іх можна было-б і скласці цэлую армію. Ідзе ліхаманкавая падрыхтоўка да адбіцця польскай рэакцыі». З усіх гарадоў, вёсак і мястэчак Беларусі працоўныя ўступалі ў рады Чырвонай Арміі.

У гэты час Беларусь, побач з іншымі совецкімі рэспублікамі, выступае ініцыятарам арганізацыі ваеннага саюза совецкіх рэспублік для адпору інтэрвентам.

3 мая 1919 г. у «Известиях ВЦИК» была апублікавана адозва Літоўскага і Беларускага прадстаўніцтваў: «Надышоў момант, — гаварылася ў гэтай адозве, — надзвычайнай сур'ёзнасці, ідзе рашучая барацьба рабочага класа, які заваяваў уладу, з імперыялізмам усяго свету, які ў асобе Калчака і ўсякіх легіянераў робіць наступленне на соцыялістычныя совецкія рэспублікі» [1]. Адозва заклікала да цеснага згуртавання працоўных Літвы і Беларусі з працоўнымі РСФСР.

31 мая 1919 г. у Маскву ў адрас Совета Абароны была накіравана тэлеграма за подпісам Старшыні Совета Абароны Літвы і Беларусі т. Мяснікова. «Совет Абароны Літвы і Беларусі, — гаварылася ў тэлеграме, — як вышэйшы орган улады, які атрымаў свае паўнамоцтвы ад ЦВК Советаў Літвы і Беларусі, прапануе ўстанавіць усім Совецкім рэспублікам цесны ваенны саюз з адзіным ваенным камандаваннем. Совет Аба-

[1] «Известия ВЦИК» № 93 ад 3 мая 1919 г.

роны, лічачыся з неабходнасцю тэрміновага ажыццяўлення гэтага прынцыпа ў імя больш паспяховай барацьбы з міжнародным імперыялізмам, просіць у тэрміновым парадку абмеркаваць даную прапанову на паседжанні ВЦВК і рашэнне нам паведаміць» [1].

Ленін і Сталін, партыя большэвікоў узначальвалі рух народаў нашай краіны за ваенна-палітычны саюз у час грамадзянскай вайны.

У маі 1919 г. В. І. Леніным і І. В. Сталіным быў складзен «Праект дырэктывы ЦК аб ваенным адзінстве». У гэтым гістарычным дакуменце гаварылася:

«1. Прызнаць безумоўна неабходным на ўвесь час соцыялістычнай абарончай вайны аб'еднанне ўсёй справы забеспячэння Чырвонай Арміі пад адзіным кіраўніцтвам Совета Абароны і іншых цэнтральных устаноў РСФСР;

2. Прызнаць безумоўна неабходным на ўвесь час соцыялістычнай абарончай вайны аб'еднанне чыгуначнага транспарта і ўпраўлення чыгуначнай сеткі на ўсёй прасторы брацкіх соцыялістычных рэспублік пад кіраўніцтвам і ўпраўленнем Народнага Камісарыята шляхоў зносін РСФСР;

3. Прызнаць несумяшчальным з інтарэсамі абароны існаванне ў брацкіх рэспубліках асобных органаў забеспячэння Чырвонай Арміі і асобных камісарыятаў шляхоў зносін і настайваць на пераўтварэнні такіх на час вайны ў аддзелы органаў забеспячэння Чырвонай Арміі РСФСР і Народнага Камісарыята шляхоў зносін РСФСР, якія знаходзяцца ў непасрэдным веданні і поўным падначаленні цэнтральных органаў забеспячэння Чырвонай Арміі РСФСР і Народнага Камісарыята шляхоў зносін РСФСР;

4. Прызнаць падлягаючымі адмене ўсе дэкрэты, якія адносяцца да забеспячэння Чырвонай Арміі і чыгуначнага транспарта або ўпраўлення чыгуначнай сеткай, паколькі яны знаходзяцца ў супярэчнасці з пастановамі і дэкрэтамі, рэгулюючымі забеспячэнне Чырвонай Арміі РСФСР, а таксама

[1] Партархіў ЦК КП(б)Б, ф. 60, л. 1, спр. 336.

ўпраўленне чыгуначным транспартам і чыгуначнай сеткай РСФСР.

Ленін, Сталін»[1].

1 чэрвеня 1919 г. адбылося паседжанне ВЦВК, на якім прысутнічалі прадстаўнікі Украіны, Беларусі, Літвы, Латвіі і іншых Совецкіх рэспублік. Паседжанне адкрыў Міхаіл Іванавіч Калінін. У сваёй уступнай прамове М. І. Калінін указаў на тое, што на гэтым паседжанні неабходна вырашыць пытанне аб ваенна-палітычным саюзе Совецкіх рэспублік. Усе прадстаўнікі Совецкіх рэспублік аднадушна падтрымалі прапанову М. І. Калініна.

Паседжанне ВЦВК прыняло пастанову, у якой указвалася на неабходнасць аб'еднання ваенных і матэрыяльных сіл РСФСР, Украіны, Беларусі, Літвы, Латвіі для барацьбы з замежнай інтэрвенцыяй і ўнутранай контррэвалюцыяй. У пастанове ВЦВК гаварылася:

«Адпор гэтай спробе зноў увергнуць у рабства дзесяткі мільёнаў рускіх, украінскіх, латышскіх, літоўскіх, беларускіх і крымскіх рабочых і сялян патрабуе ад іх цяснейшага аб'еднання баявых сіл, цэнтралізацыі кіраўніцтва ў цяжкай барацьбе на жыццё і на смерць. Ваенны саюз усіх памянёных Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік павінен быць першым адказам на наступленне агульных ворагаў. Таму, стоячы на глебе прызнання незалежнасці, свабоды і самавызначэння працоўных мас Украіны, Латвіі, Літвы, Беларусі і Крыма і зыходзячы як з рэзалюцыі Украінскага ЦВК, прынятай на паседжанні 18 мая 1919 г., так і прапановы Совецкіх урадаў Латвіі, Літвы і Беларусі, — Усерасійскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Советаў прызнае неабходным правесці цеснае аб'еднанне: 1) Ваеннай арганізацыі і ваеннага камандавання; 2) Советаў Народнай Гаспадаркі, 3) чыгуначнага ўпраўлення і гаспадаркі, 4) фінансаў і 5) Камісарыятаў Працы Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік Расіі, Украіны, Латвіі, Літвы, Беларусі і Крыма з тым, каб кіраўніцтва ўказанымі галінамі на-

[1] «Ленінскі зборнік» XXXIV, стар. 120—121.

роднага жыцця было сканцэнтравана ў руках адзіных Калегій»...[1].

Гістарычнае рашэнне ВЦВК аб ваенна-палітычным саюзе Совецкіх рэспублік было горача сустрэта ўсімі народамі Совецкай краіны.

Газета «Звезда» ў перадавым артыкуле, пад загалоўкам «Да аб'еднання Совецкіх Рэспублік», пісала, што барацьба за існаванне Совецкіх рэспублік патрабуе самага цеснага еднання, патрабуе перш за ўсё ваеннага саюза. Цяпер гэты саюз, указвала газета, урачыста замацаван.

Вітаючы рашэнне ВЦВК аб ваенным саюзе рэспублік, «Звезда» адначасова ўказвала, што заключэнне гэтага саюза з'яўляецца толькі першым крокам у працэсе аб'еднання Совецкіх рэспублік.

Для правядзення ў жыццё гістарычнага рашэння ВЦВК «Аб аб'еднанні Совецкіх рэспублік Расіі для барацьбы з імперыялізмам» у чэрвені 1919 г. у Беларусь з агітпоездам «Кастрычніцкая рэволюцыя» прыбыў Міхаіл Іванавіч Калінін. 21 чэрвеня М. І. Калінін быў з радасцю сустрэт насельніцтвам сталіцы Беларусі — горада Мінска. У сваім выступленні ля Мінскага вакзала М. І. Калінін указаў на важнае значэнне ваеннага саюза Совецкіх рэспублік. «Таварышы, — гаварыў М. І. Калінін, — я вітаю вас ад імя ВЦВК, ад працоўных мас усёй Расіі. Таварышы, мы доўга жылі сумесным жыццём пад ярмом царскіх насільнікаў, доўга вялі сумесную барацьбу супроць царызма і супроць тых ланцугоў, якія на працягу доўгіх год скоўвалі ўсе нацыянальнасці былой царскай імперыі». М. І. Калінін указаў на важнейшыя агульныя задачы, якія стаялі тады перад народамі Совецкай Расіі, галоўная з якіх была барацьба супроць інтэрвентаў.

Аб'еднанне Совецкіх рэспублік у ваенны саюз, указваў М. І. Калінін, з'яўляецца тым больш неабходным, што фронт ворагаў совецкай улады таксама ўсё больш аб'ядноўваецца.

«Таварышы, — гаварыў М. І. Калінін, — фронт буржуазіі ў сучасны момант усё больш аб'ядноўваецца, небяспека сусвет-

[1] «Известия ВЦИК» № 118 ад 3 чэрвеня 1919 г.

най контррэвалюцыі, небяспека, пагражаючая нам з боку тых банд, якія імкнуцца задушыць Совецкую рэспубліку, усё гэта разам узятае прымушае нас прыкладаць усе намаганні да таго, каб паміж намі быў самы цесны саюз... Няхай жыве адзінства Совецкіх рэспублік! Няхай жыве брацтва Літвы і Беларусі з адзінай Расіяй» [1].

У Мінску М. І. Калінін прысутнічаў на ўрачыстым аб'едналым паседжанні ЦВК Літвы і Беларусі, Мінскага Совета, Совета профсаюзаў і фабзаўкомаў. На гэтым паседжанні М. І. Калінін расказаў пра рашэнне ВЦВК аб стварэнні ваеннага саюза Совецкіх рэспублік. Пры гэтым таварыш Калінін падкрэсліў, што да ліку ініцыятараў стварэння ваеннага саюза рэспублік адносяцца Беларусь і Літва.

«Ваша прапанова, — гаварыў М. І. Калінін, — мела вялікае значэнне ў гісторыі соцыялістычнай рэвалюцыі. Расійская Совецкая рэспубліка ідзе насустрач вашай прапанове. Гэтае пытанне разглядалася ВЦВК і было вырашана ў станоўчым сэнсе» [2].

М. І. Калінін запэўніў, што рускі народ акажа брацкую дапамогу беларускаму і літоўскаму народам у іх барацьбе за сваю свабоду і незалежнасць. «Я не сумняваюся, — гаварыў М. І. Калінін, — што ва ўсе цяжкія моманты на Заходнім фронце Расія будзе вас абараняць. Гэты саюз дасць вам магчымасць перамагчы нашых ворагаў і ўмацаваць уладу абодвух соцыялістычных Совецкіх рэспублік» [3].

Рэзалюцыя, прынятая аб'едналым паседжаннем ЦВК Літвы і Беларусі па поваду рашэння ВЦВК аб ваенна-палітычным саюзе, указвала, што аб'еднанае паседжанне ЦВК Совета рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў ССР Літвы і Беларусі, Мінскага Совета рабочых і чырвонаармейскіх дэпутатаў пры ўдзеле Старшыні ВЦВК таварыша М. І. Калініна з захапленнем вітае ў асобе апошняга сваю настаўніцу РСФСР, вітае нашу слаўную Чырвоную Армію і выказвае

---

[1] «Звезда» № 467 ад 21 чэрвеня 1919 г.

[2] «Звезда» № 468 ад 22 чэрвеня 1919 г.

[3] Там-жа.

глыбокую ўпэўненасць у тым, што саюз, які заключан паміж дружаственнымі Савецкімі рэспублікамі, стане яшчэ цясней-шым. У заключэнне рэзалюцыя ўказвала, што беларускі і літоўскі народы разглядаюць ваенны саюз Савецкіх рэспублік, як «першы крок на шляху аб'еднання ўсіх Савецкіх рэспублік».

Старшыня ВЦВК М. І. Калінін у 1919 г. наведаў гарады: Мінск, Віцебск, Оршу, Магілеў, Жлобін, Гомель, Бабруйск, многія валасныя цэнтры, чырвонаармейскія часці, вёскі Беларусі. У сваіх дакладах і выступленнях М. І. Калінін падрабязна спыняўся на пытаннях арганізацыі абароны і аховы рэспублікі ад нападу замежных інтэрвентаў. М. І. Калінін гаварыў, што ў гэтай барацьбе працоўныя Беларусі не адзінокія, што яны маюць брацкую дапамогу ўсіх Савецкіх рэспублік.

Ваенна-палітычны саюз народаў Савецкіх рэспублік з'явіўся важнейшай умовай у забеспячэнні перамогі савецкай улады ў гады грамадзянскай вайны. Ён даў магчымасць адстаяць свабоду і незалежнасць нашай радзімы, выратаваў беларускі народ ад іншаземных захопнікаў.

ЦК РКП(б), В. І. Ленін і І. В. Сталін нястомна сачылі за барацьбой беларускага народа супроць замежных інтэрвентаў і прымалі ўсе меры па аказанню дапамогі Літоўска-Беларускай Савецкай Рэспубліцы.

Летам 1919 г., калі стварылася цяжкае становішча з забеспячэннем гарадоў і армій Заходняга фронта, В. І. Ленін даў спецыяльнае ўказанне Соўнаркому Украіны: «Нарады для Беларуска-Літоўскай арміі і наогул Наркампрода, Мінск, вельмі прашу не затрымліваць і накіроўваць па прызначэнню ў Мінск. Усяляк паскарань...» [1].

11 чэрвеня М. І. Калінін тэлеграфіраваў В. І. Леніну аб неабходнасці забяспечыць рэчавыя склады Смаленска, Гомеля і Віцебска запасамі абмундзіравання і абутку, адсутнасць якіх затрымлівае адпраўку на фронт маршавых рот. В. І. Ленін запатрабаваў выканання гэтай тэлеграмы [2].

---

[1] «Ленінскі зборнік» XXXIV, стар. 170.

[2] Там-жа.

Усе народы Совецкай краіны згуртаваліся вакол партыі большэвікоў на разгром інтэрвентаў. Совецкая краіна была ператворана ў ваенны лагер. Пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна Чырвоная Армія нанесла Калчаку рашучае паражэнне.

У самы напружаны момант барацьбы з інтэрвентамі на Заходнім фронце ЦК РКП(б), В. І. Ленін накіроўваюць на Заходні фронт вялікага палкаводца таварыша Сталіна для арганізацыі адпору наступленню белапалякаў.

Ленін пісаў таварышу Сталіну: «Прашу Вас з'ездзіць у запфронт, які страшэнна аслаблен наконт камісараў. Абсалютна неабходна падтрымаць увесь фронт у цэлым» [1].

5 ліпеня 1919 г. таварыш Сталін назначаецца членам Рэўваенсовета Заходняга фронта. 9 ліпеня 1919 г. ён прыбывае ў Смаленск у штаб Заходняга фронта.

Праз некалькі дзён на Заходні фронт прыбыў бліжэйшы саратнік таварыша Сталіна Серго Орджанікідзе, які быў назначан членам Рэўваенсовета 16 арміі.

К прыезду таварыша Сталіна на Заходні фронт ужо намячаўся другі паход Антанты на Совецкую краіну. «Паход гэты быў, — гаворыць таварыш Сталін, — таксама камбінаваны, бо ён меў на ўвазе сумесны напад Дзенікіна, Польшчы, Юдзеніча (Калчак быў скінут з рахунку). Цэнтр цяжару паходу ляжыць на гэты раз на поўдні, у раёне Дзенікіна» [2].

Таварыш Сталін застаў Заходні фронт у цяжкім становішчы. Штаб фронта быў адарван ад часцей. Сілы воінскіх часцей пасля зімова-вясенніх баёў патрабавалі значнага папаўнення. Многія часці армій, а таксама прыфрантавая паласа былі засмечаны класава-чуждымі і варожымі элементамі.

Таварыш Сталін правёў велізарную арганізатарскую і палітычную работу па ўзняццю боездольнасці Чырвонай Арміі Заходняга фронта, па мабілізацыі комуністаў, рабочых на фронт. Таварыш Сталін адстараніў ад пасады камандуючага

---

[1] В. І. Ленін. «Кароткі нарыс жыцця і дзейнасці». Дзяржвыдавецтва палітычнай літаратуры, 1946 г., стар. 236.

[2] І. В. Сталін. Творы, том 4, стар. 320—321.

Заходняга фронта генерала Надзёжнага і начальніка штаба фронта. Па прапанове таварыша Сталіна было створана Упраўленне фарміраванняў і запасных войск Заходняга фронта. На Упраўленне была ўскладзена задача — у двухтыднёвы тэрмін сфарміраваць рэзервныя часці і ўкамплектаваць пагранічныя палкі да штатаў, устаноўленых Рэўваенсоветам рэспублікі. Таварыш Сталін высунуў таксама палажэнне аб неабходнасці аб'еднання разрозненых атрадаў у рэгулярныя воінскія часці, дывізіі, брыгады і т. д.

Надаючы выключнае значэнне падрыхтоўцы запасных часцей войск для Чырвонай Арміі і адзначаючы недапушчальнасць такіх з'яў, калі камплектаванне рабілася ў радзе выпадкаў непадрыхтаванымі ў баявых і палітычных адносінах рэзервамі, таварыш Сталін ад імя Рэўваенсовета ў тэлеграме ад 11 жніўня 1919 г. камандуючым 7-й, 15,-й, 16-й армій паставіў задачу: ва ўсіх запасных часцях арганізаваць вывучэнне ваеннай справы чырвонаармейцамі і, галоўным чынам, навучыць іх валодаць зброяй і метка страляць. З поўнасцю падрыхтаванага асабовага састава запасных часцей фарміраваць маршавыя роты для ўкамплектавання дзеючай арміі Заходняга фронта. Адпраўляць маршавыя роты на фронт толькі тады, калі інспекцыя правядзе іспыты па баявой, страявой і палітычнай падрыхтоўцы і прызнае іх дастаткова навучанымі. Камандуючыя арміямі абавязаны прыняць самыя рашучыя меры па ўкамплектаванню воінскіх часцей новым здаровым папаўненнем і ачышчэнню іх ад класава-чуждых і варожых элементаў. Таварыш Сталін указаў, што часці, якія фарміруюцца і перафарміруюцца, павінны быць падрыхтаваны палітычна, дысцыплінаваны і поўнасцю валодаць ваеннай справай.

Таварыш Сталін кіраваў усімі аперацыямі Заходняга фронта супроць інтэрвентаў.

13 ліпеня 1919 г. таварыш Сталін прыбыў у горад Мінск. У Мінску таварыш Сталін правёў нараду з членамі Літоўска-Беларускага ўрада па пытанню аб роспуску ўрада і Мінскага Совета Абароны і уваходжанні іх членаў у органы фронта.

Урад Літвы і Беларусі і яго Совет Абароны былі часова

распушчаны ў мэтах умацавання адзінага кіраўніцтва на неакупіраванай белапалякамі частцы Беларусі. Уся паўната ўлады на гэтай тэрыторыі перадавалася Мінскаму губрэўкому.

23 ліпеня 1919 г. І. В. Сталін падпісаў дырэктыву Рэўваенсовета Заходняга фронта Петраградскаму і Заходняму акруговым ваенным камісарыятам аб арганізацыі вузлоў абароны.

Для абароны горада Мінска па прапанове таварыша Сталіна былі перакінуты часці 2-й брыгады 5-й дывізіі, артылерыйскія і стралковыя палкі 17-й дывізіі.

Уся прыфрантавая паласа была разбіта на ўчасткі, куды былі накіраваны камуністы для барацьбы з шпіянажам і бандытызмам.

Па ўказанню таварыша Сталіна ЦБ КП(б) Літвы і Беларусі для папаўнення часцей Чырвонай Арміі Заходняга фронта мабілізавала комуністаў, комсамольцаў, рабочых і працоўных сялян. Гэтая мабілізацыя значна ўзмацніла боездольнасць часцей Чырвонай Арміі Заходняга фронта.

У радах Чырвонай Арміі за Совецкую Беларусь змагаліся ўсе народы Совецкай краіны, якія ўпісалі ў гісторыю барацьбы за Совецкую Беларусь у гады грамадзянскай вайны ўзоры мужнасці, адвагі і гераізма, паказалі сваю бязмежную адданасць большэвіцкай партыі і Совецкаму ўраду.

На працягу 91 дня Чырвоная Армія гераічна адбівала атакі ўзброеных да зубоў белапалякаў. 12 дзён вяла Чырвоная Армія бой з белапалякамі, абараняючы горад Мінск.

Аднак белапалякам удалося часова захапіць Мінск. 8 жніўня 1919 г. інтэрвенты ўступілі ў Мінск.

Таварыш Сталін паставіў перад Чырвонай Арміяй задачу: утрымаць белапалякаў на лініі ракі Беразіны, не даць ім магчымасці далей прасоўвацца ўглыб краіны.

Выконваючы гэтую задачу, воіны Чырвонай Арміі гераічна абаранялі кожную пядзь совецкай зямлі. Кожны населены пункт паміж Мінскам і Беразіной з'яўляецца гістарычным помнікам гераічнай барацьбы чырвоных воінаў супроць інтэрвентаў у 1919 г. Таварыш Сталін распрацаваў аператыўны план умацавання Заходняга фронта ўздоўж ракі Беразіны і

кіраваў баявымі аперацыямі Чырвонай Арміі супроць войск інтэрвентаў.

Загадам Рэўваенсовета Заходняга фронта ад 19 верасня 1919 г. за подпісам таварыша Сталіна перад камандуючым 16-й арміі была пастаўлена задача — акружыць і разбіць мацнейшую Бабруйскую групіроўку войск праціўніка. Адначасова камандуючаму 12-й арміяй для ажыццяўлення гэтай задачы было загадана перакінуць частку войск са сваёй арміі ў распараджэнне камандуючага 16-й арміі.

Сталінскі стратэгічны план Чырвоная Армія выканала. Белапалякаў адкінулі за Беразіну. Уздоўж ракі Беразіны была створана непрыступная лінія абароны. Сілы белапалякаў былі падарваны. Часці Чырвонай Арміі стабілізаваліся на рацэ Беразіне, накапліваючы сілы для разгрому інтэрвентаў.

У верасні 1919 г. ЦК РКП(б), В. І. Ленін адазвалі таварыша Сталіна з Заходняга фронта і накіравалі яго на Паўднёвы фронт для арганізацыі разгрому белых войск Дзенікіна. Чырвоная Армія пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна ў другой палавіне кастрычніка 1919 г. разбіла войскі Дзенікіна.

На захопленай тэрыторыі Беларусі белапалякі ўстанавілі свой акупацыйны рэжым. Адзінаццаць месяцаў прадаўжалася белапольская акупацыя. Гэта быў вельмі цяжкі перыяд у жыцці беларускага народа. Нечуваны гнёт, палітычнае, эканамічнае закабаленне, дзікія расправы над народам, расстрэлы мірных савецкіх людзей—вось чым характарызаваўся акупацыйны рэжым белапалякаў. У 1919 — 1920 гг. у Мінску, Бабруйску, Барысаве і ва ўсіх сёлах і гарадах Беларусі, акупіраваных белапалякамі, лютавалі польскія карныя атрады, грымелі залпы расстрэлаў, стаялі шыбеніцы.

Як толькі белапалякі захапілі Мінск, у горадзе пачаліся масавыя арышты і расстрэлы. Пяць дзён чынілі польскія паны расправу над жыхарамі сталіцы Беларусі, урываючыся ў дамы, расстрэльваючы ні ў чым невінаватых жыхароў. У далейшым дзікія оргіі белапалякаў не толькі не спыніліся, але ўзмацніліся.

У Беларусь зноў вярнуліся польскія памешчыкі і капіталісты. У гарадах і вёсках былі адноўлены старыя дарэвалюцыйныя парадкі.

У пастанове польскага генеральнага камісара ўсходніх зямель гаварылася: «Усе распараджэнні і дэкрэты бальшэвіцкіх улад аб прыватнай уласнасці адмяняюцца. Права прыватнай уласнасці лічыцца адноўленым...

Уся прыватная ўласнасць павінна быць звернута ўладальнікам.

Памешчыкі або іх прадстаўнікі абавязаны не пазней 10 верасня ўступіць ва ўладанне сваімі маёнткамі» [1].

Газета «Звезда» ў № 551 ад 17 верасня 1919 г., паведамляючы аб становішчы ў часова акупіраваным Мінскім павеце, пісала, што белапалякі «прымушаюць сялян папаўняць жывы і мёртвы інвентар маёнткаў, коней, кароў, збожжа, бульбу, мэблю і іншае да размераў былых у стары час у маёнтку, незалежна ад таго, як была разабрана гэтая маёмасць; прымушаюць сялян таксама вярнуць узятую цэглу і аднавіць разабраныя (памешчыцкія) будынкі... Памешчыкі вяртаюцца: па іх скарзе за нанясенне шкоды ім і іх маёнткам вёскай: — вёскі разбіваюць і спальваюць. Так, каля Сінявак разбіты дзве вёскі. Па іх-жа даносах (памешчыкаў) расстрэльваюць людзей без разбору справы».

Па няпоўных даных па Барысаўскаму, Бабруйскаму і Ігуменскаму паветах Беларусі пацярпела ад зверства белапалякаў 100 540 чалавек. Адных толькі дзяцей замучана, скалечана і засталося сіротамі па ўказаных трох паветах 24 489 чалавек.

Па даных цэнтральнай ацэначнай камісіі белапольскія акупанты аграбілі беларускі народ на суму звыш 52 мільёнаў руб. у залатой даваеннай валюце.

У грабяжы і разбоі над беларускім народам белапалякам актыўна дапамагалі меншавікі, эсэры, нацыяналісты. Гэтыя здраднікі стараліся пралезці ў партызанскія атрады, каб затым выдаць іх польскім жандармам. Так, правакатару і шпіёну

[1] Партархіў ЦК КП(б)Б, ф. 60, спр. 68.

Шаранговічу і іншым пазней выкрытым нацыяналістам удалося выдаць інтэрвентам кіраўнікоў Мінскай падпольнай арганізацыі, Рудабельскі партызанскі атрад, а таксама слуцкіх, дукорскіх, мінскіх, гатаўскіх і іншых партызан.

Але ніякія зверствы белапалякаў не аслабілі волю беларускага народа да барацьбы за свабоду і незалежнасць сваёй радзімы. Пад кіраўніцтвам большэвіцкіх арганізацый рабочыя і працоўныя сяляне ішлі ў партызанскія атрады, узнімалі паўстанні супроць белапалякаў.

14 мая 1919 г. ЦК Комуністычнай партыі Літвы і Беларусі прыняў пастанову аб стварэнні партызанскіх атрадаў у тылу ворага і ўсклаў кіраўніцтва атрадамі на партыйныя ячэйкі і асобных комуністаў.

Па закліку большэвіцкай партыі лепшыя сыны беларускага народа аб'едноўваліся ў партызанскія атрады і самааддана змагаліся за Совецкую Беларусь. Так, у Мінскім раёне дзейнічала каля 400 партызан. К пачатку 1920 г. у Барысаве налічвалася каля 250 партызан, у Ігумене — 200, у Маладзечна — 800, у Старых Дарогах — 300 і т. д. У Бабруйскім павеце былі цэлыя воласці, дзе рабочыя і працоўныя сяляне былі арганізаваны ў партызанскія атрады.

Партызанскія атрады Беларусі пускалі пад адкос белапольскія эшалоны, нападалі на штабы інтэрвентаў, абозы, асобныя часці, захоплівалі боепрыпасы, харчовыя прадукты белапалякаў, разбуралі сувязь, знішчалі тэлеграфныя і тэлефонныя правады. Беларускія партызаны жорстка помсцілі белапольскім акупантам за смерць і слёзы сваіх братоў і сясцёр, бацькоў і мацярэй.

Вясной 1920 г. Антанта арганізавала 3-і паход на Совецкую рэспубліку. Галоўная роля ў гэтым паходзе ўскладалася на панскую Польшчу, а таксама на Врангеля.

Гэта была, як пісаў В. І. Ленін, «зноў, яшчэ раз спроба міжнародных імперыялістаў задушыць Совецкую Рэспубліку абодвума рукамі: польскім наступленнем і наступленнем Врангеля» [1].

[1] В. І. Ленін. Творы, том XXV, выд. 3-е, стар. 406.

План Антанты і белапалякаў заключаўся ў тым, каб разбіць Чырвоную Армію, аднавіць у Совецкай краіне ўладу памешчыкаў і капіталістаў, заняволіць украінскі і беларускі народы, аднавіць у гэтых раёнах уладу польскіх паноў, стварыць польскую дзяржаву «ад мора да мора», ад Данцыга да Одэсы.

У красавіку 1920 г. войскі інтэрвентаў пад камандаваннем Пілсудскага аднавілі баявыя дзеянні з мэтай захапіць Кіеў, Смаленск, а затым Маскву. Трайная перавага белапольскіх сіл на галоўным напрамку дала ім магчымасць часова акупіраваць усю правабярэжную Украіну з горадам Кіевам.

У гэты цяжкі момант ЦК партыі большэвікоў зноў пасылае на Паўднёва-Заходні фронт арганізатара ўсіх перамог Чырвонай Арміі — І. В. Сталіна.

Па прапанове таварыша Сталіна, якая была ўхвалена Леніным, на польскі фронт была перакінута Першая Конная Армія. На барацьбу з белапалякамі былі накіраваны лепшыя часці Чырвонай Арміі: 25-я чапаеўская дывізія, 44-я дывізія імені Шчорса, брыгада Катоўскага і іншыя часці.

Большэвіцкая партыя зноў правяла мабілізацыю сваіх членаў на фронт. Толькі за два месяцы (май і чэрвень 1920 г.) на барацьбу з інтэрвентамі было мабілізавана 13 тыс. комуністаў.

У гэты перыяд партызанскі рух набыў яшчэ больш шырокія размеры.

5 красавіка ў вёсцы Міханавічы адбыўся 2-і з'езд мінскіх партызан. З'езд пастанавіў расшырыць ваенныя дзеянні супроць белапольскіх войск.

Пад кіраўніцтвам падпольных большэвіцкіх арганізацый партызанскі рух вясной 1920 г. ахапіў усю Мінскую губерню, большую частку Гродненскай губерні, Віленскі павет і т. д. У момант, калі белапольскія войскі Пілсудскага захапілі Кіеў, а белагвардзейскія полчышчы Врангеля наступалі з поўдня і пагражалі Данбасу, партызаны абрушылі на белапалякаў у Беларусі магутныя ўдары.

Партызаны нападалі на польскія гарнізоны і на праходзіўшыя воінскія часці, акружалі іх і знішчалі белапалякаў. У красавіку 1920 г. 300 чырвонаармейцаў і партызан з атрада імені Бабруйскага Рэўкома ўшчэнт разбілі ля м. Парычы польскі полк. Партызанскія атрады ўзрывалі масты і палатно чыгунак. Сваімі рашучымі дзеяннямі на камунікацыях чыгунак партызаны прымусілі праціўніка спыніць чыгуначны рух паміж Мінскам і Вільна, Баранавічамі і Беластокам. Польскае камандаванне прымушана было зняць з фронта ў маі 1920 г. цэлую дывізію для барацьбы з мінскімі партызанамі. Горад Мінск быў аб'яўлен на ваенным становішчы. Аднак мінскія партызаны змаглі вырвацца з акружэння і яшчэ больш узмацнілі ўдары па ворагу.

Партызаны Беларусі аказалі значную дапамогу Чырвонай Арміі ў выгнанні белапалякаў з савецкай зямлі.

Таварыш Сталін распрацаваў геніяльны стратэгічны план разгрому белапалякаў. Ажыццяўляючы гэты план, Першая Конная Армія пад камандаваннем таварышоў Варашылава і Будзённага прарвала польскі фронт і вызваліла 9 чэрвеня горад Жытомір. Гэта стварыла для савецкіх войск пералом на ўсім фронце, сарвала ўсе разлікі інтэрвентаў і дэмаралізавала іх армію. 12 чэрвеня быў вызвален горад Кіеў.

4 ліпеня 1920 г. Чырвоная Армія перайшла ў рашучае наступленне па ўсяму фронту. Гераічнае наступленне 3-й, 4-й, 15-й і 16-й армій Заходняга фронта прымусіла варожыя войскі ў паніцы ўцякаць з межаў Беларусі.

8 ліпеня 1920 г. Чырвоная Армія заняла горад Барысаў. 11 ліпеня Чырвоная Армія вызваліла ад белапольскіх інтэрвентаў сталіцу Беларусі — горад Мінск.

З вялікім патрыятычным уздымам сустрэў беларускі народ сваю вызваліцельніцу — Чырвоную Армію.

Таварыш Сталін у сваім паведамленні ў газеце «Красноармеец» адзначыў гэтую выключна радасную сустрэчу Чырвонай Арміі насельніцтвам Беларусі. Таварыш Сталін пісаў:

«Такіх адносін мне не даводзілася назіраць ні на ўсходзе, ні на поўдні...

Не гледзячы на беднасць сялянскіх мас на захадзе ў параўнанні з Паваложжам і поўднем, усё-ж сяляне дзяліліся апошнім з чырвонаармейцамі.

Надзвычай цяжкая «падводная» павіннасць выконвалася без нараканняў.

Чырвонаармейцу аказвалася ўсякае садзеянне, усякая дапамога...

Насельніцтва прыфрантавой паласы перанесла ўвесь цяжар польскай акупацыі, таму вельмі добра ўсведамляла, чым пагражае яму ўтаржэнне польскіх паноў.

На нашым фронце ёсць цэлая група войск, уся санітарная справа якой знаходзіцца ў руках сялян і сялянак, праяўляючых найвялікшыя клопаты і ўвагу да нашых раненых чырвонаармейцаў.

Што датычыцца настрою беларускіх сялян за франтавой паласой, то, па нашых звестках, там скрозь праходзяць паўстанні, працуюць партызанскія атрады, якія разбураюць тыл праціўніка, спальваючы склады і знішчаючы памешчыкаў.

... Пры набліжэнні нашых часцей усюды тыл праціўніка пачынае ўзрывацца знутры.

Мы прысутнічаем у цяперашні час пры сапраўднай сялянскай рэвалюцыі ў Беларусі супроць польскіх памешчыкаў» [1].

Пасля выгнання белапольскіх акупантаў з Беларусі па ўсёй тэрыторыі з велізарным натхненнем была адноўлена савецкая ўлада. Працоўныя Беларусі на мітынгах і сходах, якія прайшлі паўсямесна, дзякавалі бальшэвіцкай партыі, Леніну і Сталіну, Чырвонай Арміі за вызваленне ад ярма акупантаў.

Гераічнае наступленне Чырвонай Арміі супроць белапалякаў прадаўжалася. Выгнаўшы польскіх паноў з Украіны і Беларусі, войскі Паўднёвага фронта ў сваім наступальным парыве дайшлі да Львова і Галіцыі, а войскі Заходняга фронта падыходзілі да Варшавы. Справа ішла да поўнага паражэння белапалякаў. Але здрадніцкія дзеянні Троцкага і яго прыхіль-

---

[1] І. В. Сталін. Творы, том 4, стар. 342—343.

нікаў у Галоўным Штабе Чырвонай Арміі сарвалі наступленне Чырвонай Арміі. Наступленне чырвоных войск на Заходнім фронце праходзіла — па віне Троцкага і яго прыхільнікаў — зусім неарганізавана: занятая тэрыторыя не замацоўвалася, рэзервы і боепрыпасы заставаліся вельмі далёка ў тылу, была створана магчымасць прарыву нашага фронта белапалякамі пад Варшавай. На Паўднёвым фронце шкодніцкім загадам Троцкага было навязана нашым войскам ні на чым не аснаванае адступленне. У выніку белапольскія войскі змаглі ўмацавацца і перайсці ў контрнаступленне. Але хутка яно было затрымана, і Чырвоная Армія рыхтавалася да новага ўдару.

Польшча, не маючы сіл прадаўжаць вайну, аказалася вымушанай адмовіцца ад сваіх планаў захопу правабярэжнай Украіны і Беларусі і папрасіла міру. 20 кастрычніка 1920 г. у Рыге быў заключан мірны дагавор. Па гэтаму дагавору Польшча ўтрымала за сабой Заходнюю Украіну і заходнюю частку Беларусі. З таго часу аж да 1939 г. Заходняя Беларусь знаходзілася пад прыгнётам польскіх паноў.

Адразу-ж пасля вызвалення Беларусі ад белапольскіх захопнікаў быў арганізаван урад БССР. Урад Совецкай Беларусі поўнасцю аднавіў усе законы совецкай улады. Працоўныя Беларускай ССР прыступілі да мірнага соцыялістычнага будаўніцтва.

Пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна Чырвоная Армія атрымала рашучыя перамогі на ўсіх франтах грамадзянскай вайны.

Чырвоная Армія перамагла таму, што ваявала яна за палітыку партыі і совецкай улады, якая адпавядае інтарэсам народа і падтрымлівалася народам; таму, што яна (Чырвоная Армія) была верна і аддана свайму народу і карысталася яго падтрыманнем і любоўю; таму, што партыя і совецкая ўлада ўзнялі ўвесь тыл на службу фронту, ператварылі краіну ў ваенны лагер, які забяспечваў фронт усім неабходным.

Чырвоная Армія перамагла таму, што кіруючым ядром тылу і фронта была партыя большэвікоў, «адзіная сваёй згуртаванасцю і дысцыплінай, моцная сваім рэволюцыйным духам і гатоўнасцю пайсці на любыя ахвяры дзеля поспеху агульнай

справы, непераўзыйдзеная сваім уменнем арганізаваць мільённыя масы і правільна кіраваць імі ў складанай абстаноўцы»[1].

«Толькі дзякуючы таму, — гаварыў В. І. Ленін, — што партыя была на варце, што партыя была вельмі дысцыплінаванай, і таму, што аўтарытэт партыі аб'ядноўваў усе ведамствы і ўстановы, і па лозунгу, які быў дадзен ЦК, як адзін чалавек, ішлі дзесяткі, сотні, тысячы і ў канчатковым выніку мільёны, і толькі таму, што нечуваныя ахвяры былі прынесены, — толькі таму цуда, якое адбылося, магло здзейсніцца. Толькі таму, не гледзячы на двухразовы, трохразовы і чатырохразовы паход імперыялістаў Антанты і імперыялістаў усяго свету, мы аказаліся здольнымі перамагчы»[2].

Чырвоная Армія перамагла таму, што справай абароны краіны кіравалі правадыры партыі і народа Ленін і Сталін і іх лепшыя саратнікі і вучні.

«**Непасрэдным натхніцелем і арганізатарам важнейшых перамог Чырвонай Арміі быў Сталін**. Усюды, дзе на франтах вырашаўся лёс рэвалюцыі, партыя пасылала Сталіна. Ён быў творцам важнейшых стратэгічных планаў»[3].

Чырвоная Армія, як указвае таварыш Сталін, перамагла таксама таму, што ў яе саставе працавалі пастаўленыя партыяй ваенныя камісары, «якія цэментавалі сваёй работай рады чырвонаармейцаў, насаджалі сярод іх дух дысцыпліны і баявой адвагі...»; што ў тылу белагвардзейскіх армій... «арудавалі ў падполлі выдатныя большэвікі, партыйныя і непартыйныя, якія падымалі на паўстанне рабочых і сялян супроць інтэрвентаў...»[4]; што Совецкая краіна ў барацьбе з белагвардзейшчынай і іншаземнай інтэрвенцыяй была не адзінокай, што яна мела спачуванне і дапамогу пролетарыяў усяго свету.

Перыяд грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі, указвае таварыш Сталін, з'явіўся перыядам палітычнай гібелі партый эсэраў, меншавікоў, анархістаў, нацыяналістаў. Гэтыя партыі

---

[1] «Гісторыя ВКП(б). Кароткі курс», стар. 232.
[2] В. І. Ленін. Творы, том XXV, выд. 3-е, стар. 96.
[3] «Іосіф Вісарыёнавіч Сталін. Кароткая біяграфія», стар. 83—84.
[4] «Гісторыя ВКП(б). Кароткі курс», стар. 232—233.

поўнасцю выкрылі сябе ў вачах народных мас, як контррэвалюцыйныя партыі.

Умацавалася таржаство комуністычнай партыі, як адзінай кіруючай сілы ў Совецкай краіне.

У час грамадзянскай вайны дружба народаў Совецкіх рэспублік, змацаваная пралітай на палях бітваў крывёю, развілася і ўмацавалася. Ваенна-палітычны саюз Совецкіх рэспублік у гады грамадзянскай вайны стварыў магчымасць для далейшага, яшчэ большага ўмацавання дружбы народаў.

Пераход большэвіцкай партыі і Совецкай краіны да аднаўлення народнай гаспадаркі, задача пабудовы поўнага соцыялістычнага грамадства запатрабавалі яшчэ цяснейшага згуртавання народаў Совецкіх рэспублік. Гэтая задача была выканана большэвіцкай партыяй пад кіраўніцтвам В. І. Леніна і І. В. Сталіна.



## 5. ЗАКЛЮЧЭННЕ

### Таржаство ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі ў БССР

Пасля пабеданоснага заканчэння грамадзянскай вайны Совецкая краіна ўступіла ў новы перыяд свайго развіцця, у перыяд мірнага гаспадарчага будаўніцтва.

У выніку чатырохгадовай імперыялістычнай і трохгадовай грамадзянскай войн народная гаспадарка ўсёй Совецкай краіны была вельмі разбурана. Прадукцыя сельскай гаспадаркі ў 1920 г. складала каля палавіны даваеннай. Становішча прамысловасці было яшчэ горшае. Прадукцыя буйнай прамысловасці ў 1920 г. была амаль у 7 разоў менш даваеннай. Асабліва моцна ўпала металургія. Выплаўка чыгуну за ўвесь 1921 г. склала ўсяго толькі каля 3% даваеннай вытворчасці. Транспарт быў разбуран. У краіне нехапала паліва, быў востры недахоп прадуктаў харчавання.

Народная гаспадарка Беларускай Совецкай Рэспублікі ў параўнанні з іншымі раёнамі Совецкай краіны аказалася найбольш разаронай. Нямецкая, а затым белапольская акупацыі былі асабліва спусташальнымі для прамысловасці і сельскай гаспадаркі Беларусі. З 715 прамысловых прадпрыемстваў, якія меліся да вайны ў Беларусі, 480 прадпрыемстваў было знішчана, а большая частка застаўшыхся — не дзейнічалі [1]. Значная частка працаваўшых на прадпрыемствах рабочых разышлася па вёсках. Асабліва разбураным аказаўся

[1] Гутарка ідзе аб Беларусі ў граніцах 1926 г.

транспарт. Большая частка чыгуначнага рухомага састава была ўгнана нямецкімі і белапольскімі інтэрвентамі, астатняя частка — разбіта.

Сельская гаспадарка Беларусі таксама знаходзілася ў заняпадзе. За гады войн пасеўныя плошчы Беларусі скараціліся на 35%. Беларусь у канцы 1920 г. востра перажывала адсутнасць прывозных прадметаў шырокага спажывання: жалеза, прылад сельскагаспадарчай вытворчасці, солі, карасіну, абутку, мануфактуры.

Выбрацца з нястачы, аднавіць народную гаспадарку і ліквідаваць векавую эканамічную і культурную адсталасць уласнымі сіламі, без дапамогі вялікага рускага народа і іншых народаў Совецкай краіны, беларускі народ быў бяссільны.

«Знясіленне ўнутраных гаспадарчых рэсурсаў нашых рэспублік у выніку грамадзянскай вайны, з аднаго боку, і адсутнасць колькі-небудзь сур'ёзнага прытоку заграпічнага капітала, з другога боку, стварылі такую абстаноўку, пры якой ні адна з нашых совецкіх рэспублік не можа аднавіць сваю гаспадарку сваімі ўласнымі сіламі» [1].

Гэтае ўказанне таварыша Сталіна ў поўнай меры адносілася да Совецкай Беларусі.

Збаўленнем для беларускага народа з'явілася ленінска-сталінская нацыянальная палітыка комуністычнай партыі, на аснове якой разгарнуліся велізарнейшая сістэматычная гаспадарчая і культурная дапамога вялікага рускага народа працоўным Беларусі, нястомныя бацькоўскія клопаты аб беларускім народзе правадыроў партыі Леніна і Сталіна.

Партыя большэвікоў, Совецкі ўрад, правадыры народа Ленін і Сталін штодзённа клапаціліся аб узняцці эканомікі і культуры Беларусі, аказвалі планамерную дапамогу ў аднаўленні яе народнай гаспадаркі.

«Эканамічнае жыццё Беларусі, разбуранае сямігадовай вайной, — пісала газета «Звезда» ад 3 снежня 1920 г., — знаходзілася ў катастрафічным становішчы. Прэзідыум СНК

---

[1] І. В. Сталін. Творы, том 5, стар. 139.

Беларусі вырашыў пасланы дэлегацыю ў Вышэйшы Совет Народнай Гаспадаркі РСФСР. Дэлегацыя ў Маскве сустрэла поўную гатоўнасць аказаць садзеянне адраджэнню гаспадаркі Беларусі. На паседжанні Прэзідыума ВСНГ было вырашана адпусціць Соўнаркому Беларусі аванс у 1 млрд. рублёў наяўнымі грашовымі знакамі, а таксама прапанаваць усім Главкам і Цэнтрам у тэрміновым парадку разгледзець вытворчую праграму СНГ Беларусі і тэрмінова адпусціць у авансавым парадку неабходныя матэрыялы. Без усякай чаргі была разаслана тэлеграма з прапановай не лічыцца з фармальнасцямі пры разглядзе каштарысаў Соўнаргаса Беларусі і забяспечыць усе віды вытворчасці Беларусі неабходнымі крэдытамі».

2-і з'езд Советаў Беларусі, які адбыўся ў снежні 1920 г., выказаў гарачую ўдзячнасць Расійскай рэспубліцы за яе брацкую дапамогу. У прывітальнай тэлеграме, пасланай з'ездам ВЦВК РСФСР і ЦВК УССР, гаварылася: «2-і з'езд Советаў Беларусі, сабраўшыся зараз упершыню пасля вызвалення сталіцы нашай краіны ад улады памешчыкаў і капіталістаў, які прадстаўляе краіну, на тэрыторыі якой на працягу 5-ці год бесперапынна праходзіла вайна і лілася кроў, краіну, рабоча-сялянскі народ якой перацярпеў жудасныя пакуты і прынёс нечуваныя ахвяры для таго, каб жыць працоўным сацыялістычным жыццём, шле брацкае прывітанне ўсіх працоўных сацыялістычнай Совецкай Рэспублікі Беларусі вялікай брацкай краіне РСФСР і УССР, якія аддалі ўсе свае ваенныя і дыпламатычныя сілы для таго, каб дапамагчы вызваліцца змучанаму і спакутаванаму пад іншаземным ігам беларускаму народу». У заключэнне прывітання з'езд выражаў упэўненасць, «што і надалей брацкі рускі народ, яго ЦВК і Совет Народных Камісараў заўсёды акажуць неабходнае падтрыманне для ажыццяўлення волі працоўнага народа Беларусі» [1].

У снежні 1920 г. В. І. Ленін прысутнічаў на сходзе беспартыйных сялян — дэлегатаў 8-га з'езда Советаў. Па поваду вы-

---

[1] «Звезда» № 99 ад 15 снежня 1920 г.

ступлення дэлегата з Беларусі В. І. Ленін зрабіў заўвагу ў сваім блак-ноце, у якой выражаны бацькоўскія клопаты вялікага правадыра аб патрэбах беларускага народа:

«З Беларусі (Мінскай губерні).

Солі, жалеза і ўсяго, каб засеяць усю зямлю. Трэба даць. Больш гаварыць не буду»[1].

Заўвага была ўключана ў «Запіску членам ЦК і Наркомам» як дырэктыва, якая патрабавала няўхільнага выканання.

Для паспяховага аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі краіны неабходна было выпрацаваць новую ўстаноўку па ўсіх пытаннях гаспадарчага жыцця краіны, адпавядаючую абстаноўцы мірнага развіцця.

Гэтую ўстаноўку выпрацаваў X з'езд партыі бальшэвікоў (сакавік — красавік 1921 г.). З'езд РКП(б) прыняў гістарычнае рашэнне аб пераходзе ад прадразвёрсткі да прадналогу, аб новай эканамічнай палітыцы, разлічанай на перамогу соцыялізма ў нашай краіне.

X з'езд РКП(б) прайшоў пад знакам згуртавання ўсіх сіл партыі і народа на аднаўленне народнай гаспадаркі і соцыялістычнага будаўніцтва. Рашэнні з'езда аб адзінстве партыі, аб профсаюзах, аб новай эканамічнай палітыцы нанеслі рашучае паражэнне трацкістам і бухарынцам, якія выступалі супроць ленінска-сталінскай лініі, згуртавалі сілы рабочага класа вакол партыі, умацавалі на новай аснове саюз рабочага класа і сялянства нашай краіны.

На X з'ездзе партыі з дакладам па нацыянальнаму пытанню выступіў таварыш Сталін. У сваім дакладзе таварыш Сталін паставіў перад партыяй задачу ліквідацыі гаспадарчай, палітычнай і культурнай адсталасці раней прыгнечаных царызмам народаў Расіі.

«Сутнасць нацыянальнага пытання ў РСФСР, — гаварыў таварыш Сталін, — заключаецца ў тым, каб знішчыць тую фактычную адсталасць (гаспадарчую, палітычную, культурную) некаторых нацый, якую яны атрымалі ў спадчыну ад мінулага, каб даць магчымасць адсталым народам дагнаць цэнт-

[1] «Ленінскі зборнік» XXXV, стар. 190.

ральную Расію і ў дзяржаўных, і ў культурных, і ў гаспадарчых адносінах» [1].

Таварыш Сталін указваў, што агульныя інтарэсы абароны Совецкіх рэспублік, з аднаго боку, задача аднаўлення разбураных вайной прадукцыйных сіл, з другога боку, і неабходная харчовая дапамога няхлебным Совецкім рэспублікам з боку хлебных, з трэцяга боку, настойліва дыктуюць дзяржаўны саюз асобных Совецкіх рэспублік.

Такім чынам, ужо на X з'ездзе большэвіцкай партыі Ленін і Сталін паставілі задачу дзяржаўнага аб'еднання ўсіх нацыянальнасцей Совецкай Расіі.

На аснове рашэнняў X з'езда РКП(б) партыя і Совецкі ўрад арганізавалі брацкую дапамогу Совецкім рэспублікам раней прыгнечаных царызмам народаў, у тым ліку і Беларускай рэспублікі, у справе ліквідацыі іх гаспадарчай і культурнай адсталасці. Гэтая дапамога зыходзіла перш за ўсё ад перадавой нацыі Совецкай краіны — ад вялікага рускага народа.

Дапамога Беларускай ССР ад РСФСР была каласальнай. Так, па даных Наркампрода БССР з РСФСР з жніўня 1920 г. па жнівень 1921 г. атрымана [2]: хлебных і зерневых прадуктаў — 179 000 пуд., солі — 484 000 пуд., цукру — 22 402 пуд., рыбы — 15 058 пуд., гародніны — 11 671 пуд., табачных вырабаў — 4 410 пуд., мануфактуры — 5 002 пуд., нафтапрадуктаў — 40 000 пуд. і інш.

Апрача гэтага, па нарадах Глаўканафты ад 2/VIII і 5/IX 1921 г. атрымана 105 000 пуд. карасіну [3].

25 кастрычніка 1921 г. СНК РСФСР вынес пастанову аб водпуску Наркамзему Беларусі дадатковых крэдытаў у суме 3 млрд. рублёў [4].

На паседжанні Совета Працы і Абароны 11 лістапада 1921 г. абмяркоўвалася пытанне аб водпуску харчовых пайкоў

---

[1] І. В. Сталін. Творы, том 5, стар. 39.
[2] Зб. «Совецкая Беларусь», Мінск, 1922 г., стар. 59.
[3] Там-жа, стар. 57.
[4] «Звезда» № 99 ад 15 снежня 1920 г.

для Беларусі. Совет Працы і Абароны ў сваім рашэнні прызнаў неабходным павялічыць колькасць пайкоў для Беларусі і абавязаў Наркампрод выканаць гэта ў трохдзённы тэрмін [1].

14 лістапада 1921 г. на паседжанні Прэзідыума ВСНГ абмяркоўвалася пытанне аб аднаўленні гаспадаркі Беларусі. Прэзідыум ВСНГ пастанавіў адпусціць СНГ Беларусі на дагаворных пачатках 20 млрд. рублёў, з іх 10 млрд. грашовымі знакамі, а 10 — сыравінай і абсталяваннем. Адначасова Прэзідыум ВСНГ у сваім рашэнні прызнаў неабходным аказаць садзеянне развіццю швейнай прамысловасці Беларусі [2].

Шчодрая брацкая дапамога была аказана Беларусі рускім народам у той час, калі сама РСФСР перажывала вялікія цяжкасці ў харчовых адносінах у сувязі з голадам у радзе раёнаў краіны.

Адначасова з аднаўленнем і развіццём народнай гаспадаркі Беларусі развівалася і яе культура, нацыянальная па форме, соцыялістычная па зместу, адкрываліся новыя школы, курсы, тэхнікумы.

У Беларусі да рэволюцыі не было ні адной вышэйшай навучальнай установы, ні аднаго тэатра. У 1921 г. па дэкрэту Соўнаркома быў створан Беларускі Дзяржаўны Універсітэт. Для падрыхтоўкі ва Універсітэт рабоча-сялянскай моладзі пры ім быў адкрыт рабочы факультэт. У 1920 г. у Мінску ўпершыню ў гісторыі Беларусі быў створан першы Беларускі Дзяржаўны драматычны тэатр — зараз тэатр імя Янкі Купалы. У 1921 г. у Маскве быў створан беларускі факультэт пры Дзяржаўным Інстытуце тэатральнага мастацтва. Перад рабочай і сялянскай моладдзю Беларусі шырока адкрыліся нябачаныя да гэтага часу магчымасці і перспектывы авалодання перадавой навукай, соцыялістычнай культурай.

Пастаянная брацкая дапамога ўрада Расійскай Совецкай Рэспублікі беларускаму народу адыграла рашаючае значэнне ў справе аднаўлення і ўздыму эканомікі і культуры Беларусі.

Дзякуючы нястомным клопатам партыі і Совецкага ўрада

---

[1] Архіў ІМЭЛ, № 40560.

[2] ЦАОР, ф. 1235, оп. 86, спр. 23, л. 38.

беларускі народ, у мінулым прыгнечаны, жабрацкі і бяспраўны, выходзіў на светлы шлях эканамічнага і культурнага росквіту, на шлях соцыялізма.

З кожным днём цяснейшымі рабіліся брацкія сувязі беларускага народа з вялікім рускім народам і іншымі народамі Совецкай краіны. Яшчэ ў студзені 1921 г. быў заключан дагавор паміж РСФСР і Беларускай ССР аб ваенным і гаспадарчым саюзе. Згодна гэтага дагавора РСФСР і БССР, былі аб'еднаны наступныя Народныя Камісарыяты: Ваенных спраў, Вышэйшы Совет Народнай Гаспадаркі, Знешняга гандлю, Фінансаў, Працы, Шляхоў зносін, Пошты і тэлеграфа.

Ленінска-сталінская палітыка дружбы народаў Совецкіх рэспублік забяспечыла ім новыя перамогі і ў галіне знешнепалітычных адносін на фронце дыпламатычным.

У канцы 1921 і пачатку 1922 г. капіталістычныя дзяржавы Захада, страціўшы надзею знішчыць совецкую ўладу ў нашай краіне шляхам ваеннай інтэрвенцыі, спрабавалі дабіцца аднаўлення капіталістычнай уласнасці ў Совецкіх рэспубліках дыпламатычным шляхам. У гэты перыяд «адзіны дыпламатычны фронт совецкіх рэспублік з'явіўся тым непазбежным сродкам, без якога немагчыма было ўстаяць супроць націску заходніх дзяржаў» [1].

Адзінства дыпламатычнага фронта Совецкіх рэспублік заключалася ў тым, што ўсе пытанні міжнароднага характару вырашаліся ў цесным супрацоўніцтве паміж Совецкімі рэспублікамі, у якім Совецкія рэспублікі дабравольна даручалі абарону сваіх інтарэсаў РСФСР. Так, яшчэ ў час мірных перагавораў з Польшчай у Рыге ў канцы 1920 г. Совецкая Беларусь даручыла абарону сваіх інтарэсаў дэлегацыям РСФСР і Украіны.

Значэнне дыпламатычнага супрацоўніцтва Совецкіх рэспублік даволі ярка выражана ў сумеснай заяве, зробленай у снежні 1921 г. на 9-м з'ездзе Советаў РСФСР прадстаўнікамі Украіны, Беларусі, Грузіі, Арменіі, Азербайджана. Ухваляючы мірную знешнюю палітыку РСФСР, заява падкрэсліва-

[1] І. В. Сталін. Творы, том 5, стар. 140.

ла неабходнасць далейшага ўмацавання абароназдольнасці Совецкіх рэспублік. «Далучаючыся і надалей, — гаварылася ў заяве, — безагаворачна да мірнай палітыкі РСФСР і адвяргаючы рашуча ўсякую думку аб агрэсіўнай палітыцы ў адносінах да іншых народаў, мы лічым у той-жа час неабходным заявіць з поўнай рашучасцю, што ў цяперашніх міжнародных умовах самым сапраўдным сродкам забеспячэння незалежнасці совецкай тэрыторыі, магчымасці аднаўлення яе гаспадаркі і папярэджання новых удараў са-зне і спроб адраджэння грамадзянскай вайны ўнутры з'яўляецца ўсямернае ўмацаванне магутнасці Чырвонай Арміі» [1].

У пачатку 1922 г. імперыялістычныя ўрады, «падбадзёраныя паражэннем рэволюцыі ў краінах капіталізма, папрабавалі зрабіць новы націск на Рэспубліку Советаў, на гэты раз у дыпламатычнай форме» [2]. Яны вырашылі склікаць у Генуі канферэнцыю і запрасіць на яе Совецкую рэспубліку. Яны патрабавалі вярнуць замежным капіталістам фабрыкі, заводы, нацыяналізаваныя ў Совецкай краіне, патрабавалі ўплаты ўсіх даўгоў царскага ўрада.

У адказ на наглыя патрабаванні зарваўшыхся імперыялістаў усе Совецкія рэспублікі стварылі адзіны дыпламатычны фронт на чале з РСФСР. 22 лютага 1922 г. у Маскве паміж РСФСР і паўнамоцнымі прадстаўнікамі Украінскай, Беларускай, Грузінскай, Азербайджанскай і Армянскай Совецкіх рэспублік, Бухарскай, Харэзмскай народных рэспублік і Далёка-Усходняй рэспублікі быў падпісан пратакол аб перадачы РСФСР прадстаўніцтва на Генуэзскай канферэнцыі.

Як вядома, спроба імперыялістаў зрабіць на Генуэзскай канферэнцыі націск на рэспубліку Советаў пацярпела поўны правал.

Умацаванне дружбы і брацкіх сувязей беларускага народа з рускім народам і іншымі народамі нашай краіны немагчыма было-б без рашучай барацьбы большэвіцкай партыі супроць усіх ворагаў рабочага класа.

---

[1] ЦАОР, ф. 1235, оп. 12, спр. 4, л. 65.

[2] «Гісторыя ВКП(б). Кароткі курс», стар. 256.

З пераходам ад вайны да мірнага перыяда, з пераходам да новай эканамічнай палітыкі ажывілася дзейнасць усякага роду контррэвалюцыйных элементаў — меншавікоў, асэраў, анархістаў, белагвардзейцаў, трацкістаў і буржуазных нацыяналістаў.

Усе гэтыя ворагі народа спрабавалі ўсяляк аслабіць магутнасць краіны дыктатуры пралетарыята, разарваць саюз рабочага класа з сялянствам, разарваць брацкія узы дружбы беларускага народа з вялікім рускім народам і іншымі народамі Совецкай краіны, імкнуліся адарваць Беларусь ад Совецкай Расіі, знішчыць у ёй совецкую ўладу і аддаць беларускі народ у рабства заходне-еўрапейскім імперыялістам.

Таварыш Сталін у сваім дакладзе па нацыянальнаму пытанню на X з'ездзе партыі заклікаў партыю да рашучай барацьбы з вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небяспекай, а таксама і да барацьбы з мясцовым нацыяналізмам. У заключным слове па дакладу таварыш Сталін даў рашучы адпор вялікадзяржаўным шавіністам, якія выступілі на з'ездзе супроць самавызначэння беларускага народа і абвінавачвалі партыю ў нібы штучным насаджэнні беларускай нацыі.

«Я маю запіску аб тым, — гаварыў таварыш Сталін, — што мы, комуністы, быццам-бы насаджаем беларускую нацыянальнасць штучна. Гэта няправільна таму, што існуе беларуская нацыя, у якой ёсць свая мова, якая адрозніваецца ад рускай, з прычыны чаго ўзняць культуру беларускага народа можна толькі на роднай яго мове» [1].

Гэтае ўказанне таварыша Сталіна мае велізарнае гістарычнае значэнне ў жыцці беларускага народа; яно з'явілася асновай работы Комуністычнай партыі (большэвікоў) Беларусі ў справе эканамічнага і культурнага будаўніцтва Беларускай ССР.

Цэнтральны Камітэт РКП(б), асабіста Ленін і Сталін аказвалі пастаянную дапамогу Комуністычнай партыі (большэвікоў) Беларусі ў яе барацьбе супроць усіх ворагаў

[1] І. В. Сталін. Творы, том 5, стар. 48.

большэвізма, супроць буржуазных нацыяналістаў, дапамогу ў справе ачысткі КП(б)Б ад пралезшых у яе рады меншавіцкіх, эсэраўскіх і нацыяналістычных элементаў, у справе ўмацавання партыйных і совецкіх кадраў.

Барацьба партыі большэвікоў з буржуазнымі нацыяналістамі, з трацкістамі і іншымі ворагамі большэвізма ўмацоўвала дружбу народаў нашай краіны і згуртоўвала іх вакол вялікага рускага народа, вакол партыі Леніна — Сталіна.

Пастаўленая X з'ездам РКП(б) задача ўзняцця эканомікі і культуры раней прыгнечаных царызмам народаў Расіі да ўзроўню перадавога рускага народа паспяхова ператваралася ў жыццё. Знікла палітыка недавер'я, якую раней насаджаў царызм сярод прыгнятаемых народаў Расіі; умацавалася новая палітыка давер'я і дружбы, нарастала згуртаванасць народаў Совецкіх рэспублік вакол вялікага рускага народа.

«Толькі на аснове гэтага давер'я, — гаворыць таварыш Сталін, — і мог узнікнуць той непарушны саюз народаў РСФСР, супроць якога аказаліся бяссільнымі ўсе і ўсякія «дыпламатычныя» хітраванні і «блакады», якія старанна праводзіліся» [1].

Аб'еднаўчы рух народаў Совецкіх рэспублік у 1922 г. выліваецца ў арганізаванае патрабаванне стварэння Саюза Совецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Пад кіраўніцтвам партыі Леніна — Сталіна к канцу 1922 г. народы Совецкіх рэспублік ушчыльную падышлі да ажыццяўлення пастаўленай X з'ездам партыі задачы аб'еднання Совецкіх рэспублік у Саюзнай дзяржаве.

У кастрычніку 1922 г. Чырвоная Армія і партызаны Далёкага Усхода выгналі апошнія астаткі інтэрвентаў з совецкай зямлі, вызвалілі горад Владзівасток.

«Цяпер, калі ўся тэрыторыя Совецкай краіны была ачышчана ад інтэрвентаў, а задачы будаўніцтва соцыялізма і абароны краіны патрабавалі далейшага ўмацавання саюза народаў Совецкай краіны, на чарзе паўстала пытанне аб больш цесным аб'яднанні Совецкіх рэспублік у адзіным дзяржаў-

[1] І. В. Сталін. Творы, том 5, стар. 115.

ным саюзе. Трэба было аб'еднаць усе народныя сілы для будаўніцтва соцыялізма. Трэба было арганізаваць моцную абарону краіны. Трэба было забяспечыць усебаковае развіццё ўсіх нацыянальнасцей нашай радзімы. Для гэтай мэты неабходна было яшчэ больш зблізіць усе народы Савецкай краіны»[1].

У снежні 1922 г. адбыліся з'езды Саветаў Украінскай, Беларускай і Закаўказскай Савецкіх рэспублік, на якіх былі прыняты рашэнні аб неабходнасці ўтварэння СССР.

На працягу лістапада і першай палавіны снежня 1922 г. па ўсёй Беларусі адбываліся валасныя, павятовыя і губернскія з'езды Саветаў, на якіх выносіліся рашэнні, выражаўшыя пажаданні хутчэйшага ўтварэння СССР.

14 снежня 1922 г. у Мінску адкрыўся 4-ы з'езд Саветаў Беларускай ССР. З'езд прыняў зварот «Да ўсіх працоўных Беларусі», у якім гаварылася: «Савецкая Беларусь у сваёй рабоце заўсёды ішла нага ў нагу з усімі Савецкімі рэспублікамі. Разам мы змагаліся на франтах, разам адстайвалі нашу разбураную гаспадарку. З'езд без усякага сумнення ўлічыць стварыўшуюся міжнародную абстаноўку, а таксама цвёрдае рашэнне рабочых і сялян усіх Савецкіх рэспублік прадаўжаць агульную барацьбу і сваімі рашэннямі яшчэ больш замацуе узы брацтва, якія звязваюць працоўных усіх Савецкіх рэспублік»[2].

4-ы з'езд Саветаў Беларускай ССР прыняў таксама зварот да ВЦВК РСФСР, ЦВК Украіны і Саюзнага Савета Закаўказскай федэрацыі, у якім гаварылася, што рабочыя і сяляне Беларускай ССР з велізарным энтузіязмам вітаюць народы брацкіх рэспублік і іх прапанову аб утварэнні СССР.

З'езд прыняў пастанову аб неабходнасці ўтварэння СССР, у якой гаварылася:

«4-ы з'езд Саветаў Беларусі выражае сваю глыбокую ўпэўненасць, што з'езд РСФСР сумесна з прадстаўнікамі Украіны, Беларусі і Закаўказскіх рэспублік створыць адзіны

[1] «Гісторыя ВКП(б). Кароткі курс», стар. 247.
[2] «Звезда» № 296 ад 15 снежня 1922 г.

моцна згуртаваны саюз працоўных усіх брацкіх рэспублік, даручае сваёй дэлегацыі, выбіраемай для ўдзелу на Усерасійскім з'ездзе Советаў, даць у час работ з'езда ўрачыстае абяцанне ўчыніць фармальныя акты, замацоўваючыя брацкі Саюз Соцыялістычных Совецкіх Рэспублік» [1].

З прычыны ясна выражанай волі народаў РСФСР, Украінскай, Беларускай і Закаўказскай Совецкіх рэспублік пытанне аб утварэнні СССР было ўключана ў парадак дня 10-га з'езда Советаў РСФСР.

Правадыры партыі Ленін і Сталін непасрэдна кіравалі падрыхтоўкай утварэння Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Важнейшай падзеяй у справе ўтварэння СССР з'явіўся 10-ы з'езд Советаў РСФСР.

10-ы з'езд Советаў РСФСР адкрыўся 23 снежня 1922 г. Таварыш Сталін выступіў на з'ездзе з дакладам аб аб'еднанні Совецкіх рэспублік, у якім даў характарыстыку руху ва ўсіх Совецкіх рэспубліках за стварэнне СССР.

Таварыш Сталін выключна глыбока выклаў прычыны, якія пабудзілі Совецкія соцыялістычныя рэспублікі аб'еднацца ў адзіную Саюзную дзяржаву.

Таварыш Сталін указаў на тры групы акалічнасцей, якія вызначылі неабходнасць аб'яднання Совецкіх рэспублік: а) акалічнасці ўнутранага гаспадарчага парадку: неабходнасць аб'еднання эканамічных рэсурсаў, гістарычна склаўшыйся падзел працы паміж рознымі раёнамі, адзінства асноўных шляхоў зносін, фінансавае становішча; б) знешне-палітычныя акалічнасці, звязаныя з міжнародным становішчам Совецкіх рэспублік, і в) акалічнасці, звязаныя з самой структурай совецкай улады і яе прыроды. «Совецкая ўлада, — гаварыў таварыш Сталін,—пабудавана так, што яна, інтэрнацыянальная па сваёй унутранай сутнасці, усяляк культывіруе ў масах ідэю аб'еднання, сама штурхае іх на шлях аб'еднання» [2].

У заключэнне свайго даклада таварыш Сталін ярка абрысаваў перавагу совецкай сістэмы перад усякай іншай і падкрэс-

[1] «Звезда» № 299 ад 19 снежня 1922 г.

[2] І. В. Сталін. Творы, том 5, стар. 149—150.

ліў, што толькі совецкая ўлада аказалася здольнай згуртаваць народы на аснове іх роўнапраўя і брацкага супрацоўніцтва.

«Пяць год таму назад, — сказаў таварыш Сталін, — Совецкай уладзе ўдалося закласці асновы мірнага сужыцця і брацкага супрацоўніцтва народаў. Цяпер... нам прадстаіць увянчаць гэтую справу новым збудаваннем, — утварэннем новай магутнай саюзнай працоўнай дзяржавы»[1].

Таварыш Сталін прапанаваў праект рэзалюцыі, прынятай з'ездам з вялікім уздымам і аднадушшам. Рэзалюцыя прызнавала своечасовым аб'еднанне чатырох рэспублік: РСФСР, УССР, БССР і ЗСФСР у адзіны дзяржаўны саюз і падкрэслівала, што ў аснову аб'яднання павінен быць пакладзен прынцып дабравольнасці і роўнапраўя рэспублік з захаваннем за кожнай з іх права свабоднага выхаду з Саюза рэспублік.

30 снежня 1922 г. у Вялікім тэатры ў Маскве адкрыўся гістарычны 1-ы з'езд Советаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік. На з'езд прыбылі дэлегаты ад РСФСР, УССР, ЗСФСР і Беларускай ССР. На парадку дня з'езда стаяла два пытанні: 1. Зацверджанне Дэкларацыі аб утварэнні СССР і Саюзнага дагавора. 2. Выбары ЦВК СССР. З дакладам «Аб утварэнні Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік» на 1-м з'ездзе Советаў СССР выступіў таварыш Сталін.

У дакладзе таварыш Сталін паказаў дасягненні совецкай улады за 5 год яе існавання. Гэтыя дасягненні выразіліся ў значным уздыме сельскай гаспадаркі і ажыўленні лёгкай прамысловасці.

«Чым была Совецкая ўлада пяць год таму назад? — пытаў таварыш Сталін. — Маленькай, ледзь прыкметнай велічынёй, якая выклікала насмешкі сярод усіх яе ворагаў і жаль у многіх яе прыяцеляў...

Чым з'яўляецца цяпер Совецкая ўлада? Вялікай працоўнай дзяржавай, выклікаючай сярод ворагаў ужо не насмешкі, а скрыгат зубоўны»[2].

---

[1] І. В. Сталін. Творы, том 5, стар. 155.
[2] Там-жа, стар. 156—158.

Але, каб разбіць і ліквідаваць разруху канчаткова, «неабходна, — гаварыў таварыш Сталін, — скласці сілы ўсіх Савецкіх рэспублік, неабходна ўсе фінансавыя і эканамічныя магчымасці рэспублік кінуць на справу аднаўлення асноўных галін нашай прамысловасці. Адсюль неабходнасць аб'яднання савецкіх рэспублік у адну саюзную дзяржаву» [1].

Таварыш Сталін указаў на вялікія перспектывы росту міжнароднага значэння Савецкай краіны ў сувязі з утварэннем СССР.

«Савецкая ўлада, — гаварыў таварыш Сталін, — думае ўжо не толькі аб існаванні, але і аб тым, каб развіцца ў сур'ёзную міжнародную сілу, якая можа ўздзейнічаць на міжнародную абстаноўку, можа змяніць яе ў інтарэсах працоўных» [2].

У яркіх хвалюючых словах таварыш Сталін паказаў вялікае значэнне дня 30 снежня 1922 г. у гісторыі нашай краіны: «Сённяшні дзень з'яўляецца не толькі падагульняючым, ён з'яўляецца разам з тым днём таржаства новай Расіі над старой, над Расіяй — жандармам Еўропы, над Расіяй — катам Азіі. Сённяшні дзень з'яўляецца днём таржаства новай Расіі, якая разбіла ланцугі нацыянальнага прыгнечання, арганізавала перамогу над капіталам, стварыла дыктатуру пралетарыята, абудзіла народы Усхода, натхняе рабочых Захада» [3].

Таварыш Сталін зачытаў на з'ездзе праект Дэкларацыі і Дагавора аб утварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

«Таварышы, па даручэнню канферэнцыі паўнамоцных дэлегацый Савецкіх рэспублік, — сказаў таварыш Сталін, — я маю прапанаваць вам зацвердзіць толькі што прачытаныя тэксты Дэкларацыі і Дагавора аб утварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Таварышы, прапаную прыняць іх з уласцівым комуністам

---

[1] І. В. Сталін. Творы, том 5, стар. 157.
[2] Там-жа, стар. 156.
[3] Там-жа, стар. 158.

адзінадушшам і ўпісаць тым новы раздзел у гісторыю чалавецтва» [1].

З'езд з велізарнейшым натхненнем і адзінадушшам прыняў Дэкларацыю і Дагавор аб утварэнні Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік. З'езд выбраў першы састаў ЦВК СССР.

Утварэнне Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік з'явілася трыумфам ленінска-сталінскай палітыкі партыі большэвікоў па нацыянальнаму пытанню. Нідзе і ніколі яшчэ ў гісторыі чалавецтва не было такой дзяржавы, у якой шматлікія нацыі згуртаваліся-б так дружна ў адзіную брацкую сям'ю, як у нашым Саюзе Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Толькі слаўная партыя большэвікоў, кіруемая найвялікшымі геніямі чалавецтва Леніным і Сталіным, узброеная самай перадавой рэволюцыйнай тэорыяй марксізма-ленінізма, змагла аб'еднаць народы нашай вялікай краіны і згуртаваць іх у маналітны дзяржаўны калектыў.

Толькі на аснове перамогі соцыялістычнай рэволюцыі, у выніку звяржэння ўлады эксплаатататарскіх класаў і ўстанаўлення совецкай улады, на аснове ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі стала магчымым і неабходным стварэнне Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Стварэнне Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік умацавала совецкую ўладу; яно з'явілася асновай хуткага гаспадарчага і культурнага росквіту народаў нашай краіны.

У саставе Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік Беларуская ССР дасягнула нябачанага росквіту.

У брацкай сям'і народаў Совецкага Саюза беларускі народ аб'еднаў свае землі ў адзінай беларускай дзяржаве. Большэвіцкая партыя і ўрад Совецкага Саюза яшчэ ў 1924 г. прынялі рашэнне аб уключэнні ў састаў Беларускай ССР тэрыторыі Віцебскай, Гомельскай і часткі Смаленскай губерні, у якіх пераважала беларускае насельніцтва.

У 1926 г. у састаў БССР па рашэнню ўрада была ўключана таксама частка былой Гомельскай губерні з гарадамі Гомель, Рэчыца.

[1] І. Сталін. Творы, том 5, стар. 159.

Пад кіраўніцтвам КП(б) Беларусі на аснове ленінска-сталінскай новай эканамічнай палітыкі беларускі народ паспяхова аднавіў народную гаспадарку рэспублікі. К 1925—1926 гг. валавая прадукцыя цэнзавай прамысловасці БССР на 28,5% перавысіла ўзровень 1913 г. (па ўсходніх абласцях). Колькасць рабочых узрасла на 12,5%. Доля прыватнакапіталістычнага сектара знізілася ў 1925—1926 гг. у валавой прадукцыі ўсёй цэнзавай прамысловасці рэспублікі да 3,2%.

Тэмпы аднаўлення і развіцця буйнай прамысловасці БССР у гады аднаўлення народнай гаспадаркі былі больш высокімі, чым у СССР. Калі па БССР валавая прадукцыя цэнзавай прамысловасці ў 1925—1926 гг. перавысіла ўзровень 1913 г. на 28,5%, то па ўсяму СССР у 1926 г. даваенны ўзровень аказаўся перавышаным па ўсёй буйнай прамысловасці на 8,1%. Ва ўсім гэтым знайшла сваё выражэнне ленінска-сталінская нацыянальная палітыка большэвіцкай партыі, накіраваная да хутчэйшага пераадолення атрыманай у спадчыну ад мінулага гаспадарчай адсталасці БССР.

Паспяхова была адноўлена таксама і сельская гаспадарка Беларусі.

Перавага совецкага ладу, ажыццяўленне ленінска-сталінскага кааператыўнага плана, гаспадарчая і арганізацыйная дапамога беднаце і сярэдняму сялянству, палітычная і культурная работа КП(б) Беларусі ў вёсцы прывялі да ўздыму палітычнай і гаспадарчай актыўнасці шырокіх бядняцка-серадняцкіх мас. Праводзячы ў жыццё ленінска-сталінскі кааператыўны план, КП(б) Беларусі разграміла буржуазных нацыяналістаў і іх стаўленіка Прышчэпава, якія імкнуліся накіраваць развіццё беларускай вёскі па капіталістычнаму шляху насаджэннем у ёй кулацкіх гаспадарак. Развіццё сельскагаспадарчай кааперацыі заклала асновы для далейшага вытворчага кааперыравання вёскі, для яе калектывізацыі.

Аднаўленне народнай гаспадаркі было толькі першай ступенню далейшага развіцця нашай Совецкай краіны па шляху да соцыялізма. У артыкуле «Кастрычнік, Ленін і перспектывы

нашага развіцця» таварыш Сталін вызначыў перспектывы развіцця нашай краіны. Таварыш Сталін пісаў: «Цяпер, у 1925 годзе, гутарка ідзе аб тым, каб зрабіць пераход ад цяперашняй эканомікі, якую нельга назваць у цэлым соцыялістычнай, да эканомікі соцыялістычнай, да той эканомікі, якая павінна паслужыць матэрыяльнай асновай соцыялістычнага грамадства» [1].

Разграміўшы здраднікаў і капітулянтаў-трацкістаў і зіноўеўцаў, — партыя большэвікоў пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна павяла совецкі народ уперад, да соцыялізма. Асноўнымі звеннямі ў справе будаўніцтва соцыялізма з'явілася сталінская палітыка індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

У працэсе стварэння ў нашай краіне магутнай соцыялістычнай прамысловасці Беларуская ССР пры велізарнай дапамозе ЦК ВКП(б), таварыша Сталіна, усяго Совецкага Саюза зрабіла гістарычны скачок ад адсталасці да прагрэса. Датэрміновае выкананне сталінскіх пяцігадовых планаў будаўніцтва соцыялізма ператварыла Беларусь у адну з перадавых рэспублік Саюза ССР.

У выніку паспяховага ажыццяўлення сталінскіх пяцігодак у Совецкай Беларусі былі створаны паліўная, энергетычная, металаапрацоўчая, машынабудаўнічая, хімічная, дрэваапрацоўчая, лёгкая, харчовая і іншыя галіны прамысловасці.

Валавая прадукцыя буйнай прамысловасці ўсходніх абласцей БССР у 1940 г. перавысіла даваенны ўзровень у 23 разы. У параўнанні з 1913 г. магутнасць электрастанцый БССР узрасла больш чым у 100 разоў, прадукцыя металаапрацоўчай прамысловасці — у 58, хімічнай — у 41, аб'ём торфаздабычы вырас у 226 разоў.

У пісьме вялікаму Сталіну ў дзень 30-годдзя БССР беларускі народ пісаў: «Совецкая дзяржава аказала беларускаму народу велізарную дапамогу ў справе ператварэння Беларусі ў індустрыяльную рэспубліку. З года ў год раслі капіталаўкладанні ў прамысловасць БССР: за 1923—1928 гг. яны скла-

[1] І. В. Сталін. Творы, том 7, стар. 252.

лі 45 мільёнаў рублёў, за 1928—1932 гг. — 338 мільёнаў рублёў, за 1932 — 1937 гг. — 587 мільёнаў рублёў, а з 1938 г., за 3½ передваенныя гады, капіталаўкладанні ў народную гаспадарку БССР склалі 1732 мільёны рублёў.

У гады сталінскіх пяцігодак у рэспубліцы былі пабудаваны сотні новых фабрык, заводаў, электрастанцый...

Выраслі нацыянальныя кадры рабочага класа і інжынерна-тэхнічнай інтэлігенцыі» [1].

Паспяховае ажыццяўленне соцыялістычнай індустрыялізацыі стварыла неабходныя ўмовы для карэннай перабудовы сельскай гаспадаркі на соцыялістычных пачатках.

У 1929—1930 гг. у Беларусі, як і ва ўсім Совецкім Саюзе, разгарнуўся масавы калгасны рух.

Сталінская палітыка калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як класа на аснове суцэльнай калектывізацыі вызваліла працоўнае сялянства ад кулацкай эксплаатацыі і кабалы і вывела яго на дарогу шчаслівага калгаснага жыцця. «Гэта быў найглыбейшы рэволюцыйны пераварот... роўназначны па сваіх выніках рэволюцыйнаму перавароту ў кастрычніку 1917 года» [2].

Узброеныя сталінскімі ўказаннямі, комуністы Беларусі змаглі выправіць памылкі і недахопы ў калгасным будаўніцтве і забяспечыць няўхільны рост і ўмацаванне калгасаў.

У 1935 г. БССР за выдатныя поспехі ў соцыялістычным будаўніцтве была ўзнагароджана Прэзідыумам ЦВК СССР ордэнам Леніна.

У Беларускай ССР, як і ва ўсім Совецкім Саюзе, канчаткова перамог калгасны лад. Замест соцень тысяч дробных, распыленых сялянскіх гаспадарак, БССР у 1940 г. мела больш 10 тысяч калгасаў. У калгасы ўступіла звыш 93% сялянскіх гаспадарак.

Совецкая ўлада стварыла ў сельскай гаспадарцы магутную механізаваную базу. У Беларускай ССР у 1940 г. было 337 дзяржаўных машынна-трактарных станцый. На калгасных палях рэспублікі працавала каля 10 тысяч трактараў, 1 592

[1] «Правда» ад 2 студзеня 1949 г.
[2] «Гісторыя ВКП(б). Кароткі курс», стар. 288.

камбайны, 9 200 культыватараў і многа іншых сельскагаспадарчых машын.

Па ініцыятыве таварыша Сталіна ў 1941 г. ЦК ВКП(б) і ўрад СССР прынялі пастанову аб грандыёзным плане асушэння на працягу 15 год 4 млн. гектараў балот і забалочаных зямель Беларусі.

Калгаснае сялянства беларускага Палесся і іншых забалочаных раёнаў павяло рашучае наступленне на балоты, ператвараючы іх ў палі высокіх ураджаяў.

Пасеўная плошча БССР у 1941 г. дасягнула 5 931 тысячы гектараў супроць 2 564 тысяч у 1913 г.

Такім чынам, калгасны лад пераўтварыў беларускую вёску, ператварыў адсталую ў мінулым сельскую гаспадарку ў перадавую, высокамеханізаваную гаспадарку і стварыў усе ўмовы для культурнага і заможнага жыцця калгаснага сялянства.

Паспяховае будаўніцтва соцыялізма суправаджалася абвастрэннем класавай барацьбы ўнутры краіны. Трацкісты, зіноўеўцы, бухарынцы і іншыя ворагі партыі і народа імкнуліся аднавіць у нашай краіне капіталізм. Партыя большэвікоў разграміла трацкістаў, зіноўеўцаў, бухарынскіх рэстаўратараў капіталізма і іншых ворагаў соцыялізма.

Судовыя працэсы па справе трацкісцкіх і бухарынскіх банд паказалі, што «трацкісцка-бухарынскія вылюдкі, выконваючы волю сваіх гаспадароў—замежных буржуазных разведак, ставілі сваёй мэтай разбурэнне партыі і совецкай дзяржавы, падрыў абароны краіны, аблягчэнне замежнай ваеннай інтэрвенцыі, падрыхтоўку паражэння Чырвонай Арміі, расчляненне СССР, аддачу японцам Совецкага Прымор'я, аддачу палякам Совецкай Беларусі, аддачу немцам Совецкай Украіны, знішчэнне заваяванняў рабочых і калгаснікаў, аднаўленне капіталістычнага рабства ў СССР» [1].

У БССР трацкісцка-бухарынскія бандыты апіраліся на беларускіх нацыяналістаў, якія прабраліся ў партыю. Гэтыя нацыяналісты тыпу Чарвякова, Галадзеда, Шаранговіча і

---

[1] «Гісторыя ВКП(б). Кароткі курс», стар. 327.

іншых з'яўляліся рэстаўратарамі капіталізма і знаходзіліся на шпіёнскай службе ў органах замежных разведак.

Савецкі суд прыгаварыў трацкісцка-бухарынскіх катаў і іх агентуру ў Беларусі да расстрэлу. Увесь савецкі народ ухваліў канчатковы разгром агідных ворагаў народа.

Развіццё сацыялістычнай эканомікі, рост прадукцыйнасці працы ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы з'явіліся асновай карэннага палепшання матэрыяльнага дабрабыту і ўздыму культурнага ўзроўню беларускага народа. Вырасла рэальная заработная плата рабочых і служачых. Палепшыліся іх жыллёва-бытавыя ўмовы. Гарады рэспублікі ператварыліся ў добраўпарадкаваныя індустрыяльныя і культурныя цэнтры. Разам з кулацкай кабалой зніклі ў вёсцы галеча і голад. Жыццё калгаснага сялянства стала заможным і культурным.

За гады сталінскіх пяцігодак расцвіла беларуская культура, нацыянальная па форме, сацыялістычная па зместу. Пад кіраўніцтвам КП(б)Б у Беларусі ажыццёўлена культурная рэвалюцыя. У Савецкай Беларусі створана 26 вышэйшых навучальных устаноў, Акадэмія навук, 13 тысяч сярэдніх і пачатковых школ, у якіх у 1941 г. навучалася больш 2,5 млн. вучняў. Беларусь стала рэспублікай суцэльнай пісьменнасці.

Выраслі кадры нацыянальнай інтэлігенцыі. Расквітнела беларускае сацыялістычнае мастацтва. У 1941 г. у Беларусі працавалі 23 тэатры, Дзяржаўная кансерваторыя, 15 музыкальных школ, звыш тысячы кінотэатраў. Беларускія пісьменнікі і паэты Янка Купала, Якуб Колас, М. Лынькоў, К. Крапіва, П. Броўка, П. Глебка, А. Куляшоў, Максім Танк сваімі творамі ўнеслі ўклад у савецкую і сусветную культуру.

Вызначаючы вынікі культурнай рэвалюцыі ў Беларусі, беларускі народ у дзень 30-годдзя БССР пісаў вялікаму Сталіну:

«Нябачана расквітнела нацыянальная па форме, сацыялістычная па зместу культура беларускага народа. Густой сеткай пакрылі нашу рэспубліку ўстановы культуры, навукі, асветы, мастацтва. З асяроддзя рабочых і сялян вырасла шматлікая, адданая савецкаму ладу народная інтэлігенцыя. Непазнаваль-

на змянілася аблічча нашых буйных гарадоў—яны ператварыліся ў добраўпарадкаваныя індустрыяльныя і культурныя цэнтры.

У корані пераўтварылася за гады Савецкай улады беларуская вёска. У дарэвалюцыйнай Беларусі сяляне жылі ў курных хатах, адзяваліся ў саматканыя світкі, елі хлеб з мякінай і лебядой, вымiралі тысячамі з голаду, ад эпідэмій. Сялянам быў наглуха закрыт шлях да адукацыі і культуры.

Цяпер беларуская вёска будуе сваё жыццё на новых пачатках, на аснове перадавой тэхнікі, навукі і культуры. Машынна-трактарныя станцыі, прадпрыемствы мясцовай і раённай прамысловасці, электрастанцыі, аўтабазы, механізаваныя лясныя гаспадаркі і торфазаводы занялі вялікае месца ў жыцці беларускай вёскі. У вёсцы створаны тысячы культурных ачагоў: школ і тэхнікумаў, дамоў культуры і хат-чыталень, клубаў і бібліятэк, больніц і медыцынскіх пунктаў, дзіцячых садоў і дзіцячых ясляў, лекторыяў і вячэрніх школ, агратэхнічных гурткоў і калектываў мастацкай самадзейнасці. У быт беларускага сялянства трывала ўваходзяць радыё, кіно, электрычнасць, газеты, тэлеграф, тэлефон. Сыны і дочкі беларускіх сялян атрымалі шырокі доступ да адукацыі. Савецкая вёска, як і савецкі горад, стала невычарпальнай крыніцай новых, культурных кадраў.

На гэтую светлую дарогу шчаслівага жыцця вывела беларускіх сялян, як і ўвесь беларускі народ, наша родная Савецкая ўлада, наша любімая камуністычная партыя» [1].

Вялікія сусветна-гістарычныя перамогі сацыялізма ў СССР былі замацаваны ў Сталінскай Канстытуцыі, аднадушна зацверджанай на 8-м Надзвычайным з'ездзе Саветаў.

У Сталінскай Канстытуцыі залатымі літарамі запісан той сусветна-гістарычны факт, што наша краіна ўступіла ў паласу завяршэння будаўніцтва сацыялізма і паступовага пераходу да камунізма.

12-ы Надзвычайны з'езд Саветаў Беларусі ў адпаведнасці з Канстытуцыяй СССР прыняў Канстытуцыю БССР, якая поў-

[1] «Правда» ад 2 студзеня 1949 г.

насцю адлюстравала вялікія перамогі беларускага народа ў справе будаўніцтва соцыялізма.

На аснове перамогі соцыялізма ў СССР і ліквідацыі эксплаататарскіх класаў склалася маральна-палітычнае адзінства совецкага народа, яшчэ больш умацаваліся дружба народаў СССР, совецкі патрыятызм — магутныя рухаючыя сілы совецкага грамадства.

У той час, калі працоўныя Беларускай ССР паспяхова будавалі соцыялізм, стваралі шчаслівае і радаснае жыццё, працоўныя Заходняй Беларусі, будучы насільна адарванымі ў 1920 г. ад сваёй мацеры—Совецкай Радзімы, неслі цяжкае ярмо соцыяльнага і нацыянальнага прыгнечання пад уладай памешчыкаў і імперыялістаў Польшчы. Дваццацігадовае прабыванне насельніцтва Заходняй Беларусі пад іншаземным прыгнётам польскіх памешчыкаў і капіталістаў прадстаўляе сабой самую змрочную старонку ў яго шматвяковай гісторыі. Былыя гаспадары Польшчы сваёй палітыкай каланіяльнага аграблення края, жорсткай эксплаатацыі рабочых і працоўных сялян, нечувана цяжкім падатковым прэсам трымалі працоўныя масы Заходняй Беларусі ў страшэннай галечы, асуджалі на масавае выміранне.

Працоўныя Заходняй Беларусі з надзеяй глядзелі на Совецкі Усход, адкуль яны чакалі свайго вызвалення.

Пабедаіноснае будаўніцтва соцыялізма ў СССР, ліквідацыя ў Совецкай краіне беспрацоўя, рост матэрыяльнага і культурнага добрабыту працоўных СССР натхнялі рабочых і сялян Заходняй Беларусі на гераічную барацьбу супроць сваіх прыгняталынікаў, выклікалі імкненні хутчэй вызваліцца з-пад іга польскіх памешчыкаў і капіталістаў і з'еднацца са сваімі братамі ў адзінай сям'і совецкіх народаў.

Памешчыцка-імперыялістычны рэжым Польшчы, аснаваны на жорсткім соцыяльным і нацыянальна-каланіяльным заняволенні працоўных, быў нетрывалым. Ваеннае паражэнне Польшчы, нанесенае ёй у выніку нападу гітлераўскай Германіі ў верасні 1939 г., прывяло яе да хуткага распаду.

«Калі ў верасні 1939 года над працоўнымі Заходняй Бела-

русі і Заходняй Украіны навісла пагроза нямецка-фашысцкага заняволення, совецкі народ, які ніколі не забываў аб лёсе сваіх адзінакроўных братоў, працягнуў ім магутную руку брацкай дапамогі і ўзяў іх пад сваю ахову. Была назаўсёды ліквідавана гістарычная несправядлівасць, насільна навязаная імперыялістамі маладой Совецкай рэспубліцы ў 1920 годзе» [1].

17 верасня 1939 г. Совецкая Армія пачала свой вызваленчы паход у Заходнюю Украіну і Заходнюю Беларусь.

З найвялікшай радасцю і захапленнем сустракаў народ сваіх вызваліцеляў — совецкія войскі; урачыста выражаў ён вялікую ўдзячнасць народам і ўраду магутнага Совецкага Саюза, вялікаму правадыру народаў таварышу Сталіну.

Народнае Сабранне, якое адбылося 28—30 кастрычніка 1939 г., выражаючы волю вызваленага народа, абвясціла ў Заходняй Беларусі совецкую ўладу. Народнае Сабранне прыняло Дэкларацыю, у якой прасіла Вярхоўны Совет Саюза Совецкіх Социялістычных Рэспублік і Вярхоўны Совет Беларускай ССР «прыняць Заходнюю Беларусь у састаў Совецкага Саюза і Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, уз'еднаць беларускі народ у адзіную дзяржаву і пакласці тым самым канец раз'еднанню беларускага народа» [2].

2 лістапада 1939 г. пазачарговая V сесія Вярхоўнага Совета СССР першага склікання прыняла закон: задаволіць просьбу Народнага Сабрання Заходняй Беларусі і ўключыць Заходнюю Беларусь у састаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік з уз'еднаннем яе з Беларускай ССР.

Так здзейснілася найвялікшая гістарычная падзея ў жыцці беларускага народа—уз'еднанне яго ў адзінай совецкай соцыялістычнай дзяржаве. Гэтым самым быў пакладзен канец цяжкім пакутам значнай часткі беларускага народа пад ярмом соцыяльнага і нацыянальнага прыгнечання. Увесь беларускі на-

---

[1] З Пастановы ЦК КП(б)Б «Аб дзесяцігоддзі ўз'еднання беларускага народа ў адзінай Беларускай Совецкай дзяржаве».

[2] «Советская Белоруссия» № 261 ад 13 лістапада 1939 г.

род сабраўся пад сцягам комунізма ў вялікай брацкай сям'і народаў Савецкага Саюза.

Партыя Леніна—Сталіна, Савецкі ўрад, асабіста таварыш Сталін праявілі велізарнейшыя клопаты аб хутчэйшым эканамічным і культурным уздыме, аб росце добрабыту працоўных мас вызваленых абласцей. З вялікім натхненнем прынялося насельніцтва заходніх абласцей Беларусі перабудоўваць сваю гаспадарку на соцыялістычны лад.

Пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна народы Савецкага Саюза пабудавалі соцыялізм і, паспяхова выконваючы трэцюю сталінскую пяцігодку, ажыццяўлялі паступовы пераход да комунізма. Разам з усімі народамі Савецкага Саюза бадзёра і ўпэўнена ішоў да комунізма беларускі народ. Гістарычныя рашэнні XVIII з'езда ВКП(б), даклад таварыша Сталіна на з'ездзе з'явіліся праграмай будаўніцтва комунізма ў нашай краіне.

22 чэрвеня 1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі вераломна напалі на нашу Радзіму. Над нашай краінай навісла сур'ёзная небяспека.

Па закліку партыі Леніна—Сталіна, пад вадзіцельствам таварыша Сталіна ўсе народы Савецкага Саюза падняліся на Айчынную вайну супроць фашысцкай Германіі.

Разам з усімі народамі Савецкага Саюза стойка і мужна змагаўся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі і беларускі народ. Многія сотні тысяч сыноў беларускага народа гераічна змагаліся на франтах Вялікай Айчыннай вайны. Бяссмертную славу набылі легендарныя героі—генерал Даватар, віцэ-адмірал Дрозд, капітан Гастэла, капітан Талаліхін, снайпер Смалячкоў і тысячы іншых.

Выконваючы ўказанні таварыша Сталіна, Цэнтральны Камітэт КП(б) Беларусі, узначальваемы верным вучнем вялікага Сталіна—Панцелеймонам Кандрацьевічам Панамарэнка, арганізаваў у тылу ворага большэвіцкае падполле і ўзначаліў усенародны партызанскі рух у Беларусі.

На часова акупіраванай тэрыторыі Беларусі працавала 1 113 пярвічных партыйных арганізацый у партызанскіх брыга-

дах і атрадах і 184 тэрытарыяльныя падпольныя арганізацыі, 174 гаркомы і райкомы КП(б)Б, 9 падпольных абкомаў КП(б) Беларусі.

Сотні тысяч партызан Беларусі пры актыўным падтрыманні ўсяго народа мужна змагаліся з нямецкімі захопнікамі, бязлітасна знішчалі іх, падрывалі іх камунікацыі, зрывалі ўсе ваенныя, эканамічныя і палітычныя мерапрыемствы гітлераўцаў. У першых радах партызанскага руху змагаліся камуністы і камсамольцы.

Камуністычная партыя (бальшэвікоў) Беларусі «вырасціла загартаваныя ў барацьбе кадры партыйных кіраўнікоў, арганізатараў партызанскага руху і бальшэвіцкага падполля, у тым ліку такіх выдатных арганізатараў, як тт. Казлоў, Кляшчоў, Чарнышоў, Клімаў, Кожар, Мачульскі, Лабанок, Варвашэня, Баранаў, Куцак, Самуцін, Малінін, Кардовіч, Сікорскі, Шупеня і іншых таварышоў, якія паспяхова ўзначальвалі работу абласных партыйных арганізацый у тылу ворага» [1].

Вечна будуць служыць сімвалам адвагі, мужнасці і гераізма праслаўленыя ў памяці народа партызаны—Героі Савецкага Саюза — Заслонаў, Бумажкоў, Сільніцкі і іншыя.

Партызаны Савецкай Беларусі за тры гады баявых дзеянняў разграмілі сотні нямецкіх штабаў і гарнізонаў, знішчылі сотні тысяч гітлераўскіх салдат і афіцэраў, спусцілі пад адкос многія тысячы эшалонаў, узарвалі вялікую колькасць чыгуначных збудаванняў, тысячы рэек на чыгунках і знішчылі велізарную колькасць баявой тэхнікі і ваенных складаў.

Ацэньваючы партызанскую барацьбу беларускага народа супроць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны, Савет Міністраў Саюза ССР і ЦК ВКП(б) у прывітанні Прэзідыуму Вярхоўнага Савета БССР, Савету Міністраў БССР і ЦК КП(б)Б у дзень 30-годдзя БССР пісалі: «У гады Вялікай Айчыннай вайны супроць нямецка-фашысцкіх захопнікаў беларускі народ разам з усімі народамі нашай краіны, па закліку бальшэвіцкай партыі, мужна змагаўся за

[1] Н. Гусараў. «Справаздачны даклад ЦК КП(б) Беларусі на XIX з'ездзе КП(б)Б». Дзяржвыдат БССР, Мінск, 1949 г., стар. 12.

свабоду і незалежнасць сваёй Совецкай Радзімы. Усенародная партызанская вайна, якая разгарнулася на часова захопленай ворагам беларускай зямлі, з'явілася сур'ёзным укладам у агульную справу разгрому полчышчаў нямецка-фашысцкіх разбойнікаў»[1].

На дапамогу беларускаму народу прышлі ўсе народы Совецкага Саюза, прышла Совецкая Армія, якая разграміла гітлераўскіх захопнікаў і выгнала іх з межаў Совецкага Саюза. Совецкая Армія вызваліла беларускі народ ад нямецка-фашысцкіх прыгнятальнікаў.

Беларускі народ ад усяго сэрца горача дзякуе таварышу Сталіну за вызваленне Беларускай ССР ад нямецка-фашысцкага рабства. «Беларускі народ,—гаворыцца ў пісьме Вялікаму Сталіну ў дзень 30-годдзя БССР,—поўны глыбокай удзячнасці за сваё вызваленне ад нямецка-фашысцкага рабства нашай гераічнай Совецкай Арміі, усім народам Совецкага Саюза і, перш за ўсё рускаму народу, партыі большэвікоў, Вам, дарагі наш правадыр, друг і бацька.

Вялікі совецкі народ перамог таму, што ён жыў, працаваў, выхоўваўся і змагаўся пад Вашым, таварыш Сталін, мудрым кіраўніцтвам»[2].

Вялікая Айчынная вайна совецкага народа з нямецка-фашысцкімі захопнікамі з'явілася найвялікшым выпрабаваннем магутнасці Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, трываласці брацкіх сувязей і дружбы народаў нашай Радзімы.

Совецкі народ, згуртаваны пад вялікім сцягам Леніна—Сталіна, пад вадзіцельствам вялікага правадыра народаў, стратэга і палкаводца І. В. Сталіна, атрымаў нябачаную ў гісторыі найвялікшую перамогу ў Айчыннай вайне супроць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

«Гэта наша шчасце, што ў цяжкія гады вайны Чырвоную Армію і совецкі народ вёў уперад мудры і выпрабаваны правадыр Совецкага Саюза вялікі Сталін... З іменем Генералісімуса Сталіна ўвойдуць у гісторыю нашай краіны і ў сусветную

---

[1] «Правда» ад 1 студзеня 1949 г.
[2] «Правда» ад 2 студзеня 1949 г.

гісторыю слаўныя перамогі нашай Арміі»,—сказаў таварыш Молатаў у дакладзе аб 28-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі [1].

«Наша перамога, — гаворыць таварыш Сталін, — азначае, перш за ўсё, што перамог наш совецкі **грамадскі** лад, што совецкі грамадскі лад з поспехам вытрымаў выпрабаванне ў агні вайны і даказаў сваю поўную жыццездольнасць...

Наша перамога азначае, па-другое, што перамог наш совецкі **дзяржаўны** лад, што наша многанацыянальная совецкая дзяржава вытрымала ўсе выпрабаванні вайны і даказала сваю жыццездольнасць...

Наша перамога азначае, па-трэцяе, што перамаглі совецкія ўзброеныя сілы, перамагла наша Чырвоная Армія, што Чырвоная Армія гераічна вытрымала ўсе нягоды вайны, на-галаву разбіла арміі нашых ворагаў і вышла з вайны пераможцай» [2].

За час Айчыннай вайны яшчэ больш умацаваліся брацкія сувязі беларускага народа са сваім старэйшым братам—вялікім рускім народам і іншымі народамі Совецкага Саюза. Яшчэ больш узрасла любоў і адданасць беларускага народа да вялікай партыі большэвікоў, да геніяльнага правадыра і палкаводца любімага Сталіна.

Пасля пераможнага сканчэння Вялікай Айчыннай вайны совецкі народ прыступіў да мірнага будаўніцтва, да залечвання ран, нанесеных вайной, да аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі.

За тры гады акупацыі нямецкія захопнікі падверглі совецкія землі разарэнню і спусташэнню.

З Беларусі немцы вывезлі абсталяванне прамысловых прадпрыемстваў, карпусы іх разбурылі або спалілі. Па прамысловых магутнасцях Беларусь была адкінута да ўзроўню 1913 г.

Нямецкія варвары знішчылі плады працы многіх пакаленняў. Гарады Мінск, Віцебск, Гомель, Магілеў, Полацк, Бары-

[1] Журнал «Большевик», № 21 за 1945 г., стар. 8.
[2] І. В. Сталін. «Прамова на передвыбарным сходзе выбаршчыкаў Сталінскай выбарчай акругі г. Масквы», 1946 г., стар. 9—11.

саў, Орша, Жлобін, Рагачоў і многія іншыя, а таксама тысячы вёсак былі ператвораны ворагам у попел і руіны. Мільёны жыхароў рэспублікі засталіся без жылля і вымушаны былі жыць у зямлянках.

Нямецкія захопнікі разграбілі ўсе калгасы і соўгасы. За гады нямецкай акупацыі пасеўная плошча ў рэспубліцы рэзка скарацілася; у многа разоў зменшыліся пасевы тэхнічных культур. Палі запусцелі і зараслі пустазеллем. Ураджайнасць з года ў год падала.

Нямецкія фашысты знішчылі больш палавіны пагалоўя жывёлы. Звыш палавіны нацыянальнага багацця рэспублікі было знішчана і разграблена. Жыццёвы ўзровень насельніцтва Беларусі рэзка ўпаў.

«У гісторыі нашай радзімы,—гаварыў таварыш Жданаў на ўрачыстым паседжанні Маскоўскага Совета 6 лістапада 1946 г., — не было яшчэ войн, якія-б знішчылі так многа квітнеючых чалавечых жыццяў і прычынілі такія нечуваныя спусташэнні гарадам, сёлам, прамысловасці, транспарту і сельскай гаспадарцы, як мінулая вайна. Усякая іншая, нават самая буйная сучасная капіталістычная дзяржава, пацярпеўшы такую страту, была-б адкінута на дзесяткі год назад і ператварылася-б у другарадную дзяржаву. Але з Совецкім Саюзам гэтага не здарылася. З другой сусветнай вайны Совецкі Саюз вышаў моцным і магутным. У адрозненне ад капіталістычных дзяржаў наша краіна перайшла да мірнага будаўніцтва без якіх-небудзь крызісаў і патрасенняў».

На дапамогу беларускаму народу ў справе залечвання цяжкіх ран, нанесеных вайной, і пераадолення пасляваенных цяжкасцей прыйшлі Саюзны ўрад, ЦК ВКП(б) і асабіста таварыш Сталін, прыйшлі брацкія Совецкія рэспублікі.

Без дапамогі Саюзнага ўрада, ЦК ВКП(б) і асабіста таварыша Сталіна, без дапамогі брацкіх саюзных рэспублік, і ў першую чаргу РСФСР, Беларуская ССР не справілася-б з грандыёзнымі па сваіх размерах задачамі аднаўлення сваёй гаспадаркі і культуры.

На працягу трох год пасля вызвалення ад нямецка-фа-

шыцкіх захопнікаў БССР атрымала ад Саюзнага ўрада і іншых рэспублік больш 50 000 адзінак прамысловага абсталявання, тысячы трактараў і аўтамашын, вялікую колькасць дэфіцытных будаўнічых матэрыялаў. Калгасы БССР атрымалі 15 000 сельскагаспадарчых машын, 128 000 коней, 150 000 галоў буйнай рагатай жывёлы і т. д.

У 1946 г. беларускі народ прыступіў да ажыццяўлення велічных задач пасляваеннай пяцігодкі аднаўлення і далейшага развіцця народнай гаспадаркі.

Комуністычная партыя (большэвікоў) Беларусі ўзняла народ на самаадданую працу, на выкананне грандыёзных задач, пастаўленых перад БССР пасляваенным пяцігадовым планам. Па ўсёй краіне шырока разгарнулася соцыялістычнае спаборніцтва за датэрміновае выкананне плана.

У выніку самаадданай працы беларускага народа планы першых трох год пяцігодкі па валавой прадукцыі ўсёй прамысловасці за 1946, 1947, 1948 гг. выкананы па БССР на 109,9%, а аб'ём вытворчасці дасягнуў 65,8% даваеннага аб'ёму.

Паспяхова аднаўляюцца, рэканструіруюцца і будуюцца ў БССР новыя прадпрыемствы саюзнай прамысловасці. У Беларусі ў выніку барацьбы за ажыццяўленне пасляваеннай пяцігодкі аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі створаны новыя галіны прамысловасці: трактарная, аўтамабільная, лакамабільная, веласіпедная; ствараюцца новыя галіны хімічнай прамысловасці, прадпрыемствы па вырабу цукру, кансерваў і інш.

Сакратар ЦК КП(б)Б т. Гусараў на XIX з'ездзе КП(б)Б гаварыў: «У адпаведнасці з пяцігадовым планам і рашэннямі Саюзнага ўрада ў бліжэйшы час пачнецца будаўніцтва новых машынабудаўнічых заводаў і раду іншых прадпрыемстваў саюзнай прамысловасці» [1].

Прамысловасць Беларусі выканала план першых трох год пасляваеннай пяцігодкі на 109,9%. Валавая прадукцыя

[1] Н. Гусараў. «Справаздачны даклад ЦК КП(б)Б на XIX з'ездзе КП(б)Б». Дзяржвыдат БССР, Мінск, 1949 г., стар. 18.

прамысловасці ў 1948 годзе ўзрасла ў параўнанні з 1947 годам на 44%. Паспяхова выконваецца план прамысловай вытворчасці 1949 года.

Лозунг «Пяцігодка ў чатыры гады», выстаўлены ленінградцамі, глыбока пранік у свядомасць работнікаў прамысловасці БССР. Жыццёвасць гэтага лозунга праяўляецца ў працоўных подзвігах беларускага народа. Партыйныя арганізацыі Беларусі арганізавалі і ўзначалілі масавае соцыялістычнае спаборніцтва за выкананне пяцігодкі ў чатыры гады.

Работнікі прамысловасці БССР падхапілі каштоўны пачын перадавых прадпрыемстваў Масквы і ўключыліся ў барацьбу за звышпланавыя накапленні, за паскарэнне абарачваемасці абаротных сродкаў.

На аснове рашэнняў лютаўскага (1947 г.) Пленума ЦК ВКП(б) КП(б) Беларусі арганізавала і мабілізавала калгаснае сялянства на ўздым сельскай гаспадаркі рэспублікі.

Сіла і жыццёвасць калгаснага ладу ярка праявіліся ў тэмпах аднаўлення і развіцця сельскай гаспадаркі БССР. У 1948 г. пасеўная плошча калгасаў Беларусі дасягнула 91,4% даваеннай пасеўнай плошчы. Валавы збор збожжа дасягнуў даваеннага ўзроўню. План збожжанарыхтовак у 1948 г. у БССР быў выканан на 20 дзён раней, чым у 1947 г. У 1948 г. здадзена дзяржаве збожжа на 3,6 мільёна пудоў больш, чым у даваенным 1940 годзе. У 1949 годзе Совецкая Беларусь таксама датэрмінова, да 15 верасня, выканала дзяржаўны план хлебанарыхтовак. Здадзена дзяржаве зерня на 1 600 тыс. пудоў больш, чым было здадзена да такога-ж тэрміну ў 1948 годзе. План здачы прадавольственных культур выканан на 110,3%. Калгасы рэспублікі значна ўмацаваліся ў арганізацыйна-гаспадарчых адносінах. У калгасную вытворчасць шырока ўкараняецца дасягненне перадавой мічурынскай аграбіялагічнай навукі.

КП(б) Беларусі правяла вялікую работу па аднаўленню, будаўніцтву жылых дамоў для калгаснікаў і іх перасяленню з зямлянак. За пасляваенныя гады ў сельскай мясцовасці пабудавана і адноўлена 375,5 тысячы жылых дамоў, у якія пера-

селена з зямлянак больш двух мільёнаў чалавек. На вёсцы пабудавана 41 100 грамадскіх будынкаў.

Працоўнае сялянства заходніх абласцей БССР, пераканаўшыся ў вялікіх перавагах калгаснага ладу, актыўна будуе калгасы. Да лютага 1949 г. у заходніх абласцях ужо мелася 1 065 калгасаў, у якіх аб'еднана 44 540 сялянскіх гаспадарак. Па становішчу на 1 верасня 1949 г. у Заходніх абласцях Беларусі было створана 3 000 калгасаў, а на 1 кастрычніка — 3 652 калгасы. Цяга сялян у калгасы ўсё ўзрастае. У заходніх абласцях БССР створаны машынна-трактарныя станцыі, якія маюць значны парк трактараў і сельскагаспадарчых машын.

За выдатныя поспехі ў сельскай гаспадарцы ў 1947 і 1948 гг. перадавым людзям Беларусі, якія дабіліся высокіх ураджаяў, было прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы, а многія ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі Савецкага Саюза.

Паспяховае аднаўленне прамысловасці і сельскай гаспадаркі, перавыкананне пасляваеннага пяцігадовага плана далі магчымасць узняць матэрыяльны і культурны ўзровень працоўных Беларускай ССР. Колькасць рабочых і служачых, занятых ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі БССР, павялічылася ў 1948 г. супроць 1945 г. больш чым у 1,5 раза. Фонды заработнай платы рабочых і служачых узраслі ў 1948 г., у параўнанні з 1945 г., больш чым у 2 разы. Сярэдняя гадавая заработная плата рабочых і служачых павялічылася ў тыя-ж гады амаль на 40%.

Паспяхова развіваецца навука, культура БССР. За пасляваенныя гады ў Беларусі было адноўлена і пабудавана 6 800 школьных будынкаў. У 1947—1948 навучальным годзе ў рэспубліцы працавала 11 788 школ, у якіх навучалася 1,5 мільёна дзяцей.

У 1948 г. у Беларусі ўжо працавала 27 вышэйшых і 110 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, 2 649 хат-чытален і дамоў культуры і многа іншых навучальных і культурна-асветных устаноў. Шырока разгарнула сваю дзейнасць

Акадэмія навук, у якой створан рад новых навукова-даследчых інстытутаў.

Беларускі народ дасягнуў вялікіх поспехаў у галіне развіцця навукі, культуры, соцыялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме. Аб гэтым ярка сведчыць дэкада беларускай літаратуры ў сталіцы нашай Радзімы—Маскве, якая закончылася 3 лютага 1949 г. Дэкада беларускай літаратуры, творчая справаздача тэатральных работнікаў, мастакоў, кампазітараў да 30-годдзя БССР з'явіліся паказчыкам вялікага ўздыму беларускай літаратуры і мастацтва.

XIX з'езд КП(б)Б у сваім рашэнні па справаздачы ЦК КП(б)Б адзначыў, што «ЦК КП(б)Б, на аснове рашэнняў ЦК ВКП(б) па ідэалагічных пытаннях і па справаздачы ЦК КП(б) Беларусі, ускрыў рад сур'ёзных памылак нацыяналістычнага парадку ў работах па гісторыі БССР, па гісторыі беларускай літаратуры, у школьных хрэстаматыях. Выкрыта антыленінская нацыяналістычная тэорыя «адзінага патоку» ў развіцці беларускага народа і яго культуры, а таксама нацыяналістычная тэорыя «залатога веку», які быццам-бы перажывала Беларусь у перыяд уладарніцтва літоўскіх і польскіх феадалаў, нацыяналістычныя выдумкі, нібы свет культуры прышоў у Беларусь з захаду. Партыйныя арганізацыі ўзначалілі выкрыццё бязроднага касмапалітызма і іншых праяўленняў нізкапаклонства перад капіталізмам і яго растленнай культурай»[1].

Ажыццяўляючы рашэнні і ўказанні ЦК ВКП(б) па ідэалагічных пытаннях, КП(б) Беларусі ўзняла на больш высокую ступень ідэалагічную работу ў масах, выхаванне іх у духу савецкага жыватворчага патрыятызма, у духу комунізма, забяспечыла далейшы ўздым беларускай культуры, літаратуры і мастацтва.

На юбілейнай сесіі Вярхоўнага Совета БССР у дзень 30-годдзя Совецкай Беларусі старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета Саюза ССР т. Н. М. Швернік гаварыў:

---

[1] «Рэзалюцыя XIX з'езда КП(б)Б па справаздачы ЦК КП(б)Б», Мінск, 1949 г., стар. 29—30.

«Беларускі народ за гады савецкай улады дабіўся велізарных поспехаў ва ўсіх галінах палітычнага, гаспадарчага і культурнага жыцця.

...Гэтыя дасягненні сталі магчымы дзякуючы перамозе савецкага ладу і паслядоўнаму ажыццяўленню прынцыпаў ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, у якой закладзены асновы маральна-палітычнага адзінства, братства і садружаства роўнаправных народаў, якія добраахвотна аб'ядналіся ў Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Сваімі поспехамі беларускі народ абавязан натхніцелю і арганізатару нашых перамог, чыё імя аднолькава дарага і блізка ўсім народам Савецкага Саюза, вялікаму генію чалавецтва таварышу Сталіну.

...Савецкая Беларусь, верная сваім рэвалюцыйным традыцыям, выхаваным бальшавіцкай партыяй, пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна пойдзе ўперад, да новых поспехаў, да перамогі камунізма» [1].

* * *

Беларускі народ ганарыцца тым, што пад вялікім усёпераможным сцягам Леніна—Сталіна, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі і любімага правадыра таварыша Сталіна ён прайшоў у брацкай сям'і народаў Савецкага Саюза слаўны, гераічны шлях гістарычнага развіцця і прыйшоў да перамогі сацыялізма. Беларускі народ ганарыцца тым, што ў брацкім садружастве народаў СССР ён даказаў на справе высокі савецкі патрыятызм, паказаў сваю здольнасць будаваць, умацоўваць і абараняць сваю сацыялістычную дзяржаву. Беларускі народ ганарыцца тым, што ў дні вялікіх выпрабаванняў, у жорсткай барацьбе народаў Савецкага Саюза супроць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ён цесна згуртаваўся вакол сцяга Леніна—Сталіна, вакол вялікага правадыра народаў таварыша Сталіна і разам з усімі народамі Савецкага Саюза прадэманстраваў сваё маральна-палітычнае адзінства, сваю гарачую любоў і адданасць сацыялістычнай Радзіме,

[1] «Правда» ад 2 лютага 1949 г.

большэвіцкай партыі, свайму бацьку, настаўніку і правадыру — вялікаму Сталіну.

Беларускі народ ніколі не забудзе, што ў Вялікай Айчыннай вайне Совецкага Саюза з нямецкімі захопнікамі Совецкая Беларусь была выратавана магутнай сілай Совецкай Арміі, кіруемай вялікім стратэгам і палкаводцам таварышам Сталіным, брацкай дапамогаю ўсіх народаў Совецкай Радзімы і, асабліва, вялікага рускага народа, які «заслужыў у гэтай вайне агульнае прызнанне, як кіруючай сілы Совецкага Саюза сярод усіх народаў нашай краіны» (Сталін).

Беларускі народ ведае і ніколі не забудзе, што паспяховым залечваннем цяжкіх ран, нанесеных яму нямецка-фашысцкімі інтэрвентамі, паспяховым пасляваенным аднаўленнем народнай гаспадаркі, новым пасляваенным развіццём эканомікі і культуры БССР ён абавязан велізарнай дапамозе, якую аказваюць яму народы Совецкага Саюза і, перш за ўсё, вялікі рускі народ, абавязан сталінскаму кіраўніцтву і дапамозе Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) і ўраду СССР, абавязан штодзённым бацькоўскім клопатам аб беларускім народзе любімага правадыра народаў таварыша Сталіна.

Беларускі народ прайшоў слаўны гістарычны шлях пад сцягам Леніна—Сталіна ў непарушным саюзе народаў вялікай Совецкай краіны.

Пад сцягам Леніна, пад вадзіцельствам Сталіна ў брацкім, непарушным саюзе з усімі народамі нашай Совецкай Радзімы беларускі народ упэўнена ідзе да ззяючых вяршынь комунізма.



1

## ДЭКЛАРАЦЫЯ ПРАВОЎ НАРОДАЎ РАСІІ

*15 (2) лістапада 1917 г.*

Кастрычніцкая рэвалюцыя рабочых і сялян пачалася пад агульным сцягам разняволення.

Разнявольваюцца сяляне ад улады памешчыкаў, бо няма больш памешчыцкай уласнасці на зямлю — яна ліквідавана. Разнявольваюцца салдаты і матросы ад улады самадзяржаўных генералаў, бо генералы з гэтага часу будуць выбарнымі і змяняемымі. Разнявольваюцца рабочыя ад капрызаў і самавольства капіталістаў, бо з гэтага часу будзе ўстаноўлен кантроль рабочых над заводамі і фабрыкамі. Усё жывое і жыццездольнае разнявольваецца ад ненавісных акоў.

Застаюцца толькі народы Расіі, якія цярпелі і церпяць гнёт і самавольства, да разняволення якіх павінна быць прыступлена неадкладна, вызваленне якіх павінна быць праведзена рашуча і беспаваротна.

У эпоху царызма народы Расіі сістэматычна нацкоўваліся адзін на аднаго. Вынікі такой палітыкі вядомы: разня і пагромы, з аднаго боку, рабства народаў — з другога.

Гэтай ганебнай палітыцы нацкоўвання няма і не павінна быць звароту. З гэтага часу яна павінна быць заменена палітыкай дабравольнага і чэснага саюза народаў Расіі.

У перыяд імперыялізма, пасля лютаўскай рэвалюцыі, калі ўлада перайшла ў рукі кадэцкай буржуазіі, непрыкрытая палітыка нацкоўвання ўступіла месца палітыцы баязлівага недавер'я да народаў Расіі, палітыцы прычэпак і правакацый, якая прыкрываецца слоўнымі заявамі аб «свабодзе» і «роў-

насці» народаў. Вынікі такой палітыкі вядомы: узмацненне нацыянальнай варожасці, падрыў узаемнага давер'я.

Гэтай недастойнай палітыцы ілжы і недавер'я, прычэпак і правакацый павінен быць пакладзен канец. З гэтага часу яна павінна быць заменена адкрытай і чэснай палітыкай, якая вядзе да поўнага ўзаемнага давер'я народаў Расіі.

Толькі ў выніку такога давер'я можа стварыцца чэсны і моцны саюз народаў Расіі.

Толькі ў выніку такога саюза могуць быць спаяны рабочыя і сяляне народаў Расіі ў адну рэвалюцыйную сілу, здольную ўстаяць супроць усякіх замахаў з боку імперыялісцка-анексіяніўскай буржуазіі.

З'езд Саветаў у чэрвені гэтага года абвясціў права народаў Расіі на свабоднае самавызначэнне.

Другі з'езд Саветаў у кастрычніку гэтага года пацвердзіў гэтае неад'емнае права народаў Расіі больш рашуча і акрэслена.

Выконваючы волю гэтых з'ездаў, Совет Народных Камісараў рашыў пакласці ў аснову сваёй дзейнасці па пытанню аб нацыянальнасцях Расіі наступныя пачаткі:

1) Роўнасць і суверэннасць народаў Расіі.

2) Права народаў Расіі на свабоднае самавызначэнне, аж да аддзялення і ўтварэння самастойнай дзяржавы.

3) Адмена ўсіх і ўсякіх нацыянальных і нацыянальна-рэлігійных прывілей і абмежаванняў.

4) Свабоднае развіццё нацыянальных меншасцей і этнаграфічных груп, насяляючых тэрыторыю Расіі.

Канкрэтныя дэкрэты, якія вынікаюць адсюль, будуць выпрацаваны неадкладна пасля канструявання камісіі па справах нацыянальнасцей.

Іменем Рэспублікі Расійскай

Старшыня Совета Народных Камісараў

В. Ульянаў-(Ленін).

Народны камісар па справах нацыянальнасцей

Іосіф Джугашвілі-Сталін.

*Першая Канстытуцыя Саюза ССР. (Зборнік дакументаў пад рэдакцыяй А. Я. Вышынскага, М., 1948 г., стар. 146 — 147.)*

2

# МАНІФЕСТ ЧАСОВАГА РЭВОЛЮЦЫЙНАГА РАБОЧА-СЯЛЯНСКАГА СОВЕЦКАГА ЎРАДА БЕЛАРУСІ

*г. Мінск, 1 студзеня 1919 г.*

Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

Таварышы і браты рабочыя, бедныя сяляне і чырвонаармейцы Беларусі!

Гарамычная, змучаная Беларусь, Беларусь рабочых і бедных сялян, увесь доўгі час свайго існавання служыўшая крыніцай узбагачэння польскага вяльможнага панства — памешчыкаў, зладзеяў-купцоў і ўсіх іншых багачоў-кровапіўцаў, а затым захопленая расійскім крывавым самадзяржаўем і розным чыноўніцтвам, адурманьваемая і ашукваемая з касцельных амвонаў ксяндзамі і з алтароў папамі, скаваная з ног да галавы ланцугамі няволі, цярпеўшая ўвесь час здзекі і глумленні і перажыўшая цяжкое ярмо нямецкай акупацыі, зараз вызваляецца ад спрадвечных пакут смелым націскам Чырвонай Арміі і далучаецца да новага, свабоднага жыцця, якое будуецца на асновах комунізма, на фундаменце міжнароднага еднання працоўных.

Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя ў Расіі, ператварыўшы ў разваліны паганае панаванне памешчыкаў, фабрыкантаў, ксяндзоў і папоў, — панаванне ашуканства, няволі і прыцясненняў, — заклала фундамент новага ладу жыцця, з уладаю

самога працоўнага народа і, пачаўшы з Расіі, яна запаліла сусветны агонь вызвалення працоўных ад уціску цароў і капіталістаў. Полымя гэтага агня з кожным днём і з кожнай гадзінай абдымае ўсё большыя прасторы, пераходзіць з адной краіны ў другую, гонячы прэч ад працоўных мас цемру невуцкага маўчання і пакорлівасці, абуджае свядомасць да паўстання супроць прыгнятальнікаў, заклікае да помсты і пагражае затапіць сабою ўсіх заклятых ворагаў свабоды і шчасця, ворагаў рэвалюцыі, расчысціць шырокі чырвоны шлях да панавання свабоднай працы, да панавання комунізма, да панавання брацкага еднання працоўных усяго свету.

Адчуваючы і бачачы сваю немінучую хуткую пагібель, ворагі Рэволюцыі, якая нясе рабочаму і беднаму сялянству — гэтым сапраўдным гаспадарам усяго жыцця на зямлі — поўную ўладу над гэтым жыццём, — мітусяцца і выбіваюцца з сіл, нібы страціўшыя розум, стараючыся, як мага, ашуканствамі і подкупамі сабраць вакол сябе сілы, абрушыцца на Рэволюцыю і задушыць яе грознае шэсце. Але дарэмны ўсе іх надзеі, дарэмны іх патугі. Магутны вал рэволюцыйных хваль, які разбурае рабства, знішчае ўсякую няволю і вызваляе працоўны народ, не сустрэне на шляху сваім ніякіх перашкод.

Рабочыя, сялянская беднота і чырвонаармейцы Беларусі!

Разбураючы будынак цяжкой няволі, асушаючы моры слёз і рэкі крыві, пралітай на шырокай прасторы гарамычнай Беларусі, разоранай жудаснай вайной, зацеянай царамі і багачамі з-за сваіх інтарэсаў і пагубіўшай дарэмна мільёны рабочых і сялян, — да вас ідзе, у праменнях сонца, з прывітальным заклікам, вызваленне, — вам нясе Рэволюцыя поўную ўладу і панаванне.

Сумесна з працоўнымі народамі Расіі, Літвы, Украіны і Латвіі, з сённешняга дня становіцеся і вы свабоднымі і поўнапраўнымі гаспадарамі свабоднай, незалежнай Беларускай Соцыялістычнай Совецкай Рэспублікі. З сённешняга дня Беларусь — Совецкая рэспубліка — становіцца рэспублікай працоўнага народа, рабочых, сялянскай беднаты і чырвонаармейцаў Беларусі.

Усе пасягаўшыя да сучаснага моманту на працоўную Беларусь буржуазныя здрадніцкія ўрады, урады прыгоннікаў-памешчыкаў, фабрыкантаў і купцоў, якія падтрымліваюцца здрадніцкім духавенствам, дзе-б іх улада яшчэ ні трымалася, ці будзе гэта паганая Рада, нямецкія акупацыйныя ўлады, польскія і украінскія захопнікі, — лічацца з гэтага часу звергнутымі і аб'яўляюцца з гэтага часу звергнутымі, неіснуючымі і аб'яўляюцца з усімі сваімі прыхільнікамі і аднадумцамі — злымі ворагамі вашымі і працоўных усяго свету, заслугоўваючымі бязлітаснай рэволюцыйнай кары.

**Уставайце ўсе на абарону Социялістычнай Совецкай Працоўнай Рэспублікі Беларусі, уставайце!**

Няхай з усходу на захад і з поўначы на поўдзень прагучыць гэты прызыўны заклік па ўсёй прасторы Беларусі і падыме ўсіх да аднаго пролетарыяў і бедных сялян стаць пад чырвоны сцяг сусветнай Рэволюцыі, каб аб вашы загартаваныя рады ўшчэнт разбіліся ўсе атакі цёмных сіл ворагаў Рэволюцыі і беднага працоўнага народа. Хутчэй-жа на барацьбу, каб не засціглі вас у бесклапотным спакоі ўсе, якія рыхтуюцца да нападу на Совецкую Беларусь, чорныя банды польскіх легіянераў і пятлюраўскіх «самасційнікаў», а следам за імі ідучыя белагвардзейскія слугі саюзніцкага імперыялізма.

Да барацьбы! Да барацьбы! Да барацьбы!

Іменем вякамі цярпеўшай няволю, рабства і здзекі Беларусі, а зараз вольнай Совецкай Беларускай Рэспублікі, іменем Чырвонай Арміі, іменем Социяльнай Рэволюцыі і Сусветнага Міжнароднага социялізма, мы, часовы Рабоча-Сялянскі Урад Беларускай Совецкай незалежнай Рэспублікі, пастаўленыя на пасты рашэннем апошняй Канферэнцыі Комуністычнай Партыі і воляй Советаў Беларусі, аб'яўляем перад усім светам:

1) З гэтага часу ўся ўлада на Беларусі належыць толькі Советам Рабочых, Сялянскіх, Батрацкіх і Чырвонаармейскіх Дэпутатаў.

2) Улада нямецкіх, польскіх і украінскіх акупантаў, якая

яшчэ захавалася дзе-б то ні было на Беларусі, з гэтага часу лічыцца ліквідаванай.

3) Здрадніцкая буржуазная Беларуская Рада, з яе, так званымі, «народнымі міністрамі», аб'яўляецца па-за законам.

4) Усе законы, дагаворы, пастановы, загады і распараджэнні як Рады і яе слуг, так роўна і нямецкіх, польскіх і украінскіх акупацыйных улад, лічацца несапраўднымі; загады-ж і распараджэнні нямецкіх улад, якія датычаць парадку ўходу нямецкіх салдат з Беларусі, застаюцца ў сіле.

5) З гэтага часу ўстанаўліваецца на Беларусі рэвалюцыйны парадак, усе контррэвалюцыйныя выступленні, а роўна і спробы зрабіць пагромы, грабяжы і насіллі, будуць бязлітасна карацца па ўсёй строгасці рэвалюцыйных законаў.

6) Рабочыя, сяляне і наогул працоўныя ўсіх нацыянальнасцей, якія жывуць на Беларусі, карыстаюцца роўнымі правамі і знаходзяцца пад абаронай рэвалюцыйных законаў.

7) Уся зямля памешчыкаў і буйных землеўладальнікаў, манастыроў, цэркваў, касцёлаў і духавенства з усім жывым і мёртвым інвентаром, а таксама ўсе лясы, воды і недры зямлі становяцца здабыткам працоўных народаў Беларусі.

8) Усе чыгункі, шляхі зносін, паштовыя, тэлеграфныя і тэлефонныя сеткі, фабрыкі, заводы і банкі аб'яўляюцца здабыткам працоўнага народа Беларусі.

9) Мясцовыя Советы абавязаны аберагаць народны здабытак ад раскрадання і псавання, прыцягваючы вінаватых да адказнасці.

10) Устанаўліваецца васьмігадзінны рабочы дзень, без звышурочных гадзін работы, і адначасова ўваходзяць у сілу ўсе дэкрэты **Расійскай Социялістычнай Федэратыўнай Совецкай Рэспублікі па забеспячэнню рабочага класа.**

Чырвонай Арміі, Рабочым і Сялянскай беднаце Беларусі **мы, часовы Рабоча-Сялянскі Урад Беларускай Совецкай незалежнай Рэспублікі,** уручаем абарону ўсіх гэтых вялікіх заваяванняў Социяльнай Рэвалюцыі. Ён напамінае ўсім працоўным, што, абараняючы Совецкую Беларусь, яны абара-

няюць Совецкую Расію, абараняюць Сусветную Рэволюцыю, інтарэсы працоўнага народа і светлае таржаство сусветнага социялізма.

Няхай жыве вызваленая працоўная Беларусь!

Няхай жыве Совецкая Расія!

Няхай жыве Сусветная Рабочая Рэволюцыя!

*(«Жизнь национальностей» № 1 ад 5 студзеня 1919 г.)*

3

# АБ ПРЫЗНАННІ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ СОВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

(ПАСТАНОВА ПРЭЗІДЫУМА УСЕРАСІЙСКАГА ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТА)

*(Вытрымка)*

Прэзідыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта вітае працоўныя масы Беларусі, вызваленне якой ад заняцця ўзброенымі сіламі імперыялістычных заваявальнікаў ужо амаль завершана.

Зыходзячы з прынцыпа поўнага і сапраўднага самавызначэння працоўных мас усіх краін, Прэзідыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта прызнае незалежнасць Беларускай Социялістычнай Совецкай Рэспублікі.

Прэзідыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта яшчэ раз пацвярджае, што факт прыналежнасці Беларусі, як і іншых знаходзячыхся ў тым-жа становішчы краін, да старой царскай імперыі не накладвае на яе ніякіх абавязацельстваў, выказваючы пры гэтым цвёрдую ўпэўненасць, што толькі цяпер, на глебе прызнання поўнай свабоды самавызначэння і пераходу ўлады ў рукі рабочага класа, ствараецца дабравольны і непарушны саюз працоўных усіх нацый, насяляючых тэрыторыю былой Расійскай Імперыі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прэзідыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта заяўляе аб гатоўнасці РСФСР аказаць усялякую дапамогу і падтрымку працоўным масам Беларусі ў іх барацьбе супроць панавання эксплаатацыі і прыгнечання і ў абароне іх свабоды і незалежнасці ад спроб іншаземных заваяванняў.

*(«Известия Всероссийского Центрального Исполнительного Комитета Советов» № 26 ад 5 лютага 1919 г.)*

4

# АБ УСТАНАЎЛЕННІ ЦЕСНАЙ ФЕДЭРАТЫЎНАЙ СУВЯЗІ ПАМІЖ СОВЕЦКАЙ БЕЛАРУССЮ І РСФСР

## (ДЭКЛАРАЦЫЯ 1-га БЕЛАРУСКАГА З'ЕЗДА СОВЕТАЎ)

*(Вытрымка)*

*3 лютага 1919 г.*

Рабочыя, сяляне, батракі і ўсе працоўныя Беларусі, скінуўшы з сябе панаванне беларускіх памешчыкаў і кулакоў буржуазнай беларускай рады, вуснамі сваёй кіраўніцы — беларускай комуністычнай партыі — абвясцілі социялістычную совецкую рэспубліку, каб выявіць перад усім светам непахісную волю рабоча-сялянскай Беларусі, накіраваную на канчатковае знішчэнне панавання капітала і для ўстанаўлення соцыялістычнага ладу. Рабочыя і сяляне Беларусі ў той-жа час усведамляюць, што яны з'яўляюцца адным з атрадаў вялікапролетарскай арміі, што без цеснага саюза з рабочымі і сялянамі ўсіх совецкіх краін ім не закончыць будаўніцтва новага, свабоднага жыцця, не завяршыць пачатых соцыялістычных пераўтварэнняў. Самавызначыўшаяся (на) развалінах прыгонніцкай царскай Расіі Совецкая Беларусь прызнае неабходнасць устанаўлення цесных эканамічных і палітычных сувязей са сваім старэйшым братам—Расійскай Совецкай Рэспублікай, якая аказала Беларускай Рэспубліцы істотную дапамогу пры аднаўленні яе разбуранай гаспадаркі. Асноўваючыся на гэтай волі мільёнаў беларускіх працаўнікоў, першы ўсебеларускі з'езд советаў свабодна пастанаўляе: «Пачаць перагаворы з

Расійскай Совецкай Рэспублікай па ўстанаўленню федэратыўнай сувязі паміж ёю і совецкай Беларуссю і выбраць для гэтай мэты камісію, адказную перад выдзеленым з'ездам органам улады. Улічваючы разам з тым цесную сувязь і залежнасць, якая існуе паміж рабочымі і сялянамі ўсіх частак былой Расійскай імперыі, з'езд мяркуе, што толькі свабодны дабравольны саюз працоўных усіх зараз незалежных совецкіх рэспублік забяспечыць перамогу рабочых і сялян у іх барацьбе з усім астатнім капіталістычным светам. Таму з'езд звяртаецца да ўсіх брацкіх незалежных соцыялістычных рэспублік з прапановай паследаваць прыкладу рабочых і сялян Беларусі, прыступіць да перагавораў аб устанаўленні федэратыўнай сувязі паміж Совецкай Расіяй і паміж сабой. Толькі з'еднаўшыся і згуртаваўшыся ў адну працоўную сям'ю, рабочыя і сяляне ўсіх краін, дзе перамагла пралетарская рэволюцыя, здолеюць пранесці соцыялістычны сцяг праз усю Еўропу і сальюцца ў адзіным совецкім саюзе з рабочымі і сялянамі — працаўнікамі ўсяго свету.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

*(«Жизнь национальностей» № 5 ад 16 лютага 1919 г.)*

5

# КАНСТЫТУЦЫЯ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ СОВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСІ

*(Прынята І З'ездам Советаў БССР)*

ДЭКЛАРАЦЫЯ ПРАВОЎ ПРАЦОЎНАГА І ЭКСПЛААТУЕМАГА (НАРОДА) БЕЛАРУСІ

*3 лютага 1919 г.*

1. Беларусь аб'яўляецца Рэспублікай Советаў Рабочых, Салдацкіх і Сялянскіх Дэпутатаў. Уся ўлада ў цэнтры і на месцах належыць гэтым Советам.

2. Ставячы сваёй асноўнай задачай знішчэнне ўсякай эксплаатацыі чалавека чалавекам, поўную ліквідацыю падзелу грамадства на класы, бязлітаснае падаўленне эксплаатататараў, устанаўленне соцыялістычнай арганізацыі грамадства і перамогу соцыялізма ва ўсіх краінах, 1-ы З'езд Советаў Р., С. і Чыр. Дэп. Беларусі пастанаўляе далей:

а) Прыватная ўласнасць на зямлю адмяняецца і ўвесь зямельны фонд аб'яўляецца агульнадзяржаўным здабыткам.

б) Усе лясы, недры і воды, а роўна і ўвесь жывы і мёртвы інвентар, узорныя памесці і сельскагаспадарчыя прадпрыемствы аб'яўляюцца нацыянальным здабыткам.

в) У мэтах знішчэння паразітычных слаёў грамадства і арганізацыі гаспадаркі, уводзіцца ўсеагульная працоўная павіннасць.

г) У інтарэсах забеспячэння ўсёй паўнаты ўлады за працоўнымі масамі і ліквідацыі ўсякай магчымасці аднаўлення

ўлады эксплаататараў, дэкрэтуецца узбраенне працоўных, утварэнне соцыялістычнай Чырвонай арміі рабочых і сялян і поўнае раззбраенне маёмных класаў.

3. 1-ы З'езд Советаў Р., С. і Чыр. Дэп. Беларусі мяркуе, што цяпер, у момант рашучай барацьбы пролетарыята з яго эксплаататарамі, эксплаататарам не можа быць месца ні ў адным з органаў улады. Улада павінна належаць цалкам і выключна працоўным масам і іх паўнамоцнаму прадстаўніку — Советам Рабочых, Салдацкіх і Сялянскіх Дэпутатаў.

### *РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ*

## АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ КАНСТЫТУЦЫІ

4. Асноўная задача разлічанай на гэты пераходны момант Канстытуцыі Соцыялістычнай Совецкай Рэспублікі Беларусі заключаецца ва ўстанаўленні дыктатуры гарадскога і сельскага пролетарыята і бяднейшага сялянства ў выглядзе магутнай Совецкай улады ў мэтах поўнага падаўлення буржуазіі, знішчэння эксплаатацыі чалавека чалавекам і ўстанаўлення соцыялізма, пры якім не будзе ні падзелу на класы, ні дзяржаўнай улады.

5. Рэспубліка Беларусі ёсць свабоднае Соцыялістычнае грамадства ўсіх працоўных Беларусі. Уся ўлада ў межах Соцыялістычнай Совецкай Рэспублікі Беларусі належыць усяму рабочаму насельніцтву краіны, аб'еднанаму ў гарадскіх і сельскіх Советах.

6. Вярхоўная ўлада ў Соцыялістычнай Совецкай Рэспублікі Беларусі належыць З'езду Советаў Беларусі, а (у) перыяд паміж з'ездамі — Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту.

7. У мэтах забеспячэння за працоўнымі сапраўднай свабоды сумлення, царква аддзяляецца ад дзяржавы і школа ад царквы, а свабода рэлігійнай і антырэлігійнай прапаганды прызнаецца за ўсімі грамадзянамі.

8. У мэтах забеспячэння за працоўнымі сапраўднай свабоды выражэння сваіх думак, Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка Беларусі знішчае залежнасць друку ад капітала і

прадастаўляе ў рукі рабочага класа і сялянскай беднаты ўсе тэхнічныя і матэрыяльныя сродкі да выдання газет, брашур, кніг і ўсякіх іншых твораў друку і забяспечвае іх свабоднае распаўсюджанне па ўсёй краіне.

9. У мэтах забеспячэння за працоўнымі сапраўднай свабоды сходаў, С.С.Р.Б., прызнаючы права грамадзян Савецкай Рэспублікі свабодна наладжваць сходы, мітынгі, шэсці і т. п., прадастаўляе ў распараджэнне рабочага класа і сялянскай беднаты ўсе прыгодныя для наладжання народных сходаў памяшканні з абсталяваннем, асвятленнем і ацяпленнем.

10. У мэтах забеспячэння за працоўнымі сапраўднай свабоды саюзаў, С.С.Р.Б., зламаўшы эканамічную і палітычную ўладу маёмных класаў і гэтым ліквідаваўшы ўсе перашкоды, якія да гэтага часу перашкаджалі ў буржуазным грамадстве рабочым і сялянам карыстацца свабодай арганізацыі і дзеяння — аказвае рабочым і бяднейшым сялянам ўсялякае садзеянне, матэрыяльнае і іншае, для іх аб'еднання ў арганізацыі.

11. У мэтах забеспячэння за працоўнымі сапраўднага доступу да ведаў, С.С.Р.Б. ставіць сваёй задачай прадаставіць рабочым і бяднейшым сялянам поўную і ўсебаковую бясплатную асвету.

12. С.С.Р.Б. прызнае працу абавязкам усіх грамадзян Рэспублікі і абвяшчае лозунг: «Не працуючы ды не есць».

13. У мэтах усямернай аховы заваяванняў вялікай Рабоча-Сялянскай Рэвалюцыі, С.С.Р.Б. прызнае абавязкам усіх грамадзян Рэспублікі абарону Соцыялістычнай айчыны і ўстанаўлівае ўсеагульную воінскую павіннасць. Пачэснае права абараняць рэвалюцыю са зброяй у руках прадастаўляецца толькі працоўным, на непрацоўныя-ж элементы ўскладаецца выкананне іншых ваенных абавязкаў.

14. С.С.Р.Б. прадастаўляе права прытулку ўсім іншаземцам, якія падвяргаюцца праследаванню за палітычныя і рэлігійныя злачынствы.

15. С.С.Р.Б., прызнаючы роўныя правы за грамадзянамі незалежна ад іх расавай і нацыянальнай прыналежнасці, аб'яў-

ляе супярэчачым асноўным законам Рэспублікі ўстанаўленне[1] або допушчэнне якіх-небудзь прывілей або пераваг на гэтай падставе, а роўна якое-б то ні было прыгнечанне нацыянальных меншасцей або абмежаванне іх роўнапраўя.

16. Кіруючыся інтарэсамі рабочага класа ў цэлым, С.С.Р.Б. пазбаўляе асобных людзей і асобныя групы правоў, якія скарыстоўваюцца імі на шкоду інтарэсам соцыялістычнай рэвалюцыі.

*РАЗДЗЕЛ ДРУГІ*

## КАНСТРУКЦЫЯ СОВЕЦКАЙ УЛАДЫ

Аб З'ездзе Советаў Рабочых, Сялянскіх і Чырвонаармейскіх Дэпутатаў Беларусі.

17. З'езд Советаў Беларусі з'яўляецца вышэйшай уладай Рэспублікі.

18. З'езд Советаў Беларусі склікаецца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам не радзей двух разоў у год.

19. Надзвычайны З'езд Советаў Беларусі склікаецца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам па ўласнаму пачыну або па патрабаванню Советаў мясцовасцей, якія налічваюць не менш адной трэці ўсяго насельніцтва Рэспублікі.

20. З'езд Советаў выбірае Ц.В.К.Б. у ліку не вышэй 50 чалавек.

21. Ц.В.К. Беларусі цалкам адказны перад З'ездам Советаў Беларусі.

22. У перыяд паміж З'ездамі вышэйшай уладай Рэспублікі з'яўляецца Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларусі.

Аб Цэнтральным Выканаўчым Камітэце.

23. Ц.В.К. Беларусі з'яўляецца вышэйшым законадаўчым, распарадчым і кантралюючым органам С.С.Р.Б.

24. Ц.В.К. дае агульны напрамак дзейнасці рабоча-сялянскага ўрада і ўсіх органаў Совецкай улады ў краіне, аб'ядноўвае і ўзгадняе работы па законадаўству і кіраванню і назірае за правядзеннем у жыццё Совецкай канстытуцыі, пастаноў

[1] У дакуменце: «устаноўленыя».

З'ездаў Советаў Беларусі і цэнтральных органаў Совецкай улады.

25. Ц.В.К. разглядае і зацвярджае праекты дэкрэтаў і іншыя прапановы, якія ўносяцца асобнымі ведамствамі, а таксама выдае ўласныя дэкрэты і распараджэнні.

26. Ц.В.К. склікае З'езд Советаў Беларусі, якому прадстаўляе справаздачу аб сваёй дзейнасці і даклады па агульнай палітыцы і асобных пытаннях.

Прэзідыумы Ц.В.К.

27. Ц.В.К. утварае малы і вялікі Прэзідыумы для агульнага кіравання справамі С.С.Р.Б. і для кіраўніцтва асобнымі галінамі кіравання.

28. Малы Прэзідыум з'яўляецца адзіным і агульным для гэтых двух органаў.

29. Вялікаму Прэзідыуму Ц.В.К. належыць агульнае кіраванне справамі С.С.Р.Б.

30. У ажыццяўленне гэтай задачы Вялікі Прэзідыум Ц.В.К. выдае дэкрэты, распараджэнні, інструкцыі і наогул прымае ўсе меры, неабходныя для правільнага і хуткага цячэння дзяржаўнага жыцця.

*РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ*

## АБ ГЕРБЕ І ФЛАГУ

31. Герб С.С.Р.Б. складаецца з ізабражэнняў на чырвоным фоне ў праменнях сонца залатых сярпа і молата, змешчаных крыж-на-крыж рукаяткамі данізу, акружаных вянком з калоссяў і з надпісам:

а) Соцыялістычная Совецкая Рэспубліка Беларусі.

б) Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

32. Гандлёвы і ваенны флаг С.С.Р.Б. складаецца з палотнішча чырвонага (алага) колеру, у левым вуглу якога ля дрэўка наверсе змешчаны залатыя літары С.С.Р.Б. або надпіс: Соцыялістычная Совецкая Рэспубліка Беларусі.

*(«Известия Центрального Исполнительного Комитета Советов Рабочих, Крестьянских и Красноармейских Депутатов Белоруссии» № 6 ад 10 лютага 1919 г.)*

6

# ДЭКЛАРАЦЫЯ АБ АБВЯШЧЭННІ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСІ

*(Прынята партыйнымі і профсаюзнымі арганізацыямі Беларусі)*

*1 жнійня 1920 г.*

*(Вытрымкі)*

Спакутаваная, змучаная Беларусь, краіна беларускіх, рускіх, польскіх і яўрэйскіх рабочых і сялян, пры дапамозе доблеснай Расійскай Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі завяршае справу свайго вызвалення. Чырвоныя войскі, разбіваючы апошнія астаткі шляхецкіх армій, падыходзяць да заходніх этнаграфічных граніц Беларусі. Рабоча-сялянскі народ Беларусі зараз можа свабодна праявіць сваю волю і сам вызначыць свой лёс, формы свайго далейшага існавання і свае ўзаемаадносіны з суседзямі.

Арганізаваны рабочы клас і працоўнае сялянства Беларусі,... асноўваючыся на волі працоўных мас, праяўленай на першым з'ездзе Советаў Беларусі ў лютым 1919 года ў радзе рэзалюцый і пастаноў павятовых совецкіх з'ездаў і з'ездаў рабочых і сялянскіх партый, у поўнай згодзе з Чырвонай арміяй і Рэволюцыйным Ваенным Советам Заходняга фронта іменем паўстаўшых рабочых і сялян абвяшчаюць незалежную Соцыялістычную Совецкую Рэспубліку Беларусі.

Іменем працоўнага сялянства і рабочых мас комуністычныя і рэволюцыйна-соцыялістычныя рабоча-сялянскія арганізацыі Беларусі аб'яўляюць:

Што ўсе законы і пастановы польскай акупацыйнай улады аб аднаўленні прыватнай уласнасці ў Беларусі адмяняюцца.

Асноўныя палажэнні аб арганізацыі народнагаспадарчага жыцця, абвешчаныя 1-га студзеня 1919 г.[1] у маніфесце часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі, аднаўляюцца ў поўнай меры.

Яшчэ раз пацвярджаецца, што права прыватнай уласнасці на зямлю адмяняецца назаўсёды. Права карыстання зямлёй атрымліваюць усе грамадзяне (без адрознення полу), якія жадаюць апрацоўваць яе сваёй працай пры дапамозе сваёй сям'і або ў таварыстве, і толькі да таго часу, пакуль яны ў сілах яе апрацоўваць.

Усе народныя багацці пераходзяць у рукі дзяржаўных органаў рабоча-сялянскага народа.

У мэтах агараджэння гарадскога пролетарыята ў С.С.Р.Б. уводзіцца дзяржаўная хлебная манаполія, арганізуецца дзяржаўнае забеспячэнне ўсяго працоўнага насельніцтва ўсімі прадметамі першай неабходнасці, устанаўліваецца ўсебаковае соцыяльнае забеспячэнне працоўных і поўная ахова іх працы.

Рабоча-сялянскія арганізацыі Беларусі, іменем паўстаўшых працоўных мас, аб'яўляюць Беларускую «найвышэйшую раду» і ўсе белагвардзейскія буржуазна-памешчыцкія ўрады Беларусі скінутымі і падлягаючымі суду рабоча-сялянскага народа; усе ўрадавыя і класавыя буржуазна-памешчыцкія ўстановы польскай акупацыйнай улады падлягаючымі неадкладнаму затрыманню і адданню суду ваенна-рэволюцыйнага трыбунала.

Адначасова рабоча-сялянскія арганізацыі Беларусі заяўляюць:

Соцыялістычная Совецкая Рэспубліка Беларусі вызначае сваю заходнюю граніцу па этнаграфічнай граніцы паміж Бе-

[1] У дакуменце яўна памылкова «1920 г.»

ларуссю і прымыкаючымі да яе буржуазнымі дзяржавамі. Граніца Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі[1] Беларусі з Савецкай Расіяй і Украінай вызначаецца свабодным выражэннем волі Беларускага народа на павятовых і губернскіх з'ездах Советаў у поўнай згодзе з урадам Р.С.Ф.С.Р. і С.С.Р.У.

Соцыялістычная Совецкая Рэспубліка Беларусі будуецца на прынцыпах бязлітаснай дыктатуры пролетарыята і скарыстання ўсяго вопыту Совецкай Расіі.

Соцыялістычная Совецкая Рэспубліка Беларусі, знаходзячыся ва ўзаемаадносінах з Совецкай Расіяй, як роўная з роўнай, перадае на ўвесь час Рэволюцыйных войн усе свае ўзброеныя сілы ў распараджэнне адзінага камандавання ўзброеных сіл усіх Совецкіх Рэспублік, а таксама заяўляе, што ўсе дыпламатычныя выступленні С.С.Р.Б. будуць узгоднены з выступленнямі Р.С.Ф.С.Р. і будуць мець на ўвазе агульныя інтарэсы ўсіх Совецкіх рэспублік, пабудаваных на прынцыпах дыктатуры пролетарыята.

Соцыялістычная Совецкая Рэспубліка Беларусі, якая знаходзілася на працягу доўгага часу ў цеснай сувязі з Расіяй, павінна неадкладна прыступіць да ўстанаўлення адзінага гаспадарчага плана з Р.С.Ф.С.Р. і іншымі ўжо ўзнікшымі і могучымі ўзнікнуць Совецкімі Рэспублікамі.

Соцыялістычная Совецкая Рэспубліка Беларусі будзе будаваць сваё жыццё на асновах уцягнення ў совецкае будаўніцтва самых шырокіх працоўных мас, да якой-бы нацыянальнасці і вераспаведання яны ні належалі.

Устанаўліваецца поўнае роўнапраўе моваў (беларускай, рускай, польскай і яўрэйскай) у зносінах з дзяржаўнымі ўстановамі і ў арганізацыях і ўстановах народнай асветы і соцыялістычнай культуры.

Палітычныя і прафесіянальныя арганізацыі, якія аб'едналіся вакол сцяга С.С.Р.Б., у поўнай згодзе з Чырвонай арміяй і Рэволюцыйным Ваенным Советам Заходняга фронта аб'яўляюць, што аж да склікання свабодна выбранага З'езда Советаў Рабочых і Чырвонаармейскіх Дэпутатаў Беларусі ўся

[1] У дакуменце: «Граніца ў Соцыялістычнай Совецкай Рэспубліцы».

паўната ўлады ў С.С.Р.Б. належыць Ваенна-Рэвалюцыйнаму Камітэту.

Арганізацыі, якія аб'ядналіся вакол сцяга Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі Беларусі, заклікаюць усіх свядомых і сумленных грамадзян Беларусі напружыць усе свае намаганні для таго, каб узняць культурны ўзровень нашай краіны, наладзіць гаспадарку і пабеданосна закончыць вайну з вечнымі ворагамі працоўнай Беларусі — польскімі шляхцічамі.

Няхай жыве Совецкая Соцыялістычная Беларусь!
Няхай жыве Федэрацыя Совецкіх Рэспублік!
Няхай жыве сусветная рэволюцыя!

*(Першая Канстытуцыя Саюза ССР. Зб. дакументаў пад рэдакцыяй А. Я. Вышынскага, 1948 г., стар. 199—201.)*

7

# ДА ПРАЦОЎНАГА НАРОДА БЕЛАРУСІ!

*(Ад 2-га з'езда Советаў рабочых, сялянскіх, батрацкіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў Соцыялістычнай Совецкай Рэспублікі Беларусі)*

*14 кастрычніка 1920 г.*

Браты рабочыя, батракі і чырвонаармейцы! Браты сяляне! Змучаная, спакутаваная Беларусь!

Пасля доўгіх пакут, неймаверных ахвяр, пасля цяжкіх выпрабаванняў пад ярмом сваіх уласных і іншаплямённых памешчыкаў і капіталістаў, пасля кровапралітных бітваў, разбурыўшых агнём і мечам дзесяткі і сотні сёл і вёсак, у якіх ляглі тысячы вярнейшых, адданейшых сыноў працоўнага народа Беларусі,—сабраўся 2-і з'езд Советаў рабочых, сялянскіх, батрацкіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў Соцыялістычнай Совецкай Рэспублікі Беларусі, выбраны воляй усяго працоўнага народа, праяўленай на тысячы сельскіх сходаў, валасных, павятовых з'ездаў,—сабраўся для таго, каб замацаваць незалежнае існаванне нашай краіны, для таго, каб яшчэ раз заявіць волю працоўнай Беларусі жыць без памешчыкаў і капіталістаў, без прыгнятальнікаў і прыцясняльнікаў, жыць вольным працоўным жыццём вольнага працоўнага народа, сабраўся для таго, каб заявіць гэта ўсім, хто яшчэ працягвае рукі да нашай краіны, усім, хто яшчэ асмельваецца пасягаць на нашу незалежнасць. Такая нязменная воля працоўных Беларусі.

Браты рабочыя, батракі і чырвонаармейцы! Браты сяляне!

Прайшло два гады з таго часу, як вы, усвядоміўшы сваю сілу, сваю магутнасць і сваё права на вольнае жыццё ў рабоча-сялянскай дзяржаве, прагналі з Беларусі нямецкіх акупантаў і заявілі ў Маніфесце свайго часовата рабоча-сялянскага ўрада, што змучаная, спакутаваная Беларусь, якая доўгія гады служыла крыніцай, адкуль чэрпалі сваё багацце дармаеды памешчыкі, жывадзёры купцы і ўсе багачы кровапіўцы, захопленая Расійскім крывавым самадзяржаўем з яго генераламі і чыноўнікамі, адурманьваемая і адурачваемая з амвонаў, алтароў ксяндзамі і папамі, з галавы да ног скаваная ланцугамі няволі, цярпеўшая ўвесь час здзекі і глумленні, атрымлівае магчымасць новага вольнага жыцця, будаўніцтва на асновах комунізма і міжнароднага еднання працоўных мас. Але гэтая воля працоўных мас Беларусі была нарушана новым наступленнем памешчыкаў і капіталістаў і новай акупацыяй, прынёсшым працоўным Беларусі новае рабства, горшае, чым папярэдняе, і патрабаваўшым ад яе рабочых і сялян новых крывавых ахвяр, панесеных на палях бою і ў польскіх жандармскіх засценках.

Але працоўная Беларусь з тераічнай стойкасцю перанесла гэтыя пакуты і, не гледзячы на ўсе перашкоды, цвёрда і рашуча заяўляла сваю волю за Совецкую Соцыялістычную Беларусь. Яе воля адна і нязменна. І як толькі перамога Чырвонай Арміі вызваліла сталіцу Беларусі ад польскіх акупантаў, воляй працоўных мас быў адноўлен рабоча-сялянскі ўрад Беларусі ў асобе часовага Ваенна-Рэволюцыйнага Камітэта Рэспублікі, які давёў краіну, не гледзячы на новыя крывавыя выпрабаванні, да з'езда Советаў рабоча-сялянскіх, батрацкіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, якому і перадаў паўнату ўсёй улады ў Рэспубліцы.

Браты рабочыя! Браты сяляне!

Ваша воля заўсёды адна—жыць вольным, незалежным жыццём вольнай Совецкай Рэспублікі. За вамі цяжкія гады выпрабаванняў і ахвяр, за вамі доўгі пакутлівы шлях,—і тым больш цяпер неабходна дружнае згуртаванне ўсіх працоўных

мас вакол свайго з'езда і вакол тых органаў улады, якія ён выдзеліць.

Мы, упаўнаважаныя вамі ажыццявіць вышэйшую ўладу ў Рэспубліцы, заяўляем, што працоўны народ у Беларусі гатоў яшчэ і яшчэ на ахвяры і пакуты, каб толькі жыла і існавала совецкая ўлада, каб толькі жыла і існавала незалежная Соцыялістычная Совецкая Беларусь. Вы гэтае ваша і наша абяцанне выканаеце да канца. Ні адна заява нашага з'езда не ёсць проста слова, за кожным з нашых слоў павінна паследаваць справа, бо за рашэннямі нашага з'езда ёсць воля ўсяго працоўнага народа, воля яго мазалістых рук.

Браты чырвонаармейцы,—сыны працоўнай Беларусі, якія вызвалілі нашу краіну ад памешчыкаў і капіталістаў і цвёрда стаяць на варце яе волі і незалежнасці, верают і праўдаю абараняюць наша права на комуністычнае будаўніцтва. Вайна закончана, і ўся краіна з цвёрдай упэўненасцю лічыць, што сумесна з дружаственнымі саюзнымі рэспублікамі Расіі і Украіны, хоць-бы і шляхам цяжкіх ахвяр і ўступак, яна даб'ецца моцнага міру. Перад намі стаяць важныя і адказныя задачы на фронце працы, дзе неабходны ёсць Вашы арганізаваныя сілы для барацьбы за аднаўленне вашай народнай гаспадаркі, але да тых з вас, якія павінны быць і надалей на вартавых пастах Рэспублікі, да вас звяртаецца працоўны народ Беларусі з заклікам стойка і бадзёра стаяць на Вашых пастах. Не забудзьце, што вы—абаронцы Совецкай Соцыялістычнай Беларусі.

Браты сяляне і батракі!

Вашы гаспадаркі разбураны, вашы палі растаптаны праходзячымі арміямі. Неабходны гераічныя намаганні для таго, каб аднавіць вашы гаспадаркі, каб падняць вытворчасць хлеба, які неабходзен як вам, так і згаладаўшымся рабочым нашых гарадоў. Падняць нашу сельскагаспадарчую культуру, павялічыць ураджайнасць вашых палёў — вось задача, якую на вас ускладае краіна. І гэтую задачу вы выканаеце толькі тады, калі вы дружна, як адзін чалавек, у брацкім еднанні, у комуністычным супрацоўніцтве, возьмецеся за справу. Да

комуністычнага супрацоўніцтва па падняццю Вашай гаспадаркі Вас заклікае з'езд.

Браты рабочыя! Пакажыце Ваша геройства на фронце працы, пакажыце Вашу доблесць у справе арганізацыі вашай вытворчасці. Няхай жыве і завершыцца жыццё на нашых фабрыках і прадпрыемствах, падвоіцца колькасць багаццяў, ствараемых свабодным народам для самога сябе.

Браты работнікі культуры і асветы!

Совецкая рэспубліка дасць Вам самую шырокую магчымасць для вашай творчасці. Стварайце, тварыце новую соцыялістычную культуру, навуку і мастацтва нашай Рэспублікі.

Браты Беларусі, яўрэі, рускія і палякі!

Вы роўныя ў совецкай рэспубліцы, і кожны народ у брацкім еднанні з усімі іншымі атрымлівае права тварыць сваё жыццё так, як гэта ў інтарэсах яго працоўных мас.

Працоўныя Беларусі!

У брацкім саюзе і таварыскім еднанні ваша сіла і магутнасць, гарантыя вашага развіцця і незалежнасці.

Няхай яшчэ выскаляюць зубы на нашу вольную краіну выгнаныя памешчыкі і капіталісты, якія хаваюцца па чужых краінах, няхай яшчэ наладжваюць інтрыгі супроць нашай волі наёмнікі англа-французскага капітала, які прыкрываецца флагамі нацыяналізма і дэмакратыі,—працоўныя масы Беларусі ведаюць цану іх дэмакратызму і іх ілжывым абяцанням, працоўныя масы Беларусі ведаюць, што гэта злейшыя іх ворагі. Працоўныя масы Беларусі ведаюць, што іх адзіны друг—гэта рабоча-сялянскі народ дружаственных ёй Совецкіх Рэспублік і разам з імі сялянская рабочая Беларусь дасягне перамогі.

Няхай жыве поўнае еднанне працоўных Беларусі!

Смерць усім ворагам Беларусі, смерць усім здраднікам—агентам контррэволюцыі!

*(«Звезда» № 99(670) ад 15 снежня 1920 г.)*

8

## ПРЫВІТАННЕ З'ЕЗДА ЦЭНТРАЛЬНЫМ ВЫКАНАЎЧЫМ КАМІТЭТАМ РСФСР і УССР

*(Прынята II з'ездам Советаў ССР Беларусі)*

*Снежань 1920 г.*

2-і з'езд Советаў Беларусі заяўляе, што ў аснову ўсіх далейшых узаемаадносін паміж С.С.Р.Б. і Р.С.Ф.С.Р. павінна легчы прызнанне незалежнасці С.С.Р.Б., заяўленае ад імені В.Ц.В.К. на 1-м З'ездзе Советаў Рабочых, Сялянскіх, Батрацкіх і Чырвонаармейскіх Дэпутатаў Беларусі, зробленае старшынёй В.Ц.В.К., цяпер памёршым, нашым агульным правадыром і кіраўніком Я. М. Свердловым, і заява ў адказ на гэта 1-га З'езда Советаў С.С.Р.Б., які выразіў жаданне быць у самай цеснай федэратыўнай сувязі з Р.С.Ф.С.Р., і прынятая Ц.В.К. Советаў Рабочых, Сялянскіх, Чырвонаармейскіх і Батрацкіх Дэпутатаў пад увагу ў дагаворнай яго пастанове ад 30 мая 1919 года, у якой устаноўлена поўнае аб'еднанне ўсіх ваенных сіл абодвух рэспублік, адзінства дыпламатычных выступленняў і ў галіне народнай гаспадаркі, фінансаў і арганізацыі працы.

Пацвярджаючы і зыходзячы з усіх гэтых дагаворных пастаноў, зробленых вышэйшым органам улады Р.С.Ф.С.Р., 2-і З'езд Советаў Беларусі мяркуе, што і надалей брацкі расійскі народ, яго ЦВК і Совет Народных Камісараў заўсёды акажуць

неабходную падтрымку для ажыццяўлення волі працоўнага народа Беларусі.

Няхай жыве брацкае еднанне народаў Расіі, Украіны і Беларусі!

Няхай жыве Беларуская Социялістычная Совецкая Рэспубліка!

Няхай жыве Р.С.Ф.С.Р. і У.С.С.Р.!

*(«Звезда» № 99 ад 15 снежня 1920 г.).*

9

## ДАДАТКІ ДА КАНСТЫТУЦЫІ ССР БЕЛАРУСІ

*(Прыняты II З'ездам Советаў БССР)*

*Снежань 1920 г.*

З'езд Советаў Беларусі, апіраючыся на дэкларацыю ССРБ, пастанаўляе стварыць Цэнтральныя Органы Совецкай улады ССРБ, пабудаваныя ў наступным парадку:

З'езд Советаў Беларусі

З'езд Советаў Беларусі з'яўляецца вышэйшым органам улады ў Рэспубліцы.

З'езд Советаў Беларусі складаецца з прадстаўнікоў гарадскіх Советаў па разліку 1 дэпутат ад 2-х тысяч выбаршчыкаў і ад валасных і павятовых З'ездаў па разліку 1 дэп. на 10 000 жыхароў.

Заўвага. Гарады, якія не маюць Советаў або дзе па тэхнічных акалічнасцях нельга дакладна ўлічыць колькасць выбаршчыкаў, выбіраюць як ад З'ездаў, г. зн. 1 дэлегат на 10 000 жыхароў. З'езд Советаў Беларусі склікаецца ЦВК Беларусі па яго дакладу або па патрабаванню Советаў мясцовасцей, якія налічваюць дзве трэці ўсяго насельніцтва.

З'езд Советаў Беларусі выбірае Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Советаў Беларусі, які ў перыяд паміж З'ездамі з'яўляецца вышэйшай уладай Рэспублікі.

ЦВК падсправаздачны і цалкам адказны перад З'ездам Советаў Беларусі.

ЦВК Беларусі выбіраецца ў саставе 60 членаў.

## Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларусі

ЦВК Беларусі ў перыяд паміж З'ездамі Советаў з'яўляецца вышэйшым законадаўчым, распарадчым і кантралюючым органам на тэрыторыі ССРБ.

ЦВК Беларусі дае агульны напрамак дзейнасці Рабоча-Сялянскага ўрада і ўсіх органаў Совецкай улады ў краіне, аб'едноўвае і ўзгадняе работу па законадаўству і кіраванню і назірае за правядзеннем у жыццё Совецкай Канстытуцыі, пастаноў Усерасійскіх З'ездаў Советаў, З'ездаў Советаў Беларусі і пастаноў Цэнтральнай улады.

ЦВК склікаецца Прэзідыумам ЦВК Беларусі адзін раз у месяц на чарговым паседжанні (сесіі). Надзвычайныя паседжанні сесіі склікаюцца па меры патрэбы па пачыну Прэзідыума ЦВК Беларусі, Соўнаркома або па патрабаванню аднэй трэці ЦВК.

З 60 членаў ЦВК Беларусі частка працуе пастаянна ў цэнтры, а астатнія ў паветах Рэспублікі.

ЦВК Беларусі ўтварае Совет Народных Камісараў і Народныя камісарыяты (аддзелы) для кіраўніцтва асобнымі галінамі ўпраўлення.

ЦВК Беларусі выбірае свой Прэзідыум, да якога ў перыяд паміж паседжаннямі сесіі пераходзяць функцыі і правы ЦВК Беларусі, але ўсе вялікай[1] важнасці агульнапалітычныя пытанні ўносяцца на зацверджанне сесіі ЦВК.

## Прэзідыум ЦВК Беларусі

Прэзідыум ЦВК Беларусі выбіраецца ў паседжаннях сесіі ЦВК Беларусі ў саставе старшыні і 4 членаў.

Старшыня ЦВК адначасова старшыня Соўнаркома.

Прэзідыум ЦВК Беларусі падрыхтоўвае матэрыялы для па-

[1] У дакуменце: «большай».

седжання, уносіць праекты пастаноў і дэкрэтаў на разгляд ЦВК Беларусі, назірае за выкананнем пастаноў вышэйшых інстанцый, вядзе зносіны ад імені ЦВК Беларусі, з'яўляецца кіруючым цэнтрам па накіраванню і інструктаванню ўсёй работы як у цэнтры, так і на месцах, разглядае хадайніцтвы аб памілаванні і вырашае іншыя пытанні ў парадку кіравання.

Паміж паседжаннямі ЦВК Беларусі Прэзідыум ЦВК Беларусі назначае асобных Народных Камісараў па прадстаўленню Соўнаркома.

## Совет Народных Камісараў

Совету Народных Камісараў належыць агульнае кіраванне справамі ССРБ.

Для ажыццяўлення гэтай задачы СНК выдае дэкрэты, распараджэнні, інструкцыі і наогул прымае ўсе меры, неабходныя для правільнага і хуткага цячэння дзяржаўнага жыцця. Усе пастановы СНК, якія маюць буйнае агульнапалітычнае значэнне, уносяцца на зацверджанне ЦВК Беларусі, які ўправе спыніць усякае рашэнне СНК. Мерапрыемствы, якія патрабуюць неадкладнага правядзення, могуць ажыццяўляцца СНК непасрэдна.

Члены СНК стаяць на чале асобных Камісарыятаў.

Утвараюцца наступныя Народныя камісарыяты: 1) па замежных справах, 2) па ваенных справах, 3) унутраных спраў, 4) юстыцыі, 5) працы, 6) соцыяльнага забеспячэння, 7) народнай асветы, 8) фінансаў, 9) совет народнай гаспадаркі, 10) земляробства, 11) народнай сувязі, 12) аховы здароўя, 13) рабоча-сялянскай інспекцыі, 14) харчавання, 15) надзвычайная камісія Беларусі.

У адносінах павятовых з'ездаў, іх Выканкомаў і аддзелаў, а таксама па ўсіх астатніх пытаннях совецкага будаўніцтва ў ССРБ З'езд пастанаўляе кіравацца Канстытуцыяй і пастановамі 7-га Усерасійскага З'езда Советаў.

## Палажэнне аб Прэзідыуме ЦВК Советаў Беларусі

(У дадатак да Канстытуцыі Соцыялістычнай Совецкай Рэспублікі Беларусі).

1. Прэзідыум ЦВК выбіраецца на паседжанні сесіі ЦВК у саставе Старшыні, Сакратара і пяці членаў.

2. Старшыня ЦВК адначасова з'яўляецца Старшынёй Совета Народных Камісараў.

3. Да Прэзідыума ЦВК паміж паседжаннямі сесій пераходзяць усе функцыі і правы ЦВК.

4. Прэзідыум ЦВК кіруе паседжаннямі сесій ЦВК, падрыхтоўвае ўсю работу да з'езда Советаў і сесій ЦВК, прычым усе неабходныя для іх матэрыялы публікуе за два тыдні да з'езда і за тыдзень да сесіі іназірае за выкананнем пастаноў з'ездаў і сесій ЦВК.

5. Вядзе зносіны ад імені ЦВК.

6. З'яўляецца кіруючым цэнтрам па інструктаванню ўсёй работы як у цэнтры, так і на месцах.

7. Разглядае хадайніцтвы аб памілаванні.

8. Назначае асобных Народных Камісараў па прадстаўленню Совета Народных Камісараў.

9. Пытанні і канфлікты, якія датычаць узаемаадносін паміж Наркаматамі (цэнтральнымі органамі), з аднаго боку, і мясцовымі выканкомамі, з другога боку, вырашаюцца Прэзідыумам ЦВК.

10. Прэзідыум ЦВК мае свой Сакратарыят.

11. Паседжанні Прэзідыума ЦВК склікаюцца Сакратарыятам адзін раз у тыдзень ва ўстаноўлены дзень. Экстраныя паседжанні склікае старшыня і могуць склікаць два члены прэзідыума.

12. Парадак дня паседжання Прэзідыума ЦВК складае Сакратарыят.

13. Установы, жадаючыя вынесці пытанні на абмеркаванне Прэзідыума ЦВК, паведамляюць у пісьмовай форме за два дні да паседжання Сакратарыяту, які ўносіць у Прэзідыум, выключаючы пытанні, уносімыя членамі Прэзідыума.

## Палажэнне аб Савеце Народных Камісараў ССРБ

1. Совету Народных Камісараў належыць агульнае кіраванне справамі ССРБ.

2. У ажыццяўленне гэтай задачы СНК выдае дэкрэты, распараджэнні, інструкцыі і наогул прымае ўсе меры, неабходныя для правільнага і хуткага цячэння дзяржаўнага жыцця.

3. Ніякія органы, апрача Усебеларускага з'езда Советаў, ЦВК, яго прэзідыума і СНК, не маюць права выдаваць заканадаўчыя акты агульнадзяржаўнага значэння.

4. Наркаматы выдаюць свае пастановы і распараджэнні толькі ў межах сваёй кампетэнцыі, дакладна ўказаных у адпаведных дэкрэтах ЦВК, яго прэзідыума і СНК.

5. Аб усіх сваіх пастановах і рашэннях СНК неадкладна паведамляе ЦВК.

6. ЦВК мае права адмяніць або спыніць усякую пастанову або рашэнне СНК.

7. Усе пастановы і рашэнні СНК, якія маюць буйнае агульнапалітычнае значэнне, прадстаўляюцца на разгляд і зацверджанне ЦВК.

8. Усе члены СНК стаяць на чале асобных народных Камісарыятаў.

9. Народных Камісарыятаў утвараецца 15, а іменна:

а) па замежных справах,
б) па ваенных справах,
в) па ўнутраных справах,
г) асветы,
д) харчавання,
е) працы,
ж) аховы здароўя,
з) земляробства,
і) нарсувязі,
к) высоўнаргаса,
л) фінансаў,
м) юстыцыі,
н) рабоча-сялянскай інспекцыі,

о) чэка,

п) соцыяльнага забеспячэння.

Заўвага. Сакратар СНК назначаецца СНК і на паседжаннях мае права рашаючага голасу.

10. Пры кожным народным камісары пад яго старшынствам ўтвараецца калегія, члены якой зацвярджаюцца СНК.

Заўвага. Калегіі канструіруюцца па прынцыпу РСФСР.

11. Народны камісар мае права аднаасобна прымаць рашэнні па ўсіх пытаннях, якія падлягаюць веданню адпаведнага Камісарыята, даводзячы аб іх да ведама калегіі. У выпадку нязгоды калегіі з тым або іншым рашэннем народнага камісара калегія, не спыняючы выканання рашэння, можа абскардзіць яго ў СНК або Прэзідыум ЦВК.

Тое-ж права абскарджання належыць і асобным членам калегіі.

12. СНК цалкам адказны перад Усебеларускім з'ездам Советаў і ЦВК.

13. Народныя камісары і калегіі пры Наркаматах цалкам адказны перад СНК і перад ЦВК.

## Палажэнне аб членах Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта ССРБ

1. Члены Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта не могуць быць падвергнуты арышту без згоды Прэзідыума або Старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта.

2. Члены Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта аддаюцца суду толькі па пастанове Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта або Прэзідыума.

3. Члены Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта не маюць права адмаўляцца ад тых або іншых даручэнняў, якія даюцца Прэзідыумам.

4. Усе члены Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта абавязаны наведваць усе паседжанні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта, аддзелаў і камісій, у якіх яны працуюць.

З а ў в а г а. У тых выпадках, калі члены Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта не могуць прысутнічаць на паседжаннях, яны абавязаны паведаміць аб гэтым старшыні або сакратару Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта.

5. Выбыўшыя з састава Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта члены замяняюцца кандыдатамі.

6. Члены Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта, якія не з'явіліся на паседжанне сесіі, замяняюцца кандыдатамі на час сесіі.

7. Члены Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта, якія накіроўваюцца Прэзідыумам у камандыроўку, атрымліваюць адпаведны мандат і абавязаны па звароце неадкладна прадставіць даклад аб сваёй паездцы.

8. Члены Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта могуць выступаць ад імені Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта толькі ў тых выпадках, калі яны маюць на тое паўнамоцтвы ад Прэзідыума Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта.

9. Усе члены Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта, дзе-б яны ні працавалі, атрымліваюць жалаванне толькі па стаўках членаў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта. Атрыманне дадатковага жалавання забараняецца.

10. Члены Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта карыстаюцца дарадчым голасам на ўсіх паседжаннях мясцовых савецкіх устаноў.

11. Усе члены Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта маюць свабодны ўваход ва ўсе савецкія ўстановы Беларускай Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі па прад'яўленні сваіх мандатаў і маюць права атрымання ўсіх неабходных ім даведак, апрача сакрэтных даных па ваеннаму ведамству.

**Аб сувязі членаў ЦВК і Соўнаркома з месцамі**

1. У мэтах устанаўлення больш цеснай дзелавой і ідэйнай сувязі з месцамі члены ЦВК і СНК (пастаянна працуючыя ў Цэнтры) павінны не менш аднаго раза ў 2 месяцы выязджаць у павятовыя цэнтры.

2. Члены ЦВК і СНК, выязджаючы на месцы, павінны там прабываць і прапрацаваць сумесна з мясцовым (павятовым) Выканкомам і яго аддзеламі не менш 3 дзён пры кожнай паездцы.

3. Выязджаючыя на месцы члены ЦВК маюць права толькі тады ўносіць змяненні ў пастаноўку работы на месцах, калі яна супярэчыць устанаўленням або калі атрымліваюць на гэты прадмет спецыяльны мандат ад Прэзідыума ЦВК.

4. У сваіх выступленнях і даваемых указаннях члены ЦВК, якія выязджаюць на месцы, павінны строга кіравацца даным ім наказам і даваць бесстароннае і ўсебаковае асвятленне пытанняў, прычым зыходзіць з пункту гледжання пастаноўкі пытанняў у Цэнтры.

5. Аб сваіх паездках на месцы члены ЦВК робяць падрабязны вусны даклад Прэзідыуму ЦВК, а члены СНК старшыні апошняга і пісьмовыя даклады ў трох экземплярах сакратарыяту камандыраваўшага іх органа.

6. Ад абавязковых выездаў на месцы вызваляюцца толькі старшыня ЦВК і СНК, асобныя члены ЦВК і СНК могуць быць вызвалены ад выездаў толькі пастановай Прэзідыума ЦВК або СНК (у кожным асобным выпадку).

*Першая Канстытуцыя Саюза ССР. (Зборнік дакументаў пад рэдакцыяй А. Я. Вышынскага, 1948 г., стар. 214—219.)*

10

# ДАГАВОР ПАМІЖ РСФСР і ССРБ

*(Вытрымка)*[1]

*16 студзеня 1921 г.*

I

Расійская Социялістычная Федэратыўная Совецкая Рэспубліка і Социялістычная Совецкая Рэспубліка Беларусі ўступаюць паміж сабой у ваенны і гаспадарчы саюз.

II

Абедзве дзяржавы лічаць неабходным аб'явіць, што ўсе агульныя абавязацельствы, якія яны надалей будуць прымаць на сябе ў адносінах да іншых дзяржаў, могуць абумоўлівацца толькі агульнасцю інтарэсаў рабочых і сялян, якія заключаюць гэты саюзны дагавор Рэспублік, і што з самага факта ранейшай прыналежнасці тэрыторыі С.С.Р.Б. да былой Расійскай Імперыі для С.С.Р.Б. не выцякае ніякіх абавязацельстваў у адносінах да каго-б то ні было.

III

Для лепшага ажыццяўлення ўказанай у пункце 1-м мэты, абодва ўрады аб'яўляюць аб'еднанымі наступныя Камісарыяты: 1) Ваенны і Марскіх спраў, 2) Вышэйшы Совет Народнай Гаспадаркі, 3) Знешняга Гандлю, 4) Фінансаў, 5) Працы, 6) Шляхоў Зносін і 7) Пошт і Тэлеграфа.

---

[1] Апушчана ўводная частка.

IV

Аб'яднаныя Народныя Камісарыяты абодвух Рэспублік уваходзяць у састаў Совета Народных Камісараў Р.С.Ф.С.Р. і маюць у Совеце Народных Камісараў С.С.Р.Б. сваіх упаўнаважаных, зацвярджаемых і кантраліруемых Беларускім Цэнтральным Камітэтам і З'ездам Советаў.

V

Парадак і форма ўнутранага кіравання аб'яднаных Камісарыятаў устанаўліваюцца асобымі пагадненнямі паміж абодвума ўрадамі.

VI

Кіраўніцтва і кантроль аб'яднаных Камісарыятаў ажыццяўляюцца праз Усерасійскія З'езды Советаў Дэпутатаў Рабочых, Сялян і Чырвонаармейцаў, а таксама і Усерасійскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт, у якія С.С.Р.Б. пасылае сваіх прадстаўнікоў, на аснове пастановы Усерасійскага З'езда.

VII

Гэты дагавор падлягае ратыфікацыі адпаведных вышэйшых законадаўчых устаноў абодвух Рэспублік.

Арыгінал складзен і падпісан у двух экземплярах на рускай і беларускай мовах у гор. Маскве, студзеня 16-га дня, 1921 года.

*(«Известия ВЦИК» № 74 ад 6 красавіка 1921 г.)*

11

## АБ УТВАРЭННІ САЮЗА СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ СОВЕЦКІХ РЭСПУБЛІК

(ПАСТАНОВА IV З'ЕЗДА СОВЕТАЎ БССР)

*18 снежня 1922 г.*

Совецкая Беларусь, толькі нядаўна вызваленая ад іга міжнароднага капітала аб'яднанымі намаганнямі рабочых і сялян Беларусі пры самай актыўнай падтрымцы працоўных усіх астатніх брацкіх Совецкіх Рэспублік, у сваёй штодзённай рабоце, палітычным і гаспадарчым будаўніцтве пастаянна памятала аб адзінстве задач і метадаў барацьбы, якія звязвалі працоўных усіх брацкіх рэспублік.

Рабочыя і сяляне Беларусі разам з рабочымі і сялянамі астатніх Совецкіх Рэспублік пастаянна і неаслабна імкнуліся да ажыццяўлення адной мэты — стварэння і канчатковага ўмацавання ўлады Советаў, для барацьбы за комунізм.

У гэтай барацьбе працоўныя ўсіх брацкіх Рэспублік сустракалі адзіны фронт сусветнай буржуазіі. Сусветны капітал з дастатковай яснасцю ўлічваў агульнасць палітычнай і гаспадарчай арганізацыі асобных Совецкіх Рэспублік, не робячы таму ніякіх адрозненняў паміж імі, імкнучыся звергнуць Совецкую ўладу, незалежна ад таго, пад якім нацыянальным флагам гэты лад ажыццяўляўся. Толькі аб'яднанымі намаганнямі працоўных усіх Совецкіх Рэспублік удалося адстаяць і ўмацаваць Совецкую ўладу, уладу рабочых і сялян. Гэты саюз замацаван крывёю дзесяткаў тысяч рабочых і сялян, ураджэн-

цаў Беларусі, РСФСР, Украіны, Закаўказскіх Рэспублік, на франтах Заходнім, Усходнім і Паўднёвым.

Сусветны капітал пераканаўся ў немагчымасці узброеным шляхам звергнуць уладу працоўных. Але гэтым барацьба супроць Совецкай улады не спыняецца. Яна будзе прадаўжацца з яшчэ большай настойлівасцю і ўпорствам, чым да гэтага часу. Але ў адрозненне ад папярэдняга перыяда сусветны капітал імкнецца звергнуць уладу Советаў абходным шляхам, шляхам аблытвання нас рознага роду дагаворамі і авалоданнем нашай буйнай прамысловасцю.

У сваёй барацьбе супроць улады Советаў сусветная буржуазія не супроць скарыстаць і моманты нацыянальныя, і самастойнае існаванне асобных Рэспублік. Сусветная буржуазія думае шляхам цэлага раду дыпламатычных махінацый раз'еднаць сілы рабочых і сялян Совецкіх Рэспублік і разбіць кожную Рэспубліку ў паасобку, скарыстоўваючы нацыянальны шавінізм дробнабуржуазных слаёў насельніцтва асобных Рэспублік.

Неабходнасць арганізацыі максімальнага процідзеяння імкненню сусветнага капітала эканамічна нас закабаліць высоўвае, як першачарговую задачу, больш цеснае палітычнае і эканамічнае збліжэнне, аб'еднанне палітычнай, гаспадарчай і эканамічнай работы асобных Совецкіх Рэспублік, стварэнне адзінага рабоча-сялянскага фронта ўсіх Совецкіх Рэспублік супроць адзінага фронта сусветнага капітала.

Чацверты Усебеларускі з'езд Советаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў лічыць, што прапанова Усеукраінскага з'езда Советаў аб неадкладным афармленні ўжо фактычна існуючага Саюза Совецкіх Рэспублік, аб'ядноўваючы супроць адзінага фронта сусветнага капітала сілы рабочых і сялян усіх Совецкіх Рэспублік на асновах узаемнай роўнасці, цеснай палітычнай і гаспадарчай сувязі, у той-жа час забяспечваючы самастойнае нацыянальна-культурнае будаўніцтва і ствараючы неабходныя гарантыі для праяўлення гаспадарчай ініцыятывы кожнага з членаў, адказвае жыццёвым інтарэсам Совецкай Беларусі і таму павінна атрымаць

хутчэйшае ажыццяўленне на прадстаячым з'ездзе ўсіх Савецкіх Рэспублік.

4-ы з'езд Саветаў Беларусі выражае сваю глыбокую ўпэўненасць, што з'езд РСФСР сумесна з прадстаўнікамі Украіны, Беларусі і Закаўказскіх Рэспублік створыць адзіны, моцна згуртаваны саюз працоўных усіх брацкіх Рэспублік, даручае сваёй дэлегацыі, якая выбіраецца для ўдзелу на Усерасійскім з'ездзе Саветаў, даць у час работ з'езда ўрачыстае абяцанне і зрабіць фармальныя акты, замацоўваючыя брацкі Саюз Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік.

*(«Звезда» № 299 (1300) ад 19 снежня 1922 г.)*

12

# ДЭКЛАРАЦЫЯ АБ УТВАРЭННІ САЮЗА СОВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК[1]

*30 снежня 1922 г.*

З часу ўтварэння совецкіх рэспублік дзяржавы свету раскалоліся на два лагеры: лагер капіталізма і лагер соцыялізма.

Там, у лагеры капіталізма, — нацыянальная варожасць і няроўнасць, каланіяльнае рабства і шавінізм, нацыянальнае прыгнечанне і пагромы, імперыялістычныя зверствы і войны.

Тут, у лагеры соцыялізма, — узаемнае давер'е і мір, нацыянальная свабода і роўнасць, мірнае сужыццё і брацкае супрацоўніцтва народаў.

Спробы капіталістычнага свету на працягу дзесяткаў год вырашыць пытанне аб нацыянальнасцях шляхам сумяшчэння свабоднага развіцця народаў з сістэмай эксплаатацыі чалавека чалавекам аказаліся бясплоднымі. Наадварот, клубок нацыянальных супярэчнасцей усё больш заблытваецца, пагражаючы самому існаванню капіталізма. Буржуазія аказалася бяссільнай наладзіць супрацоўніцтва народаў.

Толькі ў лагеры Советаў, толькі ва ўмовах дыктатуры пролетарыята, згуртаваўшай вакол сябе большасць насельніцтва, аказалася магчымым знішчыць у корані нацыянальны гнёт,

---

[1] Гэтая дэкларацыя напісана таварышам Сталіным і прынята на 1-м з'ездзе Советаў СССР.

стварыць абстаноўку ўзаемнага давер'я і закласці асновы брацкага супрацоўніцтва народаў.

Толькі дзякуючы гэтым акалічнасцям удалося савецкім рэспублікам адбіць напады імперыялістаў усяго свету, унутраных і знешніх.

Толькі дзякуючы гэтым акалічнасцям удалося ім паспяхова ліквідаваць грамадзянскую вайну, забяспечыць сваё існаванне і прыступіць да мірнага гаспадарчага будаўніцтва.

Але гады вайны не прайшлі бясследна. Спустошаныя палі, спыненыя заводы, разбураныя прадукцыйныя сілы і знясіленыя гаспадарчыя рэсурсы, што засталіся ў спадчыну ад вайны, робяць недастатковымі асобныя намаганні асобных рэспублік па гаспадарчаму будаўніцтву. Аднаўленне народнай гаспадаркі аказалася немагчымым пры раздзельным існаванні рэспублік.

З другога боку, няўстойлівасць міжнароднага становішча і небяспека новых нападаў робяць непазбежным стварэнне адзінага фронта савецкіх рэспублік перад тварам капіталістычнага акружэння.

Нарэшце, сама будова савецкай улады, інтэрнацыянальнай па сваёй класавай прыродзе, штурхае працоўныя масы савецкіх рэспублік на шлях аб'яднання ў адну сацыялістычную сям'ю.

Усе гэтыя акалічнасці загадна патрабуюць аб'яднання савецкіх рэспублік у адну саюзную дзяржаву, здольную забяспечыць і знешнюю бяспеку, і ўнутраныя гаспадарчыя поспехі, і свабоду нацыянальнага развіцця народаў.

Воля народаў савецкіх рэспублік, якія сабраліся нядаўна на з'езды сваіх Саветаў і аднадушна прынялі рашэнне аб утварэнні «Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік», служыць надзейнай парукай у тым, што Саюз гэты з'яўляецца дабраахвотным аб'яднаннем роўнапраўных народаў, што за кожнай рэспублікай забяспечана права свабоднага выхаду з Саюза, што доступ у Саюз адкрыт усім сацыялістычным савецкім рэспублікам як існуючым, так і маючым узнікнуць у будучым, што новая саюзная дзяржава з'явіцца дастойным увян-

чаннем закладзеных яшчэ ў кастрычніку 1917 года асноў мірнага сужыцця і брацкага супрацоўніцтва народаў, што яна паслужыць верным аплотам супроць сусветнага капіталізма і новым рашучым крокам па шляху аб'еднання працоўных усіх краін у Сусветную Соцыялістычную Савецкую Рэспубліку.

Заяўляючы аб усім гэтым перад усім светам і ўрачыста абвяшчаючы непахіснасць асноў савецкай улады, якія знайшлі сваё выражэнне ў канстытуцыях упаўнаважыўшых нас соцыялістычных савецкіх рэспублік, мы, дэлегаты гэтых рэспублік, на падставе даных нам паўнамоцтваў, пастанаўляем падпісаць дагавор аб утварэнні «Саюза Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік».

*(І. В. Сталін. Творы, том 5, стар. 393—395)*

13

# ДАГАВОР
# АБ УТВАРЭННІ САЮЗА СОВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК [1]

*30 снежня 1922 г.*

Расійская Сацыялістычная Федэратыўная Савецкая Рэспубліка (РСФСР), Украінская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка (УССР), Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка (БССР) і Закаўказская Сацыялістычная Федэратыўная Савецкая Рэспубліка (ЗСФСР — Грузія, Азербайджан і Арменія) заключаюць гэты саюзны дагавор аб аб'яднанні ў адну саюзную дзяржаву — «Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік» — на наступных падставах:

1. Веданню Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, у асобе яго вярхоўных органаў, падлягаюць:

а) прадстаўніцтва Саюза ў міжнародных зносінах;

б) змяненне знешніх граніц Саюза;

в) заключэнне дагавораў аб прыёме ў састаў Саюза новых рэспублік;

г) аб'яўленне вайны і заключэнне міру;

д) заключэнне знешніх дзяржаўных пазык;

е) ратыфікацыя міжнародных дагавораў;

ж) устанаўленне сістэм знешняга і ўнутранага гандлю;

з) устанаўленне асноў і агульнага плана ўсёй народнай

[1] Гэты дагавор напісан таварышам Сталіным і прынят на 1-м з'ездзе Саветаў СССР.

гаспадаркі Саюза, а таксама заключэнне канцэсійных дагавораў;

і) рэгуляванне транспартнай і паштова-тэлеграфнай справы;

к) устанаўленне асноў арганізацыі ўзброеных сіл Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік;

л) зацверджанне адзінага дзяржаўнага бюджэта Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, устанаўленне манетнай, грашовай і крэдытнай сістэмы, а таксама сістэмы агульнасаюзных, рэспубліканскіх і мясцовых падаткаў;

м) устанаўленне агульных асноў землеўпарадкавання і землекарыстання, а таксама карыстання недрамі, лясамі і водамі па ўсёй тэрыторыі Саюза;

н) агульнае саюзнае законадаўства аб перасяленнях;

о) устанаўленне асноў судаўстройства і судавядзення, а таксама грамадзянскае і крымінальнае саюзнае законадаўства;

п) устанаўленне асноўных законаў аб працы;

р) устанаўленне агульных асноў народнай асветы;

с) устанаўленне агульных мер у галіне аховы народнага здароўя;

т) устанаўленне сістэмы мер і вагі;

у) арганізацыя агульнасаюзнай статыстыкі;

ф) асноўнае законадаўства ў галіне саюзнага грамадзянства ў адносінах правоў іншакраінцаў;

х) права агульнай амністыі;

ц) адмена нарушаючых саюзны дагавор пастаноў з'ездаў Советаў, Цэнтральных Выканаўчых Камітэтаў і Советаў Народных Камісараў саюзных рэспублік.

2. Вярхоўным органам улады Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік з'яўляецца з'езд Советаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, а ў перыяды паміж з'ездамі — Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

3. З'езд Советаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік складаецца з прадстаўнікоў гарадскіх Советаў з разліку

1 дэпутат на 25 000 выбаршчыкаў і прадстаўнікоў губернскіх з'ездаў Советаў з разліку 1 дэпутат на 125 000 жыхароў.

4. Дэлегаты на з'езд Советаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік выбіраюцца на губернскіх з'ездах Советаў.

5. Чарговыя з'езды Советаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік склікаюцца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік адзін раз у год; надзвычайныя з'езды склікаюцца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік па яго ўласнаму рашэнню або па патрабаванню не менш двух саюзных рэспублік.

6. З'езд Советаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік выбірае Цэнтральны Выканаўчы Камітэт з прадстаўнікоў саюзных рэспублік прапарцыянальна насельніцтву кожнай, усяго ў саставе 371 члена.

7. Чарговыя сесіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік склікаюцца тры разы ў год. Надзвычайныя сесіі склікаюцца па пастанове Прэзідыума Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза або па патрабаванню Совета Народных Камісараў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, а таксама Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта адной з саюзных рэспублік.

8. З'езды Советаў і сесіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік склікаюцца ў сталіцах саюзных рэспублік у парадку, які ўстанаўліваецца Прэзідыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

9. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік выбірае Прэзідыум, які з'яўляецца вышэйшым органам улады Саюза ў перыяды паміж сесіямі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза.

10. Прэзідыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік выбіраецца ў саставе 19 членаў, з якіх Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюза выбірае чатырох старшынь Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза па ліку саюзных рэспублік.

11. Выканаўчым органам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза з'яўляецца Совет Народных Камісараў Саюза Совецкіх Социялістычных Рэспублік (Соўнарком Саюза), выбіраемы Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюза на тэрмін паўнамоцтваў апошняга ў саставе:

Старшыні Совета Народных Камісараў Саюза,
Намеснікаў старшыні,
Народнага камісара па замежных справах,
Народнага камісара па ваенных і марскіх справах,
Народнага камісара знешняга гандлю,
Народнага камісара шляхоў зносін;
Народнага камісара пошт і тэлеграфаў,
Народнага камісара рабоча-сялянскай інспекцыі,
Старшыні Вышэйшага Совета Народнай Гаспадаркі,
Народнага камісара працы,
Народнага камісара харчавання,
Народнага камісара фінансаў.

12. У мэтах устанаўлення рэволюцыйнай законнасці на тэрыторыі Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік і аб'еднання намаганняў саюзных рэспублік па барацьбе з контррэволюцыяй ствараецца пры Цэнтральным Выканаўчым Камітэце Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік Вярхоўны Суд, з функцыямі вярхоўнага судовага кантроля, а пры Совеце Народных Камісараў Саюза — аб'еднаны орган Дзяржаўнага Палітычнага Управлення, старшыня якога ўваходзіць у Совет Народных Камісараў Саюза з правам дарадчага голасу.

13. Дэкрэты і пастановы Соўнаркома Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік абавязковы для ўсіх саюзных рэспублік і прыводзяцца ў выкананне непасрэдна на ўсёй тэрыторыі Саюза.

14. Дэкрэты і пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта і Соўнаркома Саюза друкуюцца на мовах, агульнаўжываемых у саюзных рэспубліках (руская, украінская, беларуская, грузінская, армянская, цюркская).

15. Цэнтральныя Выканаўчыя Камітэты саюзных рэспублік апратэстоўваюць дэкрэты і пастановы Соўнаркома Саюза ў

Прэзідыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, не прыпыняючы іх выканання.

16. Пастановы і распараджэнні Совета Народных Камісараў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік могуць адмяняцца толькі Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік і яго Прэзідыумам; распараджэнні-ж асобных народных камісараў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік могуць адмяняцца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, яго Прэзідыумам і Соўнаркомам Саюза.

17. Распараджэнні народных камісараў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік могуць прыпыняцца Цэнтральнымі Выканаўчымі Камітэтамі або Прэзідыумамі Цэнтральных Выканаўчых Камітэтаў саюзных рэспублік толькі ў выключных выпадках, пры яўнай неадпаведнасці данага распараджэння пастановам Соўнаркома або Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Аб прыпыненні распараджэння Цэнтральны Выканаўчы Камітэт або Прэзідыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта саюзных рэспублік неадкладна паведамляе Совету Народных Камісараў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік і адпаведнаму народнаму камісару Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

18. У састаў Совета Народных Камісараў саюзных рэспублік уваходзяць:

Старшыня Совета Народных Камісараў,
Намеснікі старшыні,
Старшыня Вышэйшага Совета Народнай Гаспадаркі,
Народны камісар земляробства,
Народны камісар харчавання,
Народны камісар фінансаў,
Народны камісар працы,
Народны камісар унутраных спраў,
Народны камісар юстыцыі,
Народны камісар рабоча-сялянскай інспекцыі,
Народны камісар па асвеце,

Народны камісар аховы здароўя,

Народны камісар социяльнага забеспячэння,

Народны камісар па нацыянальных справах,

а таксама з правам дарадчага голасу ўпаўнаважаныя наркаматаў Саюза: па замежных справах, па ваенных і марскіх справах, знешняга гандлю, шляхоў зносін і пошт і тэлеграфаў.

19. Вышэйшы Совет Народнай Гаспадаркі і Народныя Камісарыяты: харчавання, фінансаў, працы і рабоча-сялянскай інспекцыі саюзных рэспублік, непасрэдна падпарадкуючыся Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам і Соўнаркомам саюзных рэспублік, кіруюцца ў сваёй дзейнасці распараджэннямі адпаведных народных камісараў Саюза Совецкіх Социялістычных Рэспублік.

20. Рэспублікі, якія ўваходзяць у састаў Саюза, маюць свае бюджэты, якія з'яўляюцца састаўнымі часткамі агульнасаюзнага бюджэта, зацвярджаемага Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюза. Бюджэты рэспублік у іх даходных і расходных частках устанаўліваюцца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюза. Пералік даходаў і размеры даходных адлічэнняў, якія ідуць на ўтварэнне бюджэтаў саюзных рэспублік, вызначаюцца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюза.

21. Для грамадзян саюзных рэспублік устанаўліваецца адзінае саюзнае грамадзянства.

22. Саюз Совецкіх Социялістычных Рэспублік мае свой сцяг, герб і дзяржаўную пячатку.

23. Сталіцаю Саюза Совецкіх Социялістычных Рэспублік з'яўляецца горад Масква.

24. Саюзныя рэспублікі ўносяць у адпаведнасці з гэтым дагаворам змяненні ў свае канстытуцыі.

25. Зацверджанне, змяненне і дапаўненне саюзнага дагавора падлягаюць выключнаму веданню з'езда Советаў Саюза Совецкіх Социялістычных Рэспублік.

26. За кожнай з саюзных рэспублік захоўваецца права свабоднага выхаду з Саюза.

*(І. В. Сталін. Творы, том 5, стар. 396—401)*

14

# ЗВАРОТ
# ПРЭЗІДЫУМА ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТА САЮЗА СОВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

*7 сакавіка 1924 г.*

«Толькі ў лагеры Советаў, толькі ва ўмовах дыктатуры пролетарыята, якая згуртавала вакол сябе большасць насельніцтва, аказалася магчымым знішчыць у корані нацыянальны ўціск, стварыць абстаноўку ўзаемнага давер'я і закласці асновы брацкага супрацоўніцтва народаў».

Так гаворыць канстытуцыя Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, канстытуцыя роўнапраўных народаў, якія дабравольна аб'едналіся.

Падтрымліваць усімі сіламі і ўсімі мерамі гэтую абстаноўку ўзаемнага давер'я паміж увайшоўшымі ў састаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік народамі складае асноўную задачу Саюза.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік прызнае, што пагадненне, якое адбылося паміж Цэнтральнымі Выканаўчымі Камітэтамі РСФСР і Беларускай ССР, у сілу якога ў саставе Беларускай Рэспублікі аб'ядноўваюцца ўсе тэрыторыі Совецкага Саюза з большасцю беларускага насельніцтва, з'яўляецца новым і яркім доказам фактычнага ажыццяўлення ўсё больш цесных, дружных і брацкіх адносін народаў, насяляючых Саюз.

Беларусь, у дні царызма закінутая краіна, арэна барацьбы вялікарускай, польскай, літоўскай, нямецкай і інш. буржуазіі, — уступіўшы на шлях вызвалення і стварэння совецкай улады, у першыя-ж дні свайго вызвалення ў маніфесце першага рабоча-сялянскага ўрада ад 1 студзеня 1919 г. рашуча адвергла спробы буржуазных і дробнабуржуазных элементаў будаваць сваё развіццё на аснове пагадненняў з капіталістычным светам. Гэтае-ж пагадненне рабоча-сялянскіх урадаў РСФСР і Беларускай ССР дае сапраўдную магчымасць Беларусі далейшага развіцця на аснове шырокага эканамічнага, дзяржаўнага і культурнага будаўніцтва.

Таму Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюза ССР з поўным задаваленнем канстатуе дасягнутае, у адпаведнасці з арт. 6 Канстытуцыі Саюза ССР, пагадненне паміж РСФСР і Беларускай ССР, якое з'яўляецца гістарычным момантам для жыцця Совецкай Беларусі.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюза Совецкіх Социялістычных Рэспублік не сумняваецца, што гэты найвялікшы акт узаемнага давер'я народаў, насяляючых Саюз, павагі да самавызначэння кожнага з іх, паслужыць заклікам для ўсіх працоўных Беларусі дружней згуртавацца пад сцягам Совецкай Беларусі, працаваць над сваім эканамічным і культурным адраджэннем і развіццём, над умацаваннем і ўзмацненнем Совецкай Беларусі і ўсяго Саюза Совецкіх Социялістычных Рэспублік.

Адзіны фронт Совецкіх Социялістычных Рэспублік перад тварам капіталістычнага акружэння мацнее.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюза Совецкіх Социялістычных Рэспублік заклікае рабочых і сялян Беларусі сумесна з рабочымі і сялянамі Саюза цвёрда і рашуча падтрымліваць брацкі саюз аб'еднаўшыхся пад сцягам Советаў народаў.

*Масква, Крэмль.*

*(«Звезда» ад 12 сакавіка 1924 г.)*

15

## ЗВАРОТ
## 6-га НАДЗВЫЧАЙНАГА З'ЕЗДА СОВЕТАЎ БЕЛАРУСІ ДА ЎСІХ ПРАЦОЎНЫХ БЕЛАРУСІ

*13 сакавіка 1924 г.*

Таварышы рабочыя і работніцы, сяляне і сялянкі!

Сёння пачынае сваю работу VI Усебеларускі Надзвычайны З'езд Советаў.

Шосты раз збіраюцца выбраннікі рабочых і сялян для таго, каб вырашаць самыя складаныя і важныя пытанні будаўніцтва рэспублікі рабочых і сялян.

Кожны раз, калі збіраецца З'езд, рабочы і селянін чакае з нецярплівасцю рашэння свайго вярхоўнага органа, чакае ўказанняў — па якому шляху трэба прадаўжаць будаўніцтва совецкай дзяржавы.

З яшчэ большай увагай і нецярплівасцю чакаюць рашэнняў VI З'езда рабочыя і сяляне Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, бо на VI З'ездзе завяршаецца аб'еднанне на тэрыторыі СССР усіх зямель з пераважным беларускім насельніцтвам пад сцягам Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

Беларусь, якая вякамі служыла арэнай барацьбы паміж манархічнай Расіяй і яснавяльможнай Польшчай, з'яўляючыся прыдаткам то ў аднаго, то ў другога з сваіх суседзяў, заклікана была да самастойнага існавання Вялікай Кастрычніцкай Рэволюцыяй.

Толькі дыктатура пролетарыята, толькі ўлада працоўных, вызваліўшая ад гнёту і насілля ўсе нацыянальнасці, дала магчымасць поўнага нацыянальнага самавызначэння працоўным Беларусі.

Рабочыя і сяляне Беларусі рашуча адверглі спробы буржуазных і дробнабуржуазных элементаў будаваць Беларускую дзяржаву на аснове пагадненняў з капіталістычным светам.

Сваю мазолістую руку рабочы і селянін Беларусі працягнуў паўстаўшаму пролетарыяту былой царскай Расіі і разам з ім прыступіў да пабудовы вялікага соцыялістычнага грамадства на аснове брацкага садружаства і пролетарскай салідарнасці.

У буржуазных дзяржавах, якія ўваходзілі раней у састаў Расійскай імперыі, аддзеленыя ад нас браты беларусы жывуць у поўным бяспраўі, перажываюць пастаянныя ганенні, не карыстаюцца роўнымі правамі з вялікадзяржаўнымі нацыямі гэтых буржуазных дзяржаў.

Там, побач з палямі селяніна-беларуса, распасціраюцца палі памешчыка. Там, за кардонам, закрыта магчымасць вучыць дзяцей на роднай мове, там душыцца ўсякая спроба да адраджэння нацыянальнай культуры.

У гэты самы час у нас тут пад сцягам Совецкай улады селянін-беларус з'яўляецца поўным гаспадаром сваёй дзяржавы.

У нас няма паноў і памешчыкаў. У нашай рэспубліцы кожны грамадзянін можа вучыць сваіх дзяцей на роднай мове, пасылаць іх у школы, універсітэты, гаварыць з роднай, блізкай яму ўладай на сваёй мове, мае ўсе магчымасці для свайго эканамічнага і культурнага развіцця.

У Совецкай Беларусі, у краіне, дзе царскі і панскі гнёт душылі ўсякія парасткі культурнага і нацыянальнага вызвалення, дзе царскі і белапанскі ўрад нацкоўвалі працоўных адной нацыі на працоўных другой нацыі, у гэтай краіне цяпер працуюць у мірным садружастве рабочыя і сяляне ўсіх нацыянальнасцей. І беларусы, і яўрэі, і палякі, і літоўцы, і рускія.

Аб'яднаннем пад сцягам Совецкай Беларусі ўсіх тэрыторый

з большасцю беларускага насельніцтва Совецкая ўлада яшчэ раз паказвае ўсяму свету, як лёгка і бязбольна ў брацкім саюзе рэспублік рабочых і сялян вырашаюцца самыя складаныя пытанні дзяржаўнага будаўніцтва.

Перад расшыранай Совецкай Беларуссю адкрываюцца шырокія магчымасці дзяржаўнага, гаспадарчага і культурнага развіцця.

VI Надзвычайнаму З'езду і ўраду, які ён выдзеліць, прыдстаіць вырашыць складаныя і адказныя пытанні.

Асноўнай задачай, якая стаіць перад Совецкім урадам Беларусі, — гэта ў магчыма найкарацейшы тэрмін спаяць у адно цэлае ўсе аб'еднаныя цяпер у составе Беларусі тэрыторыі, стварыць умовы, пры якіх кожны рабочы і селянін мог-бы актыўна ўдзельнічаць у будаўніцтве Рабоча-Сялянскай дзяржавы.

Работа па аднаўленню сельскай гаспадаркі будзе асноўнай у рабоце ўрада. Арганізацыяй сельскагаспадарчага банка З'езд яшчэ раз напомніць усім органам улады Рэспублікі, што без хуткага аднаўлення сельскай гаспадаркі не можа адбывацца нармальны рост гаспадаркі Рэспублікі, не можа ўзмацняцца наша прамысловасць.

Умацаванне прамысловасці, захаванне і падняцце матэрыяльнага ўзроўню рабочых, якія з'яўляюцца асноўнай апорай совецкай улады, — з'яўляецца таксама першачарговай задачай рабоча-сялянскай дзяржавы і яго ўрада.

З'езд бясспрэчна ўлічыць буйныя змяненні, якія адбываюцца ў эканамічным жыцці краіны, дзякуючы ўвядзенню цвёрдай валюты і спыненню эмісіі і закліча ўсіх рабочых і сялян да актыўнай падтрымкі фінансавай рэформы, значна паляпшаючай становішча рабочых і сялян.

Справа асветы будзе асаблівым клопатам урада Беларусі. У спадчыну ад царскага ўрада Рабоча-Сялянская Беларусь атрымала непісьменнае насельніцтва. Царскі ўрад і акупацыйныя ўлады, якія знаходзіліся тут, імкнуліся насаджаць культуру і мову пануючай нацыі і ўсямерна падаўлялі ўсякія парасткі мясцовай нацыянальнай культуры.

Урад Беларусі, як і да гэтага часу, прыме ўсе меры да адраджэння мясцовых культур народаў, насяляючых Беларусь.

VI З'езд перад тварам працоўных Беларусі і ўсяго свету яшчэ раз пацвярджае поўнае роўнапраўе моў, на якіх гавораць уваходзячыя ў састаў Беларусі рабочыя і сяляне, і прызнае дзяржаўнымі мовамі мовы: беларускую, яўрэйскую, польскую і рускую.

VI Усебеларускі Надзвычайны З'езд Советаў лічыць расшырэнне Беларусі актам узаемнага давер'я і павагі, існуючага паміж народамі, якія ўваходзяць у састаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Гэтае аб'еднанне паслужыць яшчэ больш цеснаму згуртаванню як працоўных Совецкай Беларусі, так і працоўных усяго Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

VI Надзвычайны З'езд Советаў заклікае працоўных Совецкай Беларусі цясней самкнуцца пад сцягам Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі для агульнай работы над эканамічным і культурным адраджэннем нашых Рэспублік.

Няхай мацнее непахісны адзіны фронт Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік перад тварам капіталістычнага свету!

Няхай мацнее саюз працоўных усяго свету!

*VI Надзвычайны Усебеларускі з'езд Советаў*

*(«Звезда» № 61 (1668) ад 14 сакавіка 1924 г.)*

16

## ПІСЬМО 6-га З'ЕЗДА СОВЕТАЎ БЕЛАРУСІ ЦЭНТРАЛЬНАМУ КАМІТЭТУ РАСІЙСКАЙ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БОЛЬШЭВІКОЎ

*13 сакавіка 1924 г.*

Ідэйнаму правадыру рабоча-сялянскага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік шле брацкае прывітанне VI Усебеларускі Надзвычайны З'езд Советаў.

Рабочыя і сяляне Беларусі пад кіраўніцтвам Комуністычнай Партыі, у саюзе з рабочымі і сялянамі астатніх Совецкіх Рэспублік ліквідавалі астаткі памешчыцкага панавання і аб'еднанымі намаганнямі заняліся ўзмоцненым будаўніцтвам рабоча-сялянскай дзяржавы.

Верныя заветам Ільіча, рабочыя і сяляне Беларусі прайшлі самы цяжкі шлях барацьбы за ўмацаванне рабоча-сялянскай улады.

Аб'еднанне ўсіх тэрыторый з большасцю беларускага насельніцтва, праведзенае па дырэктывах Компартыі, стварае спрыяльныя ўмовы для далейшага нармальнага гаспадарчага, эканамічнага і культурнага развіцця ўсіх народаў, насяляючых Беларусь.

З'езд ад імя 4 000 000 рабочых і сялян абяцае і ў далейшым свята і цвёрда следаваць заветам Ільіча і створанай ім Расійскай Комуністычнай Партыі.

*(«Звезда» № 61 (1668) ад 14 сакавіка 1924 г.)*

17

# КАНСТЫТУЦЫЯ

(АСНОЎНЫ ЗАКОН)

## БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

РАЗДЗЕЛ 1

## ГРАМАДСКІ ЛАД

Артыкул 1. Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка ёсць соцыялістычная дзяржава рабочых і сялян.

Артыкул 2. Палітычную аснову БССР складаюць Советы дэпутатаў працоўных, якія выраслі і ўзмацніліся ў выніку звяржэння ўлады памешчыкаў і капіталістаў, заваявання дыктатуры пролетарыята, вызвалення беларускага народа ад нацыянальнага прыгнечання царызма і рускай імперыялістычнай буржуазіі і разгрому беларускай нацыяналістычнай контррэволюцыі.

Артыкул 3. Уся ўлада ў БССР належыць працоўным горада і вёскі ў асобе Советаў дэпутатаў працоўных.

Артыкул 4. Эканамічную аснову БССР складаюць соцыялістычная сістэма гаспадаркі і соцыялістычная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці, якія ўцвярдзіліся ў выніку ліквідацыі капіталістычнай сістэмы гаспадаркі, адмены прыватнай уласнасці на прылады і сродкі вытворчасці і знішчэння эксплаатацыі чалавека чалавекам.

Артыкул 5. Соцыялістычная ўласнасць у БССР мае або форму дзяржаўнай уласнасці (усенародны здабытак), або

форму кааператыўна-калгаснай уласнасці (уласнасць асобных калгасаў, уласнасць кааператыўных аб'яднанняў).

Артыкул 6. Зямля, яе нетры, воды, лясы, заводы, фабрыкі, шахты, руднікі, чыгуначны, водны і паветраны транспарт, банкі, сродкі сувязі, арганізаваныя дзяржавай буйныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы (соўгасы, машынна-трактарныя станцыі і т. п.), а таксама комунальныя прадпрыемствы і асноўны жыллёвы фонд у гарадах і прамысловых пунктах з'яўляюцца дзяржаўнай уласнасцю, гэта значыць усенародным здабыткам.

Артыкул 7. Грамадскія прадпрыемствы ў калгасах і кааператыўных арганізацыях з іх жывым і мёртвым інвентаром, прадукцыя, якая выпрабляецца калгасамі і кааператыўнымі арганізацыямі, таксама як іх грамадскія будынкі складаюць грамадскую, соцыялістычную ўласнасць калгасаў і кааператыўных арганізацый.

Кожны калгасны двор, апрача асноўнага даходу ад грамадскай калгаснай гаспадаркі, мае ў асабістым карыстанні невялікі прысядзібны ўчастак зямлі і ў асабістай уласнасці падсобную гаспадарку на прысядзібным участку, жылы дом, прадуктыўную жывёлу, птушку і дробны сельскагаспадарчы інвентар — згодна статута сельскагаспадарчай арцелі.

Артыкул 8. Зямля, якую займаюць калгасы, замацоўваецца за імі ў бясплатнае і бестэрміновае карыстанне, гэта значыць навечна.

Артыкул 9. Побач з соцыялістычнай сістэмай гаспадаркі, якая з'яўляецца пануючай формай гаспадаркі ў БССР, дапускаецца законам дробная прыватная гаспадарка аднаасобных сялян і саматужнікаў, якая аснавана на асабістай працы і выключае эксплаатацыю чужой працы.

Артыкул 10. Права асабістай уласнасці грамадзян на іх працоўныя даходы і зберажэнні, на жылы дом і падсобную хатнюю гаспадарку, на прадметы хатняй гаспадаркі і ўжытку, на прадметы асабістага спажывання і выгоды, роўным чынам як права наследавання асабістай уласнасці грамадзян — ахоўваюцца законам.

Артыкул 11. Гаспадарчае жыццё БССР вызначаецца і накіроўваецца дзяржаўным народнагаспадарчым планам у інтарэсах павелічэння грамадскага багацця, няўхільнага ўздыму матэрыяльнага і культурнага ўзроўню працоўных, умацавання БССР і ўзмацнення абароназдольнасці і незалежнасці Саюза Совецкіх Социялістычных Рэспублік.

Артыкул 12. Праца ў БССР з'яўляецца абавязкам і справай чэсці кожнага здольнага да працы грамадзяніна па прынцыпу: «хто не працуе, той не есць».

У БССР ажыццяўляецца прынцып соцыялізма: «ад кожнага па яго здольнасці, кожнаму — па яго працы».

## РАЗДЗЕЛ II
## ДЗЯРЖАЎНЫ ЛАД

Артыкул 13. У мэтах ажыццяўлення ўзаемадапамогі па лініі эканамічнай і палітычнай, роўным чынам як і па лініі абароны, Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка добраахвотна аб'едналася з роўнаправнымі Совецкімі Соцыялістычнымі Рэспублікамі:

Расійскай Совецкай Федэратыўнай Соцыялістычнай Рэспублікай,
Украінскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай,
Узбекскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай,
Казахскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай,
Грузінскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай,
Азербайджанскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай,
Літоўскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай,
Малдаўскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай,
Латвійскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай,
Кіргізскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай,
Таджыкскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай,
Армянскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай,
Туркменскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай,
Эстонскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай,

Карэла-Фінскай Совецкай Сацыялістычнай Рэспублікай у саюзную дзяржаву — Саюз Совецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Выходзячы з гэтага, БССР забяспечвае за СССР у асобе яго вышэйшых органаў улады і органаў дзяржаўнага кіравання правы, вызначаныя артыкулам 14 Канстытуцыі СССР.

Па-за межамі артыкула 14 Канстытуцыі СССР, БССР ажыццяўляе дзяржаўную ўладу самастойна, захоўваючы цалкам свае суверэнныя правы.

Артыкул 14. Беларуская Совецкая Сацыялістычная Рэспубліка складаецца з абласцей: Баранавіцкай, Бабруйскай, Брэсцкай, Віцебскай, Гомельскай, Гродненскай, Мінскай, Магілеўскай, Маладзечненскай, Пінскай, Палескай, Полацкай.

Артыкул. 15. Беларуская Совецкая Сацыялістычная Рэспубліка захоўвае за сабой права свабоднага выхаду з Саюза Совецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Артыкул 16. Тэрыторыя БССР не можа быць зменена без згоды БССР.

Артыкул 16-а. Беларуская Совецкая Сацыялістычная Рэспубліка мае права ўступаць у непасрэдныя зносіны з замежнымі дзяржавамі, заключаць з імі пагадненні і абменьвацца дыпламатычнымі і консульскімі прадстаўнікамі.

Артыкул 16-б. Беларуская Совецкая Сацыялістычная Рэспубліка мае свае рэспубліканскія вайсковыя фарміраванні.

Артыкул 17. Законы СССР абавязковы на тэрыторыі БССР.

Артыкул 18. Кожны грамадзянін БССР з'яўляецца грамадзянінам СССР.

Грамадзяне ўсіх іншых саюзных рэспублік карыстаюцца на тэрыторыі БССР аднолькавымі правамі з грамадзянамі БССР.

Артыкул 19. Веданню Беларускай Совецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ў асобе яе вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і органаў дзяржаўнага кіравання падлягаюць:

а) устанаўленне Канстытуцыі БССР і кантроль за яе захоўваннем;

б) устанаўленне граніц і раённага дзялення абласцей, а таксама прадстаўленне на зацверджанне Вярхоўнага Савета СССР утварэнне новых абласцей у складзе БССР;

в) законадаўства БССР;

г) ахова дзяржаўнага парадку і правоў грамадзян;

д) зацверджанне народнагаспадарчага плана БССР;

е) зацверджанне дзяржаўнага бюджэта БССР і справаздачы аб яго выкананні;

ж) устанаўленне, у адпаведнасці з законадаўствам СССР, дзяржаўных і мясцовых падаткаў, збораў і непадатковых даходаў, а таксама кіраўніцтва ажыццяўленнем мясцовых бюджэтаў абласцей;

з) кіраўніцтва страхавой і ашчаднай справай;

і) кіраванне банкамі, прамысловымі, сельскагаспадарчымі і гандлёвымі прадпрыемствамі і арганізацыямі рэспубліканскага падпарадкавання, а таксама кіраўніцтва мясцовай прамысловасцю;

к) кантроль і нагляд за кіраваннем і становішчам прадпрыемстваў саюзнага падпарадкавання;

л) устанаўленне парадку землекарыстання, а таксама карыстання нетрамі, лясамі і водамі.

м) кіраўніцтва жыллёвай і комунальнай гаспадаркай, жыллёвым будаўніцтвам і добрабытам гарадоў і іншых населеных месц;

н) дарожнае будаўніцтва, кіраўніцтва мясцовым транспартам і сувяззю;

о) законадаўства аб працы;

п) кіраўніцтва справай соцыяльнага забяспечання;

р) кіраўніцтва справай пачатковай, сярэдняй і вышэйшай адукацыі;

с) кіраўніцтва культурна-асветнымі і навуковымі арганізацыямі і ўстановамі ў БССР і кіраванне культурна-асветнымі і навуковымі арганізацыямі і ўстановамі рэспубліканскага значэння;

т) кіраўніцтва справай народнай аховы здароўя і кіраванне ўстановамі аховы здароўя рэспубліканскага значэння;

у) кіраўніцтва і арганізацыя справы фізічнай культуры і спорта;

ф) арганізацыя судовых органаў у БССР;

х) прадастаўленне правоў грамадзянства БССР;

ц) амністыя і памілаванне грамадзян, асуджаных судовымі органамі БССР;

ч) устанаўленне прадстаўніцтва БССР у міжнародных зносінах;

ш) устанаўленне парадку ўтварэння вайсковых фарміраванняў БССР;

шч) законадаўства аб шлюбе і сям'і.

РАЗДЗЕЛ III

## ВЫШЭЙШЫЯ ОРГАНЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАДЫ БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

Артыкул 20. Вышэйшым органам дзяржаўнай улады БССР з'яўляецца Вярхоўны Совет БССР.

Артыкул 21. Вярхоўны Совет БССР выбіраецца грамадзянамі БССР па выбарчых акругах тэрмінам на 4 гады па норме: адзін дэпутат на 20 тысяч насельніцтва.

Артыкул 22. Вярхоўны Совет БССР ажыццяўляе ўсе правы, прысвоеныя БССР, згодна артыкулаў 13 і 19 Канстытуцыі БССР, паколькі яны не ўваходзяць, у сілу Канстытуцыі, у кампетэнцыю падсправаздачных Вярхоўнаму Совету БССР органаў БССР: Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР, Совета Міністраў БССР і Міністэрстваў БССР.

Артыкул 23. Вярхоўны Совет БССР з'яўляецца адзіным законадаўчым органам БССР.

Артыкул 24. Закон лічыцца зацверджаным, калі ён прыняты Вярхоўным Советам БССР простай большасцю галасоў.

Артыкул 25. Законы, прынятыя Вярхоўным Советам БССР, публікуюцца на беларускай і рускай мовах за

подпісамі Старшыні і Сакратара Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР.

Артыкул 26. Вярхоўны Совет БССР выбірае Старшыню Вярхоўнага Совета БССР і чатырох яго намеснікаў.

Артыкул 27. Старшыня Вярхоўнага Совета БССР кіруе паседжаннямі Вярхоўнага Совета БССР і ведае яго ўнутраным распарадкам.

Артыкул 28. Сесіі Вярхоўнага Совета БССР склікаюцца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР два разы ў год.

Унечарговыя сесіі склікаюцца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР па яго гледжанню або па патрабаванню адной трэці дэпутатаў Вярхоўнага Совета.

Артыкул 29. Вярхоўны Совет БССР выбірае Прэзідыум Вярхоўнага Совета БССР у складзе: Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР, двух намеснікаў Старшыні, Сакратара Прэзідыума і пятнаццаці членаў Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР.

Артыкул 30. Прэзідыум Вярхоўнага Совета БССР падсправаздачны Вярхоўнаму Совету БССР ва ўсёй сваёй дзейнасці.

Артыкул 31. Прэзідыум Вярхоўнага Совета БССР:

а) склікае сесіі Вярхоўнага Совета БССР;

б) дае тлумачэнні законаў БССР, выдае ўказы;

в) праводзіць усенароднае апытанне (рэферэндум);

г) адмяняе пастановы і распараджэнні Совета Міністраў БССР, а таксама рашэнні і распараджэнні абласных Советаў дэпутатаў працоўных у выпадку іх неадпаведнасці закону;

д) у перыяд паміж сесіямі Вярхоўнага Совета БССР, па прадстаўленню Старшыні Совета Міністраў БССР, аслабаняе ад пасады і назначае асобных Міністраў БССР з паследуючым унясеннем на зацверджанне Вярхоўнага Совета БССР;

е) узнагароджвае ганаровымі граматамі і граматамі Вярхоўнага Совета БССР, а таксама прысвайвае ганаровыя званні БССР;

ж) ажыццяўляе права памілавання грамадзян, асуджаных судовымі органамі БССР;

з) прымае ў грамадзянства БССР;

і) назначае і адклікае дыпламатычных прадстаўнікоў БССР у замежных дзяржавах;

к) прымае вярыцельныя і адзыўныя граматы акрэдытаваных пры ім дыпламатычных прадстаўнікоў замежных дзяржаў.

Артыкул 32. Вярхоўны Совет БССР выбірае мандатную камісію, якая правярае паўнамоцтвы дэпутатаў Вярхоўнага Совета БССР.

Па прадстаўленню мандатнай камісіі Вярхоўны Совет БССР рашае або прызнаць паўнамоцтвы, або касіраваць выбары асобных дэпутатаў.

Артыкул 33. Вярхоўны Совет БССР назначае, калі ён палічыць неабходным, следчыя і рэвізійныя камісіі па любому пытанню.

Усе ўстановы і службовыя асобы абавязаны выконваць патрабаванні гэтых камісій і прадстаўляць ім неабходныя матэрыялы і дакументы.

Артыкул 34. Дэпутат Вярхоўнага Совета БССР не можа быць прыцягнуты да судовай адказнасці або арыштаваны без згоды Вярхоўнага Совета БССР, а ў перыяд паміж сесіямі Вярхоўнага Совета БССР — без згоды Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР.

Артыкул 35. Па сканчэнні паўнамоцтваў Вярхоўнага Совета БССР Прэзідыум Вярхоўнага Совета БССР назначае новыя выбары ў тэрмін не больш двух месяцаў з дня сканчэння паўнамоцтваў Вярхоўнага Совета БССР.

Артыкул 36. Па сканчэнні паўнамоцтваў Вярхоўнага Совета БССР Прэзідыум Вярхоўнага Совета БССР захоўвае свае паўнамоцтвы аж да ўтварэння новавыбраным Вярхоўным Советам БССР новага Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР.

Артыкул 37. Нававыбраны Вярхоўны Совет БССР склікаецца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР ранейшага склікання не пазней, як праз тры месяцы пасля выбараў.

Артыкул 38. Вярхоўны Совет БССР утварае Урад БССР — Совет Міністраў БССР.

РАЗДЗЕЛ IV

## ОРГАНЫ ДЗЯРЖАЎНАГА КІРАВАННЯ БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

Артыкул 39. Вышэйшым выканаўчым і распарадчым органам дзяржаўнай улады БССР з'яўляецца Совет Міністраў БССР.

Артыкул 40. Совет Міністраў БССР адказны перад Вярхоўным Советам БССР і яму падсправаздачны, а ў перыяд паміж сесіямі Вярхоўнага Совета БССР — перад Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР, якому падсправаздачны.

Артыкул 41. Совет Міністраў БССР выдае пастановы і распараджэнні на аснове і ў выкананне дзеючых законаў СССР і БССР, пастаноў і распараджэнняў Совета Міністраў СССР і правярае іх выкананне.

Артыкул 42. Пастановы і распараджэнні Совета Міністраў БССР абавязковы к выкананню на ўсёй тэрыторыі БССР.

Артыкул 43. Совет Міністраў БССР:

а) аб'ядноўвае і накіроўвае работу рэспубліканскіх і саюзна-рэспубліканскіх Міністэрстваў БССР і іншых падведамственных яму ўстаноў; аб'ядноўвае і правярае работу ўпаўнаважаных агульнасаюзных Міністэрстваў;

б) складае народнагаспадарчы план БССР, уносіць яго на зацверджанне Вярхоўнага Совета БССР і прымае меры па ажыццяўленню народнагаспадарчага плана;

в) складае дзяржаўны бюджэт БССР і звод мясцовых бюджэтаў БССР, уносіць дзяржаўны бюджэт на зацвер-

джанне Вярхоўнага Совета БССР і прымае меры па ажыццяўленню дзяржаўнага і мясцовых бюджэтаў;

г) прымае меры па забяспечанню грамадскага парадку, абароне інтарэсаў дзяржавы і ахове правоў грамадзян;

д) кіруе і правярае работу выканаўчых камітэтаў абласных Советаў дэпутатаў працоўных;

е) утварае, у выпадку неабходнасці, спецыяльныя камітэты і Галоўныя Упраўленні пры Совеце Міністраў БССР па справах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва;

ж) ажыццяўляе кіраўніцтва ў галіне зносін БССР з замежнымі дзяржавамі, выходзячы з агульнага ўстаноўленага Саюзам ССР парадку ва ўзаемаадносінах Саюзных рэспублік з замежнымі дзяржавамі;

з) кіруе арганізацыяй вайсковых фарміраванняў БССР.

Артыкул 44. Совет Міністраў БССР мае права адмяняць рашэнні і распараджэнні выканаўчых камітэтаў абласных Советаў дэпутатаў працоўных, а таксама прыпыняць рашэнні і распараджэнні абласных Советаў дэпутатаў працоўных.

Совет Міністраў БССР мае права адмяняць загады і інструкцыі Міністраў БССР.

Артыкул 45. Совет Міністраў БССР утвараецца Вярхоўным Советам БССР у складзе:

Старшыні Совета Міністраў БССР;

Намеснікаў Старшыні Совета Міністраў БССР;

Старшыні Дзяржаўнай Планавай Камісіі БССР;

Міністраў БССР;

Начальніка Упраўлення па справах мастацтваў;

Старшыні Камітэта па справах культурна-асветных устаноў.

Артыкул 46. Міністры БССР кіруюць галінамі дзяржаўнага кіравання, якія ўваходзяць у кампетэнцыю БССР.

Артыкул 47. Міністры БССР выдаюць у межах кампетэнцыі адпаведных Міністэрстваў загады і інструкцыі на падставе і ў выкананне законаў СССР і БССР, пастаноў і распараджэнняў Совета Міністраў СССР і Совета Міністраў

БССР, загадаў і інструкцый саюзна-рэспубліканскіх Міністэрстваў СССР і правяраюць іх выкананне.

Артыкул 48. Міністэрствы БССР з'яўляюцца або саюзна-рэспубліканскімі, або рэспубліканскімі.

Да саюзна-рэспубліканскіх Міністэрстваў БССР адносяцца Міністэрствы:

Смакавай прамысловасці;
Унутраных спраў;
Узброеных сіл;
Дзяржаўнага кантролю;
Дзяржаўнай бяспекі;
Аховы здароўя;
Замежных спраў;
Кінематаграфіі;
Лёгкай прамысловасці;
Лясной прамысловасці;
Лясной гаспадаркі;
Мясной і малочнай прамысловасці;
Харчовай прамысловасці;
Прамысловасці будаўнічых матэрыялаў;
Сельскай гаспадаркі;
Соўгасаў;
Тэкстыльнай прамысловасці;
Гандлю;
Фінансаў;
Юстыцыі.

Да рэспубліканскіх Міністэрстваў БССР адносяцца Міністэрствы:

Аўтамабільнага транспарта;
Жыллёва-грамадзянскага будаўніцтва;
Комунальнай гаспадаркі;
Мясцовай прамысловасці;
Мясцовай паліўнай прамысловасці;
Меліярацыі;
Асветы;
Соцыяльнага забяспечання.

Артыкул 49. Саюзна-рэспубліканскія Міністэрствы БССР кіруюць даручанымі ім галінамі дзяржаўнага кіравання БССР, за выключэннем толькі абмежаванай колькасці прадпрыемстваў па спісу, які зацвярджаецца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета СССР, падпарадкуючыся як Совету Міністраў БССР, так і адпаведным саюзна-рэспубліканскім Міністэрствам СССР.

Артыкул 50. Рэспубліканскія Міністэрствы БССР кіруюць даручанымі ім галінамі дзяржаўнага кіравання, падпарадкуючыся непасрэдна Совету Міністраў БССР.

Артыкул 51. Урад БССР або Міністр БССР, да якіх звернута запытанне дэпутата Вярхоўнага Совета БССР, абавязаны не больш як у трохдзённы тэрмін даць вусны або пісьмовы адказ у Вярхоўным Совеце БССР.

## РАЗДЗЕЛ V

## МЯСЦОВЫЯ ОРГАНЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАДЫ

Артыкул 52. Органамі дзяржаўнай улады ў абласцях, раёнах, гарадах, пасёлках, сёлах, вёсках з'яўляюцца Советы дэпутатаў працоўных.

Артыкул 53. Абласныя, раённыя, гарадскія, раённыя ў вялікіх гарадах, пасялковыя і сельскія Советы дэпутатаў працоўных выбіраюцца адпаведна працоўнымі вобласці, раёна, горада, пасёлка, сяла, вёскі тэрмінам на два гады.

Артыкул 54. Советы дэпутатаў працоўных (вобласці, раёна, горада, пасёлка, сяла) кіруюць культурна-палітычным і гаспадарчым будаўніцтвам на сваёй тэрыторыі, устанаўліваюць мясцовыя бюджэты, кіруюць дзейнасцю падпарадкаваных ім органаў кіравання, забяспечваюць ахову дзяржаўнага парадку, садзейнічаюць узмацненню абароназдольнасці краіны, забяспечваюць выкананне законаў і ахову правоў грамадзян.

Артыкул 55. Советы дэпутатаў працоўных прымаюць рашэнні і даюць распараджэнні ў межах правоў, прадастаўленых ім законамі СССР і БССР.

А р т ы к у л 56. Выканаўчымі і распарадчымі органамі абласных, раённых, гарадскіх, пасялковых і сельскіх Советаў дэпутатаў працоўных з'яўляюцца выбіраемыя імі выканаўчыя камітэты ў складзе: старшыні, яго наменікаў, сакратара і членаў.

А р т ы к у л 57. Выканаўчымі і распарадчымі органамі Советаў дэпутатаў працоўных у невялікіх пасяленнях з'яўляюцца: старшыня, наменік старшыні і сакратар, якія выбіраюцца адпаведнымі Советамі дэпутатаў працоўных.

А р т ы к у л 58. Выканаўчыя камітэты Советаў дэпутатаў працоўных (вобласці, раёна, горада, пасёлка, сяла) ажыццяўляюць кіраўніцтва культурна-палітычным і гаспадарчым будаўніцтвам на сваёй тэрыторыі на аснове рашэнняў адпаведных Советаў дэпутатаў працоўных і вышэйстаячых дзяржаўных органаў.

А р т ы к у л 59. Сесіі абласных Советаў дэпутатаў працоўных склікаюцца іх выканаўчымі камітэтамі не радзей 4 разоў у год.

Сесіі раённых Советаў дэпутатаў працоўных склікаюцца іх выканаўчымі камітэтамі не радзей 6 разоў у год.

А р т ы к у л 60. Сесіі гарадскіх, пасялковых і сельскіх Советаў дэпутатаў працоўных склікаюцца іх выканаўчымі органамі не радзей аднаго разу ў месяц.

А р т ы к у л 61. Абласныя, раённыя, гарадскія і пасялковыя Советы дэпутатаў працоўных выбіраюць на час сваёй сесіі старшыню і сакратара для вядзення паседжанняў сесіі.

А р т ы к у л 62. Старшыня сельскага Совета дэпутатаў працоўных склікае сельскі Совет і вядзе яго паседжанні.

А р т ы к у л 63. Выканаўчыя органы Советаў дэпутатаў працоўных абласцей, раёнаў, гарадоў, пасёлкаў, сёлаў непасрэдна падсправаздачны як Совету дэпутатаў працоўных, які іх выбраў, так і выканаўчаму органу вышэйстаячага Совета дэпутатаў працоўных.

А р т ы к у л 64. Вышэйстаячыя выканаўчыя камітэты Советаў дэпутатаў працоўных маюць права адмяняць рашэнні і распараджэнні ніжэйстаячых выканаўчых камітэтаў і прыпы-

няць рашэнні і распараджэнні ніжэйстаячых Советаў дэпутатаў працоўных.

Артыкул 65. Вышэйстаячыя Советы дэпутатаў працоўных маюць права адмяняць рашэнні і распараджэнні ніжэйстаячых Советаў дэпутатаў працоўных і іх выканаўчых камітэтаў.

Артыкул 66. Абласныя Советы дэпутатаў працоўных утвараюць наступныя аддзелы і ўпраўленні выканаўчых камітэтаў:

сельскай гаспадаркі;
фінансавы;
гандлю;
аховы здароўя;
народнай асветы;
мясцовай прамысловасці;
комунальнай гаспадаркі;
соцыяльнага забяспечання;
аўтамабільнага транспарта;
мясцовай паліўнай прамысловасці,
дарожны;
агульны;
па справах мастацтваў;
сельскага і калгаснага будаўніцтва;
культурна-асветных устаноў;
планавую камісію;
сектар кадраў пры старшыні выканкома

і, апрача таго, у адпаведнасці з асаблівасцямі гаспадаркі вобласці, з зацверджання саюзна-рэспубліканскіх Міністэрстваў лёгкай прамысловасці, харчовай прамысловасці, лясной прамысловасці, соўгасаў, абласныя Советы дэпутатаў працоўных утвараюць аддзелы або ўпраўленні:

лёгкай прамысловасці;
харчовай прамысловасці;
лясной прамысловасці;
соўгасаў.

Артыкул 67. У адпаведнасці з умовамі вобласці, на аснове законаў СССР і БССР, агульнасаюзныя Міністэрствы, Міністэрства ўнутраных спраў БССР, Міністэрства дзяржаўнай бяспекі і Міністэрства юстыцыі БССР утвараюць пры абласных Советах дэпутатаў працоўных свае ўпраўленні.

Артыкул 68. Аддзелы і ўпраўленні абласных Советаў дэпутатаў працоўных падпарадкуюцца ў сваёй дзейнасці як адпаведнаму абласному Совету дэпутатаў працоўных і яго выканаўчаму камітэту, так і адпаведнаму Міністэрству БССР.

Артыкул 69. Раённыя Советы дэпутатаў працоўных утвараюць наступныя аддзелы выканаўчых камітэтаў:

сельскай гаспадаркі;
народнай асветы;
фінансавы;
гандлю;
аховы здароўя;
социяльнага забяспечання;
агульны;
дарожны;
сельскага і калгаснага будаўніцтва;
культурна-асветных устаноў;
планавую камісію;
сектар кадраў пры старшыні выканкома

і, апрача таго, у адпаведнасці з асаблівасцямі гаспадаркі раёна, з зацверджання абласнога Совета дэпутатаў працоўных, раённыя Советы дэпутатаў працоўных утвараюць аддзелы: комунальны і мясцовай прамысловасці.

Артыкул 70. У адпаведнасці з умовамі раёна, на аснове законаў СССР і БССР, з зацверджання адпаведнага абласнога Совета дэпутатаў працоўных, Міністэрства ўнутраных спраў БССР, Міністэрства Дзяржаўнай бяспекі БССР утвараюць пры раённых Советах дэпутатаў працоўных свае ўпраўленні.

Артыкул 71. Аддзелы раённых Советаў дэпутатаў працоўных падпарадкуюцца ў сваёй дзейнасці як раённаму Со-

вету дэпутатаў працоўных і яго выканаўчаму камітэту, так і адпаведнаму аддзелу абласнога Совета дэпутатаў працоўных.

Артыкул 72. Гарадскія Советы дэпутатаў працоўных утвараюць наступныя аддзелы выканаўчых камітэтаў:

фінансавы;
комунальнай гаспадаркі;
гандлю;
аховы здароўя;
народнай асветы;
социяльнага забяспечання;
агульны;
культурна-асветных устаноў;
планавую камісію;
сектар кадраў пры старшыні выканкома

і, апрача таго, у адпаведнасці з асаблівасцямі прамысловасці горада, яго гарадской і прыгараднай гаспадаркі:

мясцовай прамысловасці,
сельскай гаспадаркі.

Артыкул 73. Аддзелы гарадскіх Советаў дэпутатаў працоўных падпарадкуюцца ў сваёй дзейнасці як гарадскому Совету дэпутатаў працоўных і яго выканаўчаму камітэту, так і адпаведнаму аддзелу раённага Совета дэпутатаў працоўных або непасрэдна адпаведнаму аддзелу абласнога Совета дэпутатаў працоўных.

Артыкул 74. Аддзелы гарадскіх Советаў дэпутатаў працоўных Баранавіч, Бабруйска, Барысава, Брэста, Вілейкі, Віцебска, Гомеля, Гродна, Ліды, Магілева, Мазыра, Маладзечна, Оршы, Пінска, Полацка, Рэчыцы і Слуцка падпарадкуюцца ў сваёй дзейнасці як Советам дэпутатаў працоўных гэтых гарадоў і іх выканаўчым камітэтам, так і адпаведнаму аддзелу абласнога Совета дэпутатаў працоўных непасрэдна.

Артыкул 74-а. Аддзелы гарадскога Совета дэпутатаў працоўных Мінска падпарадкуюцца ў сваёй дзейнасці як гарадскому Совету дэпутатаў працоўных Мінска і яго выканаўчаму камітэту, так і адпаведнаму Міністэрству БССР непасрэдна.

Артыкул 75. Па сканчэнні паўнамоцтваў абласных, раённых, гарадскіх, пасялковых і сельскіх Советаў дэпутатаў працоўных іх выканаўчыя і распарадчыя органы захоўваюць свае паўнамоцтвы аж да ўтварэння нававыбранымі Советамі дэпутатаў працоўных новых выканаўчых і распарадчых органаў.

## РАЗДЗЕЛ VI

## БЮДЖЭТ БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

Артыкул 76. Дзяржаўны бюджэт БССР складаецца Советам Міністраў БССР і ўносіцца ім на зацверджанне Вярхоўнага Совета БССР.

Зацверджаны Вярхоўным Советам БССР дзяржаўны бюджэт БССР публікуецца да ўсеагульнага ведама.

Артыкул 77. Вярхоўны Совет БССР выбірае Бюджэтную камісію, якая дакладвае Вярхоўнаму Совету сваё заключэнне па дзяржаўнаму бюджэту БССР.

Артыкул 78. Справаздача аб выкананні дзяржаўнага бюджэта БССР зацвярджаецца Вярхоўным Советам БССР і публікуецца да ўсеагульнага ведама.

Артыкул 79. У бюджэты абласных, раённых, гарадскіх, пасялковых і сельскіх Советаў уключаюцца даходы ад мясцовай гаспадаркі, адлічэнні ад паступаючых на іх тэрыторыі дзяржаўных даходаў, а таксама паступленні ад мясцовых падаткаў і збораў у размерах, якія ўстанаўліваюцца заканадаўствам СССР і БССР.

## РАЗДЗЕЛ VII

## СУД І ПРАКУРАТУРА

Артыкул 80. Правасуддзе ў БССР ажыццяўляецца Вярхоўным Судом БССР, абласнымі судамі і народнымі судамі, а таксама спецыяльнымі судамі СССР, якія ствараюцца па пастанове Вярхоўнага Совета СССР.

Артыкул 81. Разгляд спраў ва ўсіх судах ажыццяўляецца з удзелам народных засядацеляў, апрача выпадкаў, спецыяльна прадугледжаных законам.

Артыкул 82. Вярхоўны Суд БССР з'яўляецца вышэйшым судовым органам БССР.

На Вярхоўны Суд БССР ускладаецца нагляд за судовай дзейнасцю ўсіх судовых органаў БССР.

Артыкул 83. Вярхоўны Суд БССР выбіраецца Вярхоўным Саветам БССР тэрмінам на пяць год.

Артыкул 84. Абласныя суды выбіраюцца абласнымі Саветамі дэпутатаў працоўных тэрмінам на пяць год.

Артыкул 85. Народныя суды выбіраюцца грамадзянамі раёна на аснове ўсеагульнага, прамога і роўнага выбарчага права пры тайным галасаванні тэрмінам на тры гады.

Артыкул 86. Судавядзенне ў БССР праводзіцца на беларускай мове з забяспечаннем для асоб, якія не ўладаюць гэтай мовай, поўнага азнаямлення з матэрыяламі справы праз перакладчыка, а таксама права выступаць на судзе на роднай мове.

Артыкул 87. Разгляд спраў ва ўсіх судах БССР адкрыты, паколькі законам не прадугледжаны выключэнні, з забяспечаннем абвінавачваемаму права на абарону.

Артыкул 88. Суддзі незалежны і падпарадкуюцца толькі закону.

Артыкул 89. Вышэйшы нагляд за дакладным выкананнем законаў усімі Міністэрствамі і падведамственнымі ім установамі, роўным чынам як асобнымі службовымі асобамі, а таксама грамадзянамі на тэрыторыі БССР ажыццяўляецца як Генеральным Пракурорам СССР непасрэдна, так і праз Пракурора БССР.

Артыкул 90. Пракурор БССР і абласныя пракуроры назначаюцца Генеральным Пракурорам СССР тэрмінам на пяць год.

Артыкул 91. Раённыя і гарадскія пракуроры назначаюцца Пракурорам БССР з зацверджання Генеральнага Пракурора СССР тэрмінам на пяць год.

Артыкул 92. Органы пракуратуры ажыццяўляюць свае функцыі незалежна ад якіх-бы там ні было мясцовых органаў, падпарадкуючыся толькі Генеральнаму Пракурору СССР.

## РАЗДЗЕЛ VIII
## АСНОЎНЫЯ ПРАВЫ І АБАВЯЗКІ ГРАМАДЗЯН

Артыкул 93. Грамадзяне БССР маюць права на працу, гэта значыць права на атрыманне гарантыраванай работы з аплатай іх працы ў адпаведнасці з яе колькасцю і якасцю.

Права на працу забяспечваецца соцыялістычнай арганізацыяй народнай гаспадаркі, няўхільным ростам прадукцыйных сіл совецкага грамадства, прадухіленнем магчымасці гаспадарчых крызісаў і ліквідацыяй беспрацоўя.

Артыкул 94. Грамадзяне БССР маюць права на адпачынак.

Права на адпачынак забяспечваецца ўстанаўленнем для рабочых і служачых васьмігадзіннага рабочага дня і скарачэннем рабочага дня да сямі і шасці гадзін для раду прафесій з цяжкімі ўмовамі работы і да чатырох гадзін — у цэхах з асабліва цяжкімі ўмовамі работы; устанаўленнем штогадовых водпускаў рабочым і служачым з захаваннем заработнай платы; прадастаўленнем для абслугоўвання працоўных шырокай сеткі санаторыяў, дамоў адпачынку, клубаў.

Артыкул 95. Грамадзяне БССР маюць права на матэрыяльнае забяспечанне ў старасці, а таксама ў выпадку хваробы і страты працаздольнасці.

Гэтае права забяспечваецца шырокім развіццём соцыяльнага страхавання рабочых і служачых за кошт дзяржавы, бясплатнай медыцынскай дапамогай працоўным, прадастаўленнем у карыстанне працоўным шырокай сеткі курортаў.

Артыкул 96. Грамадзяне БССР маюць права на адукацыю.

Гэтае права забяспечваецца ўсеагульна-абавязковай пачатковай адукацыяй, бясплатнасцю сямігадовай адукацыі,

сістэмай дзяржаўных стыпендый вызначыўшымся навучаючымся ў вышэйшай школе, навучаннем у школах на роднай мове, арганізацыяй на заводах, у соўгасах, машынна-трактарных станцыях і калгасах бясплатнага вытворчага, тэхнічнага і агранамічнага навучання працоўных.

Артыкул 97. Жанчыне ў БССР прадастаўляюцца роўныя правы з мужчынам ва ўсіх галінах гаспадарчага, дзяржаўнага, культурнага і грамадска-палітычнага жыцця.

Магчымасць ажыццяўлення гэтых правоў жанчын забяспечваецца прадастаўленнем жанчыне роўнага з мужчынам права на працу, аплату працы, адпачынак, социяльнае страхаванне і адукацыю, дзяржаўнай аховай інтарэсаў мацеры і дзіцяці, дзяржаўнай дапамогай многадзетным і адзінокім мацерам, прадастаўленнем жанчыне пры цяжарнасці водпускаў з захаваннем утрымання, шырокай сеткай радзільных дамоў, дзіцячых ясляў і садоў.

Артыкул 98. Роўнаправе грамадзян БССР, незалежна ад іх нацыянальнасці і расы, ва ўсіх галінах гаспадарчага, дзяржаўнага, культурнага і грамадска-палітычнага жыцця з'яўляецца непарушным законам.

Якое-б там ні было прамое або ўскоснае абмежаванне правоў або, наадварот, устанаўленне прамых або ўскосных пераваг грамадзян у залежнасці ад іх расавай і нацыянальнай прыналежнасці, роўным чынам як усякая пропаведзь расавай або нацыянальнай выключнасці, або нянавісці і пагарды — караюцца законам.

Артыкул 99. У мэтах забяспечання за грамадзянамі свабоды совесці царква ў БССР аддзелена ад дзяржавы і школа ад царквы. Свабода адпраўлення рэлігійных культаў і свабода антырэлігійнай прапаганды прызнаецца за ўсімі грамадзянамі.

Артыкул 100. У адпаведнасці з інтарэсамі працоўных і ў мэтах умацавання соцыялістычнага ладу грамадзянам БССР гарантыруецца законам:

а) свабода слова;

б) свабода друку;

в) свабода сходаў і мітынгаў;

г) свабода вулічных шэсцяў і дэманстрацый.

Гэтыя правы грамадзян забяспечваюцца прадастаўленнем працоўным і іх арганізацыям друкарняў, запасаў паперы, грамадскіх будынкаў, вуліц, сродкаў сувязі і іншых матэрыяльных умоў, неабходных для іх ажыццяўлення.

Артыкул 101. У адпаведнасці з інтарэсамі працоўных і ў мэтах развіцця арганізацыйнай самадзейнасці і палітычнай актыўнасці народных мас, грамадзянам БССР забяспечваецца права аб'еднання ў грамадскія арганізацыі: прафесіянальныя саюзы, кааператыўныя аб'яднанні, арганізацыі моладзі, спартыўныя і абаронныя арганізацыі, культурныя, тэхнічныя і навуковыя таварыствы, а найбольш актыўныя і свядомыя грамадзяне з радоў рабочага класа і іншых слаёў працоўных аб'ядноўваюцца ва Усесаюзную Комуністычную партыю (большэвікоў), якая з'яўляецца перадавым атрадам працоўных у іх барацьбе за ўмацаванне і развіццё соцыялістычнага ладу і прадстаўляе кіруючае ядро ўсіх арганізацый працоўных як грамадскіх, так і дзяржаўных.

Артыкул 102. Грамадзянам БССР забяспечваецца недатыкальнасць асобы. Ніхто не можа быць арыштаваны інакш як па пастанове суда або з санкцыі пракурора.

Артыкул 103. Недатыкальнасць жылля грамадзян і тайна перапіскі ахоўваюцца законам.

Артыкул 104. БССР прадастаўляе права прытулку замежным грамадзянам, якія праследуюцца за абарону інтарэсаў працоўных, або навуковую дзейнасць, або нацыянальна-вызваленчую барацьбу.

Артыкул 105. Кожны грамадзянін БССР абавязан захоўваць Канстытуцыю Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, выконваць законы, захоўваць дысцыпліну працы, добрасумленна адносіцца да грамадскага абавязку, паважаць правілы соцыялістычнага агульнажыцця.

Артыкул 106. Кожны грамадзянін БССР абавязан берагчы і ўмацоўваць грамадскую, соцыялістычную ўласнасць, як свяшчэнную і недатыкальную аснову совецкага ладу, як

крыніцу багацця і магутнасці радзімы, як крыніцу заможнага і культурнага жыцця ўсіх працоўных.

Асобы, якія пасягаюць на грамадскую, соцыялістычную ўласнасць, з'яўляюцца ворагамі народа.

Артыкул 107. Усеагульны воінскі абавязак з'яўляецца законам.

Воінская служба ў радах Узброеных Сіл СССР з'яўляецца пачэсным абавязкам грамадзян БССР.

Артыкул 108. Абарона айчыны ёсць свяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна БССР. Здрада радзіме: нарушэнне прысягі, пераход на бок ворага, нанясенне шкоды ваеннай магутнасці дзяржавы, шпіянаж — караюцца па ўсёй строгасці закона, як самае цяжкае злачынства.

## РАЗДЗЕЛ IX
## ВЫБАРЧАЯ СІСТЭМА

Артыкул 109. Выбары дэпутатаў ва ўсе Советы дэпутатаў працоўных: у Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, абласныя, раённыя, гарадскія, пасялковыя і сельскія Советы дэпутатаў працоўных праводзяцца выбаршчыкамі на аснове ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні.

Артыкул 110. Выбары дэпутатаў з'яўляюцца ўсеагульнымі: усе грамадзяне БССР, якія дасягнулі 18 год, незалежна ад расавай і нацыянальнай прыналежнасці, пола, веравызнання, адукацыйнага цэнза, аселасці, соцыяльнага паходжання, маёмаснага становішча і мінулай дзейнасці, маюць права ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў і быць выбранымі, за выключэннем страціўшых розум і асоб, асуджаных судом з пазбаўленнем выбарчых правоў.

Дэпутатам Вярхоўнага Совета БССР можа быць выбран кожны грамадзянін БССР, які дасягнуў 21 года, незалежна ад расавай і нацыянальнай прыналежнасці, пола, веравызнан-

ня, адукацыйнага цэнза, аселасці, соцыяльнага паходжання, маёмаснага становішча і мінулай дзейнасці.

Артыкул 111. Выбары дэпутатаў з'яўляюцца роўнымі, кожны грамадзянін мае адзін голас; усе грамадзяне ўдзельнічаюць у выбарах на роўных падставах.

Артыкул 112. Жанчыны карыстаюцца правам выбіраць і быць выбранымі нароўні з мужчынамі.

Артыкул 113. Грамадзяне, якія знаходзяцца ў радах Узброеных Сіл СССР, карыстаюцца правам выбіраць і быць выбранымі нароўні з усімі грамадзянамі.

Артыкул 114. Выбары дэпутатаў з'яўляюцца прамымі: выбары ва ўсе Советы дэпутатаў працоўных, пачынаючы ад сельскага і гарадскога Совета дэпутатаў працоўных аж да Вярхоўнага Совета БССР, праводзяцца грамадзянамі непасрэдна шляхам прамых выбараў.

Артыкул 115. Галасаванне пры выбарах дэпутатаў з'яўляецца тайным.

Артыкул 116. Кандыдаты пры выбарах выстаўляюцца па выбарчых акругах.

Права выстаўлення кандыдатаў забяспечваецца за грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі працоўных: комуністычнымі партыйнымі арганізацыямі, прафесіянальнымі саюзамі, кааператывамі, арганізацыямі моладзі, культурнымі таварыствамі.

Артыкул 117. Кожны дэпутат абавязан рабіць справаздачу перад выбаршчыкамі аб сваёй рабоце і аб рабоце Совета дэпутатаў працоўных і можа быць у любы час адкліканы па рашэнню большасці выбаршчыкаў ва ўстаноўленым законам парадку.

Артыкул 118. Выбары ў Советы дэпутатаў працоўных БССР праводзяцца па выбарчых акругах па наступных нормах:

абласнога Совета, у залежнасці ад размераў вобласці, — адзін дэпутат не менш, чым ад 10 000 і не больш, чым ад 15 000 чалавек насельніцтва;

раённага Совета — адзін дэпутат ад 1 000 чалавек насельніцтва; у раёне з насельніцтвам да 25 000 чалавек выбіраецца 25 дэпутатаў; у раёне з насельніцтвам звыш 60 000 чалавек выбіраецца не больш 60 дэпутатаў;

гарадскога Совета і раённага Совета ў гарадах, у залежнасці ад размераў горада або гарадскога раёна, — адзін дэпутат не менш, чым ад 350 чалавек насельніцтва і не больш, чым ад 1 000 чалавек насельніцтва; у горадзе і ў гарадскім раёне з насельніцтвам да 12 000 чалавек выбіраецца 35 дэпутатаў;

сельскага і пасялковага Советаў — адзін дэпутат ад 100 чалавек насельніцтва; у сельскіх Советах і пасёлках з насельніцтвам да 1 000 чалавек выбіраецца 9 дэпутатаў, а з насельніцтвам звыш 2 500 — не больш 25 дэпутатаў.

Выбарчыя нормы для кожнага абласнога, раённага, гарадскога, сельскага і пасялковага Совета дэпутатаў працоўных устанаўліваюцца «Палажэннем аб выбарах у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя Советы дэпутатаў працоўных БССР» у межах выбарчых норм, указаных у даным артыкуле.

## РАЗДЗЕЛ X
## ГЕРБ, СЦЯГ, СТАЛІЦА

Артыкул 119. Дзяржаўны герб Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі складаецца з ізабражэння ў праменнях узыходзячага сонца сярпа і молата, акружаных вянком, які складаецца злева з жытніх калоссяў, пераплеценых канюшынай, і справа — з жытніх калоссяў, пераплеценых ільном; унізе паміж абодвума палавінамі вянка знаходзіцца частка зямнога шара. Абедзве палавіны вянка перавіты чырвонай істужкай, на якой змешчаны надпісы на беларускай і рускай мовах: «Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!», і ніжэй — ініцыялы «БССР». Наверсе герба знаходзіцца пяціканцовая зорка.

Артыкул 120. Дзяржаўны сцяг Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі складаецца з чырвонага палотнішча з ізабражэннем на яго верхнім кутку, ля дрэўка, залатых сярпа і молата і над імі — чырвонай пяціканцовай зоркі, акружанай залатой каймой, а ўнізе сярпа і молата залатыя літары — «БССР». Адносіны шырыні к даўжыні 1 : 2.

Артыкул 121. Сталіцай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца горад Мінск.

## РАЗДЗЕЛ XI

## ПАРАДАК ЗМЯНЕННЯ КАНСТЫТУЦЫІ

Артыкул 122. Змяненне Канстытуцыі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ўтвараецца толькі па рашэнню Вярхоўнага Савета БССР, прынятаму большасцю не менш двух трэцей галасоў Вярхоўнага Савета.

18

# ДЭКЛАРАЦЫЯ НАРОДНАГА САБРАННЯ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ АБ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАДЗЕ

*(Прынята аднагалосна на паседжанні 29 кастрычніка 1939 г.)*

На працягу многіх год народы Заходняй Беларусі аграбляліся польскімі памешчыкамі і капіталістамі. Нацыянальны гнёт даходзіў да крайніх межаў, беспрацоўе, голад і галеча былі адзіным лёсам працоўных горада і вёскі.

Польская дзяржава была турмой народаў. Урад праводзіў гнусную палітыку насільнага апалячвання. Беларусы, украінцы і іншыя народы няпольскай нацыянальнасці былі пазбаўлены права на развіццё сваёй культуры і нават на родную мову. Нацыянальныя беларускія, украінскія і яўрэйскія школы былі разгромлены.

Такія вось былі парадкі і ўмовы жыцця працоўных Заходняй Беларусі ў былой польскай дзяржаве.

Народы вялікага Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік працягнулі нам руку брацкай дапамогі і назаўсёды вызвалілі працоўных Заходняй Беларусі з-пад ярма палітычнага, сацыяльнага і нацыянальнага гнёту. Упершыню народы Заходняй Беларусі атрымалі права распарадзіцца сваім лёсам.

Беларускае Народнае (Нацыянальнае) Сабранне, як адзіны і поўнакроўны выражальнік волі народаў Заходняй Беларусі, заклікана вырашыць пытанне аб характары ствараемай на тэрыторыі Заходняй Беларусі дзяржаўнай улады.

Вырашаючы пытанне аб характары ствараемай улады, мы звяртаемся да прыкладу вялікага Совецкага Саюза. У часіну цяжкіх выпрабаванняў для жыцця нашага народа толькі ў асобе совецкай улады мы знайшлі свайго вызваліцеля, свайго магутнага і вернага абаронцу. Вялікі гістарычны вопыт народаў Совецкага Саюза вучыць нас таму, што толькі совецкая ўлада — гэта сапраўды народная ўлада, дзе краінай кіруе сам народ без памешчыкаў і капіталістаў.

У Саюзе Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік назаўсёды знішчана наёмнае рабства, знішчана эксплаатацыя чалавека чалавекам. За кожным працоўным забяспечана права на працу, права на адпачынак, права на матэрыяльнае забеспячэнне ў старасці, права на адукацыю. Клопат аб чалавеку з'яўляецца кіруючым пачаткам усяго жыцця.

Усе працоўныя краіны Советаў, незалежна ад іх расавай і нацыянальнай прыналежнасці, веравызнання, адукацыі, аседласці, соцыяльнага і маёмаснага становішча, маюць права выбіраць і быць выбранымі ва ўсе органы дзяржаўнай улады. Жанчыны карыстаюцца выбарнымі правамі нароўні з мужчынамі. У кіраванні дзяржавай прымаюць удзел найшырэйшыя народныя масы.

У Саюзе ССР знішчаны назаўсёды нацыянальны гнёт і няроўнасць. Усе народы Совецкага Саюза складаюць адзіную дружную сям'ю. Толькі ў Совецкім Саюзе з нябачанай сілай расквітнела культура ўсіх народаў. Совецкі Саюз не ведае больш адсталых нацыянальнасцей.

Прыклад Совецкага Саюза і горкі вопыт нашага жыцця ў панскай Польшчы пераконваюць нас у тым, што толькі совецкая ўлада можа вызваліць народы Заходняй Беларусі ад эксплаатацыі, галечы, голаду і бяспраўя. Толькі совецкая ўлада забяспечыць нам палітычнае, гаспадарчае і культурнае працвітанне, забяспечыць свабоду нацыянальнага развіцця ўсіх народаў Заходняй Беларусі.

**Беларускае Народнае Сабранне, выражаючы непахісную волю і жаданне народаў Заходняй Беларусі, абвяшчае на ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі ўстанаўленне совецкай улады.**

**З гэтага часу ўся ўлада на тэрыторыі Заходняй Беларусі належыць працоўным горада і вёскі ў асобе Советаў дэпутатаў працоўных.**

Беларускае Народнае Сабранне цвёрда ўпэўнена ў тым, што ўсё насельніцтва Заходняй Беларусі згуртуецца вакол Советаў дэпутатаў працоўных для поўнай перамогі новага ладу, для забеспячэння росквіту гаспадаркі, культуры і дабрабыту народаў Заходняй Беларусі.

Няхай жыве совецкая ўлада!

Няхай жывуць Советы дэпутатаў працоўных!

Няхай жыве Саюз ССР — соцыялістычная айчына рабочых і сялян!

*(«Советская Белоруссия» № 251 (3419) ад 30 кастрычніка 1939 г.)*

19

# ДЭКЛАРАЦЫЯ НАРОДНАГА САБРАННЯ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ АБ УВАХОДЖАННІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў САСТАЎ БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

*(Прынята аднагалосна на паседжанні 29 кастрычніка 1939 г.)*

У цяжкую гадзіну, якая пагражала разарэннем і знішчэннем нашаму народу, вялікі Совецкі Саюз узяў пад сваю абарону жыццё і маёмасць насельніцтва Заходняй Беларусі.

З дапамогай неперамажнай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі народы Заходняй Беларусі вызваліліся ад панавання памешчыкаў і капіталістаў. Назаўсёды мінавалі чорныя гады ўніжэння беларускага народа пад ярмом польскіх паноў, якія зневажалі элементарныя правы і нацыянальную годнасць беларускага народа.

Працоўныя Заходняй Беларусі заўсёды лічылі сябе звязанымі непарыўнымі, кроўнымі сувязямі са сваімі братамі, якія пабудавалі Совецкую Соцыялістычную Беларусь.

Працоўныя Заходняй Беларусі рашуча патрабуюць уз'еднання да гэтага часу расчлененых двух частак адзінага беларускага народа, адзінай беларускай зямлі.

Лічачы волю беларускага народа вышэйшым законам, Беларускае Народнае Сабранне пастанаўляе:

Прасіць Вярхоўны Совет Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік і Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі прыняць Заходнюю Беларусь у са-

стаў Савецкага Саюза і Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, уз'еднаць беларускі народ у адзіную дзяржаву і пакласці тым самым канец раз'яднанню беларускага народа.

Толькі ў саставе Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі народ Заходняй Беларусі здолее залячыць глыбокія раны, нанесеныя яму доўгімі гадамі заняволення, і з дапамогаю вялікага Савецкага Саюза падняць і пераўтварыць гаспадарку, развіць сваю народную культуру, дастойную свабоднага народа, і забяспечыць росквіт добрабыту ўсіх працоўных Заходняй Беларусі.

Няхай жыве Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка!

Няхай жыве наша магутная Радзіма — вялікі Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік!

*(«Советская Белоруссия» № 261 (3429) ад 13 лістапада 1939 г.)*

20

# ПІСЬМО НАРОДНАГА САБРАННЯ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ ТАВАРЫШУ І. В. СТАЛІНУ

**«Масква, Крэмль, таварышу Сталіну**

У дні вялікай урачыстасці разняволення народаў Заходняй Беларусі мы, дэпутаты Народнага Сабрання, ад імя ўсіх працоўных Заходняй Беларусі шлем Вам, наш родны, бясконца любімы таварыш Сталін, наша палымянае прывітанне!

Дарагі Іосіф Вісарыёнавіч! Мы бязмежна ўдзячны Вам і ўсяму вялікаму народу краіны Советаў за аказаную нам дапамогу.

Ніколі народ Заходняй Беларусі не забудзе аб тых гістарычных днях, калі створаная і натхнёная Вамі, таварыш Сталін, магутная Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія назаўсёды вызваліла гарады і сёлы Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ад ярма польскіх памешчыкаў і капіталістаў.

Доўгі час стагнаў наш край пад гнётам польскіх паноў. Кучка грабежнікаў—памешчыкаў і капіталістаў—бязлітасна грабіла працоўныя масы, распальвала нацыянальную варожасць.

Зямельны голад, беспрацоўе, збядненне мас, бяспраўе і нацыянальны гнёт, забітасць і хваробы — такі вось быў лёс працоўных мас Заходняй Беларусі пры панаванні польскіх капіталістаў і памешчыкаў.

Мы пакутавалі доўгія гады, але былі заўсёды ўпэўнены, што вялікі Сталін і ўвесь 170-мільённы совецкі народ не забудуць нас і што хутка надыйдзе час, калі і мы, народы Заход-

няй Беларусі, зажывем шчасліва і радасна ў дружнай сям'і ўсіх народаў вялікага і магутнага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Толькі Вашы бацькоўскія клопаты, родны наш таварыш Сталін, выратавалі народ Заходняй Беларусі ад дзікага самавольства і забяспечылі нам шлях пазбаўлення ад галечы і разарэння.

Ніколі гарады і сёлы Заходняй Беларусі не жылі такім яркім, поўнакроўным жыццём, як у гэтыя ўрачыстыя дні.

Сэрца вызваленага народа б'ецца ў беззаветнай любві і адданасці Вам, наш родны бацька і настаўнік.

Выражаючы волю ўсіх працоўных усяго вызваленага народа Заходняй Беларусі, мы, дэпутаты Народнага Сабрання, з найвялікшай радасцю і аднадушна галасавалі за Совецкую ўладу, за далучэнне да Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, за канфіскацыю памешчыцкіх зямель, за нацыяналізацыю банкаў і буйнай прамысловасці.

Прымаючы гэтыя рашэнні, мы зыходзілі з непахіснага пераканання, што толькі Совецкая ўлада, толькі непарыўнае адзінства з вялікай сям'ёй народаў Совецкага Саюза забяспечаць нам радаснае і шчаслівае жыццё.

Пад яркім сонцам Сталінскай Канстытуцыі працоўныя Заходняй Беларусі зажывуць новым, свабодным і шчаслівым жыццём.

Пад вялікім сцягам партыі Леніна—Сталіна мы разам з народамі Совецкай краіны пойдзем да ззяючых вяршынь комунізма.

Няхай жыве сталінскае сузор'е брацкіх Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік!

Няхай жыве вялікая дружба народаў!

Няхай жыве наша вызваліцельніца—непераможная Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія!

Няхай жыве вялікі правадыр, друг і настаўнік працоўных усяго свету родны Сталін!»

«Народнае (Нацыянальнае) Сабранне Заходняй Беларусі 28—30 кастрычніка 1939 г». Дзяржвыдат БССР, Мінск, 1946 г., стар. 160—161.

21

# НАРОДНАЕ САБРАННЕ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ ТАВАРЫШУ В. М. МОЛАТАВУ

У гістарычныя дні работы Народнага (Нацыянальнага) Сабрання мы, выбраннікі народа, шлем Вам, саратніку вялікага Сталіна, наша гарачае прывітанне.

Доўгія гады пакутаваў народ Заходняй Беларусі пад ярмом польскіх паноў, якія ператварылі нашу краіну ў калонію польскай дзяржавы. Капіталісты і памешчыкі, ксяндзы і чыноўнікі грабілі наш багаты край, высмоктвалі апошнія сокі з працоўнага народа, агнём і мечам знішчаючы малейшае праяўленне пратэста.

Але горды, свабодалюбівы беларускі народ ніколі не схіляў сваю галаву перад прыгнятальнікамі. Ён, падобна Праметэю, скаваны ланцугамі, рваўся наперад, да перамогі, да шчасця, звяртаючы свой погляд на ўсход, ён з надзеяй чакаў дня, калі і над яго зямлёй заззяе яркае сонца Краіны Саветаў.

Гэты дзень прышоў, і мы яго ніколі не забудзем. Мы не забудзем дапамогі, аказанай нам Савецкай краінай, краінай, якая нясе шчасце і прагрэс чалавецтву. Вечна, ад пакалення да пакалення, будзе пераходзіць гарачая ўдзячнасць вялікаму савецкаму народу, яго гераічнай Чырвонай Арміі, яго правадырам.

З дапамогай Савецкага Саюза наш народ вызваліўся ад сваіх прыгнятальнікаў і пачаў будаваць новае жыццё. Сяляне атрымалі зямлю, рабочыя атрымалі магчымасць свабодна працаваць, тысячы людзей ужо атрымалі работу.

З дапамогай вялікай Савецкай краіны мы вышлі на шырокую дарогу, якая вядзе ў свет, дзе няма нацыянальнай розні, дзе не ўладарнічае звярыны закон капіталізма: «чалавек чалавеку воўк», дзе пануюць узаемнае давер'е і дружба народаў, дружба ўсіх працоўных.

Вось чаму, выбіраючы нас, народ Заходняй Беларусі даў нам наказ галасаваць за Савецкую ўладу, за далучэнне Заходняй Беларусі да вялікага Савецкага Саюза.

Мы памяталі наказы нашых выбаршчыкаў і аднадушна вырашылі ўсе стаячыя перад намі пытанні так, каб выканаць мары і жаданні нашага народа.

Няхай жыве вялікі і магутны Савецкі Саюз!

Няхай жыве Савецкая ўлада—улада працоўнага народа!

Няхай жыве рабоча-сялянскі Савецкі ўрад і яго глава—Вячэслаў Міхайлавіч Молатаў!

Жадаем Вам, дарагі Вячэслаў Міхайлавіч, яшчэ доўгіх год жыцця і барацьбы на шчасце народа, на шчасце чалавецтва.

Няхай жыве вялікі правадыр і друг працоўных усяго свету — Іосіф Вісарыёнавіч Сталін!

«Народнае (Нацыянальнае) Сабранне Заходняй Беларусі 28—30 кастрычніка 1939 г.». Дзяржвыдат БССР, Мінск, 1946 г., стар. 176—177.

22

# ЗАКОН
# АБ УКЛЮЧЭННІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ У САСТАЎ САЮЗА СОВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК З УЗ'ЕДНАННЕМ ЯЕ З БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКАЙ

*2 лістапада 1939 г.*

Вярхоўны Совет Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, заслухаўшы заяву Паўнамоцнай Камісіі Народнага Сабрання Заходняй Беларусі, **пастанаўляе:**

1. Задаволіць просьбу Народнага Сабрання Заходняй Беларусі і ўключыць Заходнюю Беларусь у састаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік з уз'еднаннем яе з Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай.

2. Даручыць Прэзідыуму Вярхоўнага Совета назначыць дзень выбараў дэпутатаў у Вярхоўны Совет СССР ад Заходняй Беларусі.

3. Прапанаваць Вярхоўнаму Совету Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі прыняць Заходнюю Беларусь у састаў Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

4. Прасіць Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі прадставіць на разгледжанне Вярхоў-

нага Совета СССР праект размежавання раёнаў і абласцей паміж Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікай і Украінскай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікай.

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР**
**М. КАЛІНІН.**

**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР**
**А. ГОРКІН.**

Масква, Крэмль.

*(«Советская Белоруссия» № 255 (3423) ад 4 лістапада 1939 г.)*

23

# ЗАКОН
## АБ ПРЫНЯЦЦІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў САСТАЎ БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

*14 лістапада 1939 г.*

Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, заслухаўшы заяву Паўнамоцнай Камісіі Народнага Сабрання Заходняй Беларусі, **пастанаўляе:**

1. Вітаць сусветна-гістарычную пастанову Вярхоўнага Совета СССР ад 2-га лістапада 1939 года аб уключэнні Заходняй Беларусі ў састаў Совецкага Саюза.

2. Прыняць Заходнюю Беларусь у састаў Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі і ўз'еднаць тым самым вялікі беларускі народ у адзінай беларускай дзяржаве.

3. Даручыць Прэзідыуму Вярхоўнага Совета назначыць дзень выбараў дэпутатаў у Вярхоўны Совет БССР ад Заходняй Беларусі.

4. Даручыць Прэзідыуму Вярхоўнага Совета БССР вызначыць адміністратыўны падзел абласцей і раёнаў Заходняй Беларусі і, у адпаведнасці з пунктам «б» артыкула 19 Канстытуцыі БССР, прадставіць на зацверджанне Вярхоўнага Совета СССР праект аб утварэнні новых абласцей і праект размежавання раёнаў і абласцей паміж Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай і Украінскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай.

г. Мінск.

*(«Советская Белоруссия» № 264 (3432) ад 16 лістапада 1939 г.)*

24

## ПРЭЗІДЫУМУ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР
## СОВЕТУ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР
## ЦЭНТРАЛЬНАМУ КАМІТЭТУ КП(б)БЕЛАРУСІ

Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай Комуністычнай Партыі (большэвікоў) і Совет Міністраў Саюза ССР у дзень трыццацігоддзя Беларускай ССР шлюць брацкае прывітанне рабочым, калгаснікам, інтэлігенцыі, усім працоўным Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі.

Пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, з дапамогай вялікага рускага народа беларускі народ у жорсткай барацьбе з нямецкімі і белапольскімі захопнікамі ў 1918—1920 гадах адстаяў сваю свабоду і незалежнасць, упершыню ў шматвяковай гісторыі стварыў сваю дзяржаўнасць і пайшоў па шляху, які адкрыла перад усімі народамі нашай краіны Вялікая Кастрычніцкая социялістычная рэволюцыя. У дружнай сям'і народаў СССР за трыццаць год свайго існавання Беларусь з адсталай ускраіны царскай Расііператварылася ў перадавую социялістычную рэспубліку. Створаны нанава і атрымалі вялікае развіццё энергетычная, паліўная, металаапрацоўчая, машынабудаўнічая, хімічная прамысловасць рэспублікі. Калгасны лад у корані змяніў беларускую вёску, ператварыўшы адсталую ў мінулым сельскую гаспадарку ў перадавую, высокамеханізаваную гаспадарку, і стварыў

усе ўмовы для культурнага і заможнага жыцця калгаснага сялянства. Ярка расцвіла культура Совецкай Беларусі — нацыянальная па форме, соцыялістычная па зместу. Збылася запаветная мара народа Беларусі аб уз'яднанні беларускіх зямель у адзінай беларускай дзяржаве.

У гады Вялікай Айчыннай вайны супроць нямецка-фашысцкіх захопнікаў беларускі народ разам з усімі народамі нашай краіны, па закліку большэвіцкай партыі, мужна змагаўся за свабоду і незалежнасць сваёй Совецкай Радзімы. Усенародная партызанская вайна, якая разгарнулася на часова захопленай ворагам беларускай зямлі, з'явілася сур'ёзным укладам у агульную справу разгрому полчышч нямецка-фашысцкіх разбойнікаў.

Пасля вызвалення гераічнай Совецкай Арміяй беларускіх зямель, разораных і спустошаных ворагам, рабочыя, сяляне, інтэлігенцыя рэспублікі, пераадольваючы цяжкасці, паспяхова залечваюць раны, нанесеныя акупантамі. Поўным ходам ідуць аднаўленчыя работы ў гарадах і сёлах, нанава ўведзены ў эксплаатацыю многія электрастанцыі, фабрыкі і заводы, ствараюцца новыя галіны прамысловасці, уступаюць у строй першакласныя прадпрыемствы соцыялістычнай індустрыі — трактарны, аўтамабільны і іншыя заводы. Сур'ёзных поспехаў дабіліся ва ўздыме сельскай гаспадаркі працаўнікі калгаснай вёскі. У Беларусі шырока разгарнулася культурнае будаўніцтва, створана беларуская Акадэмія навук, расце сетка школ, вышэйшых навучальных і навукова-даследчых устаноў, тэатраў, клубаў, кіно.

Патрыятызм працоўных Беларусі, іх высокая палітычная свядомасць знаходзяць сваё выражэнне ў соцыялістычным спаборніцтве, ахапіўшым шырокія слаі рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі і накіраваным на датэрміновае выкананне пасляваеннага пяцігадовага плана.

Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў) і Совет Міністраў СССР цвёрда ўпэўнены ў тым, што беларускі народ пад кіраўніцтвам вялікай партыі

Леніна—Сталіна і надалей будзе нястомна змагацца за далейшае працвітанне гаспадаркі і культуры Беларускай ССР, за ўмацаванне магутнасці Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

**СОВЕТ МІНІСТРАЎ САЮЗА СОВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК**

**ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ УСЕСАЮЗНАЙ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (БОЛЬШЭВІКОЎ)**

*(«Правда» № 1 (11108) ад 1 студзеня 1949 г.)*

25

## ВЯЛІКАМУ СТАЛІНУ АД БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

**Дарагі наш правадыр, бацька і настаўнік!**

У вялікі і радасны дзень святкавання 30-годдзя Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі беларускі народ шле Вам, арганізатару і натхняльніку вялікіх перамог камунізма, лепшаму другу беларускага народа, самыя гарачыя пачуцці любві, адданасці і ўдзячнасці.

У гэты гістарычны для нас дзень мы ад усяго сэрца гаворым: няма большага шчасця, чым жыць і працаваць у краіне, якая ідзе пад сцягам Леніна—Сталіна! Няма большай гордасці і чэсці, чым быць грамадзянамі Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і ўпершыню ў свеце будаваць камунізм.

На працягу сваёй шматвяковай гісторыі беларускі народ упарта і мужна змагаўся супроць чужаземных прыгнятальнікаў, за ўз'еднанне са сваім старэйшым братам—рускім народам. Толькі дзякуючы вялікаму рускаму народу Беларусь была вызвалена ад доўгага ўладарніцтва польскіх памешчыкаў, выратавана ад іншаземных орд Напалеона і нямецкіх захопнікаў.

Гераічная рэвалюцыйная барацьба ўсіх народаў Расіі на чале з рускім рабочым класам, якая ўвянчалася перамогай сацыялістычнай рэвалюцыі, навекі вызваліла беларускі народ ад гнёту памешчыкаў і капіталістаў.

Да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі Беларусь была адной з адсталых нацыянальных ускраін Расійскай імперыі. Капіталісты, памешчыкі, кулакі, царскія чы-

ноўнікі і жандармы жорстка эксплаатавалі і прыгняталі рабочых і сялян Беларусі. Царызм ператварыў Беларусь у каланіяльны прыдатак імперыі, выціскаў з яе ўсе сокі, наўмысна затрымліваў яе гаспадарчае і культурнае развіццё. У Беларусі не было школ, газет, тэатраў на беларускай мове, не было ні адной вышэйшай навучальнай установы. 80 працантаў насельніцтва Беларусі было непісьменным.

Вялікая Кастрычніцкая социялістычная рэвалюцыя разарвала ланцугі сацыяльнага і нацыянальнага рабства, адкрыла новую эру ў гісторыі нашага народа, у гісторыі ўсяго чалавецтва—эру сацыялізма.

Дзякуючы Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, дзякуючы партыі большэвікоў беларускі народ упершыню за ўсю сваю гісторыю атрымаў права і магчымасць стварыць сваю нацыянальную совецкую дзяржаву.

Дарагі Іосіф Вісарыёнавіч! Разам з бяссмертным Леніным Вы, наш любімы правадыр і настаўнік, былі аснавальнікам Беларускай совецкай дзяржавы.

1 студзеня 1919 года быў апублікаван Маніфест аб стварэнні Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі. З таго часу дзень першага студзеня стаў нацыянальным святам беларускага народа.

Совецкая ўлада ў Беларусі ўстанаўлівалася ў жорсткай барацьбе супроць унутраных і знешніх ворагаў социялістычнай рэвалюцыі. І кожны крок беларускага народа ў барацьбе за стварэнне і ўмацаванне сваёй социялістычнай дзяржавы непарыўна звязан з Вашым іменем, наш родны Іосіф Вісарыёнавіч!

Створаная і натхнёная вялікім Леніным і Вамі, таварыш Сталін, гераічная Чырвоная Армія ў лістападзе 1918 года ачысціла беларускую зямлю ад нямецкіх інтэрвентаў. Пад Вашым кіраўніцтвам Чырвоная Армія, пры актыўнай падтрымцы беларускага народа, у ліпені 1920 года выгнала з Совецкай Беларусі белапольскіх захопнікаў і іх ганебных лакеяў — беларускіх нацыяналістаў.

Беларускі народ ніколі не забудзе данай Вамі, таварыш Сталін, высокай ацэнкі баявых подзвігаў працоўных Беларусі, якія самааддана змагаліся супроць белапольскіх банд.

У суровай барацьбе з інтэрвенцыяй і ўнутранай контррэвалюцыяй, у гераічныя гады соцыялістычнага будаўніцтва ўзмацнела непарушная дружба народаў нашай краіны. Выражаючы іх волю, Першы Усесаюзны з'езд Советаў утварыў Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, у сям'ю якіх, як роўная сярод роўных, увайшла Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка.

Дзякуючы брацкай дапамозе народаў СССР і, перш за ўсё, вялікага рускага народа, кіруемая партыяй Леніна — Сталіна Совецкая Беларусь за гады мірнага будаўніцтва пераўтварылася ў квітнеючую рэспубліку з перадавой прамысловасцю, буйнай соцыялістычнай сельскай гаспадаркай і высокаразвітай культурай.

Совецкая дзяржава аказала беларускаму народу велізарную дапамогу ў справе ператварэння Беларусі ў індустрыяльную рэспубліку. З года ў год раслі капіталаўкладанні ў прамысловасць БССР: за 1923—28 гады яны склалі 45 мільёнаў рублёў, за 1928 — 32 гады—338 мільёнаў рублёў, за 1932—37 гады—587 мільёнаў рублёў, а з 1938 года, за $3^1/_2$ перадваенныя гады, капіталаўкладанні ў народную гаспадарку БССР склалі 1 мільярд 732 мільёны рублёў.

У гады сталінскіх пяцігодак у рэспубліцы былі пабудаваны сотні новых фабрык, заводаў, электрастанцый. Створаны новыя галіны прамысловасці; станкабудаўніцтва, сельскагаспадарчае машынабудаўніцтва, вытворчасць радыёапаратуры, штучнага валакна, цэменту, фасфарытных угнаенняў і многія іншыя.

Выраслі нацыянальныя кадры рабочага класа і інжынерна-тэхнічнай інтэлігенцыі.

У нашай вёсцы перамог калгасны лад. На палях рэспублікі пачалі працаваць тысячы трактараў, дзесяткі тысяч глебапрацоўчых і ўборачных машын. З года ў год расла ўраджайнасць, павышалася культура соцыялістычнага земляробства

і жывёлагадоўлі. Калгаснае сялянства ўступіла на светлы шлях заможнага і культурнага жыцця.

Соцыялістычная індустрыялізацыя і калектывізацыя сельскай гаспадаркі пераўтварылі жыццё беларускага народа. Значна паднялася рэальная заработная плата рабочых і служачых, намнога павялічыліся даходы сялян, якія аб'ядналіся ў калгасы; няўхільна ўзрасталі асігнаванні Савецкай дзяржавы на народную адукацыю, ахову здароўя, соцыяльнае забеспячэнне, на дапамогу многадзетным мацярам і іншыя культурна-бытавыя патрэбы працоўных.

Нябачана расцвіла нацыянальная па форме, соцыялістычная па зместу культура беларускага народа. Густой сеткай пакрылі нашу рэспубліку ўстановы культуры, навукі, асветы, мастацтва. З асяроддзя рабочых і сялян вырасла шматлікая, адданая савецкаму ладу народная інтэлігенцыя. Непазнавальна змянілася аблічча нашых буйных гарадоў — яны пераварыліся ў добраўпарадкаваныя індустрыяльныя і культурныя цэнтры.

Ў корані пераўтварылася за гады Савецкай улады беларуская вёска. У дарэвалюцыйнай Беларусі сяляне жылі ў курных хатах, апраналіся ў саматканыя світкі, елі хлеб з мякінай і лебядой, выміралі тысячамі з голаду, ад эпідэмій. Сялянам быў наглуха закрыт шлях да адукацыі і культуры.

Цяпер беларуская вёска будуе сваё жыццё на новых пачатках, на аснове передавой тэхнікі, навукі і культуры. Машынна-трактарныя станцыі, прадпрыемствы мясцовай і раённай прамысловасці, электрастанцыі, аўтабазы, механізаваныя лясныя гаспадаркі і торфазаводы занялі вялікае месца ў жыцці беларускай вёскі. У вёсцы створаны тысячы культурных ачагоў: школ і тэхнікумаў, дамоў культуры і хат-чытальнень, клубаў і бібліятэк, бальніц і медыцынскіх пунктаў, дзіцячых садоў і дзіцячых ясляў, лекторыяў і вячэрніх школ, агратэхнічных гурткоў і калектываў мастацкай самадзейнасці. У быт беларускага сялянства трывала ўваходзіць радыё, кіно, электрычнасць, газеты, тэлеграф, тэлефон. Сыны і дочкі беларускіх сялян атрымалі шырокі доступ да адукацыі. Савецкая

вёска, як і совецкі горад, стала невычарпальнай крыніцай новых, культурных кадраў.

На гэтую светлую дарогу шчаслівага жыцця вывела беларускіх сялян, як і ўвесь беларускі народ, наша родная Совецкая ўлада, наша любімая комуністычная партыя.

Беларускі народ разам з усімі народамі Совецкага Саюза пабудаваў соцыялізм і стаў актыўным удзельнікам барацьбы за перамогу комунізма ў нашай краіне.

Заваяваныя совецкім народам сусветна-гістарычныя перамогі соцыялізма былі законадаўча замацаваны ў новай, самай дэмакратычнай у свеце Канстытуцыі Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік — вялікай хартыі соцыялізма.

Па-іншаму складвалася жыццё працоўных заходніх абласцей Беларусі, захопленых панскай Польшчай у 1920 годзе. Гвалтоўна адарваныя ад сваёй Совецкай Радзімы, яны неслі цяжкое ярмо соцыяльнага і нацыянальнага гнёту.

Вы, дарагі наш правадыр і бацька, знялі аковы з народа Заходняй Беларусі, які спакутаваўся пад уладай памешчыцка-капіталістычнай Польшчы. 17 верасня 1939 года Чырвоная Армія падала руку дапамогі сваім адзінакроўным братам, працоўным Заходняй Беларусі, прынесла ім мір і свабоду, адкрыла для народа Заходняй Беларусі шлях да шчаслівага соцыялістычнага жыцця.

Совецкая ўлада перадала працоўным сялянам Заходняй Беларусі звыш аднаго мільёна гектараў зямлі, якая належала раней памешчыкам і кулакам. Сяляне-беднякі і батракі атрымалі ад Совецкай улады дзесяткі тысяч галоў жывёлы, вялікую колькасць сельскагаспадарчага інвентара. Была нацыяналізавана прамысловасць. 400 тысяч беспрацоўных атрымалі работу на прадпрыемствах і ва ўстановах Совецкай Беларусі. Упершыню ў сваёй гісторыі працоўныя Заходняй Беларусі атрымалі школы, газеты, тэатры на роднай беларускай мове.

Увесь беларускі народ ад гэтага часу быў уз'еднан у сваёй адзінай Совецкай дзяржаве, стаў поўнапраўным гаспадаром сваёй зямлі і свайго лёсу.

Вялікія соцыялістычныя пераўтварэнні, якія адбыліся ў

Беларусі, як і ва ўсім Савецкім Саюзе, змянілі аблічча нашай краіны і нашага народа. Партыя Леніна—Сталіна выхавала ў беларускім народзе новыя выдатныя якасці — палымяны савецкі патрыятызм, палітычную свядомасць і высокі ўзровень культуры, сацыялістычныя адносіны да працы, дысцыплінаванасць і арганізаванасць, стойкасць і ўпэўненасць у сваіх сілах, гатоўнасць мужна пераадольваць любыя цяжкасці і перашкоды, якія стаяць на шляху да камунізма, рэвалюцыйную пільнасць і нянавісць да ворагаў сацыялістычнай Айчыны.

Усе гэтыя высакародныя якасці савецкіх людзей з асобай сілай выявіліся ў гады Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза супроць гітлераўскай Германіі.

Беларусь адной з першых Савецкіх рэспублік прыняла на сябе ўдар нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Савецкая Армія, герaічна абараняючы кожную пядзь роднай зямлі, наносіла ворагу цяжкія ўдары, выматвала яго сілы, зрывала яго стратэгічныя планы. Бяссмертнай славай пакрылі сябе стойкія савецкія пагранічнікі, бясстрашныя байцы і камандзіры Брэсцкай крэпасці, гераічныя воіны—абаронцы Мінска, Магілева, Гомеля і іншых гарадоў рэспублікі.

Па вашаму закліку, таварыш Сталін, беларускі народ разам з усімі народамі СССР з першага-ж дня вайны ўстаў на абарону Радзімы. Сотні тысяч сыноў беларускага народа ў радах Савецкай Арміі гераічна змагаліся з ворагам на ўсіх франтах Вялікай Айчыннай вайны. 217 генералаў — сыноў беларускага народа—вадзілі ў бой бясстрашныя савецкія палкі. За доблесць і мужнасць у барацьбе з фашысцкімі захопнікамі звыш 100 тысяч воінаў-беларусаў узнагароджаны ордэнамі і медалямі СССР. 244 з іх удастоены высокага звання Героя Савецкага Саюза.

У адказ на Ваш гістарычны зварот да народа сотні тысяч беларускіх партызан і партызанак пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі (большэвікоў) Беларусі, пры падтрыманні ўсяго беларускага народа вялі бязлітасную партызанскую вайну супроць акупантаў у тылу ворага.

За гады Вялікай Айчыннай вайны партызаны Беларусі знішчылі сотні тысяч фашысцкіх захопнікаў, падарвалі 17 тысяч нямецкіх эшалонаў, тысячы танкаў, бронемашын і аўтамашын ворага. За доблесць, мужнасць і гераізм, праяўленыя ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, больш 80 тысяч партызан і партызанак узнагароджаны ордэнамі і медалямі СССР. 70 партызанам Беларусі прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Бяссмертную славу заслужылі легендарныя героі Айчыннай вайны, лепшыя сыны і дочкі беларускага народа, доблесныя воіны—Нікалай Гастэла, Феадосій Смалячкоў, Віктар Талаліхін, Леў Даватар, Валянцін Дрозд, бясстрашныя партызаны Канстанцін Заслонаў, Ціхан Бумажкоў, Міхаіл Сільніцкі, Рыма Шаршнёва, Елена Колесава, Александр Ісачэнка і многія іншыя.

Вашы, таварыш Сталін, заклікі да ўсенароднай вайны супроць нямецкіх захопнікаў, Вашы высокія ацэнкі доблесных подзвігаў партызан Беларусі і заслуг беларускага народа перад Радзімай натхнялі нас на свяшчэнную барацьбу супроць фашысцкіх прыгнятальнікаў.

Беларускі народ з чэсцю прайшоў праз усе выпрабаванні вайны. Ні крывавы гітлераўскі рэжым, ні карныя экспедыцыі не зламалі баявога духу беларускага народа, не прымусілі нас схіліць сваю галаву перад ворагам. Беларускі народ ведаў і верыў, што Вы, наш лепшы друг і бацька, вызваліце Беларусь з фашысцкага ярма.

Дарагі таварыш Сталін!

Выконваючы Ваш геніяльны стратэгічны план вызвалення савецкай зямлі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, Савецкая Армія нанесла ворагу рад сакрушальных удараў. Адным з іх быў пяты магутны ўдар савецкіх войск у 1944 годзе, у выніку якога была поўнасцю вызвалена Савецкая Беларусь.

Беларускі народ поўны глыбокай удзячнасці за сваё вызваленне ад нямецка-фашысцкага рабства нашай гераічнай Савецкай Арміі, усім народам Савецкага Саюза і, перш за ўсё,

рускаму народу, партыі большэвікоў, Вам, дарагі наш правадыр, друг і бацька.

Вялікі совецкі народ перамог таму, што ён жыў, працаваў, выхоўваўся і змагаўся пад Вашым, таварыш Сталін, мудрым кіраўніцтвам.

Пасля пабеданоснага сканчэння вайны беларускі народ разам з усімі народамі СССР прыступіў да залечвання цяжкіх ран, нанесеных вайной, да мірнага соцыялістычнага будаўніцтва.

Нямецка-фашысцкія захопнікі нанеслі Беларусі велізарную шкоду. Яны спалілі і разбурылі 209 гарадоў і раённых цэнтраў, 2 200 сёл, 10 тысяч прамысловых прадпрыемстваў, разграбілі ўсе калгасы, соўгасы, МТС, угналі і знішчылі каля 10 мільёнаў галоў рабочай і прадуктыўнай жывёлы.

Нямецкія акупанты разбурылі і разграбілі звыш двух тысяч навуковых і культурных устаноў Совецкай Беларусі. Фашысцкія варвары нанеслі рэспубліцы матэрыяльныя страты на 75 мільярдаў рублёў.

Ніякая іншая дзяржава, ніякая капіталістычная краіна не маглі-б выжыць, панёсшы такое разарэнне, перацярпеўшы такія нябачаныя пакуты. Але вялікая жыватворчая сіла совецкага ладу! На дапамогу Совецкай Беларусі прышлі ўсе народы СССР, Саюзны Совецкі Урад.

Вашы гістарычныя праднячартанні, таварыш Сталін, увасобленыя ў пяцігадовым плане аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі, сталі праграмай барацьбы і працы ўсіх совецкіх людзей.

Гераічнымі намаганнямі працоўных Беларусі, пры падтрымцы ўсіх совецкіх народаў, большасць прамысловых прадпрыемстваў рэспублікі ўжо адноўлена і з кожным днём павялічвае выпуск прадукцыі. Хутка расшыраецца і мацнее наша паліўна-энергетычная прамысловасць. Ствараюцца новыя галіны прамысловасці—трактарная, аўтамабільная, паспяхова развіваецца станкабудаўнічая, мясцовая, лясная прамысловасць, растуць прадпрыемствы па вытворчасці будматэрыя-

лаў. Хутка павялічваецца вытворчасць прадметаў шырокага спажывання.

Адраджаюцца разбураныя ворагам нашы соцыялістычныя гарады. Ужо адноўлена і нанава пабудавана ў гарадах звыш 2 мільёнаў 500 тысяч квадратных метраў жылой плошчы. Сталіца Беларускай ССР—горад Мінск—паспяхова аднаўляецца і ў недалёкім будучым стане адным з найбольш добраўпарадкаваных і прыгожых гарадоў Совецкага Саюза.

Беларускія сяляне, пазбаўленыя жылля подлымі фашысцкімі варварамі, цяпер дзякуючы велізарнай дапамозе Совецкага Урада, дзякуючы Вашым бацькоўскім клопатам пераселены з зямлянак у новапабудаваныя дамы. За чатыры гады пасля вызвалення Беларусі ад нямецкай акупацыі пабудавана звыш 369 000 жылых дамоў, у якія перайшло з зямлянак больш двух мільёнаў чалавек.

Разароная акупантамі, даведзеная да крайняй ступені заняпаду сельская гаспадарка Беларусі, у выніку самаадданай працы беларускага сялянства і ўсё ўзрастаючай дапамогі Совецкай дзяржавы, паспяхова аднаўляецца і ідзе ўгару. Ажыццяўляючы гістарычныя рашэнні лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б), працаўнікі сельскай гаспадаркі Беларусі амаль поўнасцю аднавілі даваенныя пасеўныя плошчы. У 1948 годзе БССР датэрмінова выканала план збожжанарыхтовак, даўшы дзяржаве на 3 мільёны 600 тысяч пудоў збожжа больш, чым у 1940 даваенным годзе.

Яшчэ да вайны па Вашых, таварыш Сталін, указаннях беларускі народ прыступіў да ажыццяўлення грандыёзнай праграмы асушэння балот Беларусі, гэтых спрадвечных крыніц хвароб і бездарожжа. Цяпер гэтыя работы аднаўляюцца. Беларускія балоты будуць ператвораны ў высокаураджайныя палі і квітнеючыя лугі.

Беларускі народ аднавіў усе працаваўшыя да вайны школы, установы навукі, культуры, мастацтва, дабіўся новага значнага ўздыму сваёй нацыянальнай совецкай культуры. У рэспубліцы працуе 11 700 школ, універсітэт, 26 вышэйшых і 110 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, Акадэмія

навук, 28 навукова-даследчых інстытутаў, 12 тэатраў. У пасляваенныя гады вышла з друку звыш 20 мільёнаў экземпляраў кніг. Значна вырасла сетка культурна-асветных устаноў у гарадах і сёлах рэспублікі.

Ва ўмовах соцыялізма беларускаму народу адкрыліся неабмежаваныя магчымасці для росквіту народнай творчасці і росту народных талентаў ва ўсіх галінах гаспадарчага і культурнага жыцця. Мы ганарымся сваімі Героямі Соцыялістычнай Працы—работнікамі прамысловасці, транспарта і сельскай гаспадаркі, сваімі лаурэатамі Сталінскіх прэмій—работнікамі літаратуры і мастацтва, навукі і тэхнікі.

Унёсшы вялікі ўклад у справу разгрому фашысцкіх агрэсараў у гады Айчыннай вайны, Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка, як суверэнная дзяржава, вышла на міжнародную арэну і, разам з усімі прагрэсіўнымі сіламі дэмакратыі і соцыялізма на чале з Совецкім Саюзам, паслядоўна змагаецца за трывалы дэмакратычны мір і бяспеку народаў.

Дарагі Іосіф Вісарыёнавіч!

Натхняемы і накіроўваемы Вашым светлым геніем, саграваемы Вашымі бацькоўскімі клопатамі, беларускі народ разам з усімі народамі СССР упэўнена ідзе да комунізма.

У дзень усенароднага нашага свята—30-годдзя БССР—запэўняем Вас, любімы наш правадыр, што мы будзем, як зяніцу вока, абараняць заваяванні Вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі—магутную Совецкую дзяржаву, соцыялістычны лад. Мы будзем нястомна мацаваць эканамічную і ваенную магутнасць нашай вялікай Радзімы—Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, неад'емнай часткай якога была, ёсць і заўсёды будзе Совецкая Беларусь.

Мы будзем самааддана змагацца за гістарычную праграму пабудовы комунізма, начартаную Вамі ў прамове 9-га лютага 1946 года. Мы прыкладзем усе намаганні, каб дабіцца датэрміновага выканання і перавыканання пасляваеннага сталінскага пяцігадовага плана, што прывядзе да новага росквіту нашай соцыялістычнай прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Будзем настойліва паляпшаць работу фабрык, заводаў, будаў-

нічых арганізацый, устаноў, мабілізуем усе сілы і сродкі, каб павысіць прадукцыйнасць працы, расшырыць выпуск прадукцыі, палепшыць яе якасць, няўхільна павялічваць звышпланавыя накапленні ў народнай гаспадарцы. Мы шырока ўкаранім у нашу сельскую гаспадарку дасягненні перадавой мічурынскай аграбіялагічнай навукі і на гэтай аснове даб'емся высокай ураджайнасці, а таксама высокай прадуктыўнасці жывёлагадоўлі.

Мы будзем рухаць уперад навуку, культуру, мастацтва рэспублікі, укараняць у вытворчасць лепшыя дасягненні навукі і тэхнікі, нястомна павышаць свой культурны ўзровень і палітычную свядомасць, авалодваць тэорыяй марксізма-ленінізма—верным компасам, які ўказвае нам шлях да комунізма.

Мы выхаваем наша маладое пакаленне ў духу беззаветнай адданасці справе комунізма, падрыхтуем з совецкай моладзі высокакваліфікаваных працаўнікоў соцыялістычнай гаспадаркі, стойкіх і мужных совецкіх патрыётаў, здольных пераадолець любыя цяжкасці, дастойных барацьбітоў за комунізм.

У дзень нашага ўсенароднага свята мы ўрачыста запэўняем Вас, наш родны і любімы Іосіф Вісарыёнавіч, што беларускі народ яшчэ цясней згуртуе свае рады вакол большэвіцкай партыі, вакол геніяльнага прадаўжальніка справы Леніна—Вялікага і мудрага правадыра народаў таварыша Сталіна.

Урачыста гучаць над шырокім прасцягам
Словы нашай любві і падзякі табе.
Ты прымі, правадыр, іх, як нашу прысягу —
Мы ідэям тваім, большэвіцкаму сцягу
Будзем вернымі ў працы і у барацьбе.

Дарагі правадыр! Сталін, бацька любімы!
Мы табе прысягаем, што днём і ўначы
Так-жа будзем ісці, як дагэтуль ішлі мы,
Берагчы, быццам вока, здабыткі Радзімы —
Заваёвы Кастрычніцкіх дзён берагчы.

Бацька родны! Будзь пэўны: мы здзейснім прысягу,
Маем сілу ў руках мы, каб здзейсніць яе,
Маем сэрцы, адданыя нашаму сцягу,
Маем вочы — у іх ты чытаеш адвагу,
З нашых спраў пазнаеш, што сыны мы твае.

Бацька родны! Ты ў працы спакою не знаеш,
Светлы дзень комунізма ты бачыш з Крэмля,
Сваёй працай прыход ты яго набліжаеш,
А мы знаем, што першы ты нас прывітаеш
З комунізмам, якога чакае зямля.

Ты — настаўнік народаў, зямлі красаванне,
Дык жыві нам на радасць, не лічачы год,
Нібы сонца само, нібы яснае ранне.
Дык прымі, дарагі правадыр, прывітанне,
Што складае табе беларускі народ!

Няхай жыве Совецкі Саюз—наша магутная соцыялістычная Радзіма—надзейны аплот дружбы, шчасця і славы народаў!

Няхай жывуць гераічныя совецкія народы!

Няхай жыве вялікі рускі народ—старэйшы брат, друг і вызваліцель беларускага народа!

Няхай жыве Усесаюзная Комуністычная партыя (большэвікоў), якая вядзе і арганізоўвае народы СССР на гераічныя подзвігі ў імя перамогі комунізма!

Няхай умацуе наша бязмежная ўсенародная любоў і адданасць Вам, дарагі наш Іосіф Вісарыёнавіч, Вашы сілы і здароўе на многія доўгія гады!

Вялікаму Сталіну—слава!

**АБМЕРКАВАНА І АДНАДУШНА ПРЫНЯТА НА СХОДАХ РАБОЧЫХ, КАЛГАСНІКАЎ, СЯЛЯН-АДНААСОБНІКАЎ, СОВЕЦКАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ, УСІХ ПРАЦОЎНЫХ БЕЛАРУСКАЙ ССР.**

*(«Правда» № 2 (11109) ад 2 студзеня 1949 г.)*

## ЗМЕСТ

НА БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКЕ
*Е. Корнейчик, Ф. Попов, М. Шкляр*
**В. И. ЛЕНИН И И. В. СТАЛИН — ОРГАНИЗАТОРЫ БЕЛОРУССКОЙ СОВЕТСКОЙ СОЦИАЛИСТИЧЕСКОЙ РЕСПУБЛИКИ**
Государственное Издательство БССР
Минск 1949

АТ 00200. Падпісана да друку 30/XI 1949 г.
Тыраж 10000 экз. Папера 60×84/16.
Вуч.-выд. арк. 10½. Друк. арк. 14½.
Зак. 488. Цана 4 р. 50 к.
Друкарня імя Сталіна
Мінск, Пушкіна, 55

